# ЗМЕСТ

Крыніца

# Я | Пімен ПАНЧАНКА



*Тут не шукайце*
*Ні крыўды, ні злосці,*
*Гэта не рэквіем па маладосці.*
*Гэта не двух пакаленняў сварка,*
*Гэта эпохі*
*Гарачая зварка.*







## *КРАІНА МАЯ*

**Краіна мая, радасць мая,**
**Песня мая маладая!**
**Па нівах тваіх, па тваіх гаях**
**Сынава сэрца рыдае.**

**Ты часта прыходзіш ка мне, як сон.**
**Хмараю праплываеш,**
**Птушкай садзішся на ціхі клён,**
**Звонкім дажджом ападаеш.**

**Тады ўспамінаецца ўсё да драбніц,**
**Што звязана з родным краем, —**
**Як жыта шуміць, як агонь зарніц**
**На дне азёр дагарае.**

**Як летам спякотным за днямі дні**
**Ішлі па іржышчы калючым...**
**Мы ранілі ногі аб камяні,**
**І нам не было балюча.**

**І не было нічога ярчэй**
**За сонца на родным небе,**
**І не было нічога смачней**
**Матчынага хлеба.**

**Вада з прыдарожнага ручая**

## ЦЫТАТНІК

*Чытаючы і перачытваючы Панчанку, нельга не здзіўляцца вось гэтаму таленту першаадкрывальніка, незвычайнай засяроджанасці на матэрыяле сучаснай яму рэчаіснасці, адсюль як выдатная паэтычная публіцыстыка, падораная ў прыклад і добрае навучанне нашым паэтам маладога і сталага ўзросту, так і праніклівая, без ахоўнай засені так званага "лірычнага героя", споведзь не чужога ўсяму чалавечаму мудрага майстра, які не страхуецца ад бяды і памылак, а па-салдацку, пасялянску разумее жыццё як абавязак, як пошук ісціны, як шлях да другога чалавека-аднадумца.*

**Міхась СТРАЛЬЦОЎ**

*У паэта, я сказаў бы, вельмі развіта пачуццё "трэцяй рэчаіснасці", г.зн. будучыні, інакш кажучы, пачуццё ідэалу І для яго будучыня – не ружовая утопія, не маніла ўскі лужок і не гучныя словы "языкачосаў безадказных", аматараў "бадзёра каркаць" Яна для паэта зямное жыццё, дзе пасяляюць да чалавека "раней за гора на дзве хвіліны", дзе ведаюць "сінію радасць", дзе няма "рабства чаркі, паперкі, блату, біркі званняў і крэслаў чынуш", дзе людзі пазбавіліся "ад шаблон-*

# *Пра Мяне*

**Пімен Емяльянавіч Панчанка нарадзіўся 23 жніўня 1917 года ў Эстоніі ў горадзе Таліне. Яго бацькі, бедныя беларускія сяляне, Емяльян Арцёмавіч і Дар'я Факееўна, ураджэнцы вёскі Гедэйкі Ашмянскага павета Віленскай губерні, выехалі ў Прыбалтыку ў пошуках заробку. Адсюль, як успамін той цяжкай пары, ягоны вядомы верш "Шапка эстонца".**

**Аднак, ужо ў 1920 годзе сям'я варочаецца на Беларусь. У Бягомлі, Кіраўску, Талачыне бацька паэта здабываў на жыццё, працуючы аб'ездчыкам, прарабам, лесаводам...**

**У Бягомлі і скончыў Пімен Панчанка сямігадовую школу ў 1932 годзе. У Горках Магілёўскай вобласці вучыўся на падрыхтоўчых курсах, не пакідаючы надзеі на вышэйшую адукацыю. Ды замест гэтага давялося пэўны час працаваць рабочым дрэваапрацоўчага камбіната ў Бабруйску. І ўсё ж да ведаў цягнуўся. Скончыўшы аднагадовыя педагагічныя курсы ў 1934 годзе, ён пачынае самастойна настаўнічаць у Алянскай пачатковай школе Бабруйскага раёна, а ўжо з 1935 па 1938 гады працуе ў няпоўнай сярэдняй школе ў**

*ных слоў, ад папугайных паўтарэнняў", дзе ў пашане "ісціны простыя, як хлеб, і праўдзівыя, як плач дзіцяці".*

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

*Калі прыгадваеш свае ўражанні ад усяго, што ты ведаеш як паэзію П. Панчанкі, з'яўляецца адчуванне драматычнай напружанасці, якой прасякнуты вершы і паэмы, перадаючы рытм грамадскага быцця, закранаючы прыродныя і людскія канфлікты (умоўна кажучы, падзеі "мікрасвету"). Нешта надзвычай асабістае ёсць у тым, як углядаецца і як прыслухоўваецца паэт да таго, што можна назваць абагулена "XX стагоддзем", адчутым тонкім лірыкам.*

**Барыс БУР'ЯН**

*Панчанка як паэтычны характар надзвычай гарманічны і цэльны, ён не дужа імкнецца да навізны тэм, здаецца, не надта займаюць яго фармальныя паэтычныя пошукі, — здаўна і надоўга яго цікавяць "ісціны простыя, як хлеб, і праўдзівыя, як плач дзіцяці"...*

*...Балявы нарог паэтычнай натуры Пімена Панчанкі надзвычай нізкі, а ягоная здольнасць да суперажывання ўсяму*

**Была саладзей за мёд нам...**
**Краіна мая, маці мая,**
**Лёс твой цяжкі і гаротны!**

**Топча, катуе тваю зямлю**
**Вылюдак ашалелы.**
**Я кроў да апошняе кроплі пралью,**
**Каб толькі табе палягчэла.**

**Ні славы, ні скарбаў я не хачу,**
**Мне б толькі прыйсці непрыкметна,**
**Зямлю сваю пад нагамі адчуць,**
**Надыхацца родным паветрам.**

1942

## СІНІЯ КАСАЧЫ

**А калісьці і я прачынаўся у бацькавай хаце.**
**Чэрвень. Раніца. Росы і цішыня.**
**На гародзе спявае пацiху маці**
**Пра маладога жаўнера, пра гнядога каня.**

**А пад вокнамі мята п'е сонца гарачае,**
**І глядзяць мне у вочы красой нерастрачанай**
**Сінія касачы.**

**Маладосць з краю ў край мяне весела кідала,**
**Колькі кветак дзівосных пабачыў і змяў!**
**Ля адных вырашаў, што бадзяцца абрыдла,**
**Каля іншых шаптаў я чыёсьці імя.**

**Любаваўся, глядзеў на краіны я розныя,**
**А пісьмо ад сястры напявала пра росныя**
**Сінія касачы.**

**Не паспелі у шчасці як след пакупацца мы, —**
**Бомбы свіснулі, пырснула першая кроў.**
**Хата вочы закрыла дашчанымі пальцамі,**
**Каб не бачыць гора гаспадароў.**

**Прашаптала матуля на ростані: "Лёс такі!.."**
**І прыніклі журботна да градак пялёсткамі**
**Сінія касачы.**

**Пяць франтоў мяне пылам гарачым абсыпалі,**
**За вайну перамерана тысячы вёрст.**
**З успамінамі крочыў пад ветрамі сіплымі**
**І з надзеяй на студзеньскім холадзе мёрз.**

**І заўсёды здалёк, праз прасторы вялікія**
**Усміхаліся мне і дамоў мяне клікалі**
**Сінія касачы.**

**Нехта бруднымі ботамі, пэўна, іх вытаптаў,**
**Выбіў градкі, спаліў невысокі паркан.**
**І не мае аздобы зямля працавітая,**
**І сумуе па кветках маўклівы туман.**

**Прыйдзе час — зноў збудуем мы хаты утульныя,**
**А цяпер — біць дык біць! І за слёзы матуліны,**
**І за сінія касачы.**

1942

*сапраўды чалавечнаму зайздросна абвостраная нават як для паэта. У той не такі ўжо даўні час, калі ён болей пісаў і часцей друкаваўся, кожны ягоны верш або падборка вершаў адразу ж пасля выхаду ў свет рабіліся паэтычнай з'явай, студэнты іх вывучалі на памяць, іх чыталі з эстрады, перадрукоўвалі ў розных выданнях. Мусіць, гэта таму, што вершы Пімена Панчанкі, як правіла, былі выразнікамі дум і спадзяванняў эпохі, неслі ўвесь напал яе творчага пафасу, і не адно пакаленне чытачоў захаплялася імі. У гэтых вершах не толькі не было месца фальшы, прыблізнасці або ашуканства, але кожнае слова гучала, як звон, бо выказвала ўсеагульны боль ці ўсеагульны клопат.*

**Васіль БЫКАЎ**

*Панчанка — выдатнейшы майстар верша як цэласнага і закончанага паэтычнага твора, у якім усе кампаненты жывуць і рухаюцца, маюць нагрузку і сэнс. Вершы паэта, здаецца, ніколі не маюць прадвызначанай формы: жывое і зменлівае пачуццё быццам само падказвае і адпаведны рытм, і сінтаксічны рух, і страфічную будову — такія, каб у іх як найпаўней выявіўся і кожны душэўны жэст, і настраёвы зрух, і паварот думкі, і сэнсавы акцэнт.*

*Спецыяльна на гэта ўвагі не*

**Казулічах Кіраўскага раёна. Нарэшце стаў выкладаць беларускую мову і літаратуру ў Кіраўскай СШ. Разам з тым завочна вучыцца на філфаку Мінскага настаўніцкага інстытута.**

**З 1939 года пачынаецца яго франтавая эпапея жыцця. Пасля ўдзелу ў паходзе на Заходнюю Беларусь служыць у Чырвонай Арміі ажно да пачатку Вялікай Айчыннай вайны.**

**Праўда, да таго часу Пімен Панчанка паспеў атрымаць членскі білет СП БССР (1938 г.), выдаўшы два сціплыя зборнічкі вершаў патрыятычнай савецкай накіраванасці ("Упэўненасць" і "Вераснёўскія сцягі"). А ўвогуле першыя свае юнацкія вершыкі ("Ураджайнае" і "Маладзі") выдрукаваў у 1934 годзе ў альманаху "Ударнікі".**

**Як сталы паэт Панчанка пачаўся з вайны. Працуючы карэспандэнтам армейскіх і франтавых газет, пісаў вершы, фельетоны, прыпеўкі. Быў на Бранскім, Заходнім, Калінінскім франтах. А ў 1944 –1945 гг. знаходзіўся з часцямі Чырвонай Арміі ў Іране. Па часе яго паэтычны "Іранскі дзённік" стане адметнай з'явай у беларускай паэзіі і ці не адной з найбольш яркіх вышынь у творчасці самога паэта ўвогуле. Пасля вайны пачаліся будні. Літаратурная і грамадская праца, да якой Панчанка быў ахвочы. Вёў даволі актыўны вобраз жыцця, ніколькі не сумняваючыся ў светлай будучыні, спраграмаванай партыйнымі савецкімі ідэолагамі. Шмат пісаў, друкаваўся, часта выдаваўся... І многа чым загадваў...**

**Ужо з 1946 года – загадчык аддзела часопіса "Вожык", у 1948 годзе – намеснік галоўнага рэдактара "ЛіМа", у 1953 годзе – галоўны рэдактар альманаха "Советская Отчизна" (правобраз сённяшняга "Нёмана"), з 1958 года ўзначаліў часопіс "Маладосць", у якім, дарэчы, запаліў зялёнае святло "не адпавядаючым савецкай рэчаіснасці" творам В. Быкава і А. Кулакоўскага, пасля чаго з 1966 года ціха і мірна сакратарыў у праўленні СП БССР...**

**Без асаблівага здароўя і з пераменлівымі поглядамі на камуністычную перспектыву ў 1972 годзе пайшоў на творчую працу. Праўда, яшчэ па інерцыі дэпутацтваваў у Вярхоўным Савеце БССР ды на грамадскіх пачатках старшынстваваў у Рэспубліканскім Камітэце абароны міру...**

**За ўсё пра ўсё быў узнагароджаны ордэнамі Леніна, Айчыннай вайны 2-й ступені, Кастрычніцкай рэвалюцыі, трыма ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, двума – "Знак Пашаны", многімі медалямі і Ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР...**

**Больш чым дастаткова як для аднаго чалавека. Можна было б і супакоіцца... Калі б не паэзія ды грамадзянскі чуйны характар! І ён змагаўся з рознымі падхалімамі, бюракратамі, прыстасаванцамі, стылягамі, бітламанамі, графаманамі... І, канечне ж, – не перамагаў. Змагаўся за мову – і развітваўся з ёй... (Тут узнікла нават непаразумелая сяброўская палеміка з Васілём Быкавым, які адназначна ўспрыняў верш П. Панчанкі "Развітанне", – на што паэт адрэагаваў творам "Не адцураюся, не адракуся".) З**

*звяртаеш, але ўвесь час адчуваеш гэтае чарадзейства, свабоду формы, мастацкае багацце паэтавага лірызму, нейкую невычэрпнасць натхнення.. не, не толькі натхнення — душэўных рэсурсаў*

**Варлен БЕЧЫК**

*Радок любімага народам паэта прабіваўся зялёным трыпутнікам з-пад плітаў сталінскага сацрэалізму, з-пад плітаў заторанай цэнзуры, з-пад свінцовых чаравікаў ідэолагаў ад райкама да ЦК. І заставаўся панчанкаўскім, а гэта значыць бескампрамісным і задзірыстым, непаўторным і няскораным, наватарскім і класічным...*

*Хрэстаматыйнасць Пімена Панчанкі не звычная, не традыцыйная. Ён хрэстаматыйны сваім майстэрствам, сваёй ранняй сталасцю, сваёй неабходнасцю ў роднай літаратуры. Бо і ў побыце, у штодзённасці не любіць сядзець на покуцях, у прэзідыумах, калі перавесці гэтае паняцце ў афіцыйна-пратакольны рад. Як ні парадаксальна гучыць, Пімен Панчанка ніколі не ішоў у нагу з часам, у нагу з падзеямі, паэт увесь час ішоў і ідзе толькі на чырвонае святло, зялёнае пакідае ён для сваіх абачлівых і ўдачлівых у жыццёвых турботах калег...*

**Рыгор БАРАДУЛІН**

## *ГЕРОЙ*

**Злосна сказаў: “Уставай, пяхота!**
**Мы не на пляжы, а на вайне”.**
**І лёг на змяіныя скруткі дроту.**
**І дзвесце салдацкіх запыленых ботаў**
**Прайшлі па яго спіне.**

**Не ён, а другія ішлі ў атаку,**
**Гранаты кідалі ў бліндажы,**
**Калолі фрыцаў, палілі танкі**
**І сцяг перамогі ўзнімалі ранкам**
**На заваёваным рубяжы.**

**А ён свае косці з іржавых калючак**
**Сваімі рукамі без стогну аддзёр,**
**Зваліўся на травы, і стала балюча**
**І травам, і росам, і ветрам гаючым,**
**Што прыляцелі з валдайскіх азёр.**

1943

***

**І скрыпяць, і скрыпяць чужаземныя дрэвы**
**сухія.**
**За дуваламі цёмнымі вые галодны шакал.**
**Я ніколі не сніў пра такія мясціны глухія,**
**Я экзотыкі гэткай ніколі нідзе не шукаў.**

**Так заўсёды бывае: не можаш ніяк пагадзіцца**

**наступленнем перабудовы і суверэнізацыі ён, як мала хто іншы з вядомых літаратараў Беларусі, актывізаваў свой грамадзянскі і публіцыстычны напал у дэмакратычным накірунку. Мне здаецца, да свайго апошняга дня ён верыў, што паэтычнае (вершаванае) слова можа ўздзейнічаць на стан грамадскага ладу і на быційнае жыццё людзей. Паэты наіўныя, але без іх свет згубіў бы той высакародны сэнс, які ён пакуль яшчэ мае. І Панчанку дзякуючы таксама. Паэт напісаў многа кніжак. Злабадзённых, добрых, таленавітых. Ён азначыў сваю вяху ў беларускай літаратуры. Дай Бог кожнаму.**

**Народны паэт Беларусі (1973 г.), ганаровы акадэмік АН Беларусі (1994 г.) Пімен Панчанка з'яўляецца лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1959 г., за паэму “Патрыятычная песня”), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1968 г., за зборнік вершаў “Пры святле маланак”), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981 г., за кніжку вершаў “Где ночует жаворонок?”).**

**Нехта з нас любіць усю яго паэзію, нехта асобную кніжку, іншыя – пэўны твор, а хтосьці – запамінальныя страфы, радкі... Так ці іначай Паэт прысутнічае сярод нас, і яго творчы дух працягвае жыць у нашым часе. Час жа заўжды пэўны. Ён змяняе толькі нашы погляды на пражыты час...**

**А сам Пімен Емяльянавіч Панчанка пахаваны ў 1995 годзе на Маскоўскіх (Усходніх) могілках у Мінску.**

**Падрыхтаваў**
**Леанід ГАЛУБОВІЧ.**





**З аднастайнасцю рэчаў, і звычак, і фарбаў, і слоў,**
**І зямля невядомая ноччу вясноваю сніцца,**
**І ты марыш пра лёгкія крыллі залётных буслоў.**

**Ты ўстаеш, атакованы снамі, і верыш, і верыш**
**У далёкія рэкі, у голас марскіх караблёў.**
**У нязнаныя землі, якія наўсцяж перамерыш.**
**У харчэўні бадзяг, дзе пакінеш ты рэштку**
**рублёў...**

**Вось і землі жаданыя. Поўдзень.**
**Нязвыклыя рэчы і гукі.**
**Ты закінуты ветрам прыгод за трыдзевяць зямель.**
**Над табой заламіла ноч светлыя зорныя рукі,**
**Да цябе выплывае з-за мысу марскі карабель.**

**Для цябе ён падвесіў на мачту высокую месяц,**
**Ты у самым раю паэтычнай адвечнай хлусні.**
**Дзе ж тваё захапленне? Чаму галаву ты павесіў?**
**Пра якую зямлю, пра якія прыгоды ты сніш?**

**Адкажы, толькі шчыра... Мне сніцца сасновая хата**
**З пахам свежага хлеба і паранага малака,**
**З жоўтай чыстай падлогай,**
**пасыпанай пахкаю мятай,**
**З фотаздымкамі родных пад белым вянком ручніка.**

**Зараз хочацца мець беларускага неба багата,**
**Па тых сцежках хадзіць, дзе хадзілі і нашы дзяды,**
**Каб старая зязюля, прысеўшы на хвою ля хаты,**
**Кожны вечар лічыла пражытыя дома гады.**

1944

*Варта мне толькі пачуць або прамовіць яго імя – Пімен Панчанка, – як адразу ж бачу перад сабой вочы гэтага чалавека. Бачу такімі, якімі былі яны ў майго сябра-паэта тады, калі ён упершыню пазіраваў мне ў маёй майстэрні. Звычайна партрэтыст у жывапісе і ў скульптуры імкнецца “прачытаць” характар партрэтыруемага перш-наперш, ловячы іх выраз у розным душэўным стане чалавека. Якія яны ў П Панчанкі? Вось у гэтую хвіліну – пільныя, строгія, дапытлівыя. І раптам у іх – добрая і мудрая засяроджанасць, што выпраменьвае пяшчоту Потым зноў патрабавальная дапытлівасць, нібы і ён сам глядзіць на цябе, пытаючы: а ты хто, што за чалавек?. Мне здаецца, што і паэзія яго, калі гаварыць увогуле, такая.*

**Заір АЗГУР**

*Асаблівы склад таленту ў П. Панчанкі. Гэта паэт, верш у якога “падступае да горла”, вырываецца як боль, гнеў ці як радасць, любоў з самых глыбінь душы.*

*Надзвычайная паэтычная шчырасць, грамадзянская страснасць, якая арганізуецца моцным талентам, — вось паэзія П. Панчанкі.*

**Алесь АДАМОВІЧ**

# ЖЫЦЦЁ ЗА ПЕСНЮ

**Што мы ведаем пра Пімена Панчанку як фізічную асобу? Пра яго прыватнае жыццё? Амаль нічога. Яго душа цалкам – “у запаветнай ліры”: “Шматфарбны свет ў мае ўваходзіць znічкі, Каб акунуцца у крыніцу сэрца І песняй непаўторнай празвінець”. Так ён пісаў яшчэ на самым пачатку, калі быў “неспакойным юнаком-летуценнікам”. Чытаючы пра яго ва ўспамінах сучаснікаў, скажам, Янкі Брыля, толькі пераконваешся ў адпаведнасці асобы паэта яго адлюстраванню ў вершах – лірычнаму герою, але не ў апошнюю чаргу і самому часу.**

**Як паэт і як асоба Панчанка рэдка калі выходзіў за межы сваёй эпохі. У 30-я гады яго паэзія была светлая, сонечная, але не таму, што аўтару выпала жыць “пад сталінскім сонцам”: у яго захапленні светам выяўляецца чыста біялагічная “радасць жыцця як існавання” (паводле вызначэння Кузьмы Чорнага). Чалавеку 18 гадоў, і перад ім:**

*Вось гэты краявід і нашы сэрцы –*
*Граніца думак і вясны, напэўна.*
*Ну, як усмешку сёння з твару сцерці,*
*Калі замест вады тут сонечная пена?*

**Калі “снег – грудкі раскрышанага сыру” і “стаіць, пад-**

## *ШАПКА ЭСТОНЦА*

**Ні шторму, ні буры тады не было,
Калі нарадзіўся я ў Таліне.
Звычайнае сонца звычайна ўзышло
Пасля гадзіны світальнай.**

**А недзе на поўдні стагнала вайна,
Мой бацька ужо на вайне быў.
Рабочы барак. У пакоі у нас
Апошні кавалачак хлеба.**

**І думала маці, напэўна, тады,
А як жа мяне данесці
Да роднае беднае вёскі, туды,
Дзе можна хоць бульбы пад'есці.**

**І плакала маці тужліва ў той час
Аб мінскай далёкай староньцы...
Пад вечар зайшлі у пакойчык да нас
Сябры майго бацькі — эстонцы.**

**Сказалі: "Паслаў нас адведаць народ",
Суровыя твары схілілі,
Адобрылі моўчкі ў жыццё мой прыход
І крышку мяне пахвалілі.**

**Тады быў трывожны семнаццаты год.
Запалі з нішчымніцы вочы.
"Хоць нашая праца
на верфях не мёд, —
Хай будзе сумленным рабочым".**

першы дзюбай сонца, бусел". Калі нават сябры-пагодкі, будучыя эмігранты, што на злом галавы беглі ўдалеч, абы далей ад гэтага шчасця, Масей Сяднёў і Алесь Салавей бачылі навокал адно светлае.

Творчае і побытавае ў Панчанкі будавалася паводле вядомага канону, а вельмі часта гэта была жорсткая догма. Тым не менш паэт і ў межах дазволенага знаходзіў магчымасць для самавыяўлення. Спяваў у пазалочанай клетцы. Можа, таму што жыў вясною "з нечым радасным каханнем, з салаўямі, зорным звонам, з пахам бэзу і акацый". Не засяроджваючыся надта на тым, што псавала настрой: "А пазней у клубнай зале Камсамольскі сход адбыўся. Там мяне крытыкавалі, Што ад працы я адбіўся". Хаця крытыка ў тыя часы заканчвалася звычайна аргвывадамі: "Вечар скончан. Падыходжу Да яе: "Дазвольце з вамі..." А яна з насмешкай кажа: "Нам, відаць, не па дарозе..." Магло быць, вядома, і горш. Тым больш што "ўпадніцкія" настроі ў вершах паэта мацнелі: пастаральнае каханне калгаснага пастуха і пастушкі з надыходам восені натыкалася на неспрыяльныя прыродныя ўмовы.

*Смугой павіты росныя пагоркі.
Між рэдкіх хмар ужо іскрацца зоркі,
І ціха-ціха падаюць лісты,
І вецер на палях пустых
Разносіць спеў, для нас
незразумелы.
Я чую ў ім і сум, і шкадаванне...*

Нормы жыцця – грамадскія, вясковыя, літаратурна-стылявыя – штораз нагадвалі аб сабе, прымушаючы паэта быць адпаведным эпосе. Па натуры неваяўнічы, "спакой-





**Як маці сцвярджае, і я не маўчаў,
Зайшоўся ад радасці плачам,
Сваё нараджэнне як мог адзначаў,
Хаця шчэ нічога не бачыў.**

**Не бачыў, як будаўнікі караблёў
Пакінулі шапку у хаце
Паўнюткую грошай, пацёртых рублёў,
Што ў цэху сабралі для маці...**

**Я славіў каханне, паходы, баі,
Гарачае роднае сонца.
Хай будзе ж праслаўлена вершам маім
І простая шапка эстонца.**

1954

## *ПРЫСТАСАВАНЦЫ*

**Станкоў не знаюць, араць не ўмеюць,
Да воза з гноем не йдуць і блізка.
Разумнае, вечнае, добрае сеюць
Між мас працоўных амаль з калыскі.**

**Закончаць нешта з тугой нацяжкай,
Запас прыдбаюць цытатаў розных.
Дзяцей у школе вучыць ім цяжка,
Лягчэй, выгодней вучыць дарослых.**

**Цытата з вока, цытата з вуха,
І зуб у роце блішчыць цытатай.**

ны юнак, можа нават крыху сарамлівы", які не здольны пакрыўдзіць і птушкі, бо ведае: "ёй хочацца жыць", атрымаўшы позву з ваенкамата, рашуча заяўляе: "Але тых, хто жадае напасці на край мой шчаслівы, Я сваімі рукамі без жалю гатоў задушыць". Вартае ўвагі тут змякчана-няўпэўненае: "жадае напасці", "без жалю гатоў" – яшчэ не прагучала афіцыйнае вызначэнне "агрэсар", "вераломнае нападзенне". Паэт славіць "чалавека з ружжом", не падазраючы, што менавіта такога чалавека баіцца больш за ўсё антынародная ўлада: партызана, байца атрадаў самапомачы, пераможцы, якія вяртаецца з павержанай Нямеччыны разняволены душой:

*І будзе дзень, і грымне бой,
Узброіцца народ.
Гарніст мядзянаю трубой
Збярэ нас у паход...*

Пімен Панчанка шчыры ва ўсім, што піша. Калі ён гучна заяўляе, што "рад уславіць песняю агністай наш ясны лёс, наш мудры лад і светлы розум камуністаў", то ў яго словах, зыходзячы з сучасных уяўленняў аб "тэкстах" і "падтэкстах", не варта шукаць нейкага патаемнага намеру. Хутчэй за ўсё ён, як і большасць яго сучаснікаў, проста не ведаў самой гэтай праблемы: на чым баку правата і колькі яна каштуе народу. У Панчанкі не было тых ведаў і таго вопыту, якія меў Янка Купала ці хаця б Максім Танк, а чуткі аб людскіх трагедыях пакуль што не краналі за жывое. Каб краналі, дык ці напісалася б, скажам, такое:

Глядзіш з сумненнем на сына-зуха —
Кім ён змайстрован? Наўрад ці татам.

Ідуць насустрач грашовай справе,
На пафас голы яны не клюнуць.
Маліцца будуць, калі ты ў славе,
Калі ты ў горы — з насмешкай плюнуць.

Разлік дакладны ды плюс удача,
Паклон начальству ды жартаў крышку —
Глядзіш — і стаўка, а там і дача,
Грунтоўны базіс ашчаднай кніжкі.

І, ўладкаваўшыся адмыслова,
Чужыя думкі прыстойна крадуць.
Зусім забылі жывое слова
І занядбалі людскую праўду.

Застылі твары кароўім лоем,
Нос падпірае тупая веліч.
Глядзяць з пагардай на ўсё малое,
Балбочуць нешта ды ружавеюць.

У цёплых ложках хіхікаць любяць
З наіўных дурняў, што ў вёску едуць, —
Кватэры трацяць, кар‘еры губяць,
Збываюць танна свае “Пабеды”.

Вялікай працай заняты людзі,
Пяюць у шчасці, ў бядзе бядуюць.
Прыстасаванцы ж б‘юць гулка ў грудзі,
Крычаць — “гадуем...”,
крычаць — “будуем...”.

*Я пакінуў хату, кінуў вершы,*
*Блу́каю па лесе, як дзівак...*

**Вершы паэта прыходзяць да нас, як “адкопаныя зарніцы”, якія тры тысячы гадоў падалі “ў багну гразкую”, пакуль іх не адшукалі дасужыя сучаснікі. Выявіць у іх гарачым рэчыве матэрыялізаваны працэс колішняга пошуку вельмі цяжка. Але творчасць Панчанкі менавіта ёсць працэс, у якім вынік часам апярэджвае пачатак. Толькі праз два гады пасля напісання верша “Журавы” многія і многія байцы перажывуць тое, пра што мы сёння ведаем з аповесці Васіля Быкава “Жураўліны крык”. “Крывавы бог вайны”, які лютаваў у 1939 годзе то на захадзе, то на поўначы, то на поўдні, перш за ўсё прымусіў плакаць “над заравам асенніх журавін” птушак, што ляцяць у вырай, жуaccording:**

*Пад залатымі сонечнымі промнямі*
*Не хочацца і птушкам паміраць,*
*І будуць доўга галасамі сумнымі*
*Радзіму жураўліную гукаць.*

**“Жураўліная Радзіма” тут не райскі бераг Міжземнага мора, а “родныя нівы”, “ціхая рака” на Беларусі: нездарма гэта алітэрацыя, што ляжыць на паверхні (журавы-журавіны), пераходзіла ад паэта да паэта, ад У. Жылкі і М. Танка да М. Аўрамчыка і Р. Барадуліна. Усе навокал могуць крычаць у адзін голас: старая паэтыка “нашаніўства” і звязаная з ёю “нацдэмаўская” стылістыка аджылі свой век! Але Панчанка паважае “легенду”, якую пачалі актыўна ствараць ва ўяўленні беларусаў класікі. Яго герой можа**





Сярод народа такіх не многа,
Ды вельмі ж хітра яны нам шкодзяць.
Нам замінае вось гэта погань,
Як пыл дарожны ў цяжкім паходзе.

Іх распазнаюць людскія вочы,
Ні ў якіх норах ім не схавацца.
Мы гэта зробім, калі не хочам
Да прыстасаванцаў прыстасавацца.

1956

***

У акенца тваё
Я пастукаў зязюльчыным ранкам
Пасля салаўінага вечара
І перапёлчынай ночы.
Вока тваё, як зорка,
Бліснула з-за фіранкі:
Хто там?
Хто ты?
І чаго ты хочаш?

Я мог бы выдумаць,
Што я славуты наватар,
Цаліны пакарыцель
Ці майстра футбола.
Але быў салаўіны вечар,
І прытварацца не варта.
Стаю, які ёсць,
Перапоўнены радасным болем.

**быць суровым, нават жорсткім (“Злосна сказаў: “Уставай, пяхота! Мы не на пляжы, а на вайне”), або, наадварот, расчуленым (“Краіна мая, радасць мая, Песня мая маладая! Па нівах тваіх, па тваіх гаях Сынава сэрца рыдае”). Але стрыжнем яго духоўнага жыцця ў любым выпадку з`яўляецца думка аб Радзіме. У панчанкаўскай лірыцы ваеннага часу (“Кожны з нас прыпасае Радзімы куток...”, “Сінія касачы”, “Дзеці вайны”, “Адплывае на захад гарматны гром...”, “Коні”, “Думы салдата”, “Палескі напрамак”, “Маё і тваё маленства”, “Пад`язджаючы да Мінска”), у вершаваным цыкле “Іранскі дзённік” такі напал тугі па роднаму кутку, што ўжо не мае аніякага значэння ні лішняя пафаснасць, ні прыкметная літаратурнасць вобразаў, ні празмерная праваернасць, – усё тое, што так старанна вышукваюць сённяшнія далакопы “у акамянелым дзярме” былога і даўняга. Звыклае “Я – пасланец Рэспублікі Саветаў” ніякавее, вяне, чэзне перад імёнамі, якія з глыбокай павагай узгадвае паэт: Амар Хаям, Саадзі, Фірдаўсі, Пушкін, Лермантаў, Адам Міцкевіч... А мы ўслед за ім дагаворваем умоўчанае па вядомых прычынах: Сяргей Ясенін (“І калі гарачымі вачыма З-пад чадры іранка шугане, Міmaволі ты прашэпчаш імя, Чутае калісьці, – Шаганэ...”). Многае даруецца сацрэалісту Панчанку за адно толькі адчуванне паэтычнай свабоды і стылявой раскаванасці, дзе не заказаны любыя шляхі і формы, дзе гучыць мнос-**

Мажліва, я цір,
Куды кожны
Можа забегчы і выстраліць
Куляй насмешкі
Ці шротам грубасці.
Я магу даць здачы
І ў дадатак выстраіць
Перад табою ўсе воблакі
Ад вялікай любасці.

Мажліва, гара я,
Што нярэдка горбіцца
Ад адзіноты і смутку.
Пра гэта здагадваюцца
Вельмі і вельмі нямногія.
Я хачу цябе вывесці
З-за гэтых акенцаў мутных
І светлым ручаем
Абмыць тваё ногі.

Мае адбіткі ты знойдзеш
На акіянскай хвалі
І ў налітым вадою
Следзе ад капыта.
А сёння я ў вачах тваіх,
Што сто год мяне хвалявалі,
Хачу пасяліцца
І ні пра што, ні пра што не пытаць.

Ды толькі не магіла,
Не, не магіла я;
Вянкі з жалобнымі стужкамі
На мне не ляжаць.

---

тва галасоў і "чужое маўленне".

Бытавы Панчанка, паэт, які жыве ў рэальным асяроддзі "сацыялістычных адносін", ведае, што "інжынеры чалавечых душ" павінны пісаць летапіс эпохі. А тым больш калі ён – Пімен: "Не, гэта не апошняя аповесць, і летапіс яшчэ не скончан мой". Не зазіраючы ў старыя газеты і не забіваючы лёгкія пылам сталінскай эпохі, па вершах Панчанкі паваеннага часу мы лёгка ўзнаўляем хаду падзей: дэмабілізацыя, прыезд кінаперасоўкі ў вёску, выбары ў Вярхоўны Савет, выступленне Вышынскага ў ААН, вайна ў Карэі, пабудова Мінскага аўтазавода, узнаўленне Камсамольскай вуліцы сталіцы, вярбоўка моладзі на Волга-Дон, агітацыя за торфаперагнойныя гаршчочкі... Падзеі множацца, і на павароце вымалёўваецца: "Вясна камунізма ужо недалёка, Адчуй і праслаў гэты час! Ты ж – воін, ты знаеш, як гэта нялёгка, Адстаўшы, дагнаць сваю часць". Каб не адстаць, трэба забегчы наперад: цытаваныя радкі надрукаваны ў 1951 годзе, за цэлае дзесяцігоддзе да знанага хрушчоўскага – "Цяперашняе пакаленне будзе жыць пры камунізме".

Панчанка-паэт, хаця і прывалены ідэалагічным друзам, увесь час дае знаць аб сабе, што жывы яшчэ. У вершы "Франтавік", напісаным у пераможным 45-м, ён зазірае далёка наперад, ажно да сёлетняга 50-гадовага юбілею, якім гатовы заглушыць народны боль па ахвярах:

*На ўсе лады паэмы і быліны*





Нават калі прагоніш,
Я цябе не пахаваю, мілая,
Толькі зоркі і травы
Ад крыўды глухой задрыжаць.

І больш ты не ўбачыш ніколі
Маёй прыгорбленай постаці.
Вось і ўсё.
Адказвай.
Не бойся: я не ўтаплюся ў стопцы...
Ты соладка пазяхнула,
Аж хруснулі маладыя костачкі.
— Гэта занадта.
Для мяне хапіла б і добрага хлопца.

## *РОДНАЯ МОВА*

Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.
Для мяне ж яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара.
Гэта ластавак шчабятанне,
Звон світальны палескіх крыніц,
Сінь чабору, і барвы зарніц,
І буслінае клекатанне.
Калі ж хто загадае: "Не трэба!" —
Адрачэцца ад мовы народ, —
Папрашу я і сонца, і неба:
Мне не трэба ні славы, ні хлеба,
Асудзіце на безліч нягод.
Толькі месяцаў назвы пакіньце,

---

*Пяюць. хвала, хвала табе, баец!*
*А ён у нейкім дорфе за Берлінам*
*З палёгкай уздыхнуў –*
*вайне канец.*
*............ .................... .. ....*

*Ні ордэнам, на таннай пахвальбою*
*Суседзям ён не будзе дакучаць.*
*Пасля даўгіх дарог і перуновых боек*
*Захочацца салдату памаўчаць.*

*Чытаючы крыклівыя трактаты*
*Пра подзвігі свае, пра гром атак,*
*Падумае з усмешкай вінаватай:*
*"Здаецца, што было у нас не так"*

Потым будзе "Пісьмо юнака да паэта" – з часоў дубоўкавай Насты Нарутавічанкі мы ведаем, як узнікаюць у літаратуры падобныя містыфікацыі і дзеля чаго яны патрэбны. Чытачка Наста нагадвала ў свой час паэту У. Дубоўку, што падзеі ў яго (і менш за ўсё ў яго) вершах засланяюць чалавека – "маленькай дробязі такой". Панчанкаўскі юнак нагадвае літаратарам (і калі? у самы разгар услаўлення Сталіна!):

*Нямала ў нас вершаў пра ўсё*
*адмысловых,*
*А неадмысловых – дык цэлая гаць.*
*Але пра каханне ні гуку, ні слова,*
*Ці мо перасталі паэты кахаць?*

*І хоць не хацеў я кранаць тэмы*
*коўзкай,*
*Ды, знаць, для размовы той*
*час падышоў.*
*Хто піша пра гэта? Адзін Ісакоўскі,*
*Ды часам, ды крыху яшчэ Куляшоў...*

Паэзія Панчанкі мае сваю сімволіку, калі нейкае слова набывае ўсё больш шырокі сэнс і варта яго назваць, каб адразу нагадаць усё, што за ім стаіць. Чытаем радкі: "Калі

Назвы родныя роднай зямлі,
Пра якія з маленства ў блакіце
Бор шуміць і пяюць жураўлі:
Студзень — з казкамі снежных аблокаў,
Люты — шчодры на сіні мароз,
Сакавік — з сакатаннем і сокам
Непаўторных вясновых бяроз,
Красавік — час маланак і ліўняў,
Травень — з першым каханнем, сяўбой,
Чэрвень — з ягаднаю зарой,
Ліпень — з мёдам,
З пшаніцаю — жнівень,
Спелы яблычны верасень,
Светлы кастрычнік
У празрыстасці чыстай, крынічнай,
Лістапад — залаты лістапад,
Снежань — першы густы снегапад...
Ці плачу я, ці пяю?..
Восень. На вуліцы цёмна...
Пакіньне мне мову маю,
Пакіньце жыццё мне!

1964

***

На Палессі восень...
Гусі белыя
Выскублі мядовую траву.
І вятры, ад сцюжы ашалелыя,
То журботна свішчуць,
То равуць.

мая песня каго й хвалявала, То тая, апранутая у шынель...", – а думаем пра даўнюю, з юнацкіх гадоў, паэтаву мару "расказаць з суровай ласкаю пра шчасце і смутак, пра радасць і гнеў", пра тое, што "растрачана дзён незваротных нямала на дробязь, на глупства, на тосты, на мель". Адразу забываюцца ўсе ранейшыя прэтэнзіі, як толькі сустракаем прызнанне: "Пільней углядацца маглі б мае вочы, Зрабіць я павінен быў большае, мог". З тае пары мы захоплена назіраем за поўным рызыкі імкненнем паэта на нашых вачах ператвараць у чыстую паэзію незлічонае мноства палітычных, бытавых і ўсялякіх іншых падрабязнасцяў, не засвоеных яшчэ вершам і словам. Але, здаецца, я ўжо бессаромна пачынаю паўтараць высновы, зробленыя Рыгорам Бярозкіным: "Пра што б ён ні пісаў, амаль заўсёды адчуваецца ў яго творчасці настойлівае імкненне расчысціць "пляцоўку" верша ад уяўнай і непатрэбнай "прыгажосці", зацяганай эпігонамі. І гэтая палемічнасць паэта, яго жаданне дайсці да сутнасці, да сарцавіны жыццёвага факта, яго рашучае адмаўленне "прыгожай" фразы, якая патрэбна для маскіроўкі рамесніку і прыстасаванцу, уяўляюць сабой адну з самых галоўных і прывабных рысаў сённяшняга, сталага Пімена Панчанкі". Сказана, падобна, з вялікім запасам, закідваючы далёка наперад, ажно да сучаснага, "перабудовачнага", "адраджэнскага" Пімена Панчанкі.

Міхась ТЫЧЫНА





Смех і кветкі,
Вы куды падзеліся?
Навакол
Стагі, стагі, стагі.
Чым жа ты цяпер са мной падзелішся,
Прыпяць, пачарнелая з тугі?

Ліст пажоўклы да плашча прыколеш?
Ці на момант вернеш мне ізноў
Каснічок зары,
Світальны колер
Тапалёў, буслоў і туманоў?

А сама замкнешся у лядоўні,
Лета у стагі паклаўшы спаць...
Будуць коні сніць лугі мядовыя
І, як людзі, цяжка уздыхаць.

1965

***

Паўвека... Гэта шмат — паўвека.
Сплылі, змялелі сотні рэк.
І ўжо адно тваё павека
Нібы закрылася навек.

Ты аднавокі, аднаногі
І аднарукі, небарак;
І задуменныя дарогі
Чакаюць іншых у барах...

# НЯСПРАЎДЖАНЫЯ НАДЗЕІ

Некалькі разоў я "расчахляў" аўтаручку, каб напісаць гэтыя нататкі, і зноў "зачахляў" яе, адчуваючы, што таго захаплення, той белай зайздрасці да Пімена Панчанкі, з якімі я чытаў упершыню яго кнігу "Пры святле маланак", у мяне ўжо няма, бо ў апошніх вершах паэта, творчасць якога была для мяне арыенцірам са школьных гадоў, пасялілася нейкая непрымальная мною азлобленасць, хоць яна была апраўданая ўсім ягоным жыццём.

Равеснік рэвалюцыі – Пімен Панчанка безаглядна прыняў яе ідэалы і быў упэўнены ў іх правільнасці і непераможнасці. Нездарма яго першая кніга вершаў, якую ён выдаў у 1938 годзе, мела назву "Упэўненасць". З гэтым святым пачуццём, якое акрыляла і натхняла паэта, ён прайшоў праз вайну (а яна для яго пачалася ў 1939 годзе з вызваленчага паходу ў Заходнюю Беларусь), стаў у час яе (у 1943 годзе) камуністам і "загінуць гатоў быў, каб толькі праўда Леніна вечна жыла".

Тая ж упэўненасць і зямныя цёплыя пачуцці саграваці сэрца паэта, калі ён, худы бывалы воін, крочыў па вузкіх мінскіх вуліцах пасля вайны, углядваўся "у вочы добрыя людзей" і адчуваў, што кожнаму з іх хоча сказаць "Добры дзень", быццам усе яны – яго суседзі ці радня. Непахісная вера, што яго, апавітая ў сцягі, Беларусь хутка сустрэне "каму-

Пляткарце, мілыя, пляткарце,
Што нехта ў крук мяне сагнуў.
А я улёгся на плацкарце
І правадніцы падміргнуў.

Эх, правадніца, правадніца,
Люблю я твой вандроўны дом.
Хачу з табою парадніцца,
Зрабіцца паўправадніком.

Каб ад паглядаў чалавечых
І загарацца, і гарэць;
І хоць далёка, хоць пад вечар,
Што не сустрэў яшчэ, сустрэць.

Каб на людскім дарожным сходзе
Патрэбным гэтым людзям быць
І ведаць, дзе каму сыходзіць,
Якія станцыі любіць.

І каб на той, на канчатковай,
І не пазней, і не раней
Сысці не ў табар Канчаковы,
А ў свет бяроз, што ўсіх радней.

1972

## *ПРЫСНІЎСЯ СОН...*

Навошта ты прысніўся, Глебка, мне,
Не то ў зары, не то ў сцягах чырвоных?

нізму светлага прыход", вадзіла пяром паэта ў тыя гады.

Горкае, як жолуд, расчараванне чакала Пімена Панчанку – і яго звонкая патрыятычная песня неўпрыкмет ператварылася ў рэзкі немеладычны крык сойкі. У душы, дзе некалі начаваў жаўранак, звілі гняздо абурэнне і нянавісць. Вячэрняй маўклівай малітвы не атрымалася.

Тым, што я быў блізка знаёмы з Піменам Панчанкам, пахваліцца не магу, хоць ён быў маім паэтычным настаўнікам з 1955 года. Калі я пачаў друкавацца ў сваёй Гарадоцкай райгазеце "Сталінскі прызыў", супрацоўнік рэдакцыі паэт (дарэчы, як мне здавалася, таленавіты) Павел Воранаў, родны брат даволі вядомага празаіка з Шаркоўшчыны Міколы Воранава, параіў мне бліжэй пазнаёміцца з творчасцю Пімена Панчанкі – і я прачытаў, бадай, усе паэтычныя зборнікі Пімена Емяльянавіча, якія былі ў нашай бібліятэцы. Часта радкі з панчанкаўскіх вершаў я выкарыстоўваў у якасці эпіграфаў да школьных сачыненняў, а часам, неўтаймоўны свавольнік, сам складаў эпіграфы і ў думках пад імі пісаў дарагія мне словы – Пімен Панчанка. Бязмежная радасць ахапіла мяне, калі мая першая нізка вершаў у 1966 годзе з'явілася ў "Маладосці", якую ў той час рэдагаваў мой паэтычны настаўнік. Калі верыць Міколу Аўрамчыку, вершы спадабаліся галоўнаму рэдактару – і гэтая акалічнасць вырашыла мой далейшы лёс. Я зноў пасля доўгага перапынку пачаў пісаць вершы, хоць ужо рыхтаваўся да паступлення ў аспірантуру па тэхнічнай эксплуатацыі самалётаў.

Усяго два разы ў жыцці, як помніцца, мне давялося размаўляць з Піменам Панчанкам. Першы раз – мімаходзь у Доме лі-





Жылі з табой мы на зямлі чароўнай,
І ты раптоўна знік, нібыта ў сне...
Прамоўца і застольны чараўнік,
У снежаньскай маўклівасці ты знік.

І мне зіму страчаць усё цяжэй,
Гадзіннікі ўсе цікаюць цішэй —
Тут не памогуць лекі і замовы.
Відаць, і я памру у час зімовы.
І падыбае мала хто за мною,
За жалкай абалонкаю зямною.

Навошта ім дыбаць, трэ пра жывое дбаць,
І раны ў кожнага свае, і ўсе баляць,
Адным гарэць, а іншым дагараць,
Адным рабіць, астатнім — зараблять...
І дзе мяжа паміж "было" і "ёсць",
І дзе ты — гаспадар, а дзе ты — госць?

Успомніце, таварышы-сябры,
Нікога не штурхаў я пад абрыў,
Не мыліў шыю і галоў не брыў,
Ганебныя даносы не кляпаў,
Магілы я нікому не капаў
І з неба вашых зорак не хапаў.

Бываў часамі рэзкі, часам грубы.
Смылелі, як абвугленыя, губы,
Калі я ў некім бачыў подлы фальш,
А чмут віно каўтаў ды налягаў на фарш.
Як шчыра хлусіць, аж перажагнецца!
Глядзіш — ізноў уверх махляр праб'ецца.

таратара 26 красавіка 1983 года, роўна за тры гады да чарнобыльскай катастрофы. Пімен Емяльянавіч стаяў у фае каля прыадчыненых дзвярэй у канферэнцзалу, дзе адбывалася нейкая нарада, і курыў. Я павітаўся з ім і ўжо хацеў адыходзіць, але нечакана пачуў: "Валодзя, пачакай". Паэт дастаў з кішэні пінжака сваю кнігу "Дзе начуе жаўранак", за якую ў 1981 годзе ён атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР, і падарыў яе мне. Шчаслівы і ўсхваляваны, я прачытаў цёплы надпіс, зроблены яшчэ, відаць, дома, і выказаў шчырую падзяку за дарагі падарунак. Паэт у сваю чаргу падзякаваў за верш "Эпіграф", прысвечаны яму, і за кнігу "Вугал атакі", якія былі перад гэтым прысланыя мною любімаму паэту па пошце.

Другая наша размова, больш працяглая і грунтоўная, адбылася сонечным днём 5 ліпеня 1985 года, у першы год гарбачоўскай перабудовы, у Доме творчасці пісьменнікаў "Каралішчавічы". Як на відэамагнітафоннай стужцы, яна запісалася ў маёй памяці і не сцёрлася дагэтуль.

Пімен Панчанка з кіёчкам у правай руцэ і я адначасова падышлі да дзвярэй сталоўкі. Я адчыніў дзверы. Пімен Емяльянавіч асцярожна сышоў з высокага драўлянага ганка, трымаючыся левай рукой за поручань. Гаворачы пра змены, якія тады адбываліся ў грамадстве, паціху дайшлі да перакрыжавання. Мне трэба было ісці налева, у галоўны корпус. Пімену Емяльянавічу – направа, у блакітны домік, але ён сказаў: "Зойдзем да мяне". Я з радасцю згадзіўся – і мы накіраваліся да панчанкаўскай "рэзідэнцыі". Зайшлі, селі. Пімен Емяльянавіч – на канапу, я – на крэсла каля пісьмовага стала насу-

Калісьці Гоя маляваў ляніўцаў.
Яму я не раўня.
А пра злasліўцаў
І плеткароў не хочацца пісаць:
Ім сняцца гроны, пышната пасад.
Лісліўыя смаўжы, яны бываюць лютымі,
Задушаць ці апырскаюць атрутаю.

І так да скону муцяць, круцяць-верцяць...
Пра што цяпер ім марыць?
Пра бяссмерце.
Гатовыя на ўсё: шумець высокім клёнам
Ці дубам векавечным і зялёным.
Не выйдзе клёнам — выб'юцца травой
Ці помнікам —
Табе, нашчадак мой,
Ківаць пачнуць глінянай галавой.

1972

## *ТВОРЧАСЦЬ*

З паэзіяй мне развітацца пара,
Пакуль не зрабіўся сапраўдным вар'ятам.
Прыгожа, дасціпна... І ўсё ж — мішура...
Лятуць на падлогу усе варыянты.

А словам дакладным не трэба прыкрас,
Сапраўдным пачуццям не трэба аздобы.
Паэзія мучыць бязлітасна нас.

праць расчыненага акна з рамай, абцягнутай марляй. На стале ляжаў стос свежых газет, чэрвеньскі нумар часопіса "Новый мир". На тумбачцы стаяў радыёпрыёмнік "Акіян". Я расказаў, як напярэдадні праходзіў урачысты вечар, прысвечаны васьмідзесяцігоддзю з дня нараджэння Петруся Броўкі, хто выступаў на ім. І Пімен Панчанка, трымаючы левую руку пад праваю пахаю, пачаў сваю неталопкую споведзь:

"У 1938 годзе, дзякуючы намаганням Броўкі, мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Збіраюся напісаць пра яго ўспаміны. Наогул, Броўка – сумленны камуніст і добры арганізатар, але большасць яго вершаў патрабуе рэдагавання. На жаль, Алесь Марціновіч у справаздачы пра адкрыццё хаты-музея Петруся Броўкі ў Пуцілкавічах цытуе яго не лепшыя вершы. Меркаваць пра паэтаў трэба па іх вышэйных дасягненнях...

У артыкуле Фёдара Яфімава пра Аляксандра Твардоўскага (21 чэрвеня 1985 года яму споўнілася б 75 год) каля паловы агульных разважанняў пра літаратурную мову...

У піянеры мяне прынялі, калі мне не было яшчэ сямі гадоў. Убачыў у Бягомлі на чырвоным сцягу сілуэт Леніна, які прыняў за адрэзаную галаву, і заплакаў. Каб не плакаў, павязалі піянерскі гальштук...

Вайну сустрэў у Беластоку. Адступалі ўчатырох – я (палітработнік), азербайджанец Аліеў (не той, што зараз у ЦК), адзін яўрэй і яшчэ нехта. Наткнуліся на загараджальны пункт. Хацелі расстраляць. Член ваенсавета дазволіў мне насіць валасы, а па загадзе Цімашэнкі радавому саставу рабіць прычоскі не дазвалялася. Таму паставы і прыдраўся да нас: "Мы такіх толькі ўчора пусцілі ў расход".





Даволі!
І я выбіраюся з дому.

Іду, як заўсёды, ў купалаўскі сад,
Падняўшы каўнер і насунуўшы кепку.
А ў садзе шуміць залаты лістапад...
Шапчу я: Іван Дамінікавіч, кепска...

Працуем, а нас не чытаюць амаль,
Жартуем, а людзям чамусьці не смешна...
Спакойны і мудры, глядзіць ён удаль,
Усё перад ім: гэты сад і бязмежнасць.

Крычаў і маліўся, стагнаў і спяваў,
Каб кроў мужыка не лілася на росы;
Ён сонца выворваў,
З магілы ўставаў,
Каб толькі убачыць у шчасці народ свой.

Я жорстка ўпікаю самога сябе
І тых, што не страцілі гонар і сорам.
І так, аб будоўлі... І так, аб сяўбе...
А мы тут пры чым?
Мы бясконца гаворым...

Стаіць ля Карэлічаў жыта сцяной,
Шыпшына цвіце каля Мірскага замка,
Да брацкай магілы ідзе партызанка...
Я зноў на вайне.
Я падбіты вайной.

Успомніў ізноўку сырыя лясы,
І Ловаць, і Полу, і тыя балоты,

Уратавала нямецкая бамбардзіроўка. Уцякалі, пераскокваючы з варонкі ў варонку. Сустрэлі бабку, якая несла з магазіна цэлую каробку цыгарэт. Тады цыгарэты толькі з'явіліся. Пачала апраўдвацца: "А нам казалі: лепей вазьміце самі, чым немцам дастанецца". Дала па пачцы. Скончыў вайну капітанам. Працаваў у армейскай газеце. Быў і настаўнікам, і карэктарам...

Амаль усе нашыя празаікі эксплуатуюць тэму вайны. Ну Быкаў. Дык ён ваяваў. Ён вайну ведае. Ён падняў высока аўтарытэт беларускай літаратуры ва ўсім свеце. Ну Мележ. Дык ён жа так паэтычна яшчэ расказаў і пра сваё Палессе. Дарэчы, я паправіў адно месца ў "Мінскім напрамку". У Мележа было напісана, што пасля выбуху першым падае пясок, потым – камякі зямлі, потым – вырваныя дрэўцы. У сапраўднасці – наадварот...

Сябраваў з Мележам. Абодва любілі працаваць па начах. Мележ часта званіў і пытаў: "Я твайго ўнука не пабудзіў?" У 1976 годзе ездзілі ў адным вагоне з Мележам і ўнукам Андрэем у Маскву. Прыходзіў з суседняга вагона Алесь Адамовіч. Прагаварылі ледзь не ўсю ноч. З вакзала паехалі на таксі. Кружылі шляхамі – па Калінінскім праспекце. Запыталі ва ўнука: "На што падобны гэты дом?" "На разгорнутую кнігу", – адказаў Андрэй. Вадзіў унука ў маўзалей. Жылі ў гасцініцы "Масква"...

Цяпер сябрую з Барадуліным. Барадулін – добры паэт. Я яго люблю. У яго ёсць мэта. І я разумею яго. Аднак той задушэўнасці ў размовах у нас быць не можа. Мы, па-першае, розныя па гадах...

Не люблю Ягора Ісаева. Не разумею, як яны могуць са

**Шчаціну на шчоках
І гразь на пілотках,
Сяржантаў ахрыплыя галасы.**

**І грукат, і стогны, і пыл, і туман,
І той пад Бягомлем глыбокі калодзеж,
Дзе кідалі немцы жывых партызан...
Ізноўку нянавісцю сэрца калоціць.**

**Ля брацкіх магіл трэ спыняцца часцей,
Чытаць надмагільныя надпісы моўчкі.
У сэрцах людскіх залатыя замочкі
Тады адамкнём, калі станем чысцей.**

**Хай хітрая слава мяне абміне,
Жыццё не пакіне трывожыць і вабіць.
А нехта ссылае у старасць мяне,
Імкнецца мой гнеў да мяшчанства аслабіць.**

**Не здамся!
Бяссоннаю працай спалю
Сябе, ды ад праўды я не адступлюся.
І словам я сцверджу усё, што люблю
Ў народзе сваім і ў сваёй Беларусі.**

1974

***

**Апалашчуся хвалямі вятроў
І белым воблакам я вочы свае вымыю...
Стаміўся трохі ад сваіх сяброў,
І ад мяне стаміліся сябры мае.**

**Львом Ашаніным гаварыць адзін аднаму кампліменты, калі ненавідзяць адзін аднаго...**

**У Камітэце па абароне міру, старшынёй якога я з'яўляюся, паказвалі фільмы японскіх кінааматараў пра ядзерную бамбардзіроўку Хірасімы і Нагасакі. Жудасна. Асабліва, калі абгарэлыя людзі бягуць да вады. У Камітэце 12 чалавек. У тым ліку вядомы матэматык Уладзімір Платонаў...**

**Не даяраю памяці. Таму заўсёды нашу з сабою запісную кніжку. На першай старонцы яе – мае прозвішча, імя, імя па бацьку, адрас і тэлефон. Далей – чарнавыя запісы...**

**Ужо даўно нічога не п'ю. Два месяцы не куру. Курыў многа і часта".**

**Больш за гадзіну працягвалася наша размова. Дакладней – маналог Пімена Панчанкі, бо я стараўся як можна больш запомніць са сказанага паэтам і толькі зрэдку ўстаўляў якое-небудзь слова ці задаваў пытанне. У канцы свайго маналогу Пімен Панчанка загаварыў пра Гарбачова, і яго блакітныя вочы, з якіх адно (здаецца, левае) было святлейшае, зноў засвяціліся ўпэўненасцю і надзеяй.**

**Але гарбачоўская перабудова, на якую паэт ускладаў шмат надзей, канчаткова расчаравала былога жыццялюба, чыё ўсё жыццё –**

*Шуканне, чаканне
І хваляванне.
Зачараванне –
Расчараванне.*

**Да майскага рэферэндуму 1995 года народны паэт не дажыў. Не змог дажыць.**

**Уладзімір СКАРЫНКІН**

**5 сакавіка 1996 г.**





**Адвыклі мы ад простых добрых слоў
І перажоўваем штодня старыя ісціны...
Кіпяць дубы ўсхвалёванымі лісцямі
Пад воблачнымі крыллямі буслоў.**

**Здаецца, ўсё я ў вас адкрыў, сябры,
А тоіце там нешта, дык прытойвайце.
Не страціце ніколі вы прытомнасці,
Як сосны, бурай збітыя ў бары.**

**Ну колькі тых паэтаў ёсць у нас?
Чатыры альбо пяць,
А ўсё астатняе —
Наіўны сон,
Адна магіла братняя
Няздзейсненых задум тваіх, імклівы час.**

**І я такі ж няздзейснены,
Такі ж
Недакапаны да вады калодзеж,
А ісціну хлуснёй не пазалоціш,
Яна са мной, як пахавальны крыж.**

**Чаму мы часта цешымся лухтой?
А вершы — галавешкамі ачахлымі.
Гляджу на воблакі —
І слёзы на вачах маіх,
І добра, што не бачыць іх ніхто.**

**А нехта ж прыйдзе мудры, як дзіця,
І пазірне туды, куды глядзелі мы,**

# Нас паэзія вяла ў паходы

**Маладосць нашага пакалення, яго прыход у літаратуру адносіцца да тых часоў, калі ўсюды, у кожным кутку неабсяжнай Айчыны спявалі адну вельмі папулярную песню: "Нас не трогай – мы не тронем, а затронешь – спуску не дадим..." Ці трэба гаварыць, колькі ў гэтай песні было фальшу, рыторыкі і нават хлусні. Тым не менш мы жылі, вучыліся, працавалі. І што галоўнае – дружна і шматгалоса ўваходзілі ў літаратуру, прыйшоўшы з глыбінных вёсак, мястэчак, з усёй нашай Беларусі. І многія ў маладым узросце, як і цяпер, станавіліся вядомымі ў шырокіх колах чытачоў паэтамі.**

**У канцы трыццатых гадоў, амаль перад самым пачаткам Вялікай Айчыннай вайны, яркай зоркай у нашай беларускай паэзіі заіскрылася імя Пімена Панчанкі – тады яшчэ зусім маладога чалавека, настаўніка па прафесіі. У сярэдзіне 1938 года ў Мінску ў Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшла ў свет яго першая кніга паэзіі "Упэўненасць". Яна адразу звярнула на сябе ўвагу ўсёй нашай грамадскасці – і пісьменніцкай і чытацкай.**

**Тагачасная літаратурная крытыка, у якой звяртаў на сябе ўвагу таксама малады яшчэ крытык Рыгор Бярозкін, адзначала, што кніга Пімена Панчанкі "Упэўненасць" – новая з`ява ў беларускай паэзіі, якая ідзе**

І пятніцы ўсе зробяцца нядзелямі,
І ў вершах зазвіняць званы жыцця.

1977

***

Здараецца, часамі я раблю
Не тое, што заўжды рабіць люблю.

Я пагарджаў агульшчынай, а сам
Бяздумных вершаў многа напісаў.

Бывала, што па радасць я іду,
А там знаходжу здраду і бяду.

Я век бязвольных мямляў не любіў,
А сам не раз такім бязвольным быў.

Я ад кахання вернага уцёк,
А выпадковы дзед сказаў: "Зяцёк..."

Адкрыю раўнадушнаму душу,
А роднаму ад сораму схлушу.

Мне кар'ерыст аднойчы спагадаў,
Праз тыдзень дробным жулікам прадаў.

Не вартых праслаўлення праслаўляў...
Вось толькі сам сябе не выдумляў.

1977

ад зямлі, з глыбіняў народнага жыцця. Імя Панчанкі ставілася побач з імем яшчэ аднаго выдатнага і адносна маладога паэта Аркадзя Куляшова, які перад гэтым парадаваў чытачоў новай паэмай "У зялёнай дуброве". Творчасць гэтых двух паэтаў як бы пераклікалася паміж сабой.

Цэнтрам усёй маладой беларускай літаратуры, калі можна так сказаць, быў кабінет маладога аўтара пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі, дзе працавалі кансультантамі Аркадзь Куляшоў, Анатоль Астрэйка, Эдзі Агняцвет – па паэзіі. А па прозе і драматургіі кансультаваў некаторы час выдатны майстар мастацкага слова Кузьма Чорны. Туды прысылалі свае вершы, апавяданні пачынаючыя аўтары з усіх куткоў Беларусі. Помніцца добра, як з'явіліся ў друку першыя цудоўныя вершы Анатоля Вялюгіна – з Віцебшчыны, Міколы Сурначова – з Гомельшчыны, Міколы Аўрамчыка – з Бабруйшчыны, Аляксея Русецкага – з самага ўсходняга раёна рэспублікі – Касцюковіцкага.

Кожная вобласць Беларусі (Брэсцкай і Гродзенскай яшчэ не было) магла пахваліцца нараджэннем новых талентаў у літаратуры. Мінская ж асабліва, бо тут жыў і працаваў Пімен Панчанка. І не выпадкова праз некалькі гадоў пазней ён напіша свой знакаміты верш "Край паэтаў", які зверне на сябе ўвагу мільёнаў чытачоў.

Якое ж было першае знаёмства з яго творчасцю і як яно ўздзейнічала на іншых паэтаў, які водгук атрымала ў сэрцах многіх чытачоў?

У чэрвені 1938 года ў Мінск прывезлі групу студэнтаў – выпускнікоў Магілёўскага газетнага тэхнікума, каб яны ў ста-





## *ВЯРТАННЕ*

Дзе начуе жаўранак,
Скажыце,
Ці на лёгкім воблаку,
Ці ў жыцце?

Запытаўся некага
Я ўранні...
Гэта пачалося ўжо
Вяртанне.

Праз жыццё,
Удачы і няўдачы,
Да палёў,
Духмяных і гарачых.

Праз вайны
Задымленыя росы
Да гадоў,
Даверлівых і босых.

Не засумаваў,
Не зажурыўся —
У дзіцячы пах травы
Зарыўся.

Дзе начуе жаўранак,
Скажыце,
Ці на лёгкім воблаку,
Ці ў жыцце?

Запытаўся,
Ды ніхто не чуе...

ліцы бліжэй пазнаёміліся з журналісцкай працай у рэдакцыях цэнтральных газет, часопісаў. Ну, і папрасілі кагосьці наладзіць сустрэчу ў Саюзе пісьменнікаў, калі магчыма, з самімі Янкам Купалам і Якубам Коласам...

Такую сустрэчу сапраўды нам паабяцалі наладзіць. Мы і прыйшлі невялікай групай разам са сваім выкладчыкам Цітовым у памяшканне Саюза – у двухпавярховы драўляны дом, які размяшчаўся на вуглу Савецкай і Камсамольскай вуліц.

Сярод выпускнікоў тэхнікума – будучых вядомых журналістаў і пісьменнікаў – былі Георгій Тарасевіч, Авяр'ян Дзяружынскі, Мікалай Пахомаў і іншыя, у тым ліку і аўтар гэтых радкоў.

Дык вось, сядзім гэта мы ва ўтульным прасторным пакоі Саюза пісьменнікаў на другім паверсе, хвалюемся, чакаем. Раптам з суседняга пакоя выходзіць сам старшыня СП БССР Міхась Мікалаевіч Клімковіч. Шчыра павітаўшыся з намі, ён пачаў гаворку.

– Кіраўніцтва вашага тэхнікума прасіла наладзіць вам сустрэчу з Янкам Купалам ці Якубам Коласам. Я звязаўся з нашымі народнымі паэтамі. Іван Дамінікавіч, на жаль, хворы і прыйсці ў Саюз сёння не можа. Канстанцін Міхайлавіч паабяцаў падысці пазней. А пакуль давайце бліжэй пазнаёмімся.

Кожны з нас прадставіўся, назваў сваё прозвішча. Некаторых студэнтаў з Магілёва ён ужо ведаў па пісьмах, па друку.

– Мне вядома, – працягваў Міхась Мікалаевіч, – што сярод вас ёсць маладыя паэты, якія друкаваліся ўжо ў "Камунары Магілёўшчыны", "Чырво-

**Пэўна, ў сэрцы**
**Жаўранак начуе.**

1978

## *РАЗВІТАННЕ*

**Вялікая дзяржава —**
**Вялікая ідэя.**
**І ўсё ж, таварыш мой,**
**Мазгамі шавяльні:**
**Каля агню братэрства**
**Растуць і ліхадзеі**
**І расцвітае**
**Вялікадзяржаўны шавінізм.**

**Малыя народы —**
**Як грошы разменныя ў касах.**
**На бронзавых конях**
**Усюды сядзяць палкаводцы:**
**То пакарэнне Каўказа,**
**То высяленне Каўказа,**
**То Беластоцкая вобласць,**
**То ваяводства.**

**Якія б войны**
**У нас ні перакатваліся,**
**І як бы акупанты**
**Ні драталі зямлю,**
**Рана ці позна**
**Народы распраўляліся з катамі,**
**І зноў аралі і сеялі,**

**най змене" і ў цэнтральных газетах, часопісах. У нашай беларускай паэзіі з`явілася шмат цікавых маладых паэтаў. Пакуль ёсць час і пад`едзе Канстанцін Міхайлавіч, я хачу пазнаёміць вас з творчасцю такога ж маладога, як вы, можа, на два-тры гады старэйшага паэта – Пімена Панчанкі. Запрасілі б яго сюды. Але ён далекавата ад Мінску, у Клічаве. Вось паслухайце хаця б некалькі радкоў з яго вершаў.**

**Міхась Клімковіч пачаў гартаць тую ж першую кніжку паэзіі Пімена Панчанкі "Упэўненасць", пра якую паведамлялася ўжо ў друку, але якой некаторыя з нас яшчэ не чыталі. І як важка, па-новаму, сапраўды з вялікай упэўненасцю і сардэчнасцю загучалі для нас радкі:**

*Я спакойны юнак, можа нават*
*крыху сарамлівы,*
*Не пакрыўджу і птушкі, бо знаю,*
*ёй хочацца жыць.*
*Але тых, хто жадае напасці на край*
*мой любімы,*
*Я сваімі рукамі без жалю гатоў*
*задушыць...*

**Слухаючы гэтыя радкі, кожны з нас, безумоўна, думаў і пра сябе. Усе ж мы жылі тады адным высокім пачуццём любові да сваёй Радзімы і нянавісці да яе ворагаў, гатовы былі ў любы момант устаць на абарону Бацькаўшчыны. Паэзія Пімена Панчанкі менавіта заклікала да гэтага. Разам з тым у кнізе была большасць вершаў, у якіх аўтар выказваў бязмежную любоў да роднай зямлі, зачароўваў чытачоў апісаннем яе прыроды, цудоўных людзей беларускага краю.**

**Адзін за адным гучалі радкі з вершаў "Яблыня", "Красавіцкая навальніца", "Нараджэння дня", "Мацеры" і ін-**





**І гаварылі: "Люблю".**

**Пахлі нашы пожні**
**Мятаю і рутаю,**
**А цяпер**
**Пасля аграхімічных праполак**
**Пахне глеба гербіцыдамі,**
**А вада атрутаю.**
**У рацэ — ні плотак, ні язёў,**
**Ні ў жыце перапёлак.**

**А нашы псеўдаасветнікі,**
**Сабраныя на канцылярскіх сметніках,**
**Магутныя бюракраты**
**Уласным сцверджанням рады:**
**"Гаворыш па-руску —**
**Інтэрнацыяналіст;**
**Гаворыш па-беларуску —**
**Нацыяналіст.**
**Вучы дзяцей французскай,**
**Ангельскай, эсперанта,**
**Але не беларускай..." —**

**Палохаюць піраты.**
**І адвучылі**
**Дзяцей і бацькоў,**
**І адлучылі**
**Ад родных народных слоў.**

**Вучоны невук**
**Ці дурнаваты крытык,**
**Якія паэзію**
**Не разумеюць і не адчуваюць,**
**То ў жанры даносу,**

**шых, напісаных з высокім майстэрствам, так вобразна і непаўторна, як мог пісаць толькі ён – Пімен Панчанка. У кожным вершы можна было сустрэць вобраз, які належыць толькі яму і нідзе раней не сустракаўся, ні ў аднаго паэта.**

*А з поўдня ехаў май зялёны*
*Да нас з вясёлкавай дугой.*
**"Яблыня"**

*Гром у бубны гулкія ударыў,*
*Цішыню густую пакрышыў.*
**"Красавіцкая навальніца"**

*Там, дзе гулі пшаніцы і жыты,*
*Стаяць снапы, як рыжыя браты...*
**"Упэўненасць"**

**Міхась Клімковіч прыводзіў яшчэ шмат радкоў, зачытваў цэлыя вершы з кнігі Пімена Панчанкі, а мы ўсё сядзелі і слухалі моўчкі цудоўную яго, маладую, хвалюючую сэрцы паэзію.**

**Пра яго паэтычнае майстэрства гаварылі мы самі ў сваім вузкім коле, не толькі чыталі ў прэсе. Адразу запаміналіся нам, напрыклад, выкарыстаныя ім словы, дакладныя новатворныя рыфмы: "Таіса – таіцца", "лосем – сосен", "рані – сані", "зірні – пні", "блізкім – пырскі" і г.д. Тады ўжо вопытны чытач мог заўважыць, што Пімен Панчанка – майстар паэтычнага слова і ён можа дасягнуць яшчэ больш высокага ўмення выказваць вобразна свае думкі, стаць выключна арыгінальным паэтам. І мы тады не памыляліся. Пра гэта гавораць наступныя кнігі паэта, пра якія шмат напісана нашымі крытыкамі. Я ж звяртаю ўвагу чытачоў на свае асабістыя сустрэчы з паэтам, якія адбываліся з таго памятнага чэрвеньскага дня на працягу многіх гадоў.**

То пагардліва адкрыта
Мяне з году ў год
Упчуваюць:

“Каму патрэбна
Тваіх маніфестаў рыторыка?
Трэба пра шчасце пісаць
І далі прасторныя”.
А я журуся:
Мала ў Беларусі
Разумных гісторыкаў,
Якія любяць і ведаюць
Родную гісторыю.

Закрэслілі б невукі
Мары усе залатыя:
“Знікае ўсё:
І вучэнні, і мовы, і веры.
Сёння Рым размаўляе
Не на латыні,
А Афіны гавораць
Не на мове Гамера”.

Мы спазніліся
На сотні, напэўна, гадоў,
А можа,
На цэлае тысячагоддзе,
Мы забылі пра вольнасць
Старажытных сваіх гарадоў.
Наш цягнік адышоў.
Знікла родная мова
Ў народзе.

У кожнага ёсць

*Я ўсім багат. Я – гаспадар*
*Палёў, лясоў, лугоў і рэчак.*
*Я уладар высокіх мар*
*І добрай долі чалавечай.*

Гэтыя радкі з верша “Мацеры”, якія ўпершыню пачулі мы ў той пісьменніцкай зале, запомніліся на ўсё жыццё і сталі прарочымі для самога паэта, яго крэдам на працягу ўсяго творчага шляху. Пазней, праз некаторы час, мы ўсе пераканаемся, што Пімен Панчанка сапраўды з першых крокаў на сваім творчым шляху станавіўся “уладаром высокіх мар і добрай долі чалавечай” і ў жыцці і ў барацьбе за гонар і незалежнасць роднай Беларусі. Такія думкі сёння ўзнікаюць у мільёнаў беларускіх чытачоў, а мы тады ўсе знаходзіліся пад уражаннем творчых узлётаў.

Не паспеў нам Міхась Клімковіч дачытаць яшчэ адзін верш з кнігі “Упэўненасць”, як у пакой увайшоў Якуб Колас. Мы ўсе ўсталі, горача вітаючы любімага народнага песняра.

Заўважыўшы на стале ў Клімковіча кнігу Пімена Панчанкі “Упэўненасць”, Колас узяў яе ў рукі і сказаў:

– І я прачытаў гэты зборнік з вялікай цікаўнасцю. У нашу паэзію прыйшоў яшчэ адзін цудоўны паэт.

Па яго ўважлівым паглядзе, па голасе можна было пераканацца, што гэта гаварылася ад усёй душы, ад шчырага сэрца.

У гэты ж дзень была ў нас яшчэ адна сустрэча з крытыкам Рыгорам Бярозкіным, які вельмі тонка разбіраўся ва ўсіх літаратурных справах. Больш падрабязна расказваючы нам пра маладую паэзію таго часу, ён таксама гаварыў пра кнігу Пімена Панчанкі, спыняўся больш дэталёва на майстэрстве паэта, манеры яго пісьма. І яшчэ мы пачулі ад яго ўпершы-





Свае рэкі —
Ці Дняпро, ці Нёман,
Ціхі Дон, ці раз‘юшаны Енісей.
У сваіх парадзелых лясах
Я не чую
Ўсхвалёваны гоман,
А рака памутнелага часу
Нас нясе, і нясе, і нясе...

Пастаю я самотна
Каля полацкай белай Сафіі,
Паблукаю ў Гародні,
Пажуруся ў турава-пінскім Палессі,
А вочы мае ўжо не плачуць —
Сухія-сухія:
Не чутно мне з былога
Ні грому,
Ні звону,
Адны толькі казкі
Ды песні...

Родны Янка Купала,
Вы пісалі:
“Я веру — настане...”
Дарагі мой Іван Дамінікавіч,
Не, не настане!
Гэта ўжо не світанне,
Гэта наша настала змярканне,
Гэта з мовай маёй,
Гэта з песняй маёй
Развітанне.

1987

ню пра маладога таленавітага паэта, такога ж студэнта, якімі былі і мы, – пра Аляксея Коршака.

*Не просіць стрэч і слоў маё каханне,*
*Кінь толькі позірк ў сне ці наяву:*
*Яго на многа новых песень стане,*
*А я ж аднымі песнямі жыву.*

Па гэтай адной страфе можна было меркаваць, якая таленавітая моладзь уступала ў шэрагі нашай літаратуры. І гэта было ў той вельмі суровы час, калі многія нашы пісьменнікі, вучоныя былі рэпрэсіраваны сталінскім генацыдам, калі разгульвала па ўсёй краіне яжоўшчына, бязлітасная беззаконнасць. Мы мала што пра гэта ведалі. Ад нас усё хавалі. Мы былі падманутыя ў многім у сваім жыцці. Але мы жылі літаратурай, паглыбляліся ў яе ўсімі думкамі – марамі і надзеямі.

Роўна праз год давялося сустрэцца з Піменам Емяльянавічам Панчанкам і многімі яго сябрамі ў тым жа памяшканні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Гэта было ў канцы лета ці на пачатку восені 1939 года. Я ўжо быў студэнтам Мінскага камуністычнага інстытута журналістыкі імя С. Кірава. Толькі пачаў займацца на першым курсе.

На гэты раз у зале знаходзілася шмат людзей. Тут сабраліся былыя слухачы курсаў-канферэнцыі маладых пісьменнікаў, якія праводзіліся праўленнем СП БССР амаль кожны год. Сярод слухачоў гэтых курсаў былі Мікола Ткачоў, Іван Мележ, Кастусь Кірэенка, Дзмітрый Кавалёў, Мікола Гарулёў, Эдуард Валасевіч, яшчэ некалькі маладых людзей, у тым ліку і я. Мы сядзелі ў прасторнай утульнай зале, а перад намі за шырокім сталом, пакрытым зялёным сукном, прад-

## *ТРУБА*

*"А" і "Б"*
*Сядзелі на трубе.*
*"А" упала,*
*"Б" прапала.*
*Што засталося на трубе?*

**Дзіцячая загадка**

**Не па законах**
**Генетыкі і кібернетыкі —**
**І ў эканоміцы сэнсу**
**Дакапацца не спрабуй.**
**Па кабінецiку,**
**Па камітэціку**
**Мы ўзвялі бюракратычную трубу —**
**Грандыёзную,**
**Адыёзную.**
**Яна вышэй за ўсе Эверэсты,**
**Яна — лабірынт:**
**Наверх не дабярэшся.**
**У ёй размясціліся**
**Мільёны бюракратаў,**
**І дыміць яна,**
**Нібы камчацкі кратэр.**
**Нашы землі труба**
**Засмуродзіла,**
**Задыміла:**
**Дорага ды міла!**
**І лезуць уверх па трапу**
**Нахабным нахрапам**
**Прыпісчыкі**
**І складальнікі хлуслівых рапартаў.**
**І лятуць з трубы**
**Снежаньскім снегападам**
**Інструкцыі,**
**Цыркуляры,**
**Загады.**
**І раслі ў трубе**
**І каля трубы**
**Не станочнікі,**
**Не хлебаробы**
**І не шаўцы —**
**Спажыўцы!**
**Колькі ў іх**
**Лісліўцы**
**І зласлівацы.**
**Тут пануе не працавітасць,**
**А прагавітасць:**
**Не рабі,**
**А грабі.**
**І прыдумала**
**Бюракратычная качарга**
**Любімае слова:**
**Чарга.**
**На семінар**
**Па захаванні белых мядзведзяў**
**Лятуць у Азоў,**
**А ў Архангельску**
**Склікаюць нараду**
**Па селекцыі гарбузоў.**
**Бюракратычную трубу**
**Праслаўлялі з трыбун.**
**А людзі думалі, меркавалі:**
**Дзе праўду Леніна пахавалі?**
**Чаму зад**
**Бюракратычны**
**Душыць лад**
**Дэмакратычны?**
**А ні выгляду,**

---

**стаўляліся адзін за адным толькі што прынятыя ў члены Саюза пісьменнікаў: Пімен Панчанка, Рыгор Няхай, Усевалад Краўчанка, Іван Грамовіч і Уладзімір Кандраценя. Як цяпер, помню кожнага з іх. Яны былі ўсе такія маладыя, вясёлыя, жвавыя. З вачэй іх не сходзілі светлыя, празрыстыя ўсмешкі. Яны, відаць, былі задаволены тым, што нядаўна пабывалі на прасторах братняй Украіны, куды ім была дадзена творчая камандзіроўка пасля прыняцця ў Саюз. Кожны з іх расказваў нам пра свае ўражанні аб паездцы ў суседнюю рэспубліку.**

**Гэта не было падобна на звычайны літаратурны вечар, калі пісьменнікі выступаюць перад чытачамі з творчымі справаздачамі. Сустрэча насіла характар шчырай, сардэчнай размовы людзей, роўных паміж сабой і па ўзросту і па прызванні.**

**Пімена Панчанку папрасілі прачытаць новыя вершы, бо ўжо ўсе, хто быў на гэтай сустрэчы, чыталі яго першую кнігу і чакалі новых твораў. Ён падняўся з-за стала, падышоў бліжэй да пярэдняга раду крэслаў, на якіх сядзелі слухачы, і пачаў ціха, мілагучна чытаць мяккім голасам:**

*Мы любім жыць. Мы радасцю*
*багаты.*
*Мы ў песнях славім кветкі і дзяўчат.*
*Але сягоння хай у нашых хатах*
*Трывожным клічам песні загучаць.*

*Расце над светам цень вайны*
*злачыннай,*
*Каб знішчыць дзень і зор святло*
*зацьміць,*
*Вы чуеце – іспанскія жанчыны*
*Галосяць над забітымі дзяцьмі.*

**Паэт чытаў далей. У кожным радку верша пад назваю "Заўтра" чулася папярэджанне аб набліжэнні новай страшэннай вайны, якая ў сярэдзіне трыццаць дзевятага года ўжо была развязана гітлераўскай Германіяй, рухалася па Еўропе з захаду на ўсход па землях Францыі, Чэхаславакіі, Бельгіі, Польшчы, набліжалася да заходняй граніцы Савецкага Саюза. І як прароча прагучала ўжо тады, у той вераснёвы дзень, апошняя страфа Панчанкаўскага верша, цалкам адпавядаючая назве яго першай кнігі "Упэўненасць":**

*Як навальніцай, сілай шматмільённай*
*Змяцём забойцаў племя мы з зямлі.*
*І веру я – узніме сцяг чырвоны*
*На пераможным досвітку Берлін.*

**Хто-небудзь з маладых чытачоў сёння скажа, што гэтыя радкі не адпавядаюць таму ўнутранаму становішчу, якое было перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны. Цяпер вядомы многія дакументы, якія гавораць пра адваротнае: што вялікая савецкая краіна не гатовая была да вайны, што Чырвоная армія пацярпела шмат няўдач на пачатку яе па віне вышэйшага кіраўніцтва і "мудрага правадыра", і г.д. Так, сёння мы можам разабрацца ва ўсім, што адносіцца да нашай гісторыі, асабліва да падзей вайны. А што мы тады ведалі? Мы нават не маглі ўявіць, што давядзецца адступаць ад Брэста да Сталінграда і панесці такія страты ў бязлітаснай крывавай бойні. Але і тады мы былі ўпэўнены, што ў любой схватцы з фашызмам перамога будзе за намі. Вось такой упэўненасцю, верай у перамогу і былі прасякнуты вершы Пімена Панчанкі, як і ўся яго далейшая творчасць на баявым шляху. Магчыма, ён і сам не думаў, што праз некалькі дзён**

Ні якасці тавару.
Селі на народны карак:
Спекулянты,
Жмінды,
Самалюбцы,
Дармаеды,
Дзермаеды,
Душагубцы,
Халуі
І халуіхі,
А народу ліха!
Хто арэ,
А хто глотку дзярэ.
Не разбярэшся,
Хто тут лёкай,
Хто князь.
Гэта клан,
Гэта клас,
Гэта гразь...
Мы стаміліся ад хлусні,
Мы стаміліся ад пустаслоўя.
Праўду можна было толькі сніць
На зямлі, што палітая кроўю.

Мы стаміліся ад ілжы:
Столькі год нам з трыбунаў манілі!
І на душах — налёты іржы,
І сумленне нібы падмянілі.
Перад нашым сямідзесяцігоддзем
Партыя сказала гнеўна:
Годзе!

Ну а што на трубе засталося?
Бюракраты аб мінулым галосяць.
Раней былі непраціўленцы,

апране вайсковы шынель і пойдзе з перадавымі часцямі Чырвонай арміі па зямлі былой Заходняй Беларусі...

У той жа дзень – на пачатку верасня 1939 года – мы адчувалі сябе па-святочнаму. Пасля афіцыйнай сустрэчы старэйшыя сябры запрасілі нас на вячэру. Накрытыя абрусамі сталы поўніліся ежай і пітвом. Бяседа праходзіла ў тым жа памяшканні Саюза пісьменнікаў на першым паверсе. Нас было не так шмат – чалавек трыццаць, сярод якіх большасць студэнтаў. Мы расселіся паміж тымі, каго толькі што слухалі на літаратурнай сустрэчы. Я апынуўся побач з Піменам Емяльянавічам. Ён чамусьці сам пасадзіў мяне каля сябе – мо таму, што мы ўжо сустракаліся перад гэтым на вечары самадзейнага мастацтва, які праходзіў у клубе пісьменнікаў. Я чытаў са сцэны ўрыўкі з паэмы Паўлюка Труса “Дзесяты падмурак” і верш Уладзіміра Маякоўскага “Стихи о советском паспорте”. Мы пазнаёміліся бліжэй.

Пімен Емяльянавіч пацікавіўся, адкуль я родам. Я расказаў, што прыехаў з Хоцімска, дзе працаваў да паступлення ў інстытут адказным сакратаром райгазеты, што рэдактарам раёнкі быў Дзям‘ян Трахімавіч Лебедзеў, які стаў нядаўна галоўным рэдактарам “Звязды”. Для Панчанкі гэта было навіной. Але яшчэ больш здзівіла яго тое, што я ўжо добра знаёмы з яго першай кнігай і што вершы з гэтай кнігі слухаў упершыню год таму назад, калі нам, выпускнікам Магілёўскага газетнага тэхнікума, чытаў іх Міхась Клімковіч.

Прызнаўся я Панчанку, што пішу вершы са школьных гадоў, што друкаваўся ўжо ў “Камунары Магілёўшчыны” і “Чыр-





Цяпер усюды —
Супраціўленцы.
Мы лягчэй уздыхнулі, калі
Дачакаліся праўды, галоснасці.
Бюракраты мацней узвялі
Свае доты з руціны і коснасці.

Развалілі ўсё,
Пагаспадарылі!
Справядлівасці час настае.
Па трубе мы рашуча ўдарылі
І дашчэнту раструшчым яе!

Гэта новая рэвалюцыя,
Гэта новы Кастрычнік ідзе,
Мы — байцы.
Прэч хлусню рэзалюцый!
Толькі праўду штодня,
Для людзей...

Цяжка дыхаюць мільярдзіны
На планеце людзей
Пад выццё —
Прапаведнікаў смерці ядзернай...
Як жа мы захаваем жыццё?

1987

## *БЕЛАРУСКАЯ МОВА*

Ільняная і жытнёвая. Сялянская.
Баравая ў казачнай красе.
Старажытная. Ты самая славянская.

вонай змене”. Магчыма, ён іх зусім не чытаў, але чамусьці (паўтараюся) аднёсся да мяне вельмі ўважліва, нават пахваліў, што я ўдзельнічаю актыўна ў самадзейных гуртках, чытаю са сцэны творы беларускіх паэтаў, а таксама Пушкіна, Маякоўскага, Багрыцкага, Святлова, многіх іншых.

– Чытаеш ты, Пятрусь, не блага, – сказаў мне Панчанка ў той вечар, – але з дыкцыяй у цябе не ўсё ў парадку. Я маю на ўвазе чытанне на рускай мове. Асобныя словы вымаўляеш недакладна, з памылкамі. Слова “медведь”, напрыклад, у цябе гучыць чыста пабеларуску – “мядзьведзь”. Часамі напружваеш голас, павышаеш яго там, дзе трэба ніжэйшая танальнасць.

– А я ў артысты не імкнуся, – выпаліў я, – проста люблю чытаць, і ўсё тут.

Без ніякай крыўды, нават рады тым, што мяне заўважыў старэйшы сябар, я расказаў яму, як завучваў на памяць цэлыя раздзелы “Новай зямлі” Якуба Коласа, з “Яўгенія Анегіна” Аляксандра Пушкіна. Прычым, завучваў на хаду, проста на дарозе, калі хадзіў з вёскі на працу ў гарадскі пасёлак. Панчанку гэта вельмі спадабалася, ён мяне пахваліў за гэта.

Прашу чытача прабачыць за тое, што надаю сваёй прысутнасці ва ўсім залішняй увагі. Але ж я хачу ўсё пацвярджаць толькі сваімі ўражаннямі, пачуццямі, прыкладамі з часоў сваёй маладосці.

Пасля застольнай бяседы проста з Дома пісьменнікаў некалькі сяброў, у тым ліку і я, праводзілі Пімена Панчанку да вакзала. Ішлі па вуліцах Савецкай, Карла Маркса, праз зялёны сквер вясёлыя, радасныя, не ведаючы, што напаткае нас заўтра альбо пасля-

Светлая, як травы у расе.
Вобразная, вольная, пявучая,
Мова беларуская мая!
Дратавалі, здзекваліся, мучылі...
Ты жыла і ў працы і ў баях.
Пра цябе, як сонечнае дзіва,
І Купала, ды і ўсе мы снілі сны...
Ад цябе, ласкавай і праўдзівай,
Адракаюцца цяпер твае сыны.
Пра народ мой, церпялівы, працавіты,
Помняць партызанскія лясы...
Хто за намі? Пакаленне прагавітых.
Халуёў я чую галасы.
Я спяваў пра жыта і пра жаўранкаў,
Ненавідзеў акупантаў і прыгнёт,
А сягоння — вялікадзяржаўнікаў,
Што разбэсцілі вялікі мой народ.
Навучылі не рабіць —
Хлусіць і красці.
Дзеці ў школы з іншай моваю бягуць.
Я хацеў, нашчадкі, вас праклясці,
Ды люблю сваю зямлю... і не магу.

1988

## *НЕ АДЦУРАЮСЯ, НЕ АДРАКУСЯ*

Дружа Быкаў,
Не трэба дзяшовых сенсацый:
Я — сірата
Без маёй Беларусі.

заўтра. Мы выйшлі на перон да цягніка, які адпраўляўся на Бабруйск. А адтуль Панчанку трэба было дабірацца да свайго Клічава, да школы, у якой ён яшчэ працаваў. Развітваючыся, мы моцна абняліся, пацалаваліся.

Гэта было развітанне на некалькі гадоў – вельмі цяжкіх, сумных і, магчыма, жахлівых гадоў у нашым жыцці, але ўсё ж памятных і непаўторных, як само жыццё. Я ўжо не бачыў, як Пімен Емяльянавіч, як і яго сябра Рыгор Няхай, іншыя аднагодкі апраналі шэрыя шынялі, прызваныя ў рады Чырвонай арміі, пайшлі кожны сваімі шляхамі.

Падзеі пачатку саракавых гадоў і Вялікая Айчынная вайна разлучылі нас на некалькі гадоў. Але гэта не значыць, што мы не сустракаліся. Не раз было так, што нашы дарогі сыходзіліся ў розных рэгіёнах краіны, на розных франтах, у адных баявых паходах, а найбольш – на старонках армейскага друку і газеты "За савецкую Радзіму", якая выходзіла спачатку на Заходнім, потым на Бранскім франтах. У ноч на першага кастрычніка перадавыя падраздзяленні нашай стралковай дывізіі першымі фарсіравалі Дняпро ў раёне паўднёвей Лоева і занялі плацдарм на правым беразе ракі. Разам з імі і я ступіў на родную беларускую зямлю. Колькі ў сэрцы было радаснага пачуцця – не выказаць словамі! Але знайшоўся чалавек, які сам перажыў і перадаў гэтае светлае, святое пачуццё мільёнам людзей. Гэта быў Пімен Емяльянавіч Панчанка.

У той жа дзень у франтавой газеце "Красноармейская правда" мільёны воінаў чыталі яго верш "Байцу, які першым





Ад роднай мовы,
Ад роднай нацыі
Не адцураюся,
Не адракуся!

Я не журуся
Пра казачны век залаты,
Я не захоплены
І старажытнасцю моднаю...
І напісаў не аб тым я,
А толькі аб тым:
З ласкі чыноўнікаў
Родная мова ў намордніку,

А былі ж партызаны,
Пераможна грымелі баі,
Гарэла зямля
Пад нагой акупантаў.
Падмянілі народ:
Былі ў нас працавітыя ўсе,
А цяпер — гультаі, халуі...
І на горкую памяць
Падкінулі нам Курапаты.

Куды падацца
Вучням з беларускай?
Ляны бюракрат
Затыкае ім рот.
Да таго ж у ВНУ
Праход быў занадта вузкі:
Па званку,
Па блату
Ці за хабар
Лез прабіўны народ.

ступіў на беларускую зямлю". Ён пачынаўся так (быў надрукаваны на роднай мове):

*Не знаю, хто ты – баявы уралец,*
*Ці дужы, каранасты сібірак.*
*Падпрааіўшы спраўней паходны ранец,*
*Прайшоў ты першым па маіх барах.*

Якімі светлымі іскаркамі засвяціліся ў мяне вочы, калі я прачытаў гэтыя радкі. Чытаў я іх ужо на правым беразе Дняпра, каля самай вёскі Глушэц, якую вызваляла рота, дзе быў і я разам з байцамі-вызваленцамі. Нібыта і мне асабіста быў адрасаваны верш, напісаны маім добрым знаёмым, выдатным беларускім паэтам. Чытаючы верш, я расказваў пра яго аўтара ўсім сябрам.

А яшчэ праз некалькі дзён чытаю ў "Комсомольской правде" верш Пімена Панчанкі ў перакладзе на рускую мову. Пераклад не магу зараз дакладна прыгадаць. А на роднай мове верш тады ж быў надрукаваны ў газеце "Савецкая Беларусь", што выходзіла ў Маскве і дасылалася нам – франтавікам-беларусам. Я прачытаў верш з вялікім захапленнем, затым перачытваў сябрам у рэдакцыі дывізійнай газеты.

*Краіна мая – радасць мая,*
*Песня мая маладая!*
*Па нівах тваіх, па тваіх гаях*
*Сынава сэрца рыдае.*

Гэтыя словы да болю ўсхвалявалі сэрца кожнага салдата, не толькі беларуса. Ці трэба гаварыць, як цудоўная паэзія Пімена Панчанкі, ды іншых нашых паэтаў-франтавікоў – Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, партызанскіх песняроў Анатоля Астрэйкі,

Дзеці ўжо не ведаюць
Родныя назвы
Кветак і птушак,
Кустоў і травы.
Яны не адрозняць
Граба ад вяза,
Дзе жаўна, дзе пліска,
А дзе журавы?

Адлучылі ад прыроды...
Не шукаюць унукі слядоў
Ні сваіх франтавых дзядоў,
Ні далёкіх і страшных гадоў.
І рыканне кароў,
І рык звяроў,
І сусветная рок-істэрыка —
Толькі па тэлеку,
Толькі па тэлеку.

...Да роднай зямлі я
Душою і сэрцам прыкуты,
Куваюць зязюлі,
Клякочуць буслы на маёй Беларусі.
Ты радасць мая, Беларусь,
Ты гора маё і пакута,
І ад цябе я ніколі
Не адцураюся,
Не адракуся!

1988

---

**Антона Бялевіча – дапамагала байцам сваім мастацкім словам, падымала іх настрой, выклікала глыбокае пачуццё любові да радзімы, нянавісць да яе ворагаў. Яны сапраўды "приравнивали к штыку перо".**

**Колькі цудоўных вершаў Пімена Панчанкі ў час вайны чыталі воіны на ўсіх франтах Вялікай Айчыннай. У вершы "Зварот", напрыклад, перад кожным з нас, калі толькі рыхтаваліся да бою, дзесьці ўжо на беларускім Палессі, пад Калінкавічамі (дарэчы, наша дывізія была тады названа Калінкавіцкай), паўставаў вобраз роднай Беларусі:**

*Меднастволы, як выліты, высіцца бор,*
*Зацвітае на ўзлессі блакітны чабор,*
*Заглядзелася сонца у люстры азёр, –*
*Гэта ты, мая Беларусь!*

**Што тут гаварыць пра майстэрства паэта, калі яго словы самі не толькі заклікалі, а вялі ў бой мацней любой камандзірскай або генеральскай каманды.**

**У хуткім часе абляцеў усе франты верш Пімена Панчанкі "Герой". Ён невялікі памерам – усяго дванаццаць радкоў. А колькі ў ім выказана пачуцця любові да салдата, да яго подзвігу!**

*Злосна сказаў: "Уставай, пяхота!*
*Мы не на пляжы, а на вайне"*
*І лёг на змяіныя скруткі дроту.*
*І дзвесце салдацкіх запыленых ботаў*
*Прайшлі па яго спіне...*

**Гэта прыклад таго, як наша паэзія ў самыя цяжкія часы духоўных выпрабаванняў, крывавых ран дапамагала нам, вяла нас у паходы, на змаганне за сваю родную зямлю, за яе вызваленне ад фашысцкай няволі.**





**Хай перачытае малады чытач і сёння франтавы зборнік Пімена Панчанкі "Іранскі дзённік", каб пераканацца ў гэтым. Я ўжо не кажу пра многія наступныя пасляваенныя кнігі паэта, калі з-пад пяра славутага майстра, які ўжо атрымае сапраўды заслужанае званне народнага, загучаць вершы супраць коснасці, бюракратызму, прыстасаванства, валюнтарызму...**

**Я не буду расказваць пра свае далейшыя сустрэчы, пра сваю дружбу з Піменам Емяльянавічам. Пра гэта сказана шмат у нашых творах. Я ніколі не забуду, як восенню 1945 года мы зноў сустрэліся ў Мінску, вярнуўшыся з далёкіх паходаў. І з той пары ўжо не разлучаліся ніколі.**

Пятро **ПРЫХОДЗЬКА**

27 лістапада 1994 г

# МОЙ ПАНЧАНКА

**Памятаю даўнавата бачаныя два фотаздымкі з паэтам.**

**Усмешлівыя Панчанка й Быкаў на нейкім зімовым свяце — у шыкоўных кажухах, ажно зайздрасць бярэ — і па зімах тых марозна-снежных, і па кажухах, не на канвееры зробленых, і па ўсмешках зычлівашчырых. І подпіс да здымка, што ўспрымаўся натуралёва й не выклікаў пярэчанняў нават у першакурсніка-максімаліста — "Народныя".**

**Здымак другі, хоць і быў выгледжаны ў адной з салідных энцыклапедый, выклікаў несур'ёзныя асацыяцыі з камсамольска-справаздачным мерапрыемствам: шчыльны падлесак рук, супакоеныя дружнай аднагалоснасцю твары. І ў першых шэрагах — Пімен Панчанка з дэпутацкім сцяжком на грудзях. (Пра незаўсёдную адпаведнасць ілюстрацый асноўным матэрыялам у прадукцыі нашага найгалоўнага выдавецтва падумалася й пасля нядаўняга выхаду ў свет энцыклапедыі "Беларуская мова", дзе ў аўтографах акадэміка П. Броўкі можна без цяжкасці нашукаць памылак.)**

**Памятаю, з якой невялікай ахвотай купляў у букіністычнай краме чацвёрты том апошняга (пакуль што) збору твораў улюбёнага паэта, большую частку якога склалі выступленні Панчанкі на пісьменніцкіх пленумах і г.д. Дзе паэт выступаў у неўласцівай яму ролі статыста. Дзе творчая фантазія скоўвалася ідэалагічна выверанымі і выдаваным разам з пісьменніцкім білетам рэгулямінам — як сябе паводзіць і гаварыць на падобных сходах. Панчанка вяртаўся дамоў і даваў волю пачуццям — да астатку выказваўся ў вершах. Тут ужо з'яўляўся занятак у амаль што беспрацоўных цэнзараў... Толькі ў выбраным 93-га года верш "Родная мова" пазбавіўся свайго згодніцка-рахманага канчатка, з якім прыжываўся на старонках хрэстаматый амаль трыццаць гадоў, і загучаў так, як быў напісаны аўтарам напачатку:**

*Ці плачу я, ці пяю,*
*Ці размаўляю з матуляю –*
*Песню сваю, мову сваю*
*Я да грудзей прытульваю.*

*Ці плачу я, ці пяю?..*
*Восень. На вуліцы цёмна...*
*Пакіньце мне мову маю,*
*Пакіньце жыццё мне!*

**Перачытваю вершы Пімена Панчанкі й згадваюцца радкі Б.Пастарнака: "Сто слепящих фотографий. Ночью снял на память гром" Так мне бачыцца панчанкаўская манера: успышка бліца, імгненная фіксацыя й уштукаванне гатовага твора ў дыхтоўную раму. Нездарма адна з кніг Панчанкі гэтак і называецца — "Пры святле маланак". Паэт ніколі не забываўся праўдзівай, на мой погляд, формулы: метафары — паравозікі паэзіі. Няма каму падпіхнуць хай сабе й не пустой пародай гружаныя вагоны — й стаяцьмуць яны нязрушна на ціхім паўстанку. У Панчанкі ж "чмыхнуў раз, чмыхнуў два шустры паравозік" — і верш ажыў, прыйшоў у рух:**

*Вясне так хочацца прысесці*
*На сакавітую траву:*
*Каштанаў факельнае шэсце*
*Ёй закружыла галаву.*

**Памятаю (ці не зарана мемуа́рысты настрой?) Каралішчавічы, 1984 год. Нас, студэнтаў-першакурснікаў, што жывілі свой неўмацаваны беларускі дух погаласкамі пра разагнаную "Майстроўню", пасадзілі перад высокімі гасцямі, Н. Гілевічам ды І. Антановічам, і прапанавалі задаваць пытанні. Мне карцела пацікавіцца ў партыйнага начальніка, ці не прыходзіцца ён часам сваяком маёй бабулі Антановічысе, але больш спрактыкаваны аспірант А. Бяляцкі (будучы водца "Тутэйшых") падбіваў на крамолу — спытацца, чаму мая родная "Гродненская правда" выдаецца не па-беларуску? Але цяжка было дачуцца праўды ў акругленых адказах прамоўцы. Ды й не гэта здавалася мне тады галоўным. Як, дарэчы, і не тое, што панараўны і ў паэзіі, і ў манеры трымаць сябе на сцэне Ул. Някляеў за бяседным сталом нечакана загаварыў не на той мове, на якой пісаў вершы й за якія быў на пачатку бяседы ўганараваны нашай усеагульнай увагай. Галоўнае было ў тым, што мы жылі ў невялікім дамку на ўзбоччы ад цэнтральнага палаца — на лецішчы Пімена Панчанкі! Мы доўга абвыкаліся ў адсырэлых сценах з ра́гамі адліжных пацёкаў на шпалерах (лецішча ўзімку не ацяплялася), прымяраліся да не новых пашарпаных ложкаў і крэслаў (як у іх ляжыцца й сядзіцца класіку?), не адразу адважыліся ў тых мемарыяльных пенатах на вакхічныя пасядзелкі з**

такімі ж бесклапотна-маладымі паэткамі. Пішу пра гэта без усялякай іроніі, проста хочацца, каб магчымы чытач зразумеў, кім ужо на той час быў для нас Панчанка.

А крытычныя папрокі можна закідаць каму заўгодна. З пазіцыі беларуса-незалежніка можна папракнуць Пушкіна з яго недальнабачнымі радкамі: "Славянские ручьи ль сольются в русском море..." З антытаталітарнага гледзішча можна паўшчуваць Купалу, чые хлопчык і лётчык неабачліва ляталі над Крамлём. Можна ўпікнуць і Панчанку, што не на які-небудзь старадаўні курган ці замчышча (у мэтах патрыятычнага выхавання) павёў унука, а ў Маўзалей. Маўляў, была некалі карысць з падобных вершаў, але цяпер, калі ідэалы іншыя... Мажліва, грэх з гэтага насміхацца, ды сёння, калі любы графаман паспешліва лепіць гліняныя камы-вершы на актуальныя грамадзянскія тэмы, дазволю сабе зацытаваць чатырохрадкоўе малавядомага расейца М. Глазкова, "паэта для паэтаў": "Мне говорят, что "Окна ТАСС" Моих стихов полезнее. Полезен также унитаз, Но это не поэзия".

Адзінае, што ўспрымаю балюча, — старасць паэтаў. У іх вершах столькі бруістай сілы, светлай стваральнай энергіі, пра закон захавання якое можна прачытаць не толькі ў аб'ёмістых тамах усходніх мысляроў, але й у вершах Панчанкі.

Подумкі пра жніўную — і навечную! — пару ў жыцці паэтаў я прысвяціў Пімену Емяльянавічу:

*Шчыры пост*
*ці сцяжынка наўпрост*
*на гульбу, да Абрама на піва...*
*У паэтаў біблейскі узрост*
*на вякі.*
*А камусьці на дзіва.*

*Сапраўды,*
*ці падлічым гады*
*мы, што звыклі, шануючы меру,*
*мераць век даўжынёй барады,*
*ці падлічым, а колькі ж Гамеру?*

*А мо не ў галаве,*
*у пустым рукаве*
*загаіўшы няўгойныя болькі,*
*ведаць, колькі Скарына жыве,*
*і Мікола, што з Гусава, колькі?..*

*Мусім*
*не разгубіцца зусім*
*і засведчыць, прыспешыўшы крокі,*
*што вядзе нас за рукі Максім,*
*каб на свет паказаць на шырокі.*

*Шлях, раўней,*
*і, палетак, руней,*
*і над кветкай няхай пчала ўецца...*
*А паэты старэюць раней,*
*чым астатняе ўсё чалавецтва.*

*Барані*
*ад ліхой бараны,*
*Божа, душы іх — парасткі ў росах.*
*Ні калыскі у іх, ні труны,*
*толькі верш*
*на зямлі і ў нябёсах.*

*І адна*
*у паэтаў віна:*
*не ўміраюць і ў вечныя векі.*
*Ім гарэць ад цямна да відна,*
*ім пятак не закрые павекі.*

*Ім касмічныя чуць галасы,*
*ім нязменна*
*на лядах і галах*
*заставацца на ўсе на часы,*
*як Валошын у сонечных скалах!*

**Міхась СКОБЛА**

# RE-SPECTO...

Я – не Час. Дакладней, не той Час, якім любяць (асабліва запісныя крытыкі) палохаць паэтаў. Маўляў, Час праверыць, Час усё і ўсіх расставіць па месцах...

Я толькі хачу азірнуцца, каб на сваё колішняе ўспрыманне глянуць праз сябе сённяшняга, маючы тут на ўвазе канкрэтнае: паэзію Пімена Панчанкі.

Сумненняў не выклікаюць і, здаецца, на "рэвізію" нікога не спакушаюць ні "Іранскі дзённік" са шчымлівай тугой па радзіме; ні душаабуджальны "Крык сойкі", дзе "ў сэрца бусел залятае з трывожных прыпяцкіх балот" (прадчуванне прарочае, бо прамоўлена было задоўга да Чарнобыля); ні паязычніцку і па-сучаснаму мудрая "Паэма майго лесу":

*Усе мы дрэвы:*
*Хто клён, хто рабіна, хто дуб.*
*Цягнемся да сонца,*
*Шалясцім лістаою.*
*Грымне навальніца –*
*Сагнёмся ад дум,*
*А зрэжа маланка –*
*Заснём пад жарствою...*

Але – гэта Панчанка-лірык.

А як жа публіцыст? Той, непрымірыма-гарачы, задзірысты? Як з тым гарэннем на агні злабадзённасці: сёння было – а заўтра?.. Ці вартая аўчынка вырабкі?..

Успамінаю ці перачытваю – і з радасцю сведчу (і сабе, і іншым): у галоўным, у сутнасным, нічога не змянілася. "З радасцю" – толькі ў сэнсе "адчування" мастацкага, а не "быційнага", бо сустрэчы з многімі тыпамі, па якіх "прайшоўся" "Ювеналавым бічом" Пімен Панчанка, нічога іншага, апроч агіды, выклікаць не могуць.

*Ідуць насустрач грашовай справе,*
*На пафас голы яны не клюнуць.*
*Маліцца будуць, калі ты ў славе,*
*Калі ты ў горы – з насмешкай*
*плюнуць...*

Нічога не скажу, толькі спытаюся: гэта напісана ў 1956-м годзе ці сёння, у 1996-м, праз 40 гадоў? Праўда застаецца праўдай, і горкая – горкай...

І паэзія застаецца паэзіяй, – якіх бы сфер яна ні кранался: ці самых высокіх, нябесных, ці самых нізкіх, нікчэмна-будзённых і нават агідна-брудных... Усё на гэтых вагах: мастацтва ці яго супрацьлегласць – вырашаюць талент і мера чалавечага і паэтычнага, душэўнага прыняцця ці адмаўлення. Сапраўднага паэта не вымяраюць меркамі палітычнымі, з ім толькі можна ісці на бой. Калі ж нельга – засумнявайся: ці паэт гэта...

У сваёй грамадзянскасці Пімен Панчанка не быў кан'юнктурным. За свайго паэтычнага бога ён найперш уважаў Ісціну ("ісціны простыя, як хлеб, і праўдзівыя, як плач дзіцяці"). Што ён любіць – тое любіць, што ненавідзіць – ненавідзіць. А як жа інакш Паэту? Інакш – стылае, панылае вершаплячэнне... Зрэшты, паслухаем і самога Пімена Панчанку: "Я глыбока перакананы, што паэзія без страснасці, без грамадзянскага гучання – непаўнацэнная паэзія"...

Такая прырода таленту Пімена Панчанкі. І не будзем дыктаваць Паэту свае ўмовы.

Мы любім (і навучыліся!) усё і ўсіх рассоўваць і раскладваць па стандартных палічках: так ямчэй шукаць крытыку-ахоўніку ад літаратуры, ахоўніку-ідэолагу ад пэўнага "ізма", і проста ахоўніку, – знаеш, дзе што ляжыць, дзе хто і за што сядзіць: тэма, ідэя, тэрмін...

Чытач гэтага не шукае. Чытач, грэшным жыццём сваім, адчувае ўсяго толькі паэзію, душу.

Дык вось – забудземся на ўсялякую "сістэматыку", а прыгадаем:

*Ні славы, ні скарбаў я не хачу,*
*Мне б толькі прыйсці непрыкметна,*
*Зямлю сваю пад нагамі адчуць,*
*Надыхацца родным паветрам...*

І:

*Пяць франтоў мяне пылам гарачым*
*абсыпалі,*
*За вайну перамерана тысячы вёрст.*
*З успамінамі крочыў пад ветрамі*
*сіплымі*
*І з надзеяй на студзеньскім холадзе*
*мёрз.*

*І заўсёды здалёк, праз прасторы*
*вялікія*
*Усміхаліся мне і дамоў мяне клікалі*
*Сінія касачы...*

І першае, і другое сказана ў цяпер ужо гістарычна далёкім, ваенным 1942-м годзе. Ды што мне, чытачу, проста чалавеку, да маўклівай даты, пазначанай чатырма лічбавымі значкамі... Са мной – панчанкаўскія "Сінія касачы". Са мной гэтае парыванне, пакліканае не абстрактным, а канкрэтным болем душы. Гэта на ўсе часы – і ўчора, і сёння, і заўтра: Радзіма, сыноўняя любоў да яе і адданасць. Незалежна ад абставін і рэжымаў яны – былі, ёсць, будуць...

Уся – сапраўдная – літаратура ўзрастала на гуманістычных каранях, яе "нясучымі", яе грунтам было змаганне за чысціню чалавечай душы, за сапраўды чалавечае месца чалавека ў гэтым свеце, поўным сіл і памкненняў антычалавечых, антыгуманных. У самых цямнотах чалавечай свядомасці і падсвядомасці Дастаеўскі імкнуўся знайсці светлы праменьчык надзеі. Яго шукае, праз боль свайго сэрца, і паэт Пімен Панчанка.

А "re-specto"? – дык гэта, між намі, хутчэй д'ябальская спакуса. Мог бы і не па-латыні, а па-нашаму, па-просту. Але ж прачытаў пра паэзію Галіны Булыка: "амбівалентнасць у якасці парадыгмы свайго лёсу", а "з апошняга вынікла магчымасць асвойтваць геаграфію трансцэндэнтнага"... (люблю "Крыніцу" – часопіс культуралагічны!.. – *В.З.*) – і міжволі пачаў, што называецца, "re-specto" – "азірацца": з вучонымі ж, чорт пабяры, трэба па-вучонаму, а з чарцямі па-чарцінаму (ці па-чартоўску) – чорт яго ведае, як...

І яшчэ адно "між іншым" (зусім не дзеля "ўладкавання" першага). У манаграфіі Рыгора Бярозкіна "Пімен Панчанка" прачытаў: "...Спашлюся хоць бы на такія радкі, напісаныя ў 1942 годзе (і, дарэчы, бліскуча перакладзеныя на рускую мову М. Асеевым):

*Будуць вечна сады расцвітаць,*
*Белагрудыя ластаўкі лётаць.*
*І дзявочыя ногі таптаць*
*Залатую лотаць.*

Нейкае гіпнатычнае абаянне ідзе ад гэтай страфы..."

Як не пагадзіцца з мудрым у паэтычнай крытыцы Рыгорам Саламонавічам! (І ў піку тым, хто іншы раз ківае на публіцыстычную "закамплексаванасць" Пімена Панчанкі.)

Аднак жа пацягнула мяне паглядзець на гэтыя "бліскуча перакладзеныя". І прачытаў я:

*Будут вечно сады расцветать,*
*Воздух ласточки резать крылами.*
*Будут девичьи ноги ступать*
*Луговины коврами...*

Усё, здаецца, "паўторана" (калі не лічыць гэтае нязграбнае, з інверсіяй улукаткі "луговины коврами"), але... Але знікла ўсяго толькі "дробязь": "лётаць – лотаць" – і што здарылася?..

Вось і ўся загадка, вось і ўвесь сакрэт паэзіі, – і Пімена Панчанкі ў тым ліку...

**Васіль ЗУЁНАК**

# ЛЮСТЭРКА

Пра Пімена Панчанку пісаць цяжка. Ён прыйшоў у маю свядомасць – тады, натуральна, яшчэ школьніка – адразу жывым класікам, і магічныя словы "народны паэт" як бы загадзя вызначылі і мае адносіны да яго.

Пра Пімена Панчанку пісаць лёгка – калі разабрацца, дык па той самай прычыне. Бо не трэба даставаць з кніжнай шафы яго чатырохтомнік, гартаць, нешта адзначаючы для сябе на паперы – некаторыя яго цудоўныя вершы я ведаю на памяць яшчэ са школьнай пары, большасць жа астатніх таксама не раз чытаныя.

Праўда, гэты чатырохтомнік я не люблю.

Аднолькава афармленыя, аднолькавага фармату кніжкі – яны быццам апынуліся па-за часавай прасторай, сабраўшы ў сабе вершы розных, ах, якіх розных гадоў, ад чаго тыя (вершы, вядома) згубілі нешта вельмі істотнае, адметнае.

Іншая справа – арыгінальныя зборнічкі. Беручы іх у рукі, нібы сам вяртаешся нават туды, дзе ніколі не быў: на трыццаць, сорак гадоў назад.

Вядома, такое бывае, калі бярэш у рукі кніжкі не аднаго Панчанкі, але тут – найбольш, наймацней...

Бо паэзія Панчанкі – гэта люстэрка, у якім адлюстравалася цэлая эпоха. Лёгенька паварочваеш люстэрка, і мяняюцца фарбы, людзі, час. А яшчэ бачыш у ім і самога творцу. Бачыш, як перажывае паэт за ўсіх блізкіх і чужых яму людзей, знаёмых і незнаёмых, за ўсё жывое, за ўвесь свой народ. Як балюча ён успрымае чыё б там ні было гора, бяду і як па-дзіцячы радуецца ўсяму добраму, чыстаму, светламу.

*Сёння мне зранку працуецца*
*весела:*
*Стукнула звонка ў шыбу пчала,*
*Ластаўка смутак крылом*
*перакрэсліла,*
*Ліпа цвісці на двары пачала.*

На першы погляд, вельмі ж ужо мала трэба паэту, каб весела працавалася. А задумаешся – ды не, наадварот, вельмі шмат.

У гэтым люстэрку – і ці не ўсе заганы нашага грамадства, з якімі Панчанка заўсёды змагаўся "на ўвесь голас".

*Няхай агнём бязлітасным гарыць*
*Свет бюракратаў, махляроў і гадаў.*

Ён размаўляе са сваім чытачом моваю сэрца, і слухаць яго таксама – асабліва сёння – трэба сэрцам. Тады па-іншаму прачытаюцца многія яго вершы пра Леніна, камуністычную партыю, кастрычніцкую рэвалюцыю, якія той-сёй сёння спяшаецца выкінуць на сметнік гісторыі.

Ды яны і ёсць наша гісторыя. Нашы спадзяванні і мары. Нашы памылкі і расчараванні.

У гэтым сэнсе Панчанка нечым блізкі да Маякоўскага, хаця ў той жа час гэта, вядома, дыяметральна супрацьлеглыя паэты. Маякоўскі – строгі, халодны, шумны, Панчанка – наадварот: ціхі, мяккі, нават у самых сваіх ярка выражаных публіцыстычных творах.

*Я рос бяздумным дурнем, як і ўсе,*
*І славіў росквіт,*
*Светлы век машынны...*

Яго публіцыстычныя вершы падчас настолькі запоўнены фактамі ды эмоцыямі, што ў іх як бы ўжо і не застаецца месца для свежых метафар, вобразаў. Ды вінаваціць паэта ў празмернай "газетнасці" яго паасобных рэчаў мне замінае хоць бы той факт, што з дзесятак гадоў таму (гэта ўжо, як кажуць, на маёй памяці) у некаторых школах з-за аднаго з такіх яго твораў канфіскоўвалі з бібліятэк часопіс "Полымя", дзе ён быў надрукаваны...

Іншая справа, што сёння падобнае зрабіць нікому не прыходзіць у галаву (хоць рыфмуецца і друкуецца і не такое). Ды дзякуй Богу!

Для мяне ж Панчанка – гэта заўсёды найперш цудоўная лірыка ды шчымлівыя вершы пра вайну, у тым ліку і з гэтымі класічнымі радкамі: "Злосна сказаў: "Уставай, пяхота! Мы не на пляжы, а на вайне..." Далей не цытую, бо спадзяюся, што яны досыць вядомыя, каб кожны чытач невялічкага артыкула прадоўжыў цытаванне сам.

Лірыка Панчанкі – гэта зноўтакі люстэрка, люстэрка душы, у якім адлюстроўваецца надзвычай багатая гама чалавечых пачуццяў. Сёння, пры ўсеагульнай спешцы, ад якой падымаюцца ўгару слупы ўдушлівага пылу часу, і гэтае люстэрка крыху пацямнела, схавалася за пыльнай завесай...

Але вунь ужо з'явіўся на далягладзе маленькі хлапчук з вільготнай анучкай у руцэ...

**Алесь БАДАК**

# ЛЮСТЭРКА, У ЯКІМ БАЧЫМ СЯБЕ

Пімен Панчанка – адзін з буйнейшых беларускіх паэтаў XX стагоддзя, які пражыў жыццё, напоўненае інтэнсіўнымі маральнымі і мастацкімі пошукамі, глыбокімі эмоцыямі і страсцямі, імкненнем да высокіх ідэалаў і сумненнямі ў іх, зазнаўшы пры гэтым немалыя страты і супярэчнасці.

Гэта – паэт еўрапейскай традыцыі: творчасць была для яго спосабам духоўнага далучэння да жыцця праз лірычнае перажыванне свету. Тэматычныя абрысы гэтага перажывання, яго змястоўнасць, эстэтычная накіраванасць і інтэнсіўнасць даюць уяўленне пра аблічча лірычнага героя, яго тэмперамент. Р. Шкраба на гэты конт заўважыў дакладна: "П. Панчанка піша толькі пра тое, што ўскалыхнула яго самога, прымусіла мацней біцца сэрца, вывела яго з раўнавагі. Неабыякавасць, пачуццё асабістай зацікаўленасці, імкненне давесці свой погляд, падзяліцца самым патаемным з другім чалавекам у гэтым і ёсць адзнака сапраўднай паэзіі:

*Я вершы пішу, бо душа устрывожана*
*любоўю і болем за кожнага з вас"*

Пімен Панчанка – адзін з самых выдатных беларускіх паэтаў з пакалення 30-х гадоў,





франтавік, які прайшоў доўгі і горкі шлях вайны. Сапраўдны паэт-грамадзянін, надзелены значным жыццёвым і мастакоўскім вопытам. Паэт сучаснасці – такое вызначэнне за ім замацавалася даўно і трывала. Некаторыя могуць запярэчыць: а як жа інакш, ці магчымы сапраўдны паэт па-за сваёй эпохай, па-за часам? Не, вядома. І ўсё ж у Панчанкі сувязь з сваім часам была асабліва нераўнадушная, асабліва абвостраная, што адбілася на ўсім жанрава-стылявым, мастацкім абліччы яго паэзіі, яе эмацыянальным ладзе.

Вастрыня пастаноўкі сацыяльна-маральных пытанняў у яго творах прасякнутая глыбокім лірызмам і па-сапраўднаму грамадзянскай страснасцю. Панчанка – цудоўны лірык, аўтар многіх і многіх надзіва пяшчотных вершаў, прасякнутых самымі тонкімі адценнямі эмацыянальнага спектру.

*Ты чуеш, дружа мой,*
*як плачуць журавы*
*Над зарывам асенніх журавін?*

– гэта з першай кнігі "Упэўненасць" (1938). Але лірычная чуйнасць яго не прытупілася і праз гады – хіба што стала больш мудрай, філасафічнай. У зборніку "Маўклівая малітва" (1981) ёсць радкі:

*Жнівеньская ноч як звар'яцела,*
*Развязала чорныя мяхі.*
*Сотні тысяч зоракераспелых*
*Сыплюцца на мокрыя імхі.*

*Галаву і сэрца мне праціяла*
*Млечным Шляхам.*
*Край сасновы мой*
*Сёння ноччу нейкім стаў працягам*
*Зорнай таямніцы векавой...*

Над "зорнай таямніцай векавой" ён шмат думаў на працягу ўсяго жыцця...

"Амаль усе вершы, – сцвярджае буйны сучасны амерыканскі пісьменнік Роберт Пэн Уорэн, – гэта фрагменты аўтабіяграфіі. Часам я магу намацаць нітку, якая цягнецца ад вобраза да таго ці іншага ўспаміну". Сказана як быццам спецыяльна пра беларускага паэта. Аб чым бы ні пісаў Пімен Панчанка, ён абавязкова зыходзіў з уласнага характару. А характар у лірыцы, як вядома, з'ява першаступеннай важнасці. Цікава і дакладна выказаўся на гэты конт у прадмове да адной з кніг яго вершаў Я. Хялемскі: "Відаць, я не памылюся, калі скажу, што Панчанка самы тэмпераментны з беларускіх паэтаў. Чытачу з ім ніколі не сумна. Вершы яго тэндэнцыёзныя, ён ад нараджэння схільны да спорту, ён нікога не пакідае раўнадушным. Яму не ўласціва ідылічнасць і танны аптымізм. Размоўная інтанацыя яго гранічна верагодная і даверлівая".

Эстэтычная рэальнасць Пімена Панчанкі – гэта рэальнасць яго "я", раскрытага ў вершах. Гэтая рэальнасць знаходзіць праяўленне ў рэзкіх кантрастах (у тым ліку эмацыянальных), нечаканых супастаўленнях, імклівых пераходах, маральнай бескампраміснасці. "Для мяне самае важнае ў паэзіі, – прызнаўся ён, – праўда жыцця, праўда пачуццяў маіх сучаснікаў, чалавечнасць. Мяне не прыцягвае сузіральная лірыка, якую іншы раз выдаюць за філасофскую. Я за актыўную, грамадзянскую паэзію. І пра роднае сяло, і пра космас можна напісаць аднолькава дрэнна. Калі паэт не можа адчуць пульса жыцця, яму не дапамогуць ні наватарства, ні традыцыйнасць... У нашай паэзіі вельмі доўга гасцявалі одапісанне, ідылічнасць, падбадзёрлівасць. Вайна навучыла маё пакаленне ненавідзець і любіць не абстрактна".

Лірыка Панчанкі, сказаў бы я, – гэта драма, якая здарылася з ім самім – чалавекам XX ст. Беларуская літаратура (у тым ліку і паэзія Панчанкі) у многім трымалася на адзінстве агульнай сацыяльнай эмоцыі – упэўненасці, што заўтра будзе лепш, чым сёння. Адным з першых, да каго прыйшло празрэнне, быў П. Панчанка. У канцы 50-х гадоў ён напісаў верш пад назвай "Жарты і скептык", у якім паказаў спрэчку двух людзей – чалавека "перадавога", захопленага навуковымі адкрыццямі, які збіраецца ляцець на Марс, і "адсталага", які лічыць падобныя намеры заўчаснымі ("На цаліне не ўсе палі пажаты, машыны грузнуць на Палессі ў нас"). Сам Пімен Панчанка быў, вядома, на баку свайго "перадавога" героя. Але прайшлі гады, а з імі з'явіўся і вопыт – паэт навучыўся больш глыбока пазнаваць жыццёвыя супярэчнасці, і яны ўяўляюцца яму цяпер не такімі простымі і лёгкімі, як раней. Каб вырашыць усе праблемы, адных палётаў на Марс, як здавалася раней – гадоў дзесяць назад, – недастаткова. Паэт разумее: патрэбна працяглая, вялікая і абдуманая работа. Творчая эвалюцыя Пімена Панчанкі – пераканаўчы прыклад таго, як разам з часам развіваецца і самастойнасць мастака, як паэт усё глыбей авалодвае думкай аб неабходнасці сувязі ідэалу з жыццём, прагрэсу з гуманізмам.

*Знаю, што ў калысцы*
*Нам не аставацца.*
*Толькі сэрца часам*
*Просіць злітавацца:*
*"Не спакушай нас высокай песняй*
*Гэтак рана, Галактыка.*
*Як валуны неачэсаныя –*
*У нас цяжкія характары.*
*Ёсць яшчэ і турмы*
*З арміяй канвойнай.*
*Ёсць у нас плямёны*
*З каменнага веку.*
*Мы яшчэ у жорсткасці,*
*Мы яшчэ у войнах,*
*Мы яшчэ у злосці,*
*А ты нам – пра Вегу..."*

Гэта было напісана ў сярэдзіне 60-х гадоў, калі ўсе мы былі да самазабыцця захоплены "пакарэннем" космасу, шырокімі крокамі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, не звяртаючы ўвагі на свае штодзённыя зямныя справы. Палітычная тыранія, таталітарызм, жорсткая эксплуатацыя, войны як сродак дасягнення сваіх эгаістычных мэтаў – усё гэта спаўна было ўласціва і нам, таму "перадавому" ладу, які мы называлі сацыялізмам. Паэт многія рэчы называе сваімі імёнамі, яго вобразныя абагульненні, публіцыстычныя па сваім

грамадзянскім напале, прасякнуты ўнутраным пачуццём драматызму. Знешне спакойная інтанацыя падкрэслівае глыбокі трагізм таго, што адбываецца.

Паэт вылучае рэальны крытэрый для ацэнкі гістарычнай перспектывы, ставячы ў цэнтр увагі чалавека, жыццяздольнасць і гарманічнасць якога будуць вызначацца тым, наколькі ён будзе адпавядаць чалавецтву. («Без чалавечнасці не будзе вечнасці»).

Яго кнігі 70–80-х гадоў напаўняюцца галасамі самога жыцця, да бясконцасці шматстайнага і зменлівага. І Панчанку даводзілася пісаць "у стол". Створаны ў 1956 г. (перыяд "адлігі") верш "... На сходах часта ў звон мы гучна б`ём..." з`явіўся ў друку толькі ў 1993-м – праз 37 гадоў (кніга "Высокі бераг"):

*Каб разжаваць пытанняў важных соль,*
*Да старшыні у кабінет нас клічуць.*
*"Трэ узгадніць!" – і пальцам тыц у столь.*
*А там, наверсе, столь падлогай лічуць.*

*А потым рубам ставіцца задача:*
*"На гідрабуд хутчэй, на цаліну!"*
*Каб выламаць пасля, як рабрыну,*
*Радок мой для чарговай справаздачы.*

*Цікава там! Ды што ты ні кажы,*
*Сягоння я за іншае ў трывозе...*
*Грабуць зямлю зубастыя каўшы*
*Аднолькава на Свіслачы і Волзе.*

*Аднолькава убогі пах катлет*
*У душных падарожніцкіх харчэўнях...*
*Я сам штодзень кіплю ў жыцця катле,*
*Навошта мне набег? Я не качэўнік...*

Па часе, асабліва пасля пасясталінскай "адлігі", паэт страчвае веру ў тое, у што яго прымушалі верыць. Ён як бы і не адмаўляе поўнасцю афіцыйныя ідэалагічныя каштоўнасці і ў той жа час глыбока сумняваецца ў іх.

Характэрная яму ўнутраная палемічнасць нечым аддалена напамінае Дастаеўскага. Даследчык творчасці Дастаеўскага М. Бахцін, як вядома, прыйшоў да вываду, што асноўнае значэнне ў ідэйна-мастацкай сістэме гэтага пісьменніка мае дыялог. Дастаеўскі, як вядома, вызначаўся тэмпераментам палеміста, журналісцкага байца, якому ўласціва было сцвярджаць сваю думку ў вострай спрэчцы з апанентамі. У вершах Пімена Панчанкі вельмі часта таксама прыкметна фігура па-рознаму настроенага апанента. Параўнанне асаблівасцяў мастацкай сістэмы Дастаеўскага і сучаснага паэта П. Панчанкі больш чым нечаканае, тым не менш, думаецца, пэўнае дачыненне паміж іх паэтыкамі ёсць. Прысутнасць нябачнага апанента ў Панчанкі дапамагае яму паўней раскрыць свае перажыванні і выказаць думкі, паўней рэалізаваць свой стыль. У якасці апанента (асабліва ў апошніх кнігах) выступаў і сам час з яго нялёгкімі пытаннямі: "Калі з нас кожны мірна ў пасцелі мяккай спаў, хлапчук, а не граміла ларок абрабаваў". Паэт жыў з думкай пра чалавека, пра яго выхаванне і духоўнае забеспячэнне. Супярэчнасць, якая нярэдка сустракаецца ў жыцці – паміж высокім прызначэннем чалавека і эмпірычнай стракатасцю рэальнасці, – ён, як сведчаць прыведзеныя вышэй радкі, бачыць і не ўтойвае ад чытача.

Аднак, пры ўсёй істотнасці, гэта – толькі адна з граняў творчай індывідуальнасці паэта, лірычны характар якога канцэнтруе ў сабе і складанасць свету, і яго прыгажосць, і веліч. Творчасць П. Панчанкі – чулая, злабадзённая, неаддзельная ад свайго часу. Пры гэтым ён ніколі не паступаўся ні мастацкасцю, ні талентам. Наадварот, сувязь з часам узмацняла яго талент і эстэтычныя здабыткі паэзіі. Маральнае ўспрыманне рэчаіснасці, вастрыня сацыяльнага погляду актывізавалі мастацкае мысленне. Паэт рашуча перадольвае хранікальную фактаграфічнасць, эмпірычнасць, а таксама павярхоўную эмацыянальнасць. Факт становіцца прычынай для роздуму, узаемадзейнічае з іншымі жыццёвымі фактамі і з'явамі.

Вострая сувязь з жыццём тут – галоўнае. Возьмем для прыкладу своеасаблівы "партрэтны" верш "Хто вінаваты?" (зборнік "Лясныя воблакі", 1985). Ёсць у ім штосьці ад газетнага фельетона з характэрным, амаль што абавязковым для яго "антыгероем":

*Спачатку пазбавіцца рад*
*Ад бацькоўскае хаты,*
*А маці – у горад,*
*Даюць на яе*
*Трэці светлы пакой.*
*На матчыны грошы*
*Абставіць кватэру багата,*
*А потым і маці цішком –*
*У Дом Састарэлых*
*На вечны спакой!*

Працяглы час мы рабілі выгляд і гаварылі, што ў нас пабудавана грамадства развітога сацыялізму, што ў выніку скасавання прыватнай уласнасці нарадзіўся новы чалавек, для якога ўласціва "поўная эмансіпацыя чалавечых пачуццяў і якасцяў", "пераадоленне адчужэння", вяртанне да "сапраўднай чалавечай сутнасці" (найбольш ходкія панятці з сучаснага філасофскага ўжытку). Аднак, як высветлілася, гэтага, на жаль, не адбылося. Больш таго, адбыўся рэгрэс – адыход, адступленне ад высокіх чалавечых нормаў маральнасці. Гэты рэгрэс і турбуе аўтара верша "Хто вінаваты?"

І зноў успамінаецца Дастаеўскі. Некаторыя даследчыкі звязваюць жанравую прыроду яго рамана "Злачынства і пакаранне" з дэтэктывам, што не перашкаджае лічыць яго выдатным сацыяльна-філасофскім творам. Нешта падобнае ў значнай ступені характэрна і для публіцыстычнай паэзіі Пімена Панчанкі: непрыхаваная журналісцкая – "фельетонная" – форма не толькі не перашкаджае – паглыбляе яе філасофска-этычны сэнс. Захаваць чалавечае ў сабе азначае для паэта захаваць духоўныя, маральныя каштоўнасці, без якіх немагчыма жыццё на зямлі. Гэта і ёсць, на наш погляд, галоўная ідэя верша "Хто вінаваты?" – ідэя, якая надае цэласны характар усёй кнізе "Лясныя воблакі", прасякнутай прагай духоўнасці, імкненнем пазнаць непазнанае, сказаць





чалавеку праўду пра яго жыццё. У яго ніколі не было схільнасці да душэўнай утульнасці.

Паэзія Пімена Панчанкі з уласцівым яму пранікнёным лірызмам заўсёды развівалася ў шырокім сацыяльна-грамадскім кантэксце. Пры гэтым грамадзянскі тэмперамент паэта часта знаходзіць выхад у вершах спавядальнага плана, нярэдка афарбаваных горкай іроніяй. З верша 60-х гадоў:

*Гаворыце, што выйшлі вы з народа?*
*Куды? Чаму?*
*Якой цяпер пароды?*
*Я са свайго народа не выходзіў,*
*І жыць да скону буду у народзе.*

Погляд на свет адзначаны бескампраміснай аналітычнасцю. Не толькі гумар, іронія, але нават і едкі сарказм (як гэта мы бачылі ў вершы "Хто вінаваты?"), які іншы раз набліжаецца да гратэскных форм, – важнейшыя бакі творчай індывідуальнасці паэта, яго стылю, які другім сваім бокам звязаны з глыбінным лірызмам паэтычнай рэчаіснасці, імкненнем да маштабнасці, рэалістычнай прастаты, аб`ёмнай дэталі і рэльефнасці вобраза.

Ён напружана абмяркоўвае праблему чалавека, яго маральных, духоўных вартасцяў. Лірычная публіцыстыка Панчанкі багатая на думку, на філасофскі, духоўны змест. Па часе яму ўсё больш адкрывалася шматмернасць быцця, яго глыбінныя пласты і прычынна-залежныя сувязі. Звернемся, напрыклад, да верша "Жнівень", у якім паэт запрашае дзяцей (дзеці – яго нязменная любоў) выйсці ў жнівеньскую ноч на цёмнае жытнёвае поле. Навошта? Каб сэрцам адчуць магутнасць і веліч усяго светастварэння, прыгажосць начной прыроды, кантакт з якой жывіць душу чалавека.

*Там позняе лета,*
*Там соннае жыта*
*І зорныя ліўні.*
*Бяздоннае сусвету*
*Бывае такое глыбокае*
*Толькі у жніўні.*

Напісана гэта не маладым чалавекам, а сталым.

Прайшоў немалы час, але, паглядзіце, свежасць успрымання засталася. Яна аплоднена мудрым жыццёвым вопытам, які паэт хоча перадаць нашчадкам. І гэта не нейкае спецыяльнае выхаваўча-педагагічнае мерапрыемства, а акт паэтычнага пазнання жыцця.

*Жыццё вас запоўніць*
*Вучобай і працай,*
*І шчырым каханнем,*
*Бо сэрцы запомняць*
*І зоркавы лівень,*
*І цёплага жыта дыханне.*

Знешне яго вершаваныя формы выглядаюць традыцыйна, але гэта толькі на першы погляд. Асаблівасці мастацкай формы строга падначалены змястоўным задачам. Лірычнае дзеянне падкрэсліваецца і ўзмацняецца сродкамі гнуткай, выразнай і надзвычай актыўнай паэтыкі. Незвычайная моўная экспрэсіўнасць выклікана дынамікай думкі і эмоцый, ледзь улоўнымі імгненнымі пераходамі аднаго пачуцця ў другое, глыбокім лірызмам. Ён любіць шырока разгорнутую метафару – вобразнае ўвасабленне пэўнай жыццёвай з'явы: "раўнапраўе дрэў", "крык сойкі", "рэвалюцыя сэрцаў і душ", "зямля мая – зялёнае гняздо" – значэнне гэтых і іншых метафарычных выразаў у яго вершах раскрываецца падрабязна і шматгранна, абагачаючы асацыятыўнасць (цэлыя гронкі метафар) стылю, паглыбляючы разуменне тых гуманістычных каштоўнасцяў, якія зацвярджаюцца ў яго творчасці, і ўзмацняючы абаяльнасць самога лірычнага характару, паэтычнасць успрымання свету.

Лірыка-публіцыстычны стыль паэта шматгранны: яму не чужыя і апавядальна-размоўная інтанацыя, і ўзвышана-рамантычны пачатак, і сатырычная накіраванасць. Багацце вобразнай мовы дае магчымасць гарманічна спалучаць учэпістасць сацыяльнага погляду з паэтызацыяй рэчаіснасці, духоўных магчымасцяў чалавека. Яго лірычны характар (і ўсё, што гэты характар выражае, – і праблематыка, і творчыя інтарэсы, і эмацыянальны напал, і інш.) непаўторны ў сваіх праяўленнях і, адначасова, духоўна цэласны, адзіны. У паэзіі Пімена Панчанкі адчуваем сталы інтэлект чалавека XX ст., маштабнасць яго мыслення. Вершы паэта 80–90-х гадоў – гэта вяртанне да тых мясцін, "дзе начуе жаваранак", да вытокаў. У яго выразнае імкненне да "універсальных" ісцін, якія "далучаюць" чалавека да жытнёвага поля, да зорнага неба, да бясконцасці сусвету, да высокай думкі.

Працягвалася і ўласна публіцыстычная тэндэнцыя ў яго творчасці, пра што сведчаць кнігі "Горкі жолуд" (1989), "Высокі бераг" (1993). Паэт паранейшаму імкнецца гаварыць пра тое, што яму рупіць, і ў гэтым сэнсе ён ніколькі не паступаецца ўласнай сваёй індывідуальнасцю. Наадварот, быццам бы яшчэ больш востра адчувае сваё "я". Вакол яго асобы апошнім часам стварылася пэўная духоўная "аўра" – ідэйна-эстэтычнае поле паэтычнай творчасці з уласцівым для яго маральным напружаннем. Яго трывожыла ўсё – вынішчэнне лясоў, непрадуманае будаўніцтва буйных прамысловых (і не толькі прамысловых) аб`ектаў, забруджванне навакольнага асяроддзя, радыеактыўнасць, якая ўсё шырэй распаўсюджваецца па зямлі.

Паэт біў трывогу аб стане роднай мовы – стане, які таксама з'яўляецца пэўным звяном у ланцугу тых самых прычын і вынікаў і з відавочнасцю ўплывае на паводзіны чалавека, фарміруе яго залішне прагматычны і утылітарны падыход да жыцця.

*Ільняная і жытнёвая. Сялянская.*
*Баравая ў казачнай красе.*
*Старажытная. Ты самая славянская.*
*Светлая, як травы у расе.*
*Вобразная, вольная, пявучая,*
*Мова беларуская мая!*
*Дратавалі, здзекваліся, мучылі...*
*Ты жыла і ў працы і ў баях.*

*Пра цябе, як сонечнае дзіва,*
*І Купала, ды і ўсе мы снілі сны...*
*Ад цябе, ласкавай і праўдзівай,*
*Адракаюцца цяпер твае сыны...*

**Стан роднай мовы – як адной сціблінкі ў сусветным моўным суквецці – гэта таксама пытанне аб выжыванні свету і чалавека, аб яго духоўным здароўі.**

**У лепшых традыцыях Пімена Панчанкі напісаны верш “Развітанне” (1988), у якім шмат праўды пра наш час. Тут з вялікай сілай выявіўся выкрывальны дар паэта, здольнага востра рэагаваць на ганебныя антылюдскія з'явы, якіх у нас, на жаль, вельмі шмат. Заканчваецца верш радкамі, якія не маюць публіцыстычнай гучнасці, але тояць у сабе глыбокі грамадскі і асабісты зарад.**

*Гэта ўжо не світанне,*
*Гэта наша настала змярканне,*
*Гэта з мовай маёй,*
*Гэта з песняй маёй*
*Развітанне.*

**Якім ты станеш, чалавек? – гэтае сфармуляванае П. Панчанкам пытанне, якое ён пакінуў нам у спадчыну, не прастае, яно балючае і таму займае цэнтральнае месца ў сённяшніх творчых пошуках беларускіх паэтаў. Яно дынамізуе развіццё публіцыстычнага струменя ў іх творчасці.**

**Паэтычная спадчына Пімена Панчанкі – праўдзівая энцыклапедыя нашага часу, люстэрка, у якім мы бачым і пазнаем сябе.**

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

# Прачытаўшы верш Пімена ПАНЧАНКІ “РАЗВІТАННЕ”

**Родны мой Пімен Панчанка,**
**Вы сказалі: настала змярканне?**
**Вы сказалі на маці – мачыха?**
**Бо настала Вам развітанне?**

**З яе словам – ужо не родным,**
**з яе сонцам – ужо халодным,**
**з яе людам – спрадвек галодным,**
**нават Богу й таму няўгодным...**

**Адыходзіце ці зракаецеся?**
**Ці сухімі слязамі каецеся?**
**Пад крыжамі Сафіі полацкай**
**бюракрат за Вас не памоліцца,**

**а памоліцца за Вас мачыха,**
**за сыночка свайго, за Панчанку,**
**і ў галовах запаліць свечачку.**
**Можа, ўзімачку, а можа, ўлецечку**

**скрозь расстанне і скрозь змярканне**
**на агеньчык паэт прыстане,**
**скажа: родны мой Пімен Панчанка,**
**я Вам верыў, ды вера страчана.**

**І ў галовах патушыць свечачку,**
**можа, ўзімачку, а можа, ўлецечку**
**пад крыжамі Сафіі полацкай**
**ён за Белую Русь памоліцца,**

**за наступнікаў і за прадзедаў,**
**ён памоліцца так, як дадзена,**
**як вучылі Купала з Коласам –**
**крэўнай моваю, родным голасам.**

**Вы жывымі слязьмі заплачаце,**
**за паэтам народ убачыце**
**скрозь расстанне і скрозь змярканне,**
**Вам за смерць сваю прыкра стане,**

**бо пад небам Сафіі полацкай**
**на народных паэтаў моляцца.**

**Анатоль СЫС**

# Памяці Пімена ПАНЧАНКІ

**Я перачытваю Пімена –**
**Дзе ўсхвалявана, дзе наўскос...**
**Як чалавек, ён жыў сумленна**
**І, як паэт, пісаў наўпрост.**

**То ганарыўся тым, што маем,**
**То па забраным бедаваў,**
**То захапляўся Першамаем,**
**То камунізм не будаваў...**

**Любіў свой край чырвонасцяжны**
**У зелень-сінь перастварыць...**
**Мог быць суддзёй, а мог – прысяжным,**
**Ды не жадаў падсудным быць...**

**Адстрэльваў словамі заразу...**
**І для сябе трымаў патрон...**
**А ўсё-ткі лёг з усімі разам**
**У той агульны пантэон...**

**Перабіраю стрэчы, згадкі,**
**“Іранскі дзённік”, “...касачы”...**
**І ўсё часцей раблю закладкі –**
**З яго эпохі ў нашу – кладкі –**
**У нашу ноч з яго начы...**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**



# Барыс ПЯТРОВІЧ

**У НАС**



*Дрэвы губляюць сваю лістоту, чалавек губляе сваіх сяброў, жыццё губляе свой сэнс, я старэю.*

# ФРЭСКІ

# УДАРЧЫК

Каля былога архіерэйскага дома, а цяпер Дома мастацтваў са знакамітым “Мутным вокам” унутры, на тым жа прыгорку справа ад сходаў ёсць купка кустоў бэзу, пад якімі не кожны ведае дзве лаўкі, пастаўленыя дзеля зручнасці адна да адной тварам, а не спінамі. Некалі, у студэнцкія гады, мы з сябрамі-аднакурснікамі любілі прыходзіць сюды вечарком, каб выпіць пару пляшак добрага віна ці, грэшнай справай – пасля стыпенды, альбо іспыту – нават пляшачку някепскага каньяку. Нас было чацвёра, і мы любілі сядаць побач на адну лаўку, вачыма да расквечанага вечаровымі ліхтарамі, аўтамабільнымі фарамі ды светлафорамі Ленінскага тады праспекту, а на другую лаўку выстаўлялі пляшкі, “пазычаныя” ў кафетэрыі шклянкі ды нешта з закусі. Двое з нас пісалі вершы, двое прозу, і мы любілі пагаманіць пра літаратуру наогул і пра творчасць у прыватнасці. Праўда, мажліва, я і прыхарошваю цяпер тыя размовы, бо, шчыра прызнацца, не надта памятаю іх. Прыгадваецца асноўнае: нам не падабалася тое жыццё, што акаляла нас, нам не падабалася тая літаратура, якую рабілі яшчэ не мы, а мясцовыя паэты ды празаікі, нам хацелася сказаць нешта сваё, асаблівае, мы адчувалі ў сабе сілы дзеля гэтага, і кожны, пэўна, зазіраючы ў будучыню, бачыў сябе лаўрэатам Нобеля, не меней. Пра зямлю, на якой стаялі (сядзелі), мы пакуль не думалі, мы думалі пра сябе, і не было гэта, як мне здаецца сёння, заганай, а было звычайным юначым максімалізмам, без якога салдат не становіцца генералам. Дык вось, сядзелі мы над праспектам, пасмокталі вінцо (ці каньячок) з пазычаных шклянак, глядзелі на жыццё, што віравала ля ног, і гаманілі пра літаратуру. Месцейка ж, занятае намі, было вабным не толькі нам, але часы тады былі такія, што калі мы першыя занялі яго (тым больш, нас – чацвёра), то тыя, хто прыходзіў пазней, звычайна, пастаяўшы троху непадалёк і паслухаўшы, што размовы нашыя канца пакуль не маюць, цішком сыходзілі шукаць іншы прыстанак. Але то тыя, хто хацеў выпіць. Бліжэй жа да паўночы вакол нас пачыналі кружляць нецярплівыя парачкі закаханых, якім трэба была, як мінімум, лаўка, і не для таго, каб пляшку паставіць. Незалежна, была то восень, зіма, вясна ці лета, мы, заўважыўшы гэткае трапяткое чаканне нашага сыходу, доўга не затрымліваліся, спаражнялі пляшкі, клалі іх пад лаўкай на ранішні абход бабулькам і не йшлі да лесвіцы, а спускаліся ў горад проста адсюль. Было весела і лёгка ступаць у пакатую цемру, і ногі самі неслі нас уніз – толькі паспявай перастаўляць іх. Ды дзе там – выпітае блытала рухі, і не было таго выпадку, каб нехта не ўпаў і не скаціўся ўніз да елак, што раслі на схіле, але абыходзілася ўсё без сінякоў і драпін, адно дружным смехам... І толькі аднойчы давялося пакінуць нам любімае месца раней, чым звычайна, і не па сваёй ахвоце Было то позняй вясною, пад лета, бэз ужо добра зеляней, але яшчэ не цвіў. Мы здалі нейкі важны іспыт і прыйшлі адзначыць падзею. Пілі на гэты раз гарэлку – на лепшае грошай не хапіла, і пілася яна не вельмі каб, а так, маленькімі глыткамі, без прымусу, аднак і без жадання. Выпілі мы паўпляшкі, размова не надта вязалася, словы былі рэдкімі, думкі кароткімі. Воўка казаў нешта пра Кафку і Платонава, і сплаў гэтых імёнаў даў на аснове вядомай савецкай песні афарызм, прыпісаны потым сабе нейкім рускім: “Мы рождены, чтоб Кафку сделать былью”. Выпілі за гэта, бо ў сацрэалізме ніхто з нас сябе не бачыў і блізка, а пра тое, каб перасадзіць Кафкаў рэалізм на беларускую глебу, тады можна было толькі марыць.

– Жыды нейкія сабраліся, – пачулі мы зусім побач, і з-за бэзавага куста выйшлі да нас двое хлопцаў на добрым падпітку. Здавалася, што паасобку яны нават стаяць не могуць і трымаюцца толькі таму, што цяпер было ў іх на дваіх чатыры нагі.

– Можна я сяду, – сказаў адзін з іх, і яны ўдвох селі на лаўку насупраць нас, дзе стаяла недапітая пляшка гарэлкі, а на газеце ляжаў пакроены хлеб, каўбаса, сыр і нож. Воўка перахапіў хлопцаў позірк, узяў нож, склаў яго і схаваў у кішэню.

– Я панімаю, – сказаў другі хлопец, – мы вам памяшалі. Нічога. Наліце нам па сто і мы пойдзем.

Іхняя бесцырымоннасць нам не падабалася. Усім. І вельмі. Яна злавала і настройвала, як сказалі б цяпер, на канфрантацыю. Яшчэ і таму, што больш нахабным быў п'янейшы, які беспярастанку варочаў языком і нешта плявузгаў сябру пра жыдоў. Яўрэй сярод нас быў – Славік, самы інтэлігентны і самы спакойны, – і якраз яго і выбраў п'янейшы за ахвяру, калі мы на іхнія просьбы ці загады колькі разоў адказалі цвёрдым “не” – не нальём!

– Давай адыдзем, – казаў хлопец Славіку і непаслухмяной рукою хапаў яго за грудкі, – адыдзем і пагаворым, адзін на адзін...

Тым часам другі хлопец, які назваўся Сашам, разгаварыўся з намі, і Воўка наліў яму ў шклянку грамаў пяцьдзесят і даў выпіць. Саша спрытна выліў у рот гарэлку і стаў у дошку нашым: “сваім”.

– Хлопцы, – ціхенька прашаптаў ён, каб не чуў ягоны сябар, – дайце яму добра, каб не лез да вас, а то чапляецца, паскуда... Эй, Колька, чаго прычапіўся да яго, кінь!.

А Колька між тым ужо цягнуў Славіка загрудкі з лаўкі ў цемру з тымі ж словамі: “Адзін на адзін – пагаворым...”

Воўка некалі займаўся боксам. Быў нават чэмпіёнам Гомельскай вобласці сярод юнакоў і першаразраднікам. Воўкаў кулак некалі пакаштаваў і я, калі заўважыў у ягонай тумбачцы ў інтэрнаце баксёрскія пальчаткі і прапанаваў, сам не разумею чаму: пакажы пару ўдарчыкаў, мо спатрэбіцца калі дзеля абароны.

Мы пачапілі па адной пальчатцы на руку, я – на правую, ён – на левую, не зашнуравалі, а так, адчапнога, і Воўка, хоць і жартам, але першым жа ўдарам у нос, паслаў мяне ў накаўт. Крыві амаль не было – пара кропель на кашулі, – але нос балеў доўга, бо спачатку распух, а потым пераносье пачарнела... Воўка сказаў Кольку:

– Што ты слабака выбраў. Пойдзем са мною.

– Пайшлі. Адзін на адзін.

Яны адышлі колькі крокаў ад лавак. Воўка стаў у стойку і, амаль не размахваючыся, нейк знізу ўверх коратка тыцнуў кулаком у сківіцу Кольку. Той як стаяў, так і ўпаў. Нібы з яго шкілет выцягнулі. І ні руху, ні стогну, як нежывы. Воўка падняў яго руку – ватная, адпусціў – яна ўпала побач з целам, глуха змяўшы мінулагодняе лісцё.

Такога зыходу не чакаў ніхто. Нават Воўка, а тым больш Сашка – Колькаў сябар.

– Хлопцы, – задрыжэў ён, – я нічога, хлопцы. Мы пойдзем, хлопцы, зараз пойдзем... – Ён пацягнуўся да скурчанага, скамечанага на зямлі Колькі і стаў біць яго па шчаках.

Калі пачуўся ціхі стогн, мы пераглянуліся. Воўка ўзяў пляшку з рэшткамі гарэлкі і падаў Сашу, і мы павярнуліся і моўчкі пайшлі з-пад кустоў бэзу да сходаў, што вялі ад “Мутнага вока” на праспект. Воўка нагнаў нас, абняў Славіка, нібы апраўдваючыся, нібы няёмкасць здымаючы; так мы і выйшлі, але не на праспект, а паўз Дом афіцэраў, у скверык Панікоўскага, да Купалаўскага тэатра. Не памятаю дакладна, але, здаецца, пад кусты бэзу ля архіерэйскага дома больш выпіваць мы не хадзілі.





# ЧАСОПІС

Самыя запамінальныя пахі: пах сырадою, пах свежых агуркоў, пах новай кнігі... А яшчэ пах брагі, калі гоняць самагон.

Тут кажу я пра пахі, адметныя мне, а не ўсім людзям. У кожнага, мусіць, ёсць дзесятак ягоных пахаў, якія не зблытае ён ні з чым, і якія час ад часу чуе нават там, дзе іх і блізка не было. Вось і я, гартаючы толькі што набыты часопіс, раптам пачуў пах самагону. Як тая жонка ў зваранай мужам бульбе. “А цяпер”, – сказаў муж і адышоў на два крокі... Не, пах ішоў ад часопіса. І пазнавальнымі ноткамі ў ім якраз і гучаў пах брагі.

Не ведаю чаму, але разам з гэтым пахам мне прыгадваецца зіма. Адліжны сыры дзень. І ўжо каля Мікітавай хаты чуеш, што ў Змітровых гоняць самагон. Летам, мусіць, гэтыя пахі забіваюць іншыя, альбо ўсмоктваюць іх дрэвы і кусты, хаты і хлявы... Бо амаль не чуваць іх. Зімой жа разносяцца яны на паўвуліцы. І таму, калі ўвечары да Змітровых прыйдзе Мікіта, то Ганна доўга адмаўляцца не будзе, а скажа: “Ай, выгналі там пару згонак адчапнога. Дровы парэзаць трэба...” – і нальe Мікіту чарку – пакаштаваць.

Часопіс маскоўскі, аддрукаваны ў Фінляндыі, на фінскай паперы, фінскімі фарбамі – адкуль жа ў ім той пах беларускі, вясковы, зімовы: пах самагону ў адліжны дзень? Бо даўно ўжо ў вёсцы ніхто не гоніць самагон. Няма каму... А ў тых, хто застаўся, – няма сілаў. І боўтаюць яны бражку і п'юць неперагнаную... Альбо купляюць гарэлку ў краме. А самагонныя апараты, гэтыя сапраўдныя творы мастацтва, гэтыя экспанаты этнаграфічных музеяў, – паіржавелі без справы.

Кажуць, індзейцы, каб запомніць на-

заўсёды нейкую падзею, нюхаюць у час, калі дзеецца яна, кветку альбо рэчыва з адметным пахам. І калі хочуць прыгадаць той шчаслівы для сябе момант, адчыняюць пляшачку з тым самым пахам і патанаюць у прыемным мроіве. Няўжо і мне цяпер, каб прыгадаць-зведаць той выбітны пах, каб прыгадаць-убачыць той адліжны вясковы дзень майго дзяцінства, давядзецца купляць маскоўскія часопісы, надрукаваныя ў паўночна-снежнай Фінляндыі.

# ПРАЛЁТ

Ад няма чаго рабіць Шэры гуляў па горадзе. Гуляў – гэта, мусіць, занадта моцна сказана. ён проста йшоў куды вочы глядзяць. Туляўся, швэндаў, блукаў, басцяўся, бадзяўся.. Словам, з боку магло падацца, што нейкі творца задуменна брыдзе і вершык у галаве складае альбо фабулу з градацыяй прыкідвае.

Недзе за дзяржгістмузеем да Шэрага падышоў змэнчаны стрэчны і спытаў, як прайсці да паштамту Шэры патлумачыў і нават рукою паказаў, куды кіраваць. Абудзілася ў ім, вынырнула аднекуль з глыбіняў спагада да гэтага пашкуматанага пошукамі паштамта чалавека, і захацелася яму правесці стрэчнага, каб не блукаў ён больш у незнаёмым горадзе "Усё роўна ж хаджу без справы", – падумаў Шэры, кінуўся назад і зразумеў раптам, што паслаў чалавека ў зусім іншы бок ад патрэбнага яму... "Вось табе і на...", спыніўся Шэры. Здаецца, і галава ягоная яснай была, і ў сэнс пытання ён адразу ўрубіўся, а сталася так, што не дапамог ён чалавеку, а нашкодзіў Агледзеўся Шэры, на дыбачкі стаў, каб было бачна далей, а стрэчнага не відаць – згубіўся недзе ў натоўпе, як птушка ў чарадзе, памножыўся на дзесяткі падобных: здаецца, вунь ягоная спіна, а вунь яшчэ адна, а там – яшчэ..

Быў у Шэрага ніякі настрой, а стаў кепскі. Ішоў ён нага за нагу, а тут і зусім спаволіўся. Азірнуўся зноў раз-другі – няма таго чалавека. . Хоць і не быў набожны Шэры, але пачаў ён прасіць у Бога прабачэння і ўгаворваць яго даць магчымасць выправіць памылку· дапамагчы чалавеку. Хай і не таму, міжволі падманутаму, а іншаму, што ў горадзе зараз маюцца... Ідзе гэтак Шэры, шэпча нешта сабе пад нос, і тут падыходзіць да яго яшчэ адзін стрэчны і просіць запаліць. Нават два пальцы да вуснаў паднёс і паляпвае паказвае, так смаліць яму. Шэры спыніўся, агледзеўся. Дайшоў ён ужо да скверыка Панікоўскага, што насупраць прэзідэнцкай адміністрацыі. Дрэвы вакол, бетонныя пліткі пад нагамі нагамі ж адпаліраваныя Стаіць Шэры, аглядаецца, чалавек перад ім у просьбе скурчыўся – чакае, а дапамагчы яму Шэры не можа, бо даўно ўжо, ад перабудовы, не паліць і цыгарэтаў у кішэнях не носіць. А трэба было б насіць дзеля такога выпадку.

"Не палю.. " вымавіў урэшце Шэры і рукамі па баках ляпнуў: няма, маўляў, пуста, бачыце. Як хацелася яму дастаць цяпер з кішэні пачак цыгарэтаў Нечапаны, з некранутым чырвоным паскам на шыі, і ўвесь аддаць чалавеку Абрадаваць, здзівіць. А калі чалавек пачне адмаўляцца, маўляў, не трэба, мне адну цыгарэціну толькі, упэўнена, загадна сказаць: бяры, бяры...

Заўважыўшы нерашучы, кволы адказ Шэрага, стрэчны стаіць, не адыходзіць, чакае "Праўду гавару – няма", – кажа Шэры і зноў паляпвае па пустых кішэнях доўгімі рукамі. "Няма дык няма, – кажа стрэчны, – але навошта ты перада мною апраўдваешся, я ж не прымушаю цябе, я ж не міліцыянер.. " І не адыходзіць, а гэтак з хітрынкай глыбока ў вочы Шэраму зазірае Ажно няёмка стала Шэраму, нібы пашкадаваў цыгарэціну, якая ёсць, нягледзячы на тое, што ён ведае – яе няма. "Не палю я " – зноў кажа ён, быццам апраўдваючыся "Вось ідыёт", ужо са злосцю прамаўляе стрэчны І не проста прамаўляе перад сабою, а звяртаецца да сваіх сябрукоў, што, аказваецца, стаяць пад недалёкім дрэвам, уткнуўшы ў траву ля ног некалькі адкаркаваных пляшак піва. "Могуць і пабіць", – падумаў Шэры. Не пра пляшкі пра сябе. І бокам, бокам, ціхенька пачаў адыходзіць. Стрэчны стаіць на тым самым месцы і знішчальна-здзекліва пазірае на манеўры Шэрага. А Шэры ад сораму гатовы скрозь зямлю праваліцца Ды дзе там..

Было ў Шэрага кепска на душы, а стала зусім невыносна. хоць у Свіслачы тапіся. У першым жа камерчым шапіку Шэры набыў пачак "Л&M", каб не заспеў яго наступны стрэчны сваёю просьбай знянацку На апошнія грошы набыў, хоць і збіраўся на вечар узяць у інтэрнат пакет малака і батон. Паклаў цыгарэты ў кішэню і руку з яе не вымае, акуратны, прыемна-цвёрды, суха-слізкі, востра-рабрысты пачак трымае, у любую хвілю чалавеку гатовы дапамагчы.

За цыркам, на свіслацкім мосце, папрасілі ў яго запалку: агеньчыку. Папрасілі дзяўчаткі. Папрасілі і цыгарэты гатовыя да вуснаў прыгожых прытулілі, паказваючы тым, што не халяўшчыцы яны нейкія, а сваё маюць. Тут ужо Шэры знайшоўся, што сказаць: "Сам шукаю", – амаль з радасцю прамовіў ён і дастаў з кішэні руку з пачкам "Л&M". Дзяўчаткі спагадліва міргнулі вялікімі вейкамі і адляцелі ад яго маладажвава, нібы гарэзлівым ветрыкам падхопленыя.

На запалкі ў Шэрага грошай хапіла. Ён зайшоў у нейкі дворык за "Акіянам", сеў на пустую лаўку, дастаў цыгарэціну, пацiскаў яе пальцамі – сухая, хрумсткая, смачная, і прыпаліў Зацягнуўся дымам, прытрымаў яго ў сабе, выпусціў носам, як некалі, і закашляўся. Галава палягчэла, пайшла кругам Даўно ён не паліў і прыбалдзеў ад глыбока ўсмактанага дыму адразу, як ад чаркі. Быццам падсунулі яму цыгарэты з траўкаю. Турботы й незадаволенасць сабою, набытыя ў дарозе, амаль забыліся, вылецелі з галавы, выдзьмуліся разам з дымам. На другі канец лаўкі селі хлопец з дзяўчынаю. Доўга па чарзе пстрыкалі запальнічкаю, але да Шэрага не звярталіся. Ён ужо сам хацеў прапанаваць запалкі, але тут агеньчык пырскнуў і затрапятаў.

"Хоць ты ідзі на скрыжаванне ды бабулек цераз яго пераводзь", – зноў прыгадаў свой нядаўні клопат Шэры І зноў стала яму кепска ад усведамлення сваёй нікчэмнасці і непатрэбнасці. Дзяўчына і хлопец палілі і рагаталі. Гучна, смела, нібы з нейкім выклікам Шэраму Яго гэта злавала. Выводзіла з сябе Ён узненавідзеў раптам гэтую кірпатую з непамерна вялікімі – на паўтвара – вуснамі дзяўчыну, і гэтага хлопца, у якога замест галавы быў адзін рот з глоткаю, што выстрэльвала словы і рогат. Хрумснуў у руцэ пачак цыгарэтаў, хрумснуў у другой карабок запалак. Дрэвы трывожна зашапацелі і стулілі свае галовы над Шэрым... Не, ён нікому і нічому не зайздросціў. Проста быў у яго сёння вольны дзень, а грошай на пляшку не хапіла б.



# ЛІСТАВАЛЬНІК

Неяк у адной бібліятэцы мне патрапіў у рукі дапаможнік па напісанні лістоў Ён называўся· "Справочник для начинающих адресантов" На першых 60-ці старонках расказвалася, якія бываюць канверты і як правільна пісаць на іх індэкс, далей – што пазначаць у першым радку "адреса получателя", у другім, трэцім, чацвертым і, калі ён ёсць, у пятым, а потым – як уласна і пісаць лісты. Сама па сабе справа вядомая, не раз робленая шмат кім, але як цікава аўтар распавядае пра яе Вось паслухайце· "Прежде чем приступить к рассмотрению конверта. где размещаются параллельные линии для написания адреса получателя, сколько их, в каком порядке идут (забегая немного вперед, скажу, обязательно проверьте: сначала идет первая или вторая линия – это очень важно, т к. от этого зависит весь порядок написания адреса адресата, о чем мы поговорим ниже) и т.д., убедитесь, что конверт изготовлен на Пермской фабрике Госзнака, иначе не исключена подделка, ради марки, а значит, ваше письмо может не дойти до адресата – оно будет изъято на первой же почте и вас, возможно, будут ждать большие неприятности, вплоть до штрафа от 5 до 5000 рублей, не менее, по статье 225, п 3, пп. 7 УК РСФСР от прошлого года. " Я перапыняю цытату, прабачце, не закончыўшы сказ. Але вы, думаю, упэўніліся: тое, што вы лічылі дробязямі, аказваецца, вельмі істотна, і яго варта ведаць кожнаму Аўтар якраз пра гэта папярэджвае. Аднак галоўнае ў кнізе, на мой сціплы погляд, – яе вобразнасць. Практычна на кожны выпадак, на кожнае паштовае дзеянне ў аўтара ёсць цікавы, запамінальны прыклад. Вось, скажам, жыхарка горада Р. на Доне Аляксандра К.-Іваноўская няўважліва напісала нумар сваёй кватэры і дома (прасцей сказаць, пераблытала іх месцамі), дык ліст да яе вярнуўся ажно праз дваццаць (!) гадоў. "Вот чего стоила адресанту одна маленькая ошибка..." – дасціпна завяршае аўтар свой расповед.

Аднак, прабачце, я не рэцэнзію пішу Я дзялюся радасцю ад змястоўнай, з задавальненнем прачытанай кнігі Бо з не меншай цікавасцю чытаюцца і старон-

кі, дзе аўтар расказвае нам, як правільна пісаць лісты бацькам, каханым, блізкім і далёкім людзям, сябрам і, асобна, сяброўкам і г.д. Вось тут талент ягоны раскрываецца напоўніцу, альбо – расцякаецца на шырыню Волгі, як ён сам вобразна піша, дзеля рэкламы, вядома.

Мне здаецца чамусьці, што вам наўрад ці патрапіць чыста выпадкова гэтая кніга, а таму хочацца цытаваць і цытаваць яе бясконца. Аднак аб'ём майго кароткага паведамлення не дазваляе гэта зрабіць. Я бачу, мне паказваюць ужо з галёркі, што трэба закругляцца і пачынаць глядзець фільм пра Бельмандо. Таму на ўсялякі выпадак назаву каардынаты гэтае кнігі: "Учпедгиз, М., 1953" (назву глядзіце ў пачатку). Наклад невялікі. А таму, калі надарыцца быць у Менску, зайдзіце ў нашую Ленінку і хоць бы пагартайце гэтую кнігу Не пашкадуеце, бо даведаецеся шмат новага, пазнавальнага пра лісты і іх аўтараў, пра пошту і паштароў, пачытаеце, нарэшце, што і якім чынам пісалі нашыя продкі ў XX-м стагоддзі. Дзякуй за ўвагу

# ДЗЯДЫ

На старасці гадоў жыццё зноў звяло былых аднавяскоўцаў дзеда Сахвея і дзеда Гурка На гэты раз у раённай бальніцы. А былі яны, трэ сказаць, яшчэ мацакамі і хваробы свае, хутчэй за ўсё, выслухалі ў суседак на прызбах пад час доўгіх вечаровых размоў

Сумаваць дзяды не сумавалі і іншым не давалі. Раніцай слова за слова пераходзілі яны да ўспамінаў пра знаёмых, пра пачутае, пражытае Сахвей жыццё сваё адпрацаваў на ферме і ніколі вышэй даглядчыка па "службовай лесвіцы" не падымаўся. Гурок жа з брыгадзіраў выбіўся ў загадчыкі фермы і такіх Сахвеяў меў у падначале з дзесятак. Таму пагледаў ён на Сахвея звысоку і не даваў сабе пярэчыць ні каліва. Дзед Сахвей хутка зразумеў, чаго ад яго хочуць, у самыя напружаныя моманты змаўкаў ды хітра прымружваў вочы, каб бачылі ўсе, што наўмысна саступае ён дурню А таму гаманілі дзяды, нібы ў шахматы гулялі: твой ход – мой ход, шах! – пат...

– Што, пустабрэхі, зноў сваю шарманку завялі, – казаў пузаты Сцяпан з суседняй палаты і прыладжваўся з раніцы ля вакна дзядоў слухаць, бо тэлевізар бальнічны згарэў.

І вось загаварылі аднойчы дзяды пра маладосць сваю, пра дзевак, што мацалі ды кушталі.

– Хочаце – верце, хочаце – не, – пачаў дзед Сахвей з любімых сваіх слоў і прыгадаў, як працаваў ён пастухом на далёкай ад вёскі кашары. Раніцай і ўвечары прыязджалі сюды даяркі – маладыя дзяўчаты, кароў даіць Было іх дванаццаць. І штовечар дзед... не, тады маладзенькі чубаты хлопец, браў тую, што хутчэй падаіла ці больш надаіла, і вёў у канец кашары... І гэтак натуральна ўсё выходзіла, што й няўцям яму было спачатку, што быў ён яшчэ па дарозе падзелены між дзяўчатаў жэрабям. Але – далей. Больш за іншых упадабаў ён Кацярыну.

– Пастой, якую Кацярыну? – перапытаў Гурок.

– Ды жонку тваю, – як бы між іншым адказаў Сахвей і, пакуль у Гурка адвісала сківіца, працягваў· – Ай, гарная ж дзеўка была.. А шмонька ў яе: возьмешся – пухленькая, кругленькая, ладненькая, ну як той каршчэчак.. Ні ў каго больш такой не было. Боўтаецца бывала, як таўкач у ступе, і ні смаку табе, ні наедку. А ў тваёй Кацярыны, ды яшчэ ў маёй Васіліны, трымала – ну як у зубках..

– Няпраўда! – зароў дзед Гурок. – Ня-я-праўда! Я сваю цэлкаю выбраў. Брэшаш, гаўнюк! – і кінуўся на Сахвея.

– Стой! Стой, хлопцы, – разбараніў пабраўшыхся загрудкі дзядоў пузаты Сцяпан, – позна ўжо, заўтра даб'яцеся. А зараз папрастарэкавалі – і на бакавую Кладзіцеся, кладзіцеся..

– Ды я з ім сра-аць побач не сяду, – кінуў дзед Гурок, – а не тое што спаць у адной палаце .

Ледзь уклалі Гурка. І доўга яшчэ палата чула з ягонага ложку·

Брахло.. Цэлка. . Гаўнюк. .

А раніцай разбудзіў усіх крык медсястры, што прыйшла ўколы рабіць:

– Дзед, ты што гэта надумаў, уставай .. – і бразь, бразь па шчаках.

Але дзед Гурок ужо не чуў анічога. Памёр. Сэрца, сказалі, не вытрымала А мог бы жыць шчэ ды жыць.





# АДЧАЙ

Ён злез з дуба чатырнаццатага траўня ў семнаццаць нуль-нуль. Зняў чаравікі, паставіў па розныя бакі камля.

Да яго падышло некалькі жанчын. Адная зусім блізка. Так, што можна было працягнуць нагу і памацаць яе жывое цела.

Жанчыны мала цікавілі яго. Ён шмат бачыў іх і там, на дрэве. Ён ведаў, што яны бываюць ласкавымі, калі ім нешта трэба, і грубымі, калі нешта трэба ад іх. Цяпер жа ні яму, ні ім нічога не трэба было. І яны проста разглядвалі яго, а ён – іх.

Мусіць, недзе блізка была вёска, бо раптам зарыкала карова і ёй азваўся пісклявы малады певень, у якога атрымалася не паўнакроўнае "кукарэку", а штосьці накшталт "і-і-і-і".

Жанчына, што была бліжэй за ўсіх, лагодна ўсміхнулася яму. Пэўна, гэта яна першай убачыла яго, "знайшла".

"Колькі ў цябе такіх, як я?" – падумаў ён. Зірнуў уверх, на роднае дрэва, дзе засталіся ягоныя суседзі і халасцяцкія гутаркі, дзе засталося ўсё лепшае, што толькі можа быць, што толькі можна прыдумаць...

Жанчына ўжо кратала яго за плячо: пайшлі. Іншыя абступілі камель і пачалі трэсці дрэва. Гэта было супраць правілаў, гэта было парушэннем дамоўленасці, аднак гэта паўтаралася кожны раз, калі нехта злазіў. Там, наверсе, усе пра гэта ведалі і трымаліся, хто як мог Ды жанчыны і не спадзяваліся на ўдачу. А мо наадварот – баяліся, што зваліцца не мужчына, а жанчына.

Жанчына звязала разам шнуркі ягоных чаравікаў і перакінула іх – праз плячо. Толькі цяпер убачыў ён, якія ў яе грудзі. . Але лепш бы ён гэтага не бачыў ніколі.

# ВУЧУСЯ...

"Береги честь смолоду, а одежду снову", – казаў адзін расейскі класік вуснамі расейскай жа прымаўкі. Ён нават узяў яе эпіграфам да адной сваёй гісторыі з расейскай жа гісторыі. Мы вывучалі яе ў школе, расейскамоўнай школе, якая звалася беларускай, бо знаходзілася ў далёкай ад Расеі беларускай вёсцы, куды героі расейскай гісторыі, расказанай расейскім класікам, не маглі патрапіць у свой час, бо тады, як і цяпер, гэтая вёска была толькі беларускай. Гэта потым яна стала расейскай вёскай, потым савецка-беларускай, а цяпер – проста беларускай, як і некалі, калі адбываліся падзеі, што апісаны расейскім класікам у гісторыі з расейскай гісторыі з эпіграфам "Береги честь смолоду, а одежду снову". К слову пра эпіграф: адразу прыгадваецца іншы расейскі класік, які жыў да ўзгаданага ўжо расейскага класіка, і ягоны эпіграф да свайго падарожжа па сваёй жа краіне – "Чудище – обло, озорно и лайя". Здаецца, я прапусціў "стозевно", але куды яго прыткнуць – не ведаю. Адное памятаю: "обло" было першым азначэннем, "лайя" – апошнім. Значыць, альбо перад "озорно", альбо пасля. Калі кіравацца логікай, то – да, а калі рытмікай, то – пасля. Але хопіць пра гэты эпіграф. Нас цікавіць іншы. Бачыце, як я ўпэўнена кажу "нас", а не "мяне", бо перакананы, што зацікавіў вас, калі вы дачыталі дасюль, сваёю пісанінай пра адзін эпіграф аднаго (і, хочаш не хочаш, тут трэба казаць) – паэта. Бо хоць згаданы расейскі класік і пісаў прозу, быў ён і застаўся ў гісторыі расейскай літаратуры як паэт, як класічны паэт, як класік расейскай паэзіі, хоць і былі ў яго іншыя празаічныя рэчы, якія ён таксама прыхарошваў эпіграфамі. І наогул ён надта любіў эпіграфы і падбіраў іх нават да асобных раздзелаў сваіх твораў, а ўжо да кожнага з апавяданняў, названых па тагачаснай звычцы аповесцямі, дык дакладна. Але пра эпіграфы. Расейскі класік быў геніяльны ва ўсім. Нават у эпіграфах, узятых з чужых твораў, альбо ў народа. Вось і тая прымаўка, якая стала эпіграфам да знакамітага ягонага твора, скарыстана геніяльна: узята толькі першая частка яе – "Береги честь смолоду", менавіта так – "Береги честь смолоду" і ўсё, без ніякіх шматкроп'яў напачатку ці ў канцы. А знізу подпіс: "прымаўка", хоць тут палова яе, і без азначэння – "расейская", альбо "рускага народу". Геніяльна! Проста і з густам. Як і ўсё, што ён рабіў. Вось ад гэтай класічнай простасці я і балдзею. Заўсёды, прыгадваючы "Береги честь смолоду, а ..", я замаўкаю. До. Досыць. Dixi. Народ, часам, бывае больш шматслоўным, чымсьці ягоны геній, і тады геній мае права папраўляць народжанае ў народзе, падкараціць да афарыстычнасці. Адшліфаванае ў вяках, дашліфоўвае геній, але народ свайго

не цураецца, і рэдка бывае, каб геній аднога чалавека перамог, адолеў народны геній, і ў рэшце рэшт народнае перамагае, бо яно само па сабе ўжо адшліфаванае ідэальна і ўсё лішняе для генія – не лішняе для яго. Таму, хоць расейскі класік і сказаў толькі "Береги честь смолоду", на самой справе ён сказаў· "Береги честь смолоду, а одежду снову", хоць мне ўслед за класікам таксама надта не падабаецца гэтае ", а о...", хачу я таго ці не хачу, яно ёсць, яно прысутнічае ў тым эпіграфе, пазычаным расейскім класікам у расейскага народа, але не цалкам, а без апошніх словаў, прычым не пазначаючы нават хоць бы шматкроп`ем, што яны ёсць: "Береги честь смолоду"

Геніяльна проста.

# Сюжэт аповеда з умоўным назовам "МІШЭНЬ"

Нехта жыве

Дзе? – Здаецца, побач з намі, бо акаляюць яго дрэвы і нейкія камяніцы. Але (таму!) хутчэй за ўсё гэта горад. Маладая ўскраіна старога горада, дзе камяніцы чаргуюцца з дрэвамі нядаўняга лесу. Аднак, усё няпэўна, бо гэта няважна.

Жыццё ягонае цячэ спакойна, размерана, без імклівых паскарэнняў, хоць і не ўсё ў ім прадумана і бываюць нечаканасці, якія ставяць героя ў некамфортнае яму становішча. Выблытваецца ён няўмела, як муха з павучыння, толькі заблытваючыся яшчэ больш Жыццёвая твань засмоктвае яго ўсё глыбей і нарастае (разам) напружванне ў творы: быццам нехта струну нацягвае, і вось момант і – дзынь! – яна рвецца. На самай высокай (для сябе) ноце.

Струна рвецца, але тут не азначае гэта смерць героя. Ён жыве Ён сам накручваў гэтую струну, і яна балюча сцебанула яго па руках. Струна тут (як і балота, як муха ў павучынні) паралельны вобраз, які дазваляе трымаць у творы ўнутраную напругу і не выпускае са свайго павучыння чытача.

Усё, што адбываецца з героем, звычайнае аж да натуралістычнасці. (Занатоўваю думкі, і ўвесь час згадваецца Джойс, але джойсаўшчыны ў творы не павінна быць, як і кафкаўшчыны ці камюзму, хіба толькі ў такой ступені, у якой усё гэта ёсць у жыцці, а не ў літаратуры.) Герой збіраецца класціся спаць. Мы застаем яго за гэтым заняткам. Ён раскладвае канапу, дастае бялізну і пры гэтым размаўляе з жонкай па тэлефоне. Жонка паехала да маці ў суседні горад (ці вёску, ці яшчэ некуды, што няважна), і адтуль дае нейкія "ўказанні" мужу. Нешта, адкладваючы на хвілю тэлефон, ён тут жа робіць, нешта абяцае зрабіць заўтра. У іх размову ўрываецца гук уключанага тэлевізара (яны глядзяць адну і тую ж перадачу і нават перамаўляюцца пра яе) Званок у дзверы. Прыходзіць суседка. Нешта прыносіць. Бярэ слухаўку, размаўляе з жонкай героя. Ён тым часам ганяе па пакоі камара, які ўсю мінулую ноч не даваў яму спаць. Паралельна – асацыяцыі (як плынь свядомасці), куды можна ўплесці ўсё, што заўгодна.

Герой кладзецца спаць, але мы не ведаем, ці прачнецца ён. Дакладней, мы ведаем, што не прачнецца. Прынамсі ў гэтым творы. Бо вечар гэты і ёсць усё ягонае жыццё, а сон – смерць. Аднак нельга сказаць, што герой стары і памірае па ўзросту (мы наогул не ведаем, колькі яму гадоў), і не хворы ён Проста ён канчаецца, як канчаецца аповед ці аповесць, як сканчаецца дзень дзеяння – бяздзеяннем: сном, як святло пераходзіць у цемру, што напачатку заўсёды здаецца бясконцай...

# ЦЭЛАЕ ЦЕЛА

Ніхто мне нічога не скажа. Бо нідзе буду я. Нават той, хто будзе шукаць, не знойдзе мяне там. Але тыя, што запомнілі, – не забудуць. Так зніТоўваецца несумяшчальнае. Як дзень і ноч злучаюцца ранкам і вечарам, і хто чыё дзіця – паспрабуй здагадайся. А можа, яны і ёсць тыповая сучасная сям'я: бацька, маці і двое дзетак: раніца і вечар. Хлопчык і дзяўчынка. Я ж сям'і не маю. Я менш, чым адзін, чым адзінка. Бо не магу стварыць пару-двойку з другою адзінкай. Я нікчэмнасць, і месца маё толькі там, дзе ніхто і шукаць мяне не будзе. Ніхто са мною не развітаецца, ніхто не закрые мае павекі. І думаю я: а ці жыў я, ці быў? Бо нікому не стаў патрэбным. Адзінае месца, з якога мяне не выжыць, – людская памяць. Бо непадуладная яна ні розуму, ні пачуццям. Там буду жыць я І там ніхто ніколі не здагадаецца мяне шукаць, каб паведаміць самае важнае: ты памёр.

"Нідзе – Недзе – Надзея – Дзе я ? – Я дзе? – Нідзе .." – блукае мой стомлены розум і не знаходзіць адказу Я сам заблудзіўся, я сам сябе згубіў, я сам сябе не магу знайсці нідзе. Лётае душа па свеце, спускаецца ля цела, якое, пэўна ж, было ейным, а цела тое – нерухомае, значыць – цяпер не яе. А дзе ж яе? Нідзе Недзе.. Не йдзе . Знойдзе.. Ной це-ла. Цэла-е. Іе! Йес...

# СТОМА

У самым гушчары няходжанага дрымучага лесу пасярод Сахары стаяў дзевяціпавярховік – дом адпачынку для стомленых жыццём кенгуру, якія ў два скачкі, без перасадак, прылятаілі сюды са сваёй Аўстраліі, каб завесці тут новыя знаёмствы, выдаць кнігі ўспамінаў, пасадзіць дрэва, забіць змяю, – словам, адпачыць па-сапраўднаму, як і прынята сярод тых, хто толькі пачынае самастойнае жыццё і яшчэ не ведае, што такое жанчына (у сэнсе – самка), альбо мужчына (самец), аднак, маючы трое, а то і чацвёра дзяцей, разумее, што ім, дзецям, трэба паўнацэнная сям'я з бацькам і маці – інакш давядзецца іх вучыць пісаць і чытаць аднаму, альбо наймаць чужую сям'ю, што не кожнаму па кішэні, асабліва цяпер, калі даражэюць нафта, вугаль, метал і ўсё зробленае з іх, калі вырвацца на адпачынак у Сахарскі лес без чаргі можна ўсім, хто мае знаёмцаў паза межамі ўласнае спачывальні ці проста мае грошы, калі так красуе і пахне язмін, што ўсе заробкі ідуць на дэзадаранты ды антыалергікі, калі на ўсіх скрыжаваннях толькі й рэкламуецца сытае сямейнае жыццё ў суседніх краінах, дзе даўно вырашылі праблему адпачынку і забяспечылі кожную сям'ю не толькі асабістымі сябрамі па ўсім свеце, але і бестэрміновымі спісамі жаданняў, якія дзяржава можа выканаць у любы момант, варта толькі паведаміць адпаведным службам, чым займаюцца начамі вашыя суседзі, і вас тады ў гэты дзень нікуды не забяруць, а мажліва, калі вы яшчэ не сямейны чалавек, адпусцяць у Сахару, на стварэнне новай ячэйкі грамадства, словам, на адпачынак, дзе сярод знаёмых і незнаёмых кенгуру так лёгка думаць і трызніць, так добра адчуваць сябе патрэбным сваім і жончыным дзецям усёй планеты.

# НОГІ

1 Толькі пад раніцу вярнуліся мае ногі. Нічога не сказаўшы, ляглі побач і заснулі.

Я даўно чакаў іх, бо вельмі хацеў у прыбіральню. Аднак цяпер чапаць іх не стаў: хай паспяць, хай адпачнуць.

Жоўтая раніца сонцам уваходзіла ў пакой. Заспаныя машыны раздражнёна вуркацелі пад вакном. Сусед зверху пайшоў у прыбіральню. У суседа знізу загаманіла радыё .. Цяпер ужо не заснеш ажно да наступнай ночы. Беганіна, мітусня цэлы дзень. Ногі ведаюць, дзе бываю я. А вось дзе былі яны гэтай ноччу і чаму так позна вярнуліся – я не даведаюся ніколі. Ну і д'ябал з імі, таго клопату! Прыкінуся, што спаў і нічога не бачыў

2. Толькі пад раніцу вярнуліся мае ногі. Стомленыя, з адбітым пазногцем на правым вялікім пальцы, з засохлай карычневай плямкай крыві на левым мезенцы. Карычневай – ад бруду, ад застылага ў крыві шэрага пяску.

Іх трэба было б пашкадаваць, памыць, дагледзець... Але я быў злы на іх: мне даўно хацелася ў прыбіральню, а без іх я не мог і кроку ступіць.

Я паварушыў пабітым пальцам. Ён забалеў Ну вось – яшчэ клопат. З гэтымі нагамі, што валочацца невядома дзе начамі, адныя непрыемнасці. А можа, ім са мною? Яны прыйшлі – стомленыя, збалелыя, ім бы адпачыць, а трэба ўставаць і бегаць цэлы дзень па нечых справах, займацца немаведама чым. . Хай адпачнуць. Калі мы самі не пашкадуем адно аднога, дык хто яшчэ на гэтым свеце пашкадуе нас?

3. Толькі пад раніцу вярнуліся мае ногі. Вочы пераміргнуліся між сабою, маўляў, ведаем мы, дзе вы былі; рот пачаў шаптацца аб нечым з вушамі; рукі заламаліся ў бяссіллі: ім таксама хацелася волі, хацелася шпацыру, але яны маглі

толькі скруціць па кукішу ды паказаць адна адной, а не хадзіць; нос адвярнуўся пагардліва, заўважыўшы на пятцы растаптаны каравяк; лоб памаршчынеў у здзіўленні і зноў стаў гладкім; адзін я ніяк не выказаў свае пачуцці: я зрабіў выгляд, што сплю, хоць даўно ўжо не спаў, бо надта ж хацеў у прыбіральню.

4. Толькі пад раніцу вярнуліся мае ногі. Шухнулі пад коўдру і сцішыліся, затаіліся, як вінаваты, пабіты сабака. Яны зразумелі: я даўно прачнуўся і чакаю іх. А значыць, без тлумачэнняў сёння не абысціся.

Я даўно заўважыў тую лёгкасць, што з'яўлялася ў мяне начамі. Я адчуваў у сне, як невялікі мой ложак раптам становіцца бясконца доўгім. Але застаў ногі за злачынствам, альбо за здрадай упершыню.

Я адкінуў коўдру: а ці мае гэта ногі вярнуліся? Ці не пераблыталіся яны недзе па дарозе? І ледзь не самлеў ад жаху· мне падалося, што ў мяне дзве правыя нагі... "Бр-р-р...", – у вачах пацямнела, аднак, калі я прыгледзеўся добра, убачыў – усё нармальна, усё як след: ногі розныя і мае..

"Але ж і дурны сон прысніўся мне", – падумаў я і адчуў, што моцна хачу схадзіць у прыбіральню.

5. Толькі пад раніцу вярнуліся мае ногі. Сталі здымаць брудныя шкарпэткі і прыціраць імі між пальцаў. Мне стала агідна, брыдка. Я не люблю глядзець, як тое робяць іншыя, а тым больш ніколі не дазваляю сабе самому рабіць гэтак... "Схадзілі б лепей пад душ", – падумаў я. Але ногі, заклапочаныя нечым сваім, спрытна каўзанулі да мяне пад коўдру, прыладкаваліся на сваё месца і заціхлі, стомленыя і разняволеныя.

Стома раптоўна навалілася на мяне, і я заплюшчыў вочы і адразу заснуў, адключыўся, забыўшы нават пра тое, што вельмі хацеў у прыбіральню.

# МАЎЧАННЕ

Між намі расла трава... І якое б пытанне ты мне ні задавала – заўсёды знаходзіўся на яго адзін-адзіны адказ. Была то – туга. Па тым, што мы памяталі і што яшчэ памятала нас. Цяпер думаю я (кажу табе, і ты згаджаешся), што гэтак бывае толькі тады, калі страчанага не знайсці, калі ў пакінутае не вярнуцца.

Між намі была трава. . Мы былі маладымі. І нас хвалявала блізкасць нашых целаў. Ты пыталася – я адказваў А можна было проста маўчаць, бо ўсё зразумела было без слоў, бо словы нічога не дадавалі і наогул нічога не азначалі, бо ўсё забівала, тлуміла і тлумачыла сабою адно пачуццё – туга... Па тым, пра што не гавораць уголас нават самыя блізкія людзі і пра што маўчаць тут, побач з намі, чужыя людзі. Ты кажаш (і я згаджаюся), што гэтак бывае заўсёды, калі пра мінулае засталіся толькі ўспаміны, а будучыні зусім няма. . Бо нас ужо – няма.

Няма там, дзе цяпер усе нашыя думкі і пра што ўсе нашыя ўспаміны. Няма там, дзе красуе цяпер трава, што расце між намі...

# С-С-С-О-О-О-Н-Н-Н

Учора мне прысніўся сон: мы разам з Ду Фу ідзем у госці да Лі Бо. Мажліва, на дзень нараджэння, а мажліва, і проста так, па-сяброўску.

У Ду Фу ў руцэ скрутак з апошнімі вершамі, сярод якіх і прысвячэнне Лі Бо. Аднак мы гаворым пра мае вершы. Ду Фу не падабаецца, што шмат у іх тэхнікі – самалёты, аўтамашыны, ракеты, цягнікі... і мала жывой прыроды. Шмат пераживанняў, ды мала думак.

Я з ім пагаджаюся. Самалёты, цягнікі – гэта ўсё, безумоўна, другаснае. Яно не павінна заўважацца, не павінна вытыркацца, а тым больш назаляць. "Але я чалавек свайго часу, – апраўдваюся я, – і пішу пра тое, чым жыву, што бачу, што мяне акаляе. У маім горадзе бегаюць не рыкшы, а таксоўкі. І я пішу пра іх.. "

Ду Фу пасміхаецца ў сваю рэдзенькую бародку, гледзячы ці то на мяне, ці то некуды далей – туды, дзе па рэйках лёгка імчыць цягнік з паўсотняй вагонаў.

"А ведаеш, – кажа ён раптам, – не слухай ты мяне. Паэтычным можа быць усё: і росная ружа, і слізкая жаба, і халодны паравоз, і гарачы конь. Трэба толькі, каб душа словы знайшла, каб прыгожа апранула думкі. А гэта альбо дадзена чалавеку ад нараджэння, альбо – не. Так было і ёсць ва ўсе часы... Вось мы і прыйшлі..."





Лі Бо сустрэў нас ля ўваходу. Павітаўся з Ду Фу і зрабіў выгляд, што мяне не заўважыў Мне засталося адное – прачнуцца.

# КАБ ЖЫЦЬ

Прасторны ружовы пластмасавы корак з-пад віна быў найлепшым жыллём для мяне, маёй бочкай, у якой можна было думаць і марыць, мроіць і планаваць. Круглыя бакі яго стваралі шмат нязручнасцяў і не давалі магчымасці спакойна сядзець. Але – мяне гэта не раздражняла, наадварот, супакойвала. Бо нішто больш акрамя гэтага не адцягвала маю ўвагу, а да круглых сценаў і падлогі – гэта ўмоўна, бо невядома было, дзе сцены пераходзілі ў падлогу, а падлога ў сцены, – я прызвычаіўся даўно. Асабліва добра тут было падчас непагадзі, дажджоў – суха. Аднак якраз тады найчасцей і нападалі на мяне, хацелі займець маё жытло, ворагі – мокрыя і знясіленыя кроплямі дажджу, якія альбо асядалі на іх, калі былі дробнымі, альбо збівалі іх з ног і перакульвалі, калі былі буйнымі. І ўсё ж кожны раз хто-небудзь дапаўзаў да майго дома, і тады даводзілася мне распачынаць абарону яго. Абараняўся я, трэба прызнацца, няўмела, прымітыўна: кусаў працўйніка за першую працягнутую да мяне нагу, біў яго па галаве, драпаў ягоны панцыр.. Аднак, як ні дзіўна, заўсёды перамагаў, бо абараняцца, зразумела, нашмат лягчэй, чымсьці нападаць. Мне проста пашанцавала, што я першы знайшоў гэты корак, інакш я яго ніколі не заняў бы, не адваяваў бы.

Час паміж абаронаю жытла і сном я прысвячаў думанню, альбо філасофіі. Пра ежыва мне асабліва клапаціцца не даводзілася, бо заўсёды знаходзілася тая ці іншая цікаўная істота, якая падлаўзала да майго жытла і рабілася маёю лёгкаю здабычаю.

Шляхам доўгіх разваг я прыйшоў да адной кароткай высновы, якую спрабаваў аспрэчыць з розных бакоў, аднак зноў і зноў вяртаўся да яе. Я не прэтэндую на ісціну ў апошнім азначэнні, мажліва, яна, гэтая ісціна, у кожнага свая, а мажліва, яе наогул няма і я проста часова памыляюся: пройдзе час і на даляглядзе ўзнікне новая і на нейкі тэрмін неабвержная і канчатковая ісціна. Мажліва. Але ўжо самі гэтыя сумлівы перакрэсліваюць усе папярэднія мае развагі і наогул мажлівасць знайсці выснову, агульную формулу, адно, простае і зразумелае ўсім, тлумачэнне сэнсу нашага існавання ў свеце, у сусвеце, існавання наогул. Мне так і хочацца зараз сказаць: вось яна, гэтая выснова. І назваць яе. Але ці варта гэта рабіць, бо тысячы тысяч філосафаў, кожны, зразумела, пасвойму, шукалі і знаходзілі гэты адказ, гэтую выснову і прапагандавалі яе. І ўрэшце выходзіў пшык. Бо, стаўшы ўсеагульнай, можа, і правільная, выснова рабілася прывабнай ідэяй, шляхапаказальнай зоркай для мільёнаў сваіх прыхільнікаў, якія ў выніку дыскрэдытавалі яе, зводзілі на нішто. А таму скажу найкарацей і найзразумелей для ўсіх: сэнс жыцця ў тым, каб жыць. І няхай нехта называе гэта абсурдам, нехта парадоксам, а нехта бязглуздзіцай. .

Прашу прабачэння, у мой дом хтосьці прасунуў сваю нахабную нагу. Буду бараніцца. Каб жыць...

# СУСТРЭЧА

Дрэвы губляюць сваю лістоту, чалавек губляе сваіх сяброў, жыццё губляе свой сэнс, я старэю...

Няма нічога вечнага ў гэтым жыцці, усё змяняецца, і новае неабавязкова лепшае за старое, як і ў свой час старое, калі было новым.

Пакуль мы жывем, не губляецца, не старэе, застаецца вечнай толькі нашая памяць, і яна час ад часу падкідвае нам такія нечаканыя паралелі і мерыдыяны, што дзіву даешся: няўжо, пакуль ты еў, піў, хадзіў, спаў, чытаў, пісаў і г.д., недзе ў табе жылі і гэтыя веды, жылі, каб у адзін пэўны момант раптам прарасці і расквітнець, засланіць сабою краявід за вакном і наталіць душу жаданнем перасяліць іх з галавы на паперу – матэрыялізаваць, нарадзіць і, у адрозненне ад сябе самога, недасканалага і часовага, даць свету нешта адносна вечнае.

Пра што я? І чаму раптам з'явілася ў мяне неадольнае жаданне пісаць, менавіта цяпер пісаць, неадкладна выплюхнуць на паперу ўсё, чым перапоўнена, калі сказаць прыгожа, – душа?..

Здарылася вось што: сёння ранкам, па адной не надта пільнай патрэбе, пайшоў я на рынак, на стадыён "Дынама", куды ў

зімовыя выходныя перамяшчаецца ўсё жыццё Менска, дзе віруе людская плынь, дзе зло змагаецца са злом і перамагае Мне трэба было набыць падарунак да дня нараджэння, які будзе ў сябра праз месяц, але я не хацеў адкладваць на потым справу даволі далікатную і важную для мяне, бо прыдумаць сам, што купіць, я не мог і спадзяваўся – мо рынак сваім выбарам мне нешта падкажа.

Я йшоў па рынку між людзей, як між дрэў, і гэта было б праўдай, каб не штурхалі людзі мяне час ад часу, нагадваючы, што жывыя і што таксама маюць у гэтым жыцці сёння нейкую мэту, адрозную ад маёй; я йшоў, і толькі вочы мае працавалі, давалі мне інфармацыю пра тое, што ёсць, а я дадумваў, трэба мне тое ці не трэба, аднак якраз таго, што спыніла б мяне ў здзіўленні і непераадольным жаданні набыць, – не было.

Я ўжо заканчваў першае кола абходу, калі з-за аднае палаткі раптам выйшаў насустрач мне нейкі чалавек. Нашыя позіркі сустрэліся, і мы пазналі адзін аднога. Сцвярджаю гэта пэўна, бо я пазнаў яго дакладна і паспеў заўважыць, як забегалі туды-сюды ягоныя вочкі, нібы ён схавацца хацеў ад майго погляду. Зрэшты, мажліва, я і памыляюся: пазнаў толькі я яго, і ён па маім позірку здагадаўся пра тое, і нешта варухнулася ў ім даўно забытае, але так і не ўсплыло з глыбінаў памяці. Я ж адразу пазнаў у гэтым сталым ужо чалавеку, апранутым, як і большасць прадаўцоў на рынку ўзімку, у цёплыя, ледзь не вышэй калена, жоўта-карычневыя валёнкі, у пацерты, але яшчэ файны, кажух, у сабачую шапку, вушы якой былі апушчаны і падвязаны пад барадой, нібы ў палярніка, – таго рыжага малойца, які некалі падышоў да мяне, юнага студэнціка-першакурсніка, у ЦУМе і сказаў· "Пару слоў для прэсы. адыдзем трохі ў бок..." Можа, словы гэтыя падзейнічалі на мяне магічна, а можа, я не ачомкаўся яшчэ ад сваёй пакупкі, але я паслухаўся малойца і адступіў колькі крокаў убок, стаў спінаю да касы, за якою, здаецца, нікога не было. Трэба сказаць, што прыйшоў я ў ЦУМ, каб набыць паліто. Была ўжо восень, позняя дажджлівая восень, а я ўсё яшчэ хадзіў у плашчыку, бо старое школьнае паліто апранаць саромеўся перад сваімі новымі савучнёўцамі. І вось бацькі, нарэшце, даслалі мне грошы, я дадаў трохі сваіх з нядаўняе стыпендыі, атрымалася разам 120 рублёў, з якімі я і прыйшоў у краму.

Выбару на мае грошы асаблівага не было Я доўга хадзіў вакол стоек з начэпленымі на іх паліто, некалькі разоў браў то адно, то другое, заносіў у кабінку, мераў, але выбраць нешта не мог· усе мне не падабаліся У рэшце рэшт я спыніўся на карычневым, у буйныя клеткі, паліто за 114 рублёў, паднёс яго да касы, разлічыўся І толькі адышоў са сцятымі ў далоні шасцю рублямі, што дала касірка на здачу, як перапыніў мяне гэты рыжы хлопец.

Я стаў спінай да касы, каб не перашкаджаць хадзіць людзям, якіх было ў ЦУМе ў той дзень нешта вельмі шмат Рыжы хлопец (ці мужчына – не падбяру слова нават, як назваць яго, каб было дакладна), загарадзіў сабою праход, і мы засталіся нібы сам-насам. Якім чынам яму, такому ж невысокаму ды худому, як і я, удалося зрабіць гэта – не ведаю, але бачыў я тады толькі яго. А ён сказаў:

– Ты ведаеш, што з гродзенскай турмы на гэтым тыдні ўцякло восем зэкаў?

Я пра гэта чуў, але то быў час, калі пра такое гаварылі цішком, перадавалі як чуткі, а не так, як цяпер.. Горад, ды што горад – рэспубліка замерла ў жаху, а радыё ды тэле маўчалі. Чуў, аднак, калі перада мною журналіст, то варта было добра падумаць, перш чым прызнацца яму, што ведаеш нешта афіцыйна не аб'яўленае, а значыць – забароненае .. Я маўчаў.

– Дык вось, – працягваў мужчына (цяпер я ўжо канчаткова вызначыўся: у параўнанні са мною, шчаўлікам, быў ён, вядома ж, мужчынам), правільна зразумеўшы маё маўчанне, – яны зараз у Мінску. . Ты іх не бачыў?

– Не, – хуценька адказаў я. І гэта было чыстай праўдай

– Яны тут, у ЦУМе, – яшчэ ўдакладніў-канкрэтызаваў мужчына і адразу ж перайшоў да галоўнага. – Ты хочаш жыць?

Я моўчкі зглынуў сліну, хоць у роце было суха.

– Калі хочаш жыць – давай усе грошы, што маеш, мне ..

Да такога павароту размовы я, яшчэ трохі ўзрушаны, а можа, і шчаслівы пакупкай, гатовы не быў. Твар мой выцягнуўся ў здзіўленні, вочы шырока расплюшчыліся і. . анямелі.

Мужчына тым часам, каб я не сумняваўся ў сур'ёзнасці ягоных намераў, дастаў з кішэні руку, і ў ёй бліснуў нож з адпаліраваным, люстраным лязом Мужчына ўмела схаваў нож у рукаве, а лязо лёгенька прыставіў да майго боку, туды, дзе бывае апендыцыт





– Ну што зацiх, – прамовіў ён рашуча, – давай хутчэй грошы. Мне няма калі з табою цацкацца! Гані грошы – іначай... – І я адчуў, як нешта тупое і разам вострае ўпёрлася мне ў бок.

Я студэнт . – нарэшце загаварыў я, – у мяне няма грошай. Толькі вось засталося... – і я паказаў дзве змятыя, змакрэлыя ў далоні траячкі.

У гэты момант да нас падышоў высачэзны, галавы на дзве вышэйшы за мяне ды і за майго рабаўніка, мужчына. Рыжы і ён пераглянуліся, і рыжы матлянуў галавою, маўляў, усё ў парадку. Высачэзны адышоў.

– Ты не прыдурвайся, а па-харошаму аддавай усё, што маеш, – сказаў рыжы і павярушыў нажом.

– Я студэнт. У мяне было сто дваццаць рублёў Я купіў паліто за сто чатырнаццаць. Засталося толькі шэсць рублёў Здача... А да стыпендыі яшчэ два тыдні.

– Давай грошы, – сказаў мужчына, і я адчуў у ягоным голасе не тое каб нейкае расчараванне, і не тое каб спачуванне, а проста нейкі надлом. Інтуітыўна адчуў Але грошы яму падаў. Усе шэсць рублёў.

Мужчына схаваў іх і нож у кішэню, але не адышоў адразу ад мяне, а стаяў побач, нібы яшчэ чагосьці чакаў. І тут я асмялеў раптам і пачаў казаць пра тое, што жыць мне цяпер няма як, што бацькі жывуць у вёсцы, што да стыпендыі яшчэ два тыдні.. Ён не адыходзіў, слухаў Потым сказаў:

– Не ный На табе тваю траячку Адну

Аддаў і пайшоў. Потым вярнуўся.

– Давай траячку назад. А то нават на пляшку гарэлкі не хопіць. На табе два рублі...

Я аддаў яму траячку, а ён даў мне два свае рублі, і мы разышліся...

Такое вось дзіўнае абрабаванне здарылася. Пазней, колькі я ні расказваў пра гэта хлопцам, яны мне не верылі: як так, спачатку нож пад бок, а потым – два рублі здачы.. Што за злачынец такі чуллівы?

З часам я й сам стаў успрымаць зусім па-іншаму тое, што адбылося Асабліва калі пазнаў свайго рабаўніка ў адным .. кінаакцёры. Быў ён надта падобны знешне, аж да рудога рабаціння вакол носа і ўжо добра акрэсленай, хоць і маладой, лысінкі над ілбом. Больш таго, у тым фільме іграў ён злачынца і фільм здымаўся якраз у Менску Падабенства было настолькі блізкім, што з часам я сам сябе пераканаў· "абрабаваў" мяне ў той дзень акцёр, які ў ЦУМе ўваходзіў у ролю – рэпеціраваў, ужываўся ў вобраз, правяраў сябе. Бо надта ж інтэлігентна для злачынца ён сябе паводзіў А грошы ўзяў як ганарар за згублены час, каб недзе ў гатэльным нумары выпіць з сябрамі пляшку "Сталічнай" і пасмяяцца з нягеглага студэнціка, які ўсё ж асмеліўся нешта заікаючыся пярэчыць, чым і "заслужыў" два рублі да стыпендыі Мне нават стала здавацца, што і нож, і высачэзнага урку я прыдумаў, што было ўсё ад пачатку не сур`ёзна і зусім не страшна, а так.

Мажліва, гэта яшчэ больш сорамна і прыкра, але я супакоіўся. ці мала што ў жыцці бывае, ці мала калі праяўляем мы слабасць, ці мала калі апынаемся ў няёмкім становішчы і выглядаем беднымі ды няшчаснымі.

І вось – сустрэча на рынку.

Не, гэта быў не акцёр. Тут я ўжо ні хвілі не сумняваўся. Гэта быў просты, трохі стомлены жыццём чалавек, які, адчувалася па гэтай стоме, адсядзеў сваё і цяпер, мяркуючы па цяжкіх валёнках, па ўсёй паставе, зарабляе на хлеб чэсна. Чэсна? Гэта, мусіць, напісаў я з-за таго, што над гэтым чалавекам для мяне яшчэ "лунае" арэол акцёра. Ён і сапраўды выглядаў звычайным для базара гандляром, але ці не такія ствараюць "таўкучкі" і "пробкі" ў вузкіх месцах і шныпараць па кішэнях ды кайстрах няўважлівых пакупнікоў? Якраз такія, непрыкметныя.

Але – позіркі нашыя сустрэліся і разбегліся. Ён пайшоў сваёй дарогай, я – сваёй. Адзінае, што засталося ў мяне ад гэтай сустрэчы, – пачуццё трывогі і неспакою. Быццам зачапіў нехта за струну, якая азвалася і вось трымціць, спыніцца не можа. Нічога не адбылося, можна сказаць, ні тады, ні тым болей цяпер, аднак чамусьці неспакойна, і рука цягнецца да асадкі, асадка да паперы.. Нехта кажа пра натхненне, як першаштуршок творчасці. Гэта так, але не заўсёды. Бо ці можна назваць натхненнем тую нашую сустрэчу праз гады, якая вымусіла мяне накідаць гэтыя радкі? Хай спрачаюцца над гэтым тэарэтыкі, а мне цяпер трохі лягчэй. Не ведаю чаму, але палягчэла, нібы раніцай, пасля таго, як расказаў жонцы страшны начны сон...

А падарунак сябру я ўсё-ткі ў той дзень набыў І, дзякуй Богу, на гэты раз абышлося без прыгод. Хоць і чакаў я – шчыра прызнаюся – чакаў, што праз хвілю-другую, праз дзесяць-пятнаццаць хвілін мяне дагоніць той рыжы мужчына, альбо нехта з ягоных супольнікаў, і ў дробязях паўторыцца той дваццацігадовай даўніны дзень – нож, жах і шэпт:

– Пару слоў для прэсы: чуў, з менскай турмы трое крымінальнікаў уцякло, дык гані грошы..

# Уладзімір АРЛОЎ



*Нас трое —
індыгавы вечар,
вохрысты каштан
і я...*

# Лундуш белы, кір папяловы





## *Нарач*

**У вазе на тваім стале,
схаваўшыся ў букеце
леташніх бяссмертнікаў,
спіць жнівеньская спёка,
якой сніцца
кранутая лёгкім загарам,
стамлёная сонцам і любоўю
цеплакроўная рыбіна,
што лена варушыць
ружовымі плаўнікамі
ў смарагдавай свежасці
падводнага лесу,
які ўзгадаецца раптам
на вышыні 35 000 футаў
над пашытай
з брунатных і зялёных лапікаў
вясковай коўдраю
Шатландыі.**

## *Варажба на чаінках 27 ліпеня 1996 года*

**Завару
ў парцалянавым кубку
з "Пагоняй"
гарбату,
паваражу на чаінках:
ці доўга мне
жыць у доме,
населеным чужымі людзьмі
і задуменнымі прусакамі,
сярод якіх у мяне
завялася апошнім часам
парачка цікавых суразмоўцаў,
ці доўга мне
жыць на вуліцы,
чые каты ў гэтым сакавіку
ўжо не ўспаміналі
маёй рыскі Басоты (1992—1995),
ці доўга мне
жыць у горадзе,
дзе садзяць за краты
паэтаў, якія калісьці
былі выведнікамі
нашае будучыні,
ці доўга мне
жыць у краіне,
што ўсё часцей
прыводзіць на памяць
гісторыю пра павука,
якому адарвалі ногі
і загадваюць бегчы,
а паколькі ён не можа,
робіцца выснова, што
вушы ў павукоў
месцяцца на нагах?
Завару
ў парцалянавым кубку
з "Пагоняй"
гарбату,
і танец чаінак
застанецца галоўнай падзеяю
гэтага дня.**

## *Чатыры вятры*

**Чатыры вятры
прыляцяць да мяне
на другі дзень
Вялікадня,
і ў кожнага будзе
жаночае найменне.
Усходні
будуць зваць
зусім банальна,
затое некалі ён атрымаў
пяшчотную мянушку,
якая чамусьці нагадвае
яшчарку.
Вецер з захаду
будзе мець
летапіснае імя
каралеўны
і прынясе водар
ранішняй кавы
з карыцай.
Паўдзённы вецер
мядова запахне
шыпшынавай кветкай
са скрыжавання
дзвюх загарэлых
сцежак.
У паўночнага
будзе балцкае імя,
і маё сэрца зашчыміць, бо
я забуду яго,
а ўспомню толькі
стары невад,
набрынялы вільготным пахам,
што кропля за кропляю
сцякае
ў салёныя сляды
босых ножак.
Цэлы дзень
будуць кружляць вакол дома
чатыры вятры,
а ўвечары
апусціцца з неба
ласкавая вусціш,
якую завуць так,
як цябе.**

## *Лундуш белы, кір папяловы*

Учора ўвечары
я адклаў
прапахлы восенню
і салодкім жаночым потам
рукапіс аповесці
і нечакана ўзяўся выпісваць
з сярэднявечных хронік
назвы тканінаў,
якія падараваў бы табе
на сукенкі,
гарсэты й спадніцы
ў часы Берасцейскай уніі.
На дзень анёла
ты атрымала б
цяжкі куфар
заморскіх сувояў,
і ўсё дзеля таго, каб,
распаліўшы камін
і адаслаўшы пахолкаў спаць,
блытаючыся ў мудрагеллі
гузікаў і завязак,
шукаць у імбірным прыцемку
спачывальні
халаднаватую перліну
твайго маціцовага цела,
якое чакае мяне
праз чатыры стагоддзі,
пасля палітычнага мітынгу
і вулічных боек з міліцыяй,
у прадзьмутым ветрам пакоі,
сагрэтым толькі камінам
з імбірнай спачывальні,
чыя замочная шчыліна
сталася працягам вока
маладога слугі —
пакуль я адлічваю
фларыны й талеры за
фаляндыш брунатны,
мухаяр гваздзіковы і
адамашак кармазінавы.
Мне яшчэ хопіць на
лундуш белы,
кір папяловы,
аксаміт узорны
і застанецца пара манетаў
на зялёную тафту і
згубленую ў дрогкім рыдване
срэбную завушніцу,
без якой зусім змерзла
чуйная ракушка
дасканалага вуха,
што замест голасу хваляў
ловіць мае крокі
на паплямленым крывёю
менскім бруку.

## *Восеньскі тост*

Нас трое —
індыгавы вечар,
вохрысты каштан
і я
з пляшкаю цёмнага віна
пад паганскай назваю
"Мядзведжая кроў",
якую мы вып'ем
за тваё цела:
спачатку —
за яго высокі гемаглабін
і спачын мікробаў,
што аддана служаць
дзвюм на год
традыцыйным ангінам,
потым —
за яго садовыя сцежкі
і бэзавыя альтанкі,
дзе дазваляецца гаварыць
выключна шэптам,
потым —
за яго імжыстыя
хрызантэмавыя раніцы
і небяспечныя дзённыя
пілігрымкі,
за яго скрутныя віры,
падступныя лілеевыя затокі
і затанулыя ў іх караблі
з вядомымі адной табе
мужчынскімі імёнамі,
за тваё цела
і ўсю яго
зашыфраваную ў навелах і вершах
тапаніміку,
за канстанту яго экватара
і твой Грынвіцкі мерыдыян,
праведзены праз дзве радзімкі
з разраду асобых прыкметаў,
за тваё цела і
непрадказальнасць арбіт
яго населеных гуманоідамі
планетаў
і пустэльных астэроідаў,
за яго сузор'і
і туманнасці,
што існуюць
у інфра-чырвоным
і ультра-фіялетавым
спектрах,
за жнівеньскія знічкі
загаданых грахоўных жаданняў,
за...
Пакінем у спакоі душу:
сёння надарыўся
першы прымаразак
і ў кампаніі каштана і вечара





я п'ю
за тваё цела.

## *Нашэсце матылькоў*

У ліпені
горад захапілі
белыя матылькі.
Яны кружлялі
вакол поўні
і вулічных ліхтарняў,
ездзілі ў тралейбусах і
кватаравалі на кніжных паліцах
над ложкам.
Яны апускаліся нам на плечы,
калі мы любілі адно аднаго
перад нашым саўдзельнікам —
авальным люстэркам,
і знябыта засыналі
на набітых эратычнымі фантазіямі
падушках.
Яны будзілі нас,
асцярожна апускаючыся
на павекі,
пад якімі круціліся
відэастужкі сноў,
і ў завейным танцы
паўтаралі рыфмы і рытмы
нашае жарсці.
Ты лічыла матылькоў
нечымі душамі
і паіла іх віном.
Я называў матылькоў
дзіцячымі ўспамінамі
і частаваў марозівам,
а яны ўдзячна страсалі нам
у келіхі
салодкі пылок
сваіх крылцаў.
Аднойчы ты сказала,
што вынайшла
магічную формулу
пераўвасаблення чалавека
ў матылька і,
абдымаючы цябе ў той вечар,
я ўжо ведаў
твой выбар.

## *Прадчуванне*

Кепурка
Уладзіміра Караткевіча і
злёгку правінцыйны
гіпсавы профіль
Станіслава Манюшкі.
Шапаткі рой
нязвыклых пяшчотных імёнаў і
дзве шаравыя маланкі
ў небе
над далінаю канапы.
Сунічны пах дыні і
прыціснуты да шкла
чоўнік далоні,
які паплыве ў таксоўцы
праз некалькі краінаў,
Адчуванне, што цябе
проста ампутавалі
без усякага наркозу і
жорсткі загад жыць далей.
Бутэлька нясмачнага цёплага
піва,
на дне якой хаваецца
веданне:
гэты жнівеньскі дзень
прысніцца мне
пасля смерці,
пакуль што адтэрмінаванай
да XXI стагоддзя.

## *Карфаген*

Бляшанка з-пад кока-колы
на мініяцюрным саркафагу
з прахам ахвяраванага Ваалу
немаўляці,
пазычаны ў дзіцячых кніжках
семіцкі профіль Ганібала
на дробнай купюры,
рэдкія фаласы калонаў
і белы прэзідэнцкі палац
(як іх цягне да вечнасці!)
за сотню крокаў
ад свяцілішча Тафэль —
вось ты і пераканаўся:
знакамітая пастанова
рымскага сената
паспяхова выканана,
і цяпер
найлепей прысесці
на адбітую капітэль
і, заплюшчыўшы вочы,
паслухаць тутэйшы вецер.
Замест адказу на пытанне,
чаму карфагенская цывілізацыя
не стварыла паэзіі
і прыгожага пісьменства наогул
(ці не таму былі прайграныя
Пунічныя войны?),
саланаваты брыз
пазнаёміць цябе
з уладаркаю плацінавых валасоў
і амаль свойскага імя

Аўшра*,
з якой можна размаўляць
на мове,
што ў гэтых мясцінах
не падасца табе чужою, —
пра Вільню, Менск
і містыку мужчынскіх вусоў
і жаночых ножак.
Тэмаў хопіць на ўсю вячэру
і на перапынкі між танцамі
ў дыскатэцы з падазронаю назвай
"Самара",
дзе каля паўночы
ты будзеш адрэкамендаваны
яе немаладому каханку
з Гамбурга,
які будзе паблажліва
сачыць за вамі,
але ўжо не здолее перашкодзіць
твайму першаму афрыканскаму сну —
пра цырк
і светласкурую канатаходку,
што ў страшэннай высачыні
ідзе над жаўтлявымі руінамі
Карфагена,
дзеля раўнавагі трымаючы ў вуснах
галінку дзікае ружы.

## *Экспедыцыя ў Сахару*

Твой драмадэр
меланхалічна жуе
схопленую плюшавымі вуснамі
калючку,
старанна робячы выгляд,
быццам спрабуе здагнаць
чырвоны дынар сонца,
што коціцца
за класічныя барханы,
з-за якіх выходзіць
шакаладавы маладзён
з тузінам піва
ў памаранчавым вядзерцы.
За рахманы нораў
твайго драмадэра завуць
проста кемаль,
што ў перакладзе —
вярблюд,
але ты ўсё адно
глыбока паважаеш яго, бо
пах ягонае мачы
адпужвае змей і скарпіёнаў.
Наперадзе горад Эль Флавуар
(у гэтых шыротах
любое паселішча
лічыцца горадам):
пяцьсот жыхароў
склікае муэддзін
і прыкладна столькі ж
ляжаць у пытляваным пяску,
навечна павернутыя
спакойнымі тварамі
ў бок Мекі.
Вока адпачывае
ад кірыліцы і лацінкі,
бетонны сфінкс у паранджы
працуе вартаўніком
трохзоркавага гатэля,
а значыць,
цудадзейная мача
сёння не спатрэбіцца
і парцье атрымае шанец
развучыць "калі ласка"
і "дабранач",
што ніколі ў жыцці
яму, безумоўна, не прыдасца.
Код Беларусі: 011-375,
і ты маеш
выдатную магчымасць
у тэлеграфным стылі
паведаміць у мікрафон,
што цябе занесла ў Туніс,
у Сахару,
у тую кропку,
дзе абрываюцца дарогі
і разгортваецца прастора,
населеная толькі міражамі,
крылатымі вярблюдамі
і бландзіністымі шакаламі
з сапфіравымі вачыма
тваёй суразмоўніцы.
Парцье таксама аматар
далёкіх вандровак
і ў жніўні
гуляў з белай жанчынаю
ў Парыжы,
дзе і ты калі-небудзь
будзеш бадзяцца па кавярнях —
адзін ці з чорнай сяброўкаю,
але пакуль што
табе хочацца выйсці з гатэля
і расцягнуцца на цёплым пяску,
павярнуўшыся тварам
да краіны,
у паломніцтва да якой
ператвараецца тваё кожнае падарожжа,
хоць ты патрэбен ёй не болей,
чым патрэбен зараз
пільным сахарскім скарпіёнам
пад гэтым атрамантавым небам,
засмечаным цьмянымі сузор'ямі
і чародамі
крылатых вярблюдаў.

---
* Заранка *(літ.)*.



# Здраўка КІСЁЎ

ЁН



*Як першакласнік у буквары складае літару за літарай, так я складаю і захоўваю ў сабе ўсе свае страты, каб зразумець урэшце, што я – азбука.*

## *Пра Яго*

Спачатку была Рака... Ці не так распачаў бы апавяданне пра сябе вядомы балгарскі паэт Здраўка Кісёў.

Чым вабіць яго Рака? Можа, тым, што гэта – метафара Быцця? Спарадкаванага і ўстойлівага, у якім на змену восені абавязкова прыходзіць вясна, і ў той жа час зменлівага і непаўторнага.

А што, калі ў жыцці паэта было адразу тры ракі?! І якія!

Велічны, магутны Дунай у наваколлі Русэ – ён гадаваў, сваёй бязмежнасцю даваў магчымасць зразумець, што значыць воля, дапамог знайсці прызванне. Потым да Дуная далучылася Вісла. Сваёю вытанчанасцю, далікатнасцю яна дэманстравала, што такое густ, майстэрства, глыбіня. І нарэшце, Дзвіна-Даўгава. Моцная і адначасова пяшчотная, трапяткая і таямнічая, яна прынесла ў дар сузіральнасць і філасафічнасць, імкненне дайсці да сутнасці. З яе берагоў аднойчы павеяла водарам незнаёмых прыцягальных моваў – моваў чалавечых. І моваў самае Прыроды.

Хай гэта будзе толькі віртуальная рэальнасць, аднак зліліся тры ракі ва ўяўленні паэта. І, зліўшыся, на хвалях неслі натхненне, задавалі рытм, шліфавалі словы.

Так з'явіўся паэт-філосаф, перакладчык-эрудыт і проста творца. Творца свайго Сусвету, у якім зазіхацелі зоркі і планеты, чые імёны – як знакі пошуку чагосьці вельмі істот-

# ШТОДЗЁННЫЯ ЎКРЫЖАВАННІ

### Доля

Раніцой, калі іду на працу, сонца залоціць мой твар. Увечары, калі вяртаюся з працы, месяц срэбрыць мае згорбленыя плечы. Так і праходжу гэтым жыццём – напалову залаты, напалову срэбраны.

### Пераемнасць

Учора быў угары, сёння зноў спускаюся да ўзножжа. Так, я таксама Сізіф. Не думай, што нешта змянілася за стагоддзі, што ўсё казка ці міф.. Толькі той камень, што штурхаю ўгору, зрабіўся яшчэ цяжэйшы ад невычэрпнага жыццёвага пылу й поту

### Паслядоўнік

Калі выходжу з дома, калі ў дом вяртаюся, то адчуваю – хтосьці ідзе за мною ўслед. Спыняюся – ён таксама спыніцца асцярожна. Раблю, пішу, кахаю – і адчуваю зноў, як нехта нібыта стаіць за мной, як нехта – нябачны – уважліва за мною сочыць. . Можа, ён чакае, калі я ў цемры згіну назаўсёды, каб паўтарыць па-майстэрску тое, чаму ён навучыўся ў мяне!

### Адваротны адлік

У краіне гэтай усё дзейсніцца наадварот· перад дажджом і навальніцай з'яўляецца вясёлка, спачынак перад працай настае. Перш чым пасеяць, тут хлеб ядуць, перш чым стварыць, тут разбураюць. І не бацькі тут нараджаюць на свет дзяцей, а дзеці нараджаюць сваіх бацькоў. Таму пытаю: мо і са мною адбылося тое ж – перш чым нарадзіцца, я быў ужо мёртвым!

### Гамлет

Пакуль ты вагаешся, ці прыняць тую ролю, што была мараю ўсяго жыцця, ці чакаць, пакуль не адчуеш, што, вось, ты гатовы ўжо для яе, – іншы выйдзе на сцэну. Зараз, узрушаны, глядзіш ты на гэтую нахабную бяздарнасць. І разумееш, што Гамлет не ў адной толькі ці толькі ў другой палове пытання: "Быць або не быць?", а менавіта ў ваганні, у перакладзіне між дзвюма чашамі шаляў... Аднак, хто з гледачоў убачыць, што ты, хоць не на сцэне, усё ж бліскуча спраўляешся з гэтай трагічнаю роляй!

### Сцяна ў люстэрку

Гэта было адзінае месца, дзе я мог адпачыць пасля дзённае мітусні. Але кожны раз у

---

**нага для чалавека – "Адкрыццё" (1962), "Маналогі" (1966), "Запрашэнне да песні" (1972), "Унутраны пейзаж" (1976), "Неабходны боль" (1978), "Бяскрылыя анёлы" (1981), "Месцажыхарства" (1982), "Зрок" (1984), "Адметная прыкмета" (1985), "Тайнапіс" (1987), "Дыханне" (1987), "Сведчанні" (1990), "Штодзённыя ўкрыжаванні" (1995) і іншыя.**

**Здраўка Кісёў вядомы і як перакладчык. У яго перакладзе выйшлі кнігі вершаў літоўца Юсцінаса Марцінкявічуса, латыша Оярса Вацыетыса, эстонца Матса Траата, румына Марына Сарэску, фінскай паэтэсы Катры Вала, анталогія польскіх паэтаў. Ён пазнаёміў балгарскіх чытачоў і з творчасцю беларуса Алеся Разанава.**

**Здраўка Кісёў нарадзіўся 1 студзеня 1937 г. у балгарскім горадзе Завет.**

**Вучыўся ў Русэ, у тэхнікуме машынабудаўніцтва, потым у Сафіі, у Школе арганізацыйных кадраў.**

**Працаваў у рэдакцыях розных газет і на тэлебачанні.**

**На працягу дванаццаці гадоў узначальваў аддзяленне Саюза пісьменнікаў у Русэ. Быў галоўным рэдактарам літаратурнага выдання "Светластруй".**

**Апошні час – на вольным хлебе.**

**Член Саюза пісьменнікаў, Саюза перакладчыкаў і Саюза журналістаў Балгарыі.**

**Вершы Здраўкі Кісёва перакладаліся на ангельскую, французскую, нямецкую, іспанскую, грэцкую, рускую, польскую, венгерскую, румынскую, славацкую, літоўскую, латышскую, эстонскую, а таксама беларускую мовы.**

**Падрыхтавала Алена СУРКОВА.**





люстэрку насупраць бачыў адлюстраванне нейкай неадольнай сцяны. Сцяна сведчыла, што я вязень. Але я ўсё ж не адважваўся разбіць тое люстэрка, каб пазбавіцца сумнай уявы. Аднойчы, недзе побач са мной, я пачуў грымлівыя ўдары – мае браты па жыццёвай долі пачалі руйнаваць Сцяну. Потым усё сціхла – сцяны не стала. Але чаму ж яе адлюстраванне ўсё стаіць у люстэрку перад маімі вачамі?!

### Эпіцэнтр

Землятрус быў настолькі слабы, што яго адчулі толькі самыя чуллівыя натуры. Пазней аказалася, што эпіцэнтр гэтага нязначнага землятрусу быў у метры і пятнаццаці сантыметрах над зямною паверхняю – там, дзе трымцела ад хвалявання адно звычайнае чалавечае сэрца.

### Падыманне

Ёсць людзі, якія палову жыцця свайго трацяць на тое, каб дасягнуць вяршыняў, і яшчэ палову – на тое, каб сысці ўніз, узваліўшы на плечы гару Але ёсць яшчэ іншыя. Яны не думаюць, што даўно ўжо наверсе, і працягваюць падымацца. Іх сляды можна ўбачыць на зорным небе, яны назаўсёды застаюцца на заснежанай белай сцежцы Млечнага Шляху.

### Божы твар

Раз у стагоддзе, што для Бога роўна імгненню, Бог раптам змяняе свой строгі, засяроджаны твар. То губляе слязу, то смяецца. Мо сляза Яго стане Бетховенам, Моцартам – усмешка. А там, між усмешкаю і слязою, мы, невядомыя, – суровы, нязменлівы Божы твар.

### Таямніца

Кім быў той чалавек, без паліто і без шапкі, без торбы для хлеба, што з кійком у руках хадзіў сярод снежных сумётаў і правальваўся па костачкі ў снег? Кім быў той чалавек, што за ім раставаў снег імгненна, і ў ямках ягоных слядоў расцвітала крокуса кветка? Кім жа быў, кім быў той чалавек? І кім быў другі, што з касою хадзіў следам за першым і крокусы скошваў зацята, а тыя нанова прырасталі за ім?

### Цяжар

Мо анёлам зямным быў той чалавек альбо братом нябесных птушак: ён меў за плячамі крылы, але ніколі яшчэ не лётаў! Хто ведае, ці ён сам ад нябёсаў адрокся, ці зрабіўся няздольным для палёту, калі ўзяў на сябе чужыя клопаты і пакуты і панёс іх як свой уласны цяжар!

### Звярынец

Пакуль Бог тварыў чалавека, усе стварэнні, якія толькі што ўзніклі з сушы, паветра й вады, пазбіраліся каля Яго, каб убачыць, што атрымаецца ўрэшце. "Ён будзе вашым валадаром, – з усмешкаю кажа ім Бог – Таму кожны з вас мае даць у дарунак яму штосьці сваё!" Вол адразу аддаў сваю працавітасць, цярплівасць, вярблюд – трываласць, малпа – жвавасць, дапытлівасць, конь і сабака – адданасць, салавей – спеўны голас . Адгукнуўся таксама і тыгр, надзяліў чалавека крыважэрнасцю, лісіца – хітрасцю, хамелеон – прытворствам, змяя – вераломствам і скрытнасцю, гіена – здзеклівай кплівасцю . Праз некалькі мільёнаў гадоў Адамаў нашчадак пільна ўглядзеўся ў сябе і аплакаў сваю долю "Бачу хутчэй я звярынец у сабе, чым уласна чалавека. Але як жа вярнуць жывёлам іхнія падарункі пасля таго, як я так легкадумна іх знішчыў! . Гэта крыж мой штодзённы – гэты звярынец ува мне ."

### Поўня

Што за вялізная поўня! – Яна, як магніт, прыцягвае позіркі, думкі, пачуцці. Хоць ты не самнамбул, а ўсё ж гатовы пакінуць пасцель і, паўсонны, пайсці па водападзелах дахаў. Часам не спіцца, трывожна кідаюся ў ложку. Мо вось так, – калі нябожчыкі з боку на бок перакульваюцца ў трунах сваіх – нібы шалі, наша зямля гайдаецца паміж смерцю й жыццём!

### Версія

Марскім прылівам на пясок выкінула тапельца. Ніхто з тутэйшых жыхароў яго не распазнаў. Ніхто не дапусціў, што, можа, то яшчэ адзін Ікар, што падаў з вышыні – за недаравальна дзёрзкае жаданне наблізіцца да сонца. Але паколькі крылаў не знайшлі,

магчыма, гэты няздзейснены і невядомы ўсім Ікар быў абрабаваны шкоднікамі, якія з крылаў воск на свечкі знеслі і на свае падушкі – пер'е.

### Акселерацыя

Сапраўдная веліч людзей, сябар мой, не залежыць ад росту. Ты волатам можаш быць, Гуліверам сярод ліліпутаў, Гераклам... Але, якой бы вялізнай далонь твая ні была, ты – мізэрны, калі не трымаеш у ёй другой рукі чалавечай.

### Корань

Часта сумненне і вера маюць адзін і той жа корань.. Вось, навокал мяне шматкаляровымі завеямі восень шугае. Калі я гляджу, як у вырай збіраюцца птушкі, – мне хочацца верыць, што яны не хаваюцца ад зімы, а ляцяць, каб паклікаць вясну.

### Мовазнаўства

Нашто было вывучаць мовы розных народаў, калі можна ўсё зразумець праз усмешку і жэсты!.. Трэба лепш вывучаць мурашкаву мову, мову кветак і дрэў, каб было з кім перамаўляцца, як лягу нарэшце ў зямлю. На жаль, ужо позна. Мяне чакае глухая маўклівая вечнасць, – і як я даведаюся, што мне казаць на яе маўчанне ў адказ?

### Страта

Дзесьці пакінуў свае жыццё. Мо ў каханні, мо аддаў за ідэю ці згубіў, калі сумленна выконваў свой абавязак? . Дзесьці пакінуў сваё жыццё. Вось усюды шукаю яго і ўсюды бачу адно толькі згубу сваю.

### Паловы

Восенню той, галаву ўздымаючы ў неба, сачыў я, як птушкі ў вырай ляцелі, – і цень ад іх коўзаў па твары маім, яго напалам расцінаючы. Так, я вокам адным назіраў летуценна за іхнім палётам, другім – аплакваў іх апусцелыя гнёзды Я ведаю, вернуцца птушкі вясной, але гэта наўрад ці адновіць мяне самога. Не раз я ўжо меў магчымасць у гэтым пераканацца, калі пазіраў услед пералётнай птушцы – Каханню.

### Дуэль

Яна кінула пад ногі мае пальчатку Я падняў яе, каб паказаць, што я сапраўдны рыцар і мужчына. Была ажурная і мяккая тая прыгожая пальчатка, што захавала тонкі пах духоў. Тады толькі заўважыў, што з пальчаткай разам прыгарнуў руку, з рукою – цела, з целам – галаву . А там, у галаве, – кампутар, які сцэнарый гэты склаў. Так скончылася дуэль – мяне перамаглі.

### Азбука

Я той, хто страчвае заўсёды. Як стратаў чарада, маё жыццё прайшло. У ім усё мела пэўнае імя, якое пачыналася з літары, ініцыяла.. Як першакласнік у буквары складае літару за літарай, так я складаю і захоўваю ў сабе ўсе свае страты, каб зразумець урэшце, што я – азбука.

### Дабрыня

Добры чалавек ніколі не самотны. Нават калі побач з ім няма нікога, ён вядзе размовы з воблакам, зямлёю, з дрэвам і травою, з каменем халодным. І з самой самотай часам размаўляе, і яна самотай перастае ўжо быць.

### Этап

Я меч у плуг перакаваў Араў, араў, але з барознаў забытых гадаў безліч выпаўзае – вужакі, яшчары і цмокі... З той прычыны мне трэба зноў перакаваць свой плуг у меч.

### Здарэнне

Учора ўвечар у галлі чарэшні заблыталася поўня, ніяк не можа выбрацца адтуль. А з самай раніцы назаўтра чарэшня нечакана расцвіла. І ў кожнай кветачцы бялюткай часцінка поўні зіхаціць.

### Клепсідра

Калі майго жыцця пясок пераліецца ў другую палову пясочнае клепсідры, верагодна,





Прырода пераверне яе сторч. Пачнецца яшчэ адно жыццё – такое ж як маё, але наадварот, нібы адлюстраванае ў люстэрку. Узнікне зусім іншы чалавек, хоць шмат чым будзе ён падобны да мяне... Табе, мая каханая, угатавана тое ж. Мы будзем адчуваць узаемапрыцягненне, але адно аднаго не пазнаем.

### Уразлівасць

Такім уразлівым і кволым, такім бязвольным я раблюся без тваёй, жанчына, ласкі. Нават танюсенькая нітка павуціны, што ляціць у прасторы наўздагад, мне – быццам гільяціна.

### Уцёкі

Хочацца ўцячы ад гэтага вар'яцкага свету. Вазьму ды намалюю на карце выспу й буду жыць на ёй. Хай гэта выспа будзе невялічкай, затое як бы я ляжаў там і вачыма ўглядаўся ў неба! І ўспамінаў усё, што прачытаў, убачыў, перажыў. Вось толькі б тую карту не забыць спаліць, каб ні адна душа знайсці мяне там не змагла.

### Зман

Затаіўшы дыханне, сачылі, як нехта, расставіўшы рукі, напружана, ціха – праўдзівы цыркач – ішоў па канаце. Мы верылі: ён рызыкуе жыццём. Пакуль аднойчы не ўбачылі, што насамрэч ён бяспечна хадзіў па зямлі! Дзе быў толькі адбітак таго каната.

### Асобнасць

Я той вар'ят, хто ўсё жыццё звяртае ўвагу на падушкі. І мкнецца іхні пух ператварыць ізноў у птушак.

### Прага

Чытаць, чытаць, чытаць, пакуль над кнігай не аслепнеш канчаткова. І сам не разумееш, як здарылася так, што ты ўсё ж такі далей чытаеш, хоць успрымаеш не вачмі напісанае, а душой. Як зямля сухая, што зачакалася дажджу.

### Творчасць

Гадамі збіраеш цярпліва словы-самасевы, сэнс ім надаеш, прыводзіш да парадку – верш за вершам – складаеш правільныя стройныя рады. Быццам налыгаў усе літары на нітку і цяпер не ўяўляеш, што зрабіў ты з вершам: ператварыў у каралі, у ахоўны амулет ці ў ланцуг.

### Паштовая скрынка

Не кажы, што я паэт. У гэты хуткасны і мітуслівы час ужо нельга мець той прыгажосці слова, што мелі старажытныя паэты. Не кажы, што я паэт. Лепш параўнай мяне з паштовай скрынкай, у якую кожны можа апусціць сваё пасланне – свой боль і радасць. Упэўнены, адпраўлена ўсё будзе па прызначэнні, нават калі адрасу няма.

### Канон

Мой белы аркуш – ззянне белае, што ў прыцемках лунае над сталом. Не дакранайся да яго, не пэцкай словамі, калі не здольны ў іх укласці крыху больш святла за тое чыстае святло, што мае аркуш.

### Выбар

Дыспут не адбыўся. Нядаўні прыхільнік метафізікі быў сёння настроены супраць яе. "Зараз нам не да мастацтва, – глыбакадумна разважае ён. – Змагацца зараз трэба за хлеб, за тое, каб уцалець у вогнішчы часоў. Кошка ці Рэмбранд – каго пачнеш выносіць першым з хаты, якая ля цябе гарыць? Жывую, хай нават і нікчэмную істоту, ці мёртвы, хоць і ўсім вядомы, твор?. "

Наўрад ці дам адказ на гэтае пытанне. Пакіну лепей выбар твайму сумленню і тваёй свабоднай волі. Усё роўна, што б ні кінуў ты ў пажары, робіш ты злачынства! Калі толькі сам не кінешся ў агонь.

### Працоўны дух

Кнігі вершаў, якія самотна і горда стаяць на паліцах кнігарняў, нагадваюць беспрацоўных, што заўсёды шукаюць работу. Яны гатовы рабіць усё: імітаваць рытмы машын, выхоўваць і вінаваціць, лячыць самотных, даючы надзею, мары абуджаць. І нават войска ў бой павесці. Яны, чуллівыя, прыгожыя, гатовы нават чысціць сённяшнія Аўгіевы стайні.

Дык дайце ж кнігам вершаў працу – яны нічога не папросяць узамен. Няма таннейшае працоўнай сілы, ці, дакладней, – духа.

### Азначэнне

Што значыць – быць паэтам? Можа, гэта калі ты пальцамі замёрзлымі іграеш на флейце там, сярод завеяў, не ўпэўнены, што нехта побач слухае цябе. І ўсё ж такі ты шчыра верыш, што дзякуючы гэтай тваёй ігры вясна хутчэй надыдзе

### Словы і птушкі

Усё жыццё правёў, над аркушам схіліўшыся. Нават адвучыўся глядзець у неба і аб існаванні птушак здагадваюся толькі па іх ценю, што час ад часу слізгае па рукапісе і сцірае ўсе напісаныя словы. Даводзіцца ўсё пачынаць нанова – як той Сізіф пакутны, я прыкаваны да пісьмовага стала. І невядома, радавацца ці смуткаваць належыць, калі аднойчы тыя птушкі знікнуць раптам.

### Апостраф

Святло. Святло – другое імя мастацтва, сцвярджаеш ты. І я не буду, мой сябар, абвяргаць цябе. Але недастаткова з'явы толькі звонку асвятляць – пакінь работу гэтую звычайнай лямпе Ты ж павінен імкнуцца ў глыбіню, інačай рызыкуеш заблудзіць у трох хвоях – быццам згаладалы павук у каморы, які аднойчы, як я толькі лямпу запаліў, накінуўся на ўласны цень.

### Знак

Маўчаць – гэта таксама выйсце нейкае ў той час, калі ўсе вакол цябе гамоняць. І ўсё ж, калі ты лічыш сябе разумным, дай які-небудзь знак, што ісціны заўсёды значна больш у маўчанні, чым у словах.

### Працяг

Дзень за днём мінулі ў працы над паперай – і вось маё пяро ператварылася ў працяг маёй рукі. Таму на рэчы вакол сябе паказваю не пальцам, а пяром.

### Асляпленне

Працую безупынна, каб пяром накрэсліць знакі палёў, нябёсаў, птушак. І не бачу ў захапленні, што побач сапраўды ёсць птушкі, неба і палі.

### Строгасць

Гадоў з трыццаці бесперастанку пішу адзіны верш, у якім імкнуся поўнасцю акрэсліць сваё жыццё, надзеі, намаганні. Але заўсёды занадта многа слоў у ім, каб ісціне адпавядаў ён цалкам. Адно за адным я тыя словы адкідваю І спадзяюся, што надыдзе дзень, калі я верш свой скончу Усё ў ім будзе строга і прыгожа – ні слоў, ні гукаў. Таму сачыце, калі ў вашы рукі трапіць выпадкова нейкі аркуш чысты, няспісаны, – можа, гэта і ёсць мой верш завершаны!

### Флора

Гэтыя дрэвы, гэтыя вечназялёныя дрэвы, чым заслужылі такую неймаверную пашану, узнагароду ці прывілею – быць пышнейшымі за сваіх братоў і сясцёр?

Калі восень распранае па лістку ўвесь народ драўнінны, яны стаяць асобкам, ганарліва дэманструючы зялёны ўбор. А можа, адметнасць – пакаранне. Ёсць нешта ў гэтым непрыстойнае – нібыта ў кажусе стаіш між голых! І ўсё-ткі не праз іх шле знакі восень і не праз іх вястуецца вясна.

### Іерогліфы

Маё жыццё – як аркуш, густа спісаны з бакоў абодвух – удоўжкі, ушыркі і нават наўскасы. Так, ён адзін, а ў ім належыць змясціць усе памкненні, каханні, захапленні, мары і пакуты... Маё жыццё – як аркуш, так спісаны, што нельга нічога ў тэксце разабраць, расшыфраваць, знітаваць нарэшце. Усё ў ім – куча іерогліфаў, усё – фінікійскае пісьмо, незразумелае і для мяне самога. Толькі застаецца спадзявацца, што хтосьці іншы здолее мяне раскрыць, хоць столькі вакол людзей, што гэтаксама спісаны сабою.

**Пераклала з балгарскай**
**Алена СУРКОВА.**



# Алесь ШАТЭРНІК

У НАС



## *Тры стыхіі*

Стыхія вады — Крывічы.
Стыхія зямлі — Дрыгавічы.
Стыхія агню — Радзімічы
Так утварылася
Беларусь.

## *Сцежкі Драздовіча*

Стадолішча.
Вялікая прастора.
Тры камяні.
Два — звычайныя валуны,
Трэці — нібы Зніч з неба.
Так і ляжаць разам.
На кожным — свая адмеціна. .

## *Настальгічны ўспамін*

Паміж полем і небам,
На прамерзлай зямлі
Мы шукаем мёрзлую бульбу —
шайморы.

## *Антычная музыка*

Я кранаю гіпсавы злепак
Антычнага рэльефа.
Двухтысячагадовая мелодыя...
Ці чуеш?

# Штэфан ГАЙМ

# КНІГА ЦАРА ДАВІДА

***Раман***

*Мая падзяка спадару д-ру Вальтэру Бэльцу, гісторыку рэлігій і навуковаму супрацоўніку універсітэта ў Гале, за яго добрыя парады і дапамогу.*

**Штэфан Гайм**

## 1

Хай славіцца імя ГОспада БОга нашага, які аднаму дае мудрасць, другому багацце, трэцяму воінскія цноты.

Мне, Этану бэн Гашая, сыну Гашаі з Эзраха, загадана з'явіцца сёння да цара Саламона. Мяне прывялі перад ягонае аблічча царскія пісары Эліхарэт і Ахія, сыны Шышы; а там яшчэ былі канцлер Ёсафат бэн Ахілуд, святар Цадок, прарок Натан і ваявода Бэная бэн Ехаяда.

І прыпаў я цару да ног, і ён загадаў мне падняцца. Так сталася, што я ўпершыню на свае вочы пабачыў цара Саламона, твар у твар; і, хоць ён сядзеў на троне паміж херувімаў, здаўся мне не такім высокім, як раней я пра яго думаў, нават ніжэйшым за свайго нябожчыка бацьку, цара Давіда; скура ў яго была жаўтлявая. Цар калюча зірнуў на мяне і спытаўся:

– Дык гэта ты і ёсць той самы Этан бэн Гашая з горада Эзраха?

– Так, той, валадару мой цару. І я слуга твой.

– Кажуць, што ў цэлым Ізраілі ад Дана да Бээр-шэбы няма мудрэйшага за цябе?

Я запярэчыў:

– Хто рызыкне сказаць пра сябе, што ён мудрэйшы за наймудрэйшага цара Саламона?

Ён прыкра падціснуў тонкія губы і сказаў:

– Але ж паслухай, Этане, які сон мне прысніўся нядаўна пасля таго, як я прынёс ахвяры і ўчыніў цэласпаленні на пагорку ў Гібэоне. – Ён павярнуўся да канцлера Ёсафата, сына Ахілудавага, і пісараў Эліхарэта і Ахіі, сыноў Шышавых, і дадаў: – Паслухайце і вы, бо сон гэты мае ўвайсці ў аналы.

Сыны Шышы Эліхарэт і Ахія адразу дасталі грыфелі і васковыя таблічкі, каб запісаць царовыя словы.

Вось што прыснілася цару Саламону:

– У Гібэоне явіўся мне ГАсподзь Яхвэ ў сне ўначы, і сказаў ГАсподзь БОг: "Прасі, што табе даць". І я сказаў: "Ты зрабіў рабу Твайму Давіду, бацьку майму, вялікую ласку; за тое, што ён хадзіў перад Табою ў праўдзе і справядлівасці, у шчырасці сэрца свайго, Ты адарыў яго мілатою і даў яму сына, каб сядзеў той на троне ягоным, як гэта і ёсць сёння".

Цар пагладзіў херувіму нос, апусціў руку і выцягнуў ногі ў чырвоных сандалях з танюткай казлінай скуры.

– А цяпер, ГОспадзе, сказаў я БОгу, Ты паставіў мяне, раба Твайго, царом замест Давіда, бацькі майго; але я, як дзіця малое, не ведаю ні выхаду, ні ўваходу. І слуга Твой мусіць пасвіць народ Твой, які выбраў Ты, народ такі шматлікі, што ні злічыць, ні апісаць яго нельга ў мностве ягоным.

Цар расправіўся, сонечны прамень пагладзіў вышытую золатам шапачку на ўжо парадзелых валасах.

– БОжа мой, сказаў я ГОспаду, дай рабу Твайму разумнае сэрца, каб судзіў ён народ Твой і адрозніваў, што добра, а што блага. Бо хто ж управіць, хто ж упасвіць гэты шматлікі народ Твой? І сказаў мне БОг: "За тое, што ты прасіў сабе гэтага, а не доўгага жыцця, не прасіў сабе багацця, не прасіў пропадзі ворагам тваім, а прасіў сабе розуму, каб умець судзіць, вось, я зраблю ўсё паводле слова твайго, – даю табе сэрца мудрае і разважлівае, так што такога, як ты, не было да цябе, і пасля цябе не паўстане падобны табе".

Цар устаў, акінуў выпрабавальным позіркам сваіх міністраў і ўбачыў на іх тварах слухмяную сур'ёзнасць. Задаволеным голасам сказаў напаслед:

– "І тое, чаго ты нават не прасіў, Я даю табе, – і багацце, і славу, і аж не будзе падобнага да цябе сярод цароў праз усе твае дні. І калі будзеш хадзіць шляхамі Маімі, шануючы пастановы Мае і наказы Мае, як хадзіў бацька твой Давід, дык і жыццё тваё будзе доўгае".

Тут святар Цадок і прарок Натан замілавана запляскалі ў далоні, а пісары Эліхарэт і Ахія, сыны Шышы, у захапленні вырачылі вочы. А канцлер Ёсафат бэн Ахілуд усклікнуў, што ніколі, колькі жыве, а не чуў другога такога цудоўнага сну, такі сон і праўда можа дайсці народу да сэрца і галавы. Адзін Бэная бэн Ехаяда маўчаў; на яго моцнай сківіцы тузаліся жаўлакі, быццам ён жаваў нешта горкае. Цар Саламон сышоў з трона, наблізіўся да мяне, паклаў на плячо сваю кароткую, тоўстую руку і спытаўся:

– Ну што?

Я адказаў, што царскі сон у пэўным сэнсе сапраўдная, небывалага хараства жамчужына; ён багаты на паэтычныя вобразы і цудоўныя думкі, ён – доказ таго, як глыбока шануе цар нашага ГОспада БОга, невыказную волю Ягоную, празарлівыя промыслы Ягоныя.

– Я чую словы паэта, – сказаў цар. – А што нам скажа гісторык? Ад сваіх прыстаўнікаў у Эзраху я дачуўся, быццам ты пішаш гісторыю народу ізраільскага.

– Вешчы сон, о наймудрэйшы з цароў, – сказаў я з нізкім паклонам, – можа пазначыцца ў Гісторыі не менш за патоп, альбо магутнае войска, альбо БОжую асуду, асабліва калі сон гэты расказаны так выдатна і пісьмова засведчаны.

Цар як бы крыху сумеўся і зноў паглядзеў на мяне, потым вусны ягоныя расцягнула шырокая ўсмешка, і ён сказаў:

– Бачыў я, як глытаюць меч і як пажыраюць агонь, але яшчэ ніколі не сустракаў чалавека, які так умела лавіруе на лязе мяча. А што думаеш ты, Бэная, сыне Ехаядаў?

– Словы... – буркнуў Бэная, – якіх толькі слоў не наслухаўся я за дзён бацькі твайго, цара Давіда, і разумных, і богабаязных, і ўблагальных, і пагрозлівых, і самахвальных, і ліслівых... Толькі ж бо тыя красамоўцы, дзе яны сёння?

Твар цара Саламона азмрочыўся. Можа, цар згадаў пра лёс сваіх братоў Амнона і Абэсалома, альбо ваяводы Урыі, першага мужа сваёй маці, альбо пра долю многіх-многіх іншых людзей, да ўнябожчання якіх дачыніўся Бэная, сын Ехаядаў.

А Ёсафат бэн Ахілуд, канцлер, сказаў, што я і праўда ж кліканы перад светлае аблічча царова як чалавек, які лепна валодае словам, а прарок Натан зазначыў Бэнаю, што адных, бач, корміць меч, другіх слова, бо ж ГАсподзь БОг у бясконцай мудрасці Сваёй стварыў процьму розных істот, рыб і птушак, драпежнага звера і рахманую авечку, і над усімі імі паставіў ільва, такога ж магутнага, як і мудрага. Тут ён пакланіўся цару Саламону, а святар Цадок уставіў, што нельга пры гэтым забываць, што сцежка ў апраметню падказана чалавеку змеем, а таму трэба трымацца апаскі ад залішне гладкага языка і салодкіх лёстачак. З усяго гэтага я сабе ўцяміў, што сярод набліжэнцаў цара Саламона ёсць пэўнае despite рознадум'е, а таму чалавеку старонняму ў гэтым коле след бо трымацца вой якое асцярогі.

А цар Саламон вярнуўся на трон і сеў паміж херувімаў. Пагладжваючы ім насы, ён сказаў мне, кажучы:

– Табе, Этане, сыне Гашаін, напэўна вядома, што бацька мой, цар Давід, асабіста сам назваў мяне, свайго любаснага сына, спадкаемцам трона, загадаў сесці на царскага мула і выправіцца да Гіёна, каб там мяне памазалі ў цара над Ізраілем, а таксама сказаў, што ён пакланіўся мне на смяротным ложку сваім і ўмольваў ГОспада БОга, каб БОг узвысіў мой трон больш за ягоны.

Я запэўніў цара, што мне гэта добра вядома і што ГАсподзь БОг несумненна пачуў

апошнюю малітву цара Давіда і спраўдзіць ягонае жаданне.

– Такім разам ты павінен разумець, – сказаў цар, – што мяне трэба лічыць тройчы выбраным. Першае, ГАсподзь БОг выбраў народ Ізраіля спасярод усіх народаў; другое, Ён выбраў бацьку майго, цара Давіда, валадаром народу выбранага; і нарэшце, мой бацька выбраў мяне, каб я цараваў замест яго.

Я запэўніў цара Саламона, што логіка яго слоў беззаганная і што ні ГАсподзь БОг, ні цар Давід не мелі зрабіць лепшага выбару

– Вядома, – сказаў цар і паглядзеў на мяне неяк адмыслова, і гэта магло азначаць усё што заўгодна. – Але ты павінен згадзіцца са мною, Этане, сыне Гашаін, што трэцяе выбранства мае сілу толькі тады, калі неаспрэчна даказана выбранства другое, ці ж бо яно не так?

– Чалавеку, які ўзвысіўся ад Бэтляемскага пастуха да валадара ў Ерушалайме, – змрочна сказаў Бэная бэн Ехаяда, – які пабіў сваіх ворагаў і ўпакорыў сваёй волі іхнія гарады, які кінуў пад сябе не толькі цара маабскага і цара філістымскага, але і ўпарцістыя плямёны Ізраілевыя, такому чалавеку не патрэбен ні святар, ні прарок, ні пісар, каб даказаць сваю богавыбранасць.

– Але гэты чалавек мёртвы! – ад гневу царскае аблічча запунсавелася. – А тым часам па Ізраіле ходзяць самыя розныя пагудкі, непатрэбныя і нават шкодныя. Я будую нашаму ГОспаду храм, каб спыніць маленні і ахвярапрынашэнні на кожным пагорку за кожным селішчам, бо ўсе дзеі павінны чыніцца БОгам і чалавекам у адным месцы; вось і пра жыццё бацькі майго, пра вялікія чыны і подзвігі цара Давіда, які выбраў мяне на свой трон, патрэбна праўдзівая кніга, якая заступіла б дарогу ўсялякім плёткам і неразумным гамонкам.

Нават Бэная, сын Ехаядаў, крыху збянтэжыўся ад такога нечаканага сполаху царскага тэмпераменту, хоць якраз Бэная сваім часам найбольш дачыніўся да выбрання Саламона ў спадкаемцы бацькавага трона. А цар сказаў гаварыць канцлеру Ёсафату бэн Ахілуду.

Ёсафат бэн Ахілуд выступіў наперад, дастаў з рукава гліняную таблічку і вычытаў:

– Сябрамі царскай камісіі па складанні *Адзіна Праўдзівай і Аўтарытэтнай, Гістарычна Выверанай і Афіцыйна Ўхваленай Кнігі пра Дзівосны Ўзлёт, Богабаязнае Жыццё, а таксама пра Гераічныя Подзвігі і Цудоўныя Чыны Давіда, Сына Есэевага, які Цараваў над Юдаю Сем Гадоў і над усім Ізраілем і Юдаю Трыццаць Тры Гады, Выбранца БОжага і Бацьку Цара Саламона* прызначаюцца: Ёсафат бэн Ахілуд, канцлер; Цадок, святар; Натан, прарок; Эліхарэт і Ахія, сыны Шышы, пісары; Бэная бэн Ехаяда, начальнік над усім войскам. Рэдактар без права голасу – Этан бэн Гашая з горада Эзраха, гісторык і пісальнік. *Кніга пра Дзівосны Ўзлёт* і г.д., якая далей дзеля зручнасці называцьмецца *Кнігай Цара Давіда,* мае быць складзена шляхам самага пільнага адбору і мэтазгоднага выкарыстання ўсіх наяўных матэрыялаў пра дзівосны ўзлёт і г.д. небажытнага цара Давіда, а менавіта ж бо: царскіх грамат, лістоў, аналаў, а таксама вусных сведчанняў, паданняў і легендаў, песняў, псальмаў, прыпавесцяў і прароцтваў, асабліва ж тых, якія пацвярджаюць вялікую любоў і прыхільнасць цара Давіда да свайго любаснага сына і спадкаемца трона цара Саламона; памянёная *Кніга* мае выявіць нашаму часу і часам наступным *Поўную Праўду,* каб пакласці крэс *Усялякім Разнамыснасцям і Спрэчкам,* скасаваць *Усякае Няверства ў Выбранасць Давіда, Сына Есэевага, нашым ГОспадам БОгам,* з коранем вырваць *Усякія Сумненні ў Слаўных Абяцаннях нашага ГОспада БОга Сему Давідаваму і Нашчадству.*

Канцлер Ёсафат бэн Ахілуд пакланіўся. Цар Саламон быў задаволены. Ён паклікаў мяне пальцам і сказаў:

– Канечне, я дапамагу табе, Этан бэн Гашая, калі ты запаняверышся, не ведаючы, што ёсць праўда, а што няпраўда. Калі прыступіш да працы?

Тут я кінуўся цару Саламону ў ногі і падзякаваў яму за вялікі давер, якім ён мяне спадобіў. Ніводная жывая душа ад Дана да Бээршэбы не была ніколі так здзіўлена, як я ў гэтую хвіліну, сказаў я, і калі б у сне мне явіўся анёл ГАсподні абвясціць пра такое прызначэнне, я пасмяяўся б з яго, як калісьці Сара, жонка Абрагамава. Але я чалавек занадта нязначны, сказаў я далей, такая цяжкая і адказная задача не па сіле мне; вось калі б гаворка ішла пра дзве-тры псальмы, сціслы гістарычны зарыс пра якое-небудзь малое племя Ізраілевае, ці пра новую версію таго, як Майсей быў знойдзены ў трыснягу, тады рэч зусім іншая тады я быў бы ў самы акурат; бо, зрэшты, нельга ж вымагаць ад малюпасенькай мурашкі, каб яна пабудавала піраміду

На гэта цар Саламон ад шчырага сэрца зарагатаў і сказаў астатнім:

– Сапраўды мудры той, хто лепш застаецца дома, каб уνікнуць небяспекі ў дарозе. – А мне цар сказаў: – Я магу ўзяць тваіх сыноў воінамі на калясніцы, альбо вершнікамі ў конніцу, альбо ў пешае войска, якое пускаюць паперад калясніцамі. Я магу ўзяць тваіх дочак у каравайніцы, ці кухаркі, ці ў падавальшчыцы. Я магу адабраць тваё поле, твой вінаграднік і аліўкавы сад. А яшчэ магу паставіць цябе апратваць хлявы альбо махаць апахалам. Але я хачу цябе мець у сябе за гісторыка пад кіраўніцтвам маёй камісіі, бо кожнаму дадзена сваё месца пад БОгам – пастуху пры статку, а пісару пры гліняных таблічках.

Тут я пакланіўся да самай зямлі і папрасіў узяць пад увагу, што я чалавек нямоглы, са слабым сэрцам і датклівым страўнікам, а таму, магчыма, спачыну побач са сваімі продкамі ў Эзраху яшчэ да таго, як складанне *Кнігі Цара Давіда* дойдзе хоць бы да палавіны; затое я мог бы нараіць шмат якіх спраўнейшых і маладзейшых калегаў гісторыкаў, у выдатным здароўі і ў розуме больш стасоўным, шчыра кажучы, якраз з такімі здатнасцямі, якія патрэбны на складанне кнігі, *Адзіна Праўдзівай і здольнай пакласці крэс Усім Разнамыснасцям і Спрэчкам.*

На гэта цар Саламон сказаў:

– А па-мойму, дык выглядаеш ты зусім здаровым, Этане, сыне Гашаін. У цябе цудоўны загар, тваё цела не паказвае аніякай узроставай вяласці, раскошныя валасы, усе зубы цэлыя, ды і вочы твае блішчаць ад асалоды, якую ты маеш з віна і жанчын. Апроч таго ў мяне ёсць самыя дзельныя лекары Ізраіля і суседніх царстваў, аж да Сідона і Тыра, у мяне ёсць таксама дамова з царыцай Саўскай, якая абяцалася на патрэбе прысланць спецыяліста, які выганяе камяні з нырак. Часам я запрашацьму цябе за мой стол, каб ты каштаваў лагодак самай лепшай кухні па наш бок Нэгева, а плата табе будзе як малому прароку, што дасць табе магчымасць прывезці абедзвюх жонак і тваю маладую наложніцу ў Ерушалайм, дзе ты атрымаеш добры цагляны дом з зацішным садком.

Тут я зразумеў, што цар Саламон ужо ўсё абдумаў і мне не ўдасца ўхіліцца ад ягоных шчадротаў Уцяміў я і тое, што мне гэтая справа можа абярнуцца самым благім канцом, як гэта ўжо няраз бывала з нашым залішне разумным братам кніжнікам, якому ўцінялі галаву, а цела прыбівалі да гарадской сцяны; затое тут можна было мець і свой прафіт, прычым даволі-такі неблагі, трэба толькі не распускаць язык і мудра карыстацца грыфелем. Калі хоць на каліўца пашанцуе і з дапамогай БОжай можна-такі будзе нават змудраваць і ўтачыць у *Кнігу Цара Давіда* там слоўца, там радочак, з якіх наступныя пакаленні маглі б вычытаць, што ж такі насамрэч адбылося ў нашыя часіны і які чалавек быў Давід, сын Есэеў, як ён умудрыўся адным заводам пахлебіцца ды шлюхаю класціся пад і на цара, царскага сына і царскую дачку, як ваяваў наймітам супроць свайго ж народу, як загадаў забіць свайго сына і сваіх самых адданых слуг, а потым голасам галасіў і енкам енчыў, аплакваючы іхнюю смерць, і як, напаслед, згуртаваў у адзіную нацыю плямёны нікчэмных ратаяў і наравістых качэўнікаў

Таму я ўстаў і сказаў цару, што поўныя мудрасці словы ягоныя пераканалі мяне, і я прымаю пасаду, хай сабе нясмела і бянтэжліва; з улікам часу, які пойдзе на прынагодныя такому выпадку малітвы і ахвяраванні, на пераезд з Эзраха ў Ерушалайм, прычым са мною паедуць мае жонкі і маладая наложніца, а таксама іхнія манаткі і мой архіў, я буду гатовы прыступіць да працы на другі дзень пасля Пасхі. Аднак, сказаў я далей, каб ужо адным заходам каваць жалеза, пакуль яно гарачае, мне рупіць высветліць яшчэ адно невялічкае пытанніца што да маіх абодвух сыноў: дагэтуль я сам займаўся імі, а цяпер баюся, ці станецца ў мяне на тое вольнага часу і змогі. Дык ці не ўдабраволіць наймудрэйшы цар цароў Саламон умілажаліцца ласкаю.

– Цадок! – сказаў цар.

Цадок пакланіўся.

– Патурбуйся, каб абодва сыны Этана бэн Гашаі былі ўладжаны ў добрую лявіцкую школу – І як што Цадок ускінуў бровы, цар ад шчыраты сэрца дадаў: – Выдаткі на іхнюю навуку і ўтрыманне бярэ на сябе царская скарбніца.

Бо цар Саламон быў бясконца шчодры, калі заходзілася пра трату грошай падаткаплацельшчыкаў.

## 2

### НАЧНЫ РОЗДУМ ЭТАНА БЭН ГАШАІ ПАСЛЯ ВЯРТАННЯ З ЕРУШАЛАЙМА Ў ЭЗРАХ НА ДАХУ ДОМА Ў ПРЫСУТНАСЦІ НАЛОЖНІЦЫ ЛІЛІТЫ, ЯКАЯ СТАРАЕЦЦА РАЗВЕЯЦЬ ЯГО СВАІМІ ПЯШЧОТАМІ

Ніводная гісторыя не пачынаецца сваім пачаткам; карані дрэва заўсёды схаваныя ад вачэй і дастаюць да вады.

У іншых народаў былі цары, якія абвяшчалі сябе багамі, а ў народу Ізраіля царом быў БОг – царом нябачным, бо Яхвэ – БОг нябачны. Яго выяваў няма ні ў камені, ні ў бронзе;

ён забараніў рабіць ягоныя выявы. Нябачны БОг Яхвэ сядзеў паміж херувімамі на сваім троне, каўчэгу Запавету, які пераносілі з аднаго месца на другое; куды ішоў народ, ішоў з ім і ён, жыў у скініі, у намёце, у будане, як і ягоны народ. Ахвяры ён прымаў на пагорках альбо пад старой сікіморай, не грэбаваў і палявым валуном замест алтара. Гаварыў, калі яму хацелася гаварыць, громам хмараў альбо шэптам ветру, бушаваннем прарока і сном дзіцяці, вуснамі анёла і бразгатам урыма і туміма. Ён абвяшчаў законы, але сам часта бываў несправядлівы; ён бываў і запальчывы і цярплівы; ён меў аблюбенцаў, часта супярэчыў сам сабе – карацей, быў падобны на тых старэйшынаў плямёнаў, якіх і сёння можна сустрэць у глухіх горных далінах.

" – Ліліт, любая, прынясі мне кубак віна з халоднага склепа, чырвонага даронага царом віна, з царскага вінаградніка ў Баалгамоне. Ліліт, любая мая, чые грудзі як блізняткі маладзенькае сарны, мы паедзем у Ерушалайм, там я куплю табе ўзорыстую сукенку, як на царскіх дочках, і салодка-духмяных пахошчаў, і там я страчу цябе. Прынясі мне віна..."

Чаму ж цара Яхвэ замянілі на Саўла, сына Кішавага?

Бачны цар, які б велічны ён ні быў у маладыя і сталыя гады, усё-такі старыцца і зношваецца; а ГАсподзь Яхвэ, цар Ізраіля, заўсёды застаецца ў велічы і славе. Затое волю сваю ён мог абвясціць толькі праз вусны іншых, а тыя, хто гэтую волю тлумачыў, былі людзі. Яны маглі і памыляцца. І каб жа толькі. А то ж яны маглі ўкладваць свае пажады ў БОжыя азнакі, і хадзілі чуткі, што не адзін святар перакройваў словы Яхвэ дзеля свайго дужа-вельмі наземнага інтэрасу.

Вядома, Самуіла, святара, празарліўца і суддзю, да такіх залічыць нельга. Я вывучаў яго кнігу, якую ён пакінуў нам, і перакананы, што ён быў чалавек сумленны і трымаўся самых высокіх прынцыпаў маральнасці. Толькі няма ладу які праведны чалавек мог выйсці перад цэлым народам, як гэта зрабіў ён у Міцпе, і заявіць: "Вось я: сведчыце на мяне перад ГОспадам і перад памазанцам Ягоным: у каго я ўзяў вала, у каго ўзяў асла, каго пакрыўдзіў і ўціснуў, у каго ўзяў дарунак і засланіў у справе ягонай вочы мае..." Аднак такі чалавек можа сваёй шчырасцю наброіць большага ліха, чым каторы сын Веліяла сваім махлярствам.

" – Пі, Этане, любы мой. Гэтая ноч такая духмяная. І чаму ты павінен страціць мяне? Я цябе не пакіну, калі толькі ты сам не прагоніш мяне. Лепей давай я паспяваю табе песню, якое ты навучыў мяне:

*Я – раўнінны нарцыс Шаронскі,*
*я – лілея з даліны!*
*Як лілея сярод бадзякоў –*
*каханая сярод сяброўак!*
*Як яблыня сярод лясных дрэў –*
*каханы мой сярод хлопцаў!*

Але ты зусім не слухаеш мяне..."

Святары з Рамы, чые бацькі служылі пад ім, валачашчыя прарокі з ягонай школы, усе яны апісваюць Самуіла так: высокі, худы, касматая сівая грыва, рэдзенькая бародка, да якое ніколі не дакраналася цырульняжная брытва, вочы зацятага дбальца за веру, суворая складка вуснаў – гэты чалавек бачыў ворага ў кожным, хто не адразу ўпакорваўся яго волі і загадам БОга, бо БОг быў царом Ізраіля, а Самуіл – Ягоны ўпаўнаважанец перад народам.

Самуіл правіў права ў народзе, якому прысціпчыла мецъ цара, каб той гаварыў чалавечым голасам і пасякаў сваім мячом. Суворымі словамі абмалёўваў ён сутнасць паноўца, які пастаўлены будзе на царства, і папярэдзіў, што неакілзаная ўлада псуе чалавека. Але народ Ізраіля як аглух.

Па-мойму, Самуіл, бадай што, і не здолеў зразумець, чаму ж народ так зацяўся ў сваім патрабунку жывога цара з крыві і плоці і чаму менавіта яму, далібог жа не самаму горшаму з суддзяў ізраільскіх, давялося саступіць і памазаць у цара чалавека.

"– Ліліт, любая, пакаштуй віна царскага. І пагладзь мне скроні, а тое ж галава забалела. Адкуль ідуць буры, якія мяняюць улонне зямлі, і што спараджае іх? Калі з'явіцца чалавек, здольны наперад адгадаць іх рух, ён праславіцца, як мудрэйшы за самога цара Саламона..."

Самуіл зацінаўся і з Самім ГОспадам БОгам: у сваёй кнізе ён падаў нам словы ГОспада, якія Той сказаў яму, Самуілу: "Слухайся голасу народа ва ўсім, што яны кажуць табе; бо не цябе яны адкінулі, а адкінулі Мяне, каб Я над імі не цараваў".

Якая самаахвярнасць Таго, Хто аддзяліў святло ад цемры і ваду ад водаў!

Магчыма, Яхвэ казаў так, каб суцешыць Самуіла; але, паводле ўсіх сведчанняў, Самуілу хапіла б гарту перацярпець гэты ўдар і без БОжых ушчуванняў і спагадак. Хутчэй за ўсё, па-мойму, тлумач ГАсподніх слоў перадаваў толькі свае адчуванні і пачуцці: гэта ён, Самуіл, лічыць сябе адкінутым, толькі пераносіць крыўду сваю ў сэрца БОга.

Бо пачутыя Самуілам словы нясуць у сабе адказ. Трэба толькі ўслухацца ў іх адценні. Хіба ў іх не пазнаецца голас старога чалавека? Ён правадыр невялікага племя; у яго ёсць свае слабіны і вартасці; ён спрабуе сцвердзіць справядлівасць і чыніць паводле добрага сумлення; ён спрабуе дапамагчы сваім супляменцам; але наспеў новы час...

Новы час...

"– Галасок твой, Ліліт, любасная мая, як ручаінка вясновая; словы, якія табе я паведаў, такія салодкія ў вуснах тваіх:

*Вось, і зіма адышла;*
*дождж перастаў, мінуўся;*
*кветкамі зацвітае зямля;*
*час песняў птушыных настаў,*
*і горлінка ў нашым краі*
*забуркавала..."*

Але калі ён пачаўся, гэты новы час з яго новымі закалотамі, на якія Ізраілю спатрэбілася ўправа ад новай улады? Калі апошняя качавая сям'я апошняга перакатнага племя атрымала сваю дзялянку зямлі? Калі жалеза выжыла бронзу? Калі на рынку перасталі мяняць воўну на збожжа, а пачалі прадаваць і купляць за кавалачкі срэбра? Калі сумленны пастух стаўся базарным гарлапанам, гандляром, ліхвяром?

Грымнуў новы час над Самуілам, а ён, празарлівец, не разгледзеў яго, часу. Ён штогоду аб'язджаў Ізраіль па тым самым старым коле – праз Бэт-эль да Гілгала і Міцпы – і судзіў Ізраіля ва ўсіх гэтых гарадах і вяртаўся ў Раму, бо там стаяў ягоны дом, там ён чыніў суд астатнюю рэшту года, там ён і паставіў ГОспаду алтар, думаючы, што так яно ўсё і застанецца па край яго зямных дзён. Аднак настаў час, калі ўжо нельга было не прыслухацца да голасу народу, і Гасподзь сказаў сваё слова Самуілу, і Самуіл выбраў Саўла бэн Кіша, сына Кішавага, з племя Бэньямінавага, які быў на галаву вышэйшы за ўсіх астатніх людзей са свайго народу, які выправіўся шукаць бацькавых асліц, а знайшоў цэлае царства.

Вось што распавядае нам Самуіл у сваёй кнізе, і сэнс ягоных слоў ясны: Саўл – цар над Ізраілем з ласкі Самуіла, першасвятара, суддзі і прарока, ён – Самуілаў твор і ўсім абавязаны яму.

Але ёсць і іншая легенда пра ўцараванне Саўла. Шмат у ёй цёмнага. Сучаснікаў Саўлавых сярод жывых ужо няма, а дакументы знішчаны царом Давідам: чалавек, з волі якога павешаны апошнія атожылкі мужчынскага полу ягонага папярэдніка Саўла, не мог не вынішчыць і памяць пра яго.

Вандроўныя пагуднікі павядаюць на рынках і каля гарадскіх брамаў, як аднаго разу прыйшоў Саўл за валамі з поля і пачуў плач і галас народу; ён даведаўся, што Нагаш, князь амонскі, абчапіў аблогаю горад Явіс у Гілеадзе і загразіўся выкалаць кожнаму месцічу правае вока, каб зняславіць увесь Ізраіль. Павядаюць таксама, быццам сышоў Дух БОжы на Саўла, калі ён пачуў гэтыя пагрозы. І ўзяў ён запрэжку валоў, і расцяў іх на часткі, і паслаў ва ўсе межы Ізраільскія з пасламі. Прынамсі ж, сышлося да яго столькі народу, што ён падзяліў яго на тры атрады і пайшоў з імі ў Явіс Гілеадскі, а там у гадзіну ранішняй варты зваліўся на аманітаў і да дзённае спёкі пабіў іх усіх да аднаго і вызваліў горад.

Тут з волі Яхвэ нарадзіўся новы правадыр ізраільскі – як Гідэон, як Эфтай, як патлаты Самсон. Але цяпер народу патрэбен быў цар, і народ выправіўся з ім да святыняў Гілгала, прынёс там мірныя ахвяры і паставіў Саўла царом.

Народ, а не Самуіл.

"– Табе холадна, Этане, любасны мой.

– Буры, якія мяняюць улонне зямлі, сцюжаю веюць.

– Мае сцёгны цёплыя, любасны мой, я расхіну іх табе.

– Мёд і малако пад языком тваім, Ліліт, залатая мая, і водар строяў тваіх падобны да водару Лівана. Пяшчоты твае лепшыя за віно..."

## 3

З таго часу як прабацька наш Абрагам перасяліўся з Ура халдэйскага ў зямлю Ханаан, на долю нашага народу выпала шмат бадзянняў. Досвед навучыў нас, што лепш выпраўляцца ў дарогу з невялікай паклажай і спадзяваннем на БОга.

Аднак мае архівы складаліся з процьмы гліняных таблічак і пергаментаў, і ўсё гэта трэба было пабраць з сабою. Але, зірнуўшы на цэлы караван аслоў, наўючаных скрынкамі маіх архіваў, ці ж мог я адмовіць Эстэры,

любай жонцы маёй, узяць і яе куфры і дываны. А Хулдзе, маці маіх сыноў, забраць яе чарэп'е, а маёй наложніцы Ліліце – яе слоічкі, скрыначкі, пушачкі, пудраніцы і пуздэркі? Паклажа і праўда ж сама вымагае новай паклажы, бо на кожную пару аслоў з карысным скарбішчам патрэбен трэці асёл пад правізію паганятым і жывёле. Я выкляў сябе за легкадумства, бо ж сам забыўся абгаварыць з царом Саламонам пытанне пра дарожныя выдаткі.

Ішлі дні. Кожнага разу, калі я акідаўся вачыма і бачыў наш караван, які плёўся па песчыне – сорак аслоў з паганятымі і маёю сям'ёю, – я думаў пра доўгую дарогу ў пустыні Сінайскай. Магчыма, у пераліку на кожнага чалавека, дзеці Ізраіля валаклі на сабе крыху меней манатак з Егіпта, чым мы з Эзраха, затое нас у Ерушалайме чакала, бадай што, столькі ж невядомага, колькі народ Ізраіля ў зямлі абяцанай.

Эстэр пагойдвалася на вослiку, яе паліла неміласэрнае сонца, пад вачыма ў яе цямнелі плямы; яна абапіралася на Шыма і Шэлэта, маіх сыноў ад Хулды, якія ішлі побач. Сэрца маё сцялося ад жалю да Эстэры, і я сказаў зрабіць прывал у цяні вялізнага валуна, на версе якога расло дрэва тэравінт

Але Эстэр сказала:

– Я ведаю, Этан, табе спех у Ерушалайм.

Я паглядзеў на яе зблажэлы твар, пачуў, як цяжка ёй дыхаць, і ўспомніў яе колішнюю: наравістую і жыццярадасную, дасціпную і вясёлую кабету, чалавека рэдкага душэўнага харaства. І я сказаў:

– Мне хочацца прыбыць туды разам з табою, краска мая.

Яна сказала:

– Калі ГАсподзь захоча, я жыцьму. А як не захоча, дык прыйдзе да мяне анёл ГАсподні, пакладзе мне руку на сэрца, і яно замрэ.

І паслаў ёй ГАсподзь сон; яна спала ў цяньку, пакуль не павеяла вячаровым ветрыкам і не прыспела зноў рушыць у дарогу Доўгая яна была, і валакліся мы павалютку, бо прыходзілася спыняцца кожнага разу, як Эстэр стамлялася. Але на сёмы дзень мы дабраліся да перавала над ракою Кедрон, адкуль быў відзён Ерушалайм – яго валы і брамы, і вежы над брамамі, яго блішчастыя дахі, яго скінія, пурпуровая пляма на сляпуча белым тле палаца і фартэцыі.

Тут я ўпаў ніцма перад ГОспадам і падзякаваў яму за тое, што Ён спадобіў мяне і маіх блізкіх пабачыць Ерушалайм; я запрысягнуўся прынесці на ахвярнік, які паставіў цар Давід на гумне евусэяніна Орны, тлустага баранчыка і далікатнае казляня – баранчыка ў падзяку за шчаслівае завяршэнне падарожжа, а казляня з малітваю за БОжае спасабленне ў горадзе Давідавым і пры двары цара Саламона.

На мурах і вежах стаялі дазорцы, якія здалёк змецілі нас і сачылі, як мы пад'язджалі да вялікае брамы. Вартаўнік-хэлэтэй, крыцянін, спыніў нас, а калі я паказаў яму свой пропуск, ён гукнуў начальніка брамнай варты.

– Гм, гісторык? – Начальнік варты быў пісьменны. – Ерушалайму патрэбны муляры, жарнасекі, насільшчыкі раствору; нават шавец таксама прыдаўся б, а тут наце вам гасцінца – гісторыка ліха прынесла.

Я паказаў царскую пячатку.

– Гэтаму люду патрэбна гісторыя, – казаў далей начальнік варты, – рыхтык як мне скула ў срацы Дурнымі яны родзяцца, дурнымі і мруць, яны блудзяць са сваімі маткамі і авечкамі, а ты хочаш ашчасліваць іх гісторыяй. Ім і без тваёй гісторыі моташна. – Ён тыцнуў брудным тоўстым пальцам у адну скрынку – Што там?

– Мой архіў

– Адчыні.

– Але таблічкі рассыплюцца, усё перамяшаецца.

– Адчыні, табе сказана.

Вузел ніяк не развязваўся. Я з усёй сілы цягнуў за рэмені. Раптам скрынка адчынілася, і бясцэнныя гліняныя таблічкі пасыпаліся ў пыл. Натоўп каля брамы завыскаляўся. Кроў лінула мне ў твар, я хацеў крыкнуць на начальніка варты, але тут вочы мае ўперліся ў натоўп. Гэта былі дзіўныя людзі, зусім не такія, якіх бачыш у правінцыйным гарадку тыпу Эзраха. Гэта былі зладзюганы, шахраі, валацугі, беглыя рабы, вантробы няскрэбтаныя, адным словам – галаварэзы; і ўсе ў трантах; тут былі і калекі, якія быццам напаказ выстаўляліся са сваімі куксамі, ліпкімі патламі, загноенымі вачыма. Гэта была багна, на якой паўстаў новы Ерушалайм, гэта быў другі бок велічы, што называлася царом Саламонам, – пазаддзе і высеўкі новага часу, нягеглыя, нехлямяжыя ці проста занадта слабыя, каб патрапіць сысціся ў нагу з векам, зразумець і прыняць яго новы дух. На мяне сыпаліся смешкі і пагрозы; магчыма, прычынай таго былі аж сорак наўючаных маім скарбам аслоў, а можа, што я быў гісторык, – начальніку варты гадзілася толькі міргнуць, пальчыкам павесці, і яны кінуліся б на нас, як гіены на падлу

Але начальнік варты выхапіў з-за пояса бізун і ляснуў ім над галовамі. Шым і Шэлэт таропка пазбіралі таблічкі. Я склаў іх у скрынку і на скорую руку ўвязаў яе.

Так мы ўвайшлі ў гэты горад.

Ах, якое ж яно было, тое лета! Тое ерушалаймскае лета.

Адзін скварны дзень сплаўляўся з другім. Эстэр моўчкі пакутуе. Хулда дрэмле, кропелькі поту цякуць па яе шчоках. Нават Ліліт як бы прывяла, невясёлая.

Трэба было падумаць пра гарач, пра мух, пра гарадскую спёку, перш чым згаджацца прыступаць да працы над *Кнігай пра Дзівосны Ўзлёт* і г.д. на другі дзень пасля Пасхі.

Усе, хто мог сабе дазволіць, паўцякалі за горад. Цар і двор, а таксама гарэм перабраліся ў царскія маёнткі каля возера Кінэрэт, каб улагоджвацца там воднай прахалодай; толькі дзесяці наложніцам Давіда, нябогам, да якіх на вачах усяго народу быў увайшоў мяцежны сын Абэсалом і якіх цар з таго часу запусціў у ялаўкі, нельга было ехаць разам з усімі. Мне ж яшчэ пашанцавала: канцлер Ёсафат, сын Ахілудаў, затрымаўся ў Ерушалайме па службовых патрэбах, і я наказаў яму пра свой прыезд. Ён паслаў мяне да распарадчыка царскай нерухомасцю. Гэты пашаноўны чалавек, які, па ўсім відаць, таксама памыкаўся як мага хутчэй выбрацца за горад, пасля кароткай гутаркі выдзеліў мне адзінае вольнае жытло – дом № 54 у завулку Царыцы Саўскай; у доме тры пакоі, а стаяў ён у квартале царскіх чыноўнікаў і лявітаў другога і трэцяга разраду Хоць будаўнікі сышлі зусім нядаўна, па тынку ўжо пабеглі расколіны, са столі звісала салома, дах падазрона скасабочыўся. Апрача таго, дом быў занадта малы, а мне быў патрэбен пакой пад працу. Яго можна было прыбудаваць, балазе, я заняў пасаду рэдактара *Кнігі Цара Давіда,* таму разлічваў знайсці ліхвяра, які – хай пад самыя разбойныя працэнты – пазычыць мне грошай на будаўніцтва; адна бяда – дзе знайсці ў Ерушалайме муляраў і цесляў? Усе наяўныя будаўнікі з відна да цямна, за выключэннем суботаў, працуюць на храме, царскім палацы, стайнях і рамізах пад новыя царскія баявыя калясніцы, а таксама на казармах для хэлэтэяў і фэлэтэяў і грамадскіх будынках пад установы, якія пладзіліся дзень у дзень. Школа зачынена на летнія вакацыі, таму Шым і Шэлэт бадзяюцца па вуліцах як валачашчыя сабакі; яны расказваюць, што ў Ерушалайме можна дастаць усё, трэба толькі мець сувязі і ведаць, каму сунуць у лапу. Я не супроць, каб памацаць сувязі альбо нават крышачку патрэсці сваю торбу, але ў гэтым горадзе я ж зусім пакуль што чужы, а становішча маё занадта хісткае ды і абставіны ў цэлым даволі складаныя; пры такой раскладцы я проста не мог браць разбег на няправільны скок.

Карацей, ад прыбудовы давялося адмовіцца. Апрача таго, вось-вось скончацца грошы У царскім казначэйстве, якое было крыху на поўдзень ад недабудаванага храма, чыноўнікаў амаль не засталося, а тыя, што сядзелі, стараліся вырвацца са службы дамоў пры першай нагодзе; пасля шматгадзіннага чакання мне ўдалося, нарэшце, выйсці на нейкага Пэнуэла, сына Мушы, сталаначальніка трэцяга разраду, які мяне цярпліва выслухаў Потым, перакапаўшы груду запыленых гліняных таблічак і пергаментаў, ён паведаміў мне, што ні плацёжных даручэнняў, ні якіх бы там іншых указанняў наконт мяне не паступала і да свята Кучак, якое будзе спраўляцца царом Саламонам і яго прыбліжэнцамі ў Ерушалайме, хваробу можна на нешта спадзявацца.

Я жаласліва заенчыў і спытаўся, няўжо ў Ерушалайме няма анікога, хто мог бы распарадзіцца пра выплату задатку і каго можна было б схіліць да такога рашэння.

На гэта Пэнуэл, змахнуўшы мух з маршчыністага твару, спалохана сказаў нават калі такі ўплывовец і знайшоўся б у Ерушалайме, хіба ягонага подпісу досыць? Сёння ён распішацца, заўтра яго, можа, ужо і самога распішуць, чаго тады варты будзе гэты ягоны подпіс? Бо хто ведае, чые імёны былі ў тым спісе, які цар Давід на смяротным ложку перадаў сваіму сыну Саламону? Таму на кожнай плацёжцы павінен стаяць альбо царскі подпіс, альбо царская пячатка.

Тут я, скеміўшы, што магу здабыць важныя звесткі, пацікавіўся: я, бачыце, і сам чуў пра такі спіс, але ці бачыў яго хто-небудзь? Можа, гэты славуты спіс насамрэч усяго толькі чутка, якую распускаюць наўмысна, каб апраўдаць расправы Бэнаі, сына Ехаяда.

Пэнуэл, спалохаўшыся, што гаворка заходзіць ці не занадта далёка, прамармытаў а ці не пара перакусіць, сонца, бачыце, ужо высока, і ўжо павярнула на полудзень.

Хоць і схуднеў мой кашалёк, аднак я адразу спытаўся ў Пэнуэла, ці не акажа ён мне кампаніі ў сціплым застоллі; можа, ён ведае якую зацішную карчомку за гарадскім мурам, дзе знойдзецца цень, неразбаўленае віно і порцыя ешчай смажанкі.

Бо заняткі гісторыяй – не толькі ў перакладанні скудзельных таблічак.

ГІСТОРЫЯ ПАРТЫЙНЫХ ЗАКАЛОТАЎ ПРЫ ЎЦАРАВАННІ САЛАМОНА, СЫНА ДАВІДАВАГА, ЗАПІСАНАЯ СА СЛОЎ ПЭНУЭЛА БЭН МУШЫ, СТАЛАНАЧАЛЬНІКА ТРЭЦЯГА РАЗРАДУ ПРЫ ЦАРСКІМ КАЗНАЧЭЙСТВЕ; ЗАЎВАГІ ПЭНУЭЛА БЭН МУШЫ, ЯКІ АД ВІНА І СМАЖАНКІ ЛІШНЕ РАЗГАВАРЫЎСЯ, ПАДАДЗЕНЫЯ Ў ДУЖКАХ ДАСЛОЎНА

Калі цар Давід ужо састарыўся і ўвабраўся ў запаветны век, ён ніяк не мог сагрэцца, хоць і знайшлі яму прыгожую дзяўчыну шунаміцянку Абісагу, якая даглядала яго і прысыпала яго, каб яму было цёпла. А ён добра ведаў, што дні яго палічаныя, але не выказваўся ні за Аданію, ні за Саламона, ні за каго іншага са сваіх сыноў.

(Цар ляжаў, утаропіўшыся ў столь, і адчуваў, як яго рукі выпускаюць лейцы ўлады. Ён добра разумеў, што ўсе глядзяць на яго і чакаюць ягонага слова, каб выкарыстаць гэтае слова ў барацьбе за спадкаванне трона; гэтае слова было тое апошняе, што засталося яму ад ранейшай магутнасці.)

Аданія, Давідаў сын ад жонкі ягонай Хагіты, папаслівы красунчык, які нарадзіўся Давіду пасля Абэсалома, запусціў погаласку: "Я буду царом!"; ён завёў сабе калясніцы, і верхаўцоў, і пяцьдзесят ганцоў-скараходаў, якія беглі паперадзе і крычалі народу: "Расступіся, зброд! Дарогу спадкаемцу трона!" Але нават калі вулічны гвалт даходзіў да цара, ён не дакучаў сыну роспытамі.

(Зрэшты, на цара ўжо мала зважалі. Яму заставалася толькі чакаць, калі ГАсподзь сам пераважыць чыю-небудзь шалю. Праўда, за царом было яшчэ яго апошняе слова перад смерцю; і калі, крый БОжа, слова будзе сказана не таму, каму трэба, і той адбудзе паразу, што застанецца ад Давіда? Суд людскі ўчыняецца нашчадкамі, а ад сына залежыць, якім застанецца бацька ў памяці людской.)

А Аданія згаварыўся з Давідавым ваяводам Ёабам, каб заручыцца падтрымкаю войска, і з першасвятаром Абіятарам, за якім стаялі ўсе святары краіны, бо яны не хацелі страціць сваіх малых свяцілішчаў і алтароў на пагорках, з якіх мелі прыбытак; абодва гэтыя былі на баку Аданіі. І закалоў Аданія авечак, і валоў, і цялят каля каменя Захэлэт, што каля крыніцы Эн-рагэль, і запрасіў усіх сваіх братоў, сыноў царскіх, і ўсіх мужчын з племя Юды, якія служылі цару. Толькі Саламона, брата свайго, не запрасіў.

(Саламон, другі сын Бээр-шэбы, Вірсавіі, – думаў, мусіць, перад смерцю цар, – ён яшчэ замаладзь праславіўся мудрымі прыпавесцямі. БОг дабраволіць Саламону, гэта ясна як божы дзень, толькі ніколі не зразумееш, што Саламону наўме. За старэйшым, Аданіем, – войска, але войска тое спачатку яшчэ трэба сабраць, а Абіятаравыя святары – гэнь! раскіданыя па ўсёй краіне, з наседжанага месца нікога не спораш, затое піць, жратвой акладацца і з бля́дзямі скацініцца – тут яны першыя, тут яны паспеюць прапхнуцца заўсёды. Усё ўзалежніцца ад паводзінаў Бэнаі, пастаўленага над хэлэтэямі і фэлэтэямі, царскай гвардыяй, бо яна была войскам, заўсёды гатовым да бою.)

А вось прарок Натан і Цадок, другі першасвятар, які стаяў за адзінае і галоўнае Свяцілішча, за моцную ўладу над усімі святарамі і лявітамі, – абодва яны не былі прыхільнікамі партыі Аданіі і даволі-такі пабойваліся яго. Натан нашаптаў Вірсавіі, каб тая ратавала сваё жыццё і жыццё сына Саламона. Ён нараіў ёй пайсці да цара Давіда і сказаць яму: "Ці не бажыўся ты, валадару мой цар, рабе тваёй, кажучы: "Сын твой Саламон будзе царом пасля мяне, і ён сядзе на троне маім"? Чаму ж паводзіцца Аданія, як бы ўжо ўцараваны?" Натан паабяцаў Вірсавіі прыйсці да цара адразу за ёю і пацвердзіць яе словы. Вірсавія пайшла да цара ў спальню і сказала яму тое, што падказаў ёй прарок Натан, ад сябе дадаўшы: "Валадару мой цар, вочы ўсіх ізраільцянаў глядзяць на цябе, каб ты абвясціў ім, хто сядзе на троне валадара майго цара пасля яго. Інакш, калі валадар мой цар спачывацьме з бацькамі сваімі, пацерпім я і сын мой Саламон".

(Ён ляжаў на пасцелі з дзяўчынай Абісагай, якая грэла яго, а жонка ўмаўляла яго. Няўжо і праўда ён калісьці падрадзіўся ёй аж на такое? Апошняя жарсць у мужчыны самая моцная; праз яе ён пайшоў на забойства, і Саламон быў дзіцём грэху. Але пасля страшнай смерці Амнона і пасля пагібелі Абэсалома, які, зачапіўшыся валасамі, павіс на галіне дуба, Аданія быў наступны спадчыннік трона. Старая, якая прасіла за сына, і дзяўчына, якая тулілася да цара, – не, гэта ўжо занадта; усе мы толькі вандроўцы на гэтай зямлі, усе мы ў дарозе, і ягоная дарога дабегла да краю.)

І вось, калі Вірсавія яшчэ гаварыла з царом, у спальню ўвайшоў прарок Натан і сказаў: "Валадару мой цар! Ці ж бо казаў ты: "Аданія будзе царом пасля мяне, і ён сядзе на троне маім?" А ён сёння запрасіў усіх сыноў царскіх, і Ёаба, і ваяводаў, і святара Абіятара, і вось, ядуць яны і п'юць у яго, і крычаць нябось: "Слава цару Аданію!" А Саламона, сына твайго, і мяне, раба твайго вернага, і святара Цадока, і Бэнаю, сына Ехаядавага, аж такі не запрасіў". Але цар павярнуўся да Абісагі, паглядзеў на яе і сказаў: "Ты гожая і прыгожая, а толку з таго мне ніякага". Потым ён спытаўся ў Натана: "Ці правільна я зразумеў – Бэнаі таксама не запрасіў?" І прарок Натан адказаў: "Усё так, як я сказаў табе, валадару мой цар; ні Бэнаі, сына Ехаядавага, ні царскай гвардыі не запрасіў Аданія да каменя каля крыніцы Эн-рагэль".

Тады цар Давід крыху падвёўся і сказаў Вірсавіі: "Як я прысягаўся табе ГОспадам БОгам Ізраілевым, так і зраблю гэта сёння". І сказаў ён: "Клікніце мне святара Цадока і Бэнаю, сына Ехаядавага". І калі яны ўвайшлі да цара, ён сказаў ім: "Вазьміце хэлэтэяў і фэлэтэяў, пасадзіце Саламона, сына майго, на мула майго і завядзіце яго ў Гіён. І хай памажа яго там Цадок святар і Натан прарок у цара над Ізраілем, і затрубіце трубою і абвясціце: "Слава цару Саламону!" І адказаў Бэная, сын Ехаядаў, цару: "Аман, – і хай скажа гэтак сама ГАсподзь, БОг валадара майго цара!"

(Цар адкінуўся на падушкі. Адна шаля БОжых вагаў схілілася, і слова БОжае ён ясна пачуў. Толькі гэта было цяжка, і давялося патрываць, аж пакуль Саламон не вернецца з Гіёна: бо трэба ж было яшчэ перадаць яму спіс, каб сын разлічыўся з тымі, разлічыцца з кім у яго самога не ставала ўжо сілы. Шмат хто ўжо шукаў гэты спіс у маіх пакоях і ў сховішчы тайнапісаў Дурні, падумаў, мабыць, цар, – нельга знайсці таго спіса. Усе імёны былі ў яго ў галаве. Цэлым спісам.)

І зрабілі Натан, і Цадок, і Бэная так, як загадаў ім цар, і памазалі Саламона, і затрубілі трубою. Увесь народ крычаў: "Слава цару Саламону!", і іграў народ на жалейках і пасвісцёлах, і моцна радаваўся, аж зямля прасядала ад крыку ягонага. А Аданія і ўсе запрошаныя ім пачулі шум. Ёаб спытаўся: "Чаго такі галас, чаго хвалюецца горад?" Тут прыйшлі вестуны, сярод іх сын святара Абіятара, і расказалі пра тое, што сталася. Тут усе, хто быў з Аданіем, убачылі, што Ёаб, галоўны ваявода, не меў пры сабе войска, а з сотнікамі не было іхніх сотняў і пры тысячніках не было іхніх тысяч; затое Бэная, сын Ехаядаў, меў пры сабе сваіх хэлэтэяў і фэлэтэяў, гвардыю царскую. Тут усе запрошаныя перапалохаліся і, нават не ўцёршы рота пасля яды, усталі і пайшлі кожны сваёю дарогай. А Аданія, баючыся Саламона, пайшоў і ўхапіўся за рогі ахвярніка. Аднак Саламон яшчэ не быў зусім пэўны сваёй улады і таму сказаў: "Калі Аданія будзе чалавек сумленны, дык ніводная валасіна не ўпадзе з яго на зямлю; калі ж выявіцца ў ім падступства, дык памрэ". І Аданія прыйшоў і пакланіўся цару Саламону; і сказаў яму Саламон: "Ідзі дахаты". А канцлер Ёсафат бэн Ахілуд, які ляжаў на тым часе ў сваім летнім доме ў Ліване, вярнуўся ў Ерушалайм і праславіў новага цара, і быў аблашчаны Саламонам. Бэнаю, сына Ехаядавага, цар паставіў ваеначальнікам над усім войскам замест Ёаба. А ўсе нярадыя ізраільскія, якія лічылі, што іх ушчамілі, паднялі вочы свае да Аданіі і чакалі, калі Ёаб затрубіць трубою сваёю; але цар Саламон загадаў Бэнаю паўсюль мець свае вушы, і голас Ізраіля стаў цішэйшы за ветрык сярод каласкоў.

Пад канец свайго расказу Пэнуэл, сын Мушы, мой субяседнік, захмялеў. Ён абняў мяне і сказаў, што ўсе цары на адзін капыл, што табе Аданія, што Саламон – усе яны крывасмокі ненаедныя; і ўвогуле ГАсподзь выкляў дом Есэеў за тое, што на Давідавых руках занадта многа крыві, і за тыя нягоды, якія ён навёў на народ.

Надвечар, калі мы вярталіся праз гарадскую браму, раптам пачуўся конскі тупат, стукат колаў і гупат ганцоўскіх ног, крыкі: "Разыдзіся, навалач! Дарогу Бэнаю бэн Ехаяду, начальніку над войскам і над хэлэтэямі і фэлэтэямі, царскай гвардыяй!" Мой новы прыяцель адразу кудысьці знік, нібы ў шчолку нырца; я застыў ад нечаканасці як укапаны. А з вышыні пачуўся моцны голас: "Тпрудзе, воўка на вас!"

Колы віскнулі, паляцелі іскры з-пад капытоў, і той самы голас сказаў:

– Хай мяне БОг спадобіць так і гэтак, калі я бачу не Этана, сына Гашаінага, рэдактара *Кнігі пра Дзівосны Ўзлёт* і г.д.

Я ўжо хацеў быў брыкнуцца ніцма, але ўладарная рука паклікала мяне ў калясніцу.

– Я падвязу цябе дамоў, Этане, калі толькі ты туды скіраваўся, – сказаў Бэная. – Я ўжо дачуўся, што ты ў Ерушалайме. Чаму не знайшоў мяне?

Я ўскараскаўся ў калясніцу.

– Мне здавалася, што мой валадар таксама ў адным з царскіх летнішчаў, – сказаў я, – на беразе мора альбо на схілах Лівана, дзе ручаіны цякуць з вечных снягоў, арашаючы шалясткія кедры.

– Шалясткія кедры. – Бэная нечакана тузануў калясніцу з месца, і я ледзьве ўтрымаўся на нагах.

– Хто абароніць мірнае ягнятка ад лютага мядзведзя, ад ільва рыклівага альбо ад шакала, калі я з'еду з Ерушалайма?

Я бачыў перад сабою зальснёныя азадкі коней і белыя посахі ганцоў; вакол зноў і зноў грымела імя Бэнаі бэн Ехаяды. Тут сышоў на мяне Дух ГАсподні, і я зразумеў, якая яна салодкая, улада над людзьмі.

Рука Бэнаі, якая трымала лейцы, была булаватая і жылістая; ён гулка зарагатаў і сказаў·

– Мой бацька быў рабом у Ізраіле, ён працаваў у медных руднях, там нажыў сухоты і памёр. А я, Бэная, сын ягоны, навучыўся граматы, і твае гліняныя таблічкі – не ляд якое мне дзіва. Я бяру цябе пад сваю аслону, Этане, пакуль ты будзеш пісаць тое, што заўгодна мне і Саламону, але калі ў цябе зародзяцца крамольныя думкі і калі ты намысліш іх запісаць на свае гліняна-гаўняныя таблічкі, дык я насаўгну тваю галаву на ражон, а тулава прыб'ю да гарадское сцяны.

Я запэўніў Бэнаю, што мне ані на ўме ніякая крамола, а крым таго, як галава сям'і, я вельмі шаноўна стаўлюся да дзяржавы і да ўсіх яе інстытуцый, ваенных, адміністрацыйных і рэлігійных.

Калясніца спынілася.

– Далей сабе можаш прабегчыся, Этан. – Бэная тыцнуў пальцам у вулачку, якая звузілася настолькі, што і двум аслам не прапхнуцца. – Гэты горад не разлічаны на язду ў калясніцах.

Я саскочыў на зямлю, падзякаваў Бэнаю і ўзычыў, каб ГАсподзь яму ўспрыяў здароўем і багаццем; здавалася, ён не слухаў мяне. Ён падаў коней назад і нейкім дзівам ухітрыўся развярнуць калясніцу; пасля зноў пачуўся бег ганцоў, тупат капытоў, стукат колаў У цішыні мне прыйшло ў галаву, што варта было папрасіць у яго грошай. Ягоны подпіс напэўна ж бо нечагась быў варты.

## 4

Гарачыня адступілася. Прыйшлі Кучкі. Горад апіваўся віном і чмурэў ад дыму з мяса, якое смажылася на ахвярніках.

У царскіх вінаградніках у Баал-гамоне, як заўсёды гэтым часам, былі пастаўлены будыны на згадку пра выхад з Егіпта, у буданах ціскаліся, пераміналіся парачкі, часта аднаго і таго самага полу. Здавалася, ханаанскія божышчы Ваал і Астарта святкуюць сваё ўваскрэсенне. На ўвешаным гірляндамі крэсле сядзеў увенчаны вінаградным вянком Амэнхатэп, галоўны еўнух пры царскім гарэме, мабыць, ён уяўляў сябе тут вярхоўным жрацом гэтага свята. Па-егіпецку далікатным рухам рукі ён пасылаў цыцастых дзевак і вузкасцёгных хлопцаў у той ці іншы будан, а следам за імі рабоў з бурдзюкамі віна і міскамі салодкіх прысмакаў.

– Этан бэн Гашая? – спытаўся Амэнхатэп гартанна, як гавораць на берагах Ніла. Я згодліва кіўнуў – Чаму ж ты не прыхапіў каторую з тваіх жанчын?

Ён быў, паводле чутак, свежым набыткам двара, фараонавым дарункам цару Саламону; Амэнхатэпа, тонкага знаўцу жанчын, паспелі ўжо ацаніць у царскім гарэме за вытанчаныя заграніччныя манеры, якія выгодна вылучалі яго сярод грубых і неацугляных наглядчыкаў.

– І без таго гонар мне занадта вялікі, – адказаў я, – запрашэнне заспела мяне знянацку, таму я рашыў, што яно не пашыраецца больш ні на кога.

– Так, запрашэнне і праўда не зусім звычайнае. Адна вельмі высокапастаўленая асоба пажадала пазнаёміцца з табою.

Ён усміхнуўся і павярнуў галаву, яго профіль выразна глядзеўся ў яркім святле паходні. Амэнхатэп быў на дзіва хударлявы як на кастранца; толькі абвялая скура пад падбародкам ды часам перахліставаны на высокі фальцэт голас сведчыў пра колішнюю аперацыю на ім.

Амэнхатэп даў знак факельшчыку, я пайшоў за ім. Ноч напоўнілася галасамі, пахла спелым вінаградам. Нехта заспяваў, мелодыю падхапіла жалейка, – крышачку пад фальш, але пачуццёва, пачуўся нечый посмех, але тут жа і аціх.

Я спатыкнуўся і ледзь быў не ўпаў. Мяне падвялі да будана, дзе на нізенькім ложку сядзела сталістая жанчына, захінутая па самае горла тканінай, строгай і цёмнай. Факельшчык знік, але тут гарэла маленькая свяцільня, ды і месяц прасочваўся тоненькімі пасмачкамі праз навісь галін. Жанчына павярнулася да мяне тварам, на якім час пакінуў свой след, я разгледзеў у змроку вялікі падфарбаваны рот і вялікія падведзеныя вочы.

Я ўпаў ніцма:

– Прынцэса Мэлхола!

Я ніколі не бачыў яе, затое, як і ўсе, многа наслухаўся: дачка Саўла, якой давялося перажыць па чарзе пагібель усіх яе блізкіх аж да кульгавага Мэмфібашэта; два разы была яна жонкаю Давіда, аднак засталася бяздзетная ў кару за тое, што аднаго разу пасмяялася з яго.

– О светач вачэй маіх, да ног Вашых прыпадае Ваш раб, сабака нікчэмны, – словы лёгка сыпаліся ў мяне з языка; было ў гэтай жанчыне нешта такое, што змушала да пакорлівасці. – Мая спадарыня-пані загадала мне прыйсці сюды, у такі час?

Яна абаперлася на локаць, паднялася. Выглядала яна старэйшаю, чым я ўяўляў яе па расказах: рукі худыя, скура ды косці, а зубы – правільней, тое, што ад іх засталося, зусім пажаўцелі.

– Значыцца, гэта ты пісацьмеш гісторыю Давіда?

Голас яе даносіў водгулле маладой звонкасці.

– У лепшым разе, прынцэса, я толькі зводжу ў адно тое, што прыйдзе да мяне ад іншых, аднак і гэта будзе рабіцца толькі з ухвалы наймудрэйшага з цароў Саламона.

Мяне перапыніў загадны рух.

– Што табе вядома пра Давіда?

– Не лічачы цяперашняга спадкаемца трона Саламона, ён быў, несумненна, самы вялікі дзяржаўны муж Юдэі і Ізраіля, выбранец БОжы; нездарма ГАсподзь пастанавіў свой запавет з Давідам, панішчыў яго ненавіснікаў і абяцаў, што семя Давідава заставацьмецца вечна.

– Інакш кажучы, – зноў царскі рух, – табе нічога не вядома.

Я памаўчаў.

– І табе хапае пэўнасці пісаць пра яго альбо хоць бы зводзіць у адно тое, што ідзе да цябе ад іншых?

– Чалавек вялікі легендай, якая ствараецца пра яго.

Яе вусны скрывіліся.

– І Вы хацелі б разбурыць легенду, спадарыня?

– Я хачу, каб ніхто пра яго нічога не ведаў, калі мяне тут не стане.

Я чакаў

– Ён быў вельмі прыгожы з сябе, – сказала яна, – але не такі рослы, як мой бацька альбо Ёнатан, з выгляду нават далікатны: ён быў рыжы і смуглы. Ён прыйшоў да нас са сваёй музыкай і вершамі.

### ЗАПІС ГУТАРКІ ПРЫНЦЭСЫ МЭЛХОЛЫ З ЭТАНАМ, СЫНАМ ГАШАІНЫМ, У БУДАНЕ ЦАРСКАГА ВІНАГРАДНІКА Ў БААЛ-ГАМОНЕ НА КУЧКІ

**Пытанне:** Двор Вашага бацькі, цара Саўла, быў, мабыць, не такі вялікі і раскошны, як цяперашні. І ўсё ж – нечакана ў ім з'яўляецца сын нейкага Есэя з Бэтляема. Нават калі падумаць, што гэты Есэй быў чалавек знакаміты і заможны.

**Адказ:** ... такім ён не быў Гэта пазней, дзеля спрыяльнага ўражання, пусцілі пагудку, быццам Есэй валодаў незлічонымі статкамі, меў вялікі дом, быццам голас яго меў вагу ў радзе Юдэі, а род ягоны сягае да продкаў Юды. А напраўду ж Есэй быў подлага роду і бедны селянін, які нарадзіў сыноў больш, чым мог пракарміць. Тры пайшлі служыць у войска, а Давід яшчэ доўга пасвіў бы некалькі бацькавых сухарэбрых авечак, калі б Бэтляемскія святары не прыкмецілі, якімі чарамі надзелены ягоныя цела і голас.

**Пытанне:** Святары ўзялі яго ў навуку?

**Адказ:** Калі ён паявіўся ў нас, дык ужо ўмеў паводзіцца. І сваёй мовай зусім не быў падобны на простага пастуха. Ён выдатна граў на гуслях, ведаў старыя песні і складаў новыя. А галоўнае, ён удала пад'ехаў да майго бацькі, цара Саўла.

**Пытанне:** Ці памятае мая спадарыня, хто яго нараіў, выбраў, прыстроіў пры двары?

**Адказ:** Давід ніколі мне пра гэта не казаў. Былі пытанні, ад якіх ён ухіляўся.

**Пытанне:** Можа, сваім часам Вы чулі пра гэта ад каго-небудзь іншага?

**Адказ:** Не памятаю. Мне ж на тым часе яшчэ і трынаццаці не было, я была закаханая ў майго брата Ёнатана, плёткі ў палацы мяне не цікавілі.

**Пытанне:** Раскажыце рабу Вашаму ўсё, што захавала Ваша памяць.

**Адказ:** ГАсподзь пакараў майго бацьку, цара Саўла, цяжкай хваробай. Мы склікалі лявітаў, лекараў і знахараў. Пайшлі зёлкі і кравапускі, ахвярапрынашэнні і замовы Нехта параіў музыку

**Пытанне:** А хіба пры двары не было музыкаў?

**Адказ:** Цэлая пропадзь! Чаго яны толькі не выраблялі: брынчалі, дрынчалі, гудзелі, дудзелі, білі ў барабаны, але ўрэшце бацька накрычаў на іх і загадаў гнаць у каршэнь. А Давідавыя песні былі зусім іншага складу Іх мелодыі і словы суймалі боль, напаўнялі душу неверагоднай скрухаю; вочы ў майго бацькі зноў улагодзіліся, твар паспакайнеў, сутаргі і курчы адпусцілі яго, і першы раз пасля шматдзённага шалення ён спакойна заснуў.

**Пытанне:** Што ж гэта была за хвароба?

**Адказ:** Ад Саўла адступіўся Дух ГАсподні, і пачаў яго трэсці ліхі дух ад ГОспада.

**Пытанне:** Ці нельга апісаць, як і ў чым гэта аказвалася?

**Адказ:** Гэта было жахліва. Прайшло стольскі гадоў, але тыя страшэнныя явы са мною дагэтуль. Волат, які высіўся сярод бітвы як крапасная вежа, забіваўся ад страху ў кут, мармытаў нешта недарэчнае, кусаў сабе рукі

альбо цэлымі гадзінамі таропіўся ў адну кропку, слухаў нейкія галасы, якія чуліся толькі яму аднаму, альбо дрыжаў і шалеў з шумавіннем на вуснах.

**Пытанне:** А ці заўважалася якая-небудзь заканамернасць? Напрыклад, больш-менш роўныя прамежкі паміж шаламі ліхога духа?

**Адказ:** Звездары звяраліся з фазамі месяца і размяшчэннем зорак, але ніякай сувязі з хваробаю выявіць не ўдалося. Спачатку паміж прыпадкамі праходзілі месяцы, потым яны пачасцелі, і бацьку выпадалі толькі нямногія дні спакою.

**Пытанне:** А ці не ўспомніць мая спадарыня, калі ліхі дух апанаваў яго першым разам?

**Адказ:** Здаецца, пасля перамогі над Амалікам. ГАсподзь сказаў майму бацьку праз прарока Самуіла аддаць смерці ў Амаліку ўсіх – ад мужа да жонкі, ад падлетка да немаўляці, ад вала да авечкі, ад вярблюда да асла. Бацька вынішчыў мечам увесь народ, але пашкадаваў быдла. Саўл быў селянін, яго гідзіла бяссэнсавая разня быдла, апрача таго, ягоныя людзі патрабавалі сваёй здабычы, а ён быў іхні цар.

**Пытанне:** Ён пашкадаваў таксама Агага, цара амаліцкага?

**Адказ:** Улада сцвярджаецца не толькі забойствам, але і міласэрнасцю.

**Пытанне:** Аднак жа гэтая ўлада належала Яхвэ?

**Адказ:** Яхвэ ўжо не быў царом. Царом стаў мой бацька.

**Пытанне:** Яхвэ быў БОг?

**Адказ:** А прарок Самуіл – голасам БОжым. Самуіл прыйшоў да майго бацькі, цара Саўла, у Гілгал і пачаў дакараць яго і сказаў: "Непакорлівасць ГОспаду ёсць такі самы грэх, як і чараўніцтва, і супраціўленне – тое самае, што й ідалапаклонства". Самуіл сказаў: "Ты занядбаў слова ГАсподняе, і Ён занядбаў цябе, каб ты больш не быў царом". Калі Самуіл павярнуўся ісці, Саўл ухапіўся за край вопраткі ягонай і падраў яе. Тады Самуіл сказаў: "Сёння адабраў ГАсподзь у цябе царства Ізраільскае і аддаў яго блізкаму твайму, лепшаму за цябе".

**Пытанне:** І бацька паверыў?

**Адказ:** Ён укленчыў перад Самуілам і прасіў: "Вярніся са мною да старэйшынаў народу майго, і я пакланюся ГОспаду БОгу твайму". І тады Самуіл сказаў: "Прывядзі да мяне Агага, цара Амаліцкага". І падышоў Агаг да майго бацькі спакойна – я бачыла гэта на свае вочы – і сказаў: "Значыцца, горыч смерці мінулася?" Але Саўл толькі памаўчаў, і ў яго на вачах прарок Самуіл рассек Агага перад ГОспадам у Гілгале.

**Пытанне:** І з таго часу яго пачаў калаціць ліхі дух?

**Адказ:** З таго.

Прынцэса адкінулася на ложы. На скроні ў яе пульсавала блакітная жылка. Яе расказ запанурыў мяне, і я адчуў, як мяне праняло холадам, хоць ноч была цёплая.

– Ці не хочаш прамачыць горла, Этан?

Прынцэса пляснула ў далоні, загадала слузе, які ўзнік з цемры: "Віна, садавіны, салодкага!" Потым зноў да мяне:

– Але, я старэю, і часцей, чым хацелася б, памяць маю вярэдзяць тысячы ўспамінаў, яны ўжо блытаюцца ў маёй галаве. Аднак вобраз юнага Давіда дагэтуль стаіць перад вачыма.

Кажуць, быццам ва ўсіх сваіх дзеях ён рабіў разумна. А я найперш адзначыла б ягоны прыродны дар зачароўваць людзей. На гэта яму хапала двух-трох слоў, аднаго позірку, аднаго жэсту. Ён здаваўся такім шчырым, наіўным. Калі ж гэта ён толькі прыкідваўся, дык ён саступіў бы ў падступнасці, бадай, толькі змею, які падбухторыў Еву скаштаваць плоду з дрэва пазнання дабра і зла.

Я даўжэй за ўсіх аганялася ад ягоных чараў. Не сакрэт, што яшчэ тае ж ночы, калі яго музыка ўпершыню выгнала ліхога духа, ён быў у ложку бацькі майго, цара Саўла. Абнэр, сын Нэра, які быў тады начальнікам войска, казаў нават, што палёгку цару дае не так тая музыка Давідава, як Давідава задніца. Але хто-хто, а я ведала, які пяшчотны бываў Давід; блізкасць ягоная была не менш дабратворная, чым дождж перасохлай глебе.

Прынцэса ўзяла гронку вінаграду.

– А потым – Ёнатан. Ты ж ведаеш песню-галашэнне, якую Давід склаў на ягоную смерць?

*Смуткую я па табе, браце мой Ёнатан:*
*я асалоду меў ад цябе;*
*любоў твая мне была*
*вышэй за каханне жанчыны...*

Я часта цікавала за імі абодвума. Не думаю, каб яны заўважалі мяне і мае пачуцці. Прынамсі, Ёнатан. У яго былі дзеці, жонка, наложніцы; а вось праз Давіда яму адкрыўся як бы новы сэнс жыцця. Ёнатан зняў свой лук, і меч, і пояс, нават вопратку сваю і аддаў іх Давіду; ён аддаў бы паўцарства, калі б яно яму належала. Давід прыняў дарункі ласкава, што было яму ў натуру; ён і далей смяяўся, граў на гуслях, чытаў свае вершы. Ён тушыў агонь пажадзі майго бацькі, цара Саўла, калі таму трэба было; ён ляжаў з маім братам Ёнатанам, які цалаваў рукі, ногі, шыю Давіду; аднаго разу я не стрымалася і нагаварыла Давіду ўсяго ўсякага рознага; тае ж самае ночы ён прыйшоў да мяне і авалодаў мною.

Прынцэса адклала ўбок гронку. Я падліў ёй віна ў кубак.

– Давід, здавалася мне тады, прыняў чалавечы вобраз Баала, ён быў жывое ўвасабленне плоцкага запалу, але ён вылучаўся і дзівоснай абыякавасцю, якая бывае толькі ў божышчаў. У няшчасці маім я звярнулася да ГОспада. Але ГАсподзь не пачуў мяне, затое Давід, быццам падслухаўшы маю малітву, сказаў мне на другі дзень – што ён, бачыце, выбранец БОжы і што б ён ні рабіў, – на ўсё воля БОжая. Я ніколі не бачыла выбранцаў БОжых, калі не лічыць Самуіла, але той быў худы, проста жывыя мошчы, лоб у струпах, вочы вечна гнояцца, бародка ўся злямцавалася ад бруду. Дык чаму б ГОспаду не пералічыць сваю мілату ў посуд больш панадны і вабны? Наступныя падзеі, бадай што, пацвярджалі існасць цуду.

Напрыклад, дзе і хто калі чуў, каб нехта мог увінуцца ад Саўлавай дзіды? Бацькава дзіда цаляла дакладна, яна прыбівала ахвяру да сцяны, і тронка дрыжала ад сілы яго кідка. А Давід увінаўся тройчы. Можна падумаць, быццам у яго былі вочы на патыліцы. Без гэтага ён не ацалеў бы. Ці тое бо Ёнатан занадта адкрыта назаляўся сваім каханнем да Давіда, ці тое Рыцпа, наложніца майго бацькі, нашаптала нешта Саўлу, ці тое Абнэр бэн Нэр, сын Нэраў, начальнік войска, спамянуў у сваім штотыднёвым дакладзе, быццам лявіты пачалі спяваць перад свяцілішчам: *Не месца блудніцам сярод дочак ізраільскіх, не месца блуднікам сярод сыноў Ізраіля,* – так ці інакш, ліхі дух ад ГОспада зноў прычапіўся да бацькі, цара Саўла, і яшчэ мацней, чым раней, апанаваў яго помысламі і целам.

Часам падазравала, што Давід і праўда схаўрусаваўся з ліхім духам. Але Давід аднеквваўся. Калі на бацьку наплывала цяжкая скруха, Давід садзіўся каля ягоных ног, не дакранаючыся да Саўла, але так, каб той адчуваў яго блізкасць. Потым Давід кранаў струны, ускідваў галаву і пачынаў спяваць пра караваны, якія валакуцца на захад, пра журбу, якая забірае чалавека, калі мінуўся час кахання. Тут мой бацька ўскрыкваў, хапаўся за дзіду, і праз хвіліну тронка ўжо дрыжала ў сцяне. А Давід пытаўся: "Завошта? Чым я зграшыў? За які благі ўчынак ты хацеў забраць маё жыццё?"

Прынцэса Мэлхола задуменна кіўнула; яна расказала толькі мізэрна малую долю перажытых страхаў; да таго ж яна была царская дачка, двойчы – царская жонка, а таму навучылася валодаць сабою.

Аднаго разу я спыталася ў яго: "Давідзе, любы мой, няўжо табе страшна не бывае?" Ён зірнуў на мяне і сказаў: "Сэрца маё поўнае страху. Я паэт, мне не цяжка ўявіць, як дзіда ўпіваецца ў мае цела".

Прынцэса адшчыкнула вінаградзіну.

Мой бацька, цар Саўл, паставіў Давіда тысячнікам і выправіў у паход супроць філістымлянаў. Я сказала брату Ёнатану: "Гэта пагібель яму". А Ёнатан таксама баяўся за Давіда, ён сказаў: "Я аддаў яму вопратку, і пояс, і меч свой, і лук свой, чаму ж нельга аддаць яму цэлкасць майго вока і цвёрдасць майго кулака?" Але ўвесну Давід вярнуўся – твар загарэлы, барада не стрыжаная; ён пабіў філістымлянаў, прынёс перамогу і багатую здабычу. Я чула, як яго людзі расказвалі, што на першым часе сумняваліся ў ім, але калі ўбачылі яго ў баі, дык перамянілі думку; бітва ператварала гэтага пяшчотнага хлопца ў ап'янелага ад крыві лютага ваяра. Апрача таго, Давід незвычайна хітра задумваў бітвы і ўмела выведваў слабасці праціўніка.

Народ славіў яго, і калі жанчыны з усіх гарадоў Ізраільскіх выходзілі насустрач цару Саўлу з песнямі і танцамі, з урачыстымі тымпанамі і з кімваламі, дык яны спявалі: *Саўл перамог тысячы, а Давід – дзесяткі тысяч!* Ясна, гэта было перабольшанне, але бацька моцна занепакоіўся. Ён зрабіўся змрочны, прыгадваў нядобрае прароцтва Самуіла-празарліўца і задаваў сабе пытанне: ужо ж бо ці не Давід той самы "блізкі" з прароцтва Самуілавага, які "лепшы за мяне"? Нездарма спяваюць, быццам ён перамог дзесяткі тысяч, а я толькі тысячы; як жа ён не пакваліцца на маё царства?

Прынцэса Мэлхола зноў утаропілася ў адну кропку, быццам задумалася пра неспасцігальнасць волі ГОспада, паводле якое чароўны спявак, пакліканы прагнаць духа ліхога, наадварот – пад'юджваў яго.

– Брат мой Ёнатан, пачуўшы хвалебныя песні жанчын, загарэўся да Давіда яшчэ большым каханнем; я таксама ўся перавялася, пакуль ён быў на вайне, і цяпер цалкам упакорылася яму. А бацька намысліў пазбыцца яго. Але, відаць, Саўлу больш гадзілася ваяваць, чым плесці сеткі, а ГАсподзь не наставіў яго на розум, таму ён скарыстаўся сваёй ранейшай хітрасцю, толькі дадаў да яе дзеля прынады ўзнагароду. Гэтай узнагародай выпала стацца *мне*. "Як жа мне выплаціць

выкуп?" – спытаўся Давід, бо ж то ён, бачыце, чалавек бедны і незнакаміты. На гэта царскі сват сказаў· "Цар не хоча іншага выкупу, апрача ста абразанняў філістымлянаў"

Давід пайшоў сам, і людзі ягоныя з ім, і забілі дзвесце чалавек філістымлянаў, пасля чаго вярнуўся да Саўла яшчэ да вызначанага тэрміну Ён прыскакаў на гнядым муле з зачыненым кашом, прывязаным да сядла. Давід прынёс кош да цара пры ўсіх царадворцах. Дагэтуль уся тая карціна стаіць у мяне перад вачыма: ён здымае века і вывальвае на стол з каша крывавыя чэлясы. І я чую, як ён уголас лічыць – да двухсот.

Тае ж самае ночы Давід прыйшоў да мяне з бізуном; я ляжала перад ім, ён біў мяне, я трывала.

Устала зара над царскім вінаграднікам Баал-гамона, у будане праступілі абрысы лісця Твар прынцэсы пашарэў

– Чалавек вялікі легендай, якая ствараецца пра яго! – Позірк прынцэсы патух. – Гэта ж твае словы, Этан?

Я пакланіўся.

Гэтаму навучыў слугу твайго яго сціплы жыццёвы досвед, спадарыня мая.

– Добра. А цяпер ідзі.

## 5

Хай дабраславёнае будзе імя ГОспада, БОга нашага, чые Праўды падобныя на яркія кветкі на лузе, дзе кожны зрывае тое, што яму люба.

Я, Этан бэн Гашая з Эзраха, жыву цяпер у Ерушалайме па адрасе: завулак Царыцы Саўскай, дом № 54, запрошаны сёння, на другі дзень Кучак, у царскі палац на ўдзел у першым пасяджэнні камісіі для ўкладання *Адзіна Праўдзівай і Аўтарытэтнай, Гістарычна Выверанай і Афіцыйна Ўхваленай Кнігі пра Дзівосны Ўзлёт, Богабаязнае Жыццё, а таксама пра Гераічныя Подзвігі і Цудоўныя Чыны Давіда, Сына Есэевага, які Цараваў над Юдаю Сем Гадоў і над усім Ізраілем і Юдаю Трыццаць Тры Гады, Выбранца БОжага і Бацьку Цара Саламона,* скарочана – *Кнігі Цара Давіда.*

Слуга правёў мяне ў прыёмную, дзе ўжо сноўдаліся тры барадатыя і даволі неахайныя індывіды, якіх звычайна можна ўбачыць на рыначнай плошчы альбо каля гарадское брамы. Яны загаварылі са мною і назваліся – Ёрай, Яхан і Мэшулам, вандроўныя пагуднікі з патэнтамі на публічныя выступы з паданнямі і легендамі; іх, бачыце, прывёў сюды царскі загад, а дзеля якой патрэбы, невядома; яны, бачыце, спраўна плацяць падаткі, а цяпер вось у немалым страху Яны хацелі б ведаць, ці часам і я не пагуднік які – у пэўным сэнсе я гэта пацвердзіў, – а пасля пачалі скардзіцца на цяжкія для нашага гешэфту часіны, але дадалі, што, мяркуючы па маёй даволі-такі прыкметнай укормленасці, справы ў мяне, бадай што, ідуць не самым горшым чынам, і нарэшце пацікавіліся, якая, шчыра кажучы, мая вузкая спецыялізацыя: старадаўнія паданні, гісторыя вялікага Выхаду, часы Суддзяў ці апошнія падзеі?

Слуга момантам адбараніў мяне ад настырлівых бардаў і правёў у шырокую, раскошную залу. Там у вельмі ёмкіх і мяккіх фатэлях размясціліся сябры камісіі; пасярэдзіне стаяў вялікі кош з садавінай – на мацаванне плоці, збанок з пахучай вадой і міса з цукатамі з духмяных смолаў Канцлер Ёсафат бэн Ахілуд папрасіў мяне заняць месца за нізенькім сталом, дзе я мог весці свае пратаколы, потым пляснуў у далоні і адкрыў пасяджэнне; спачатку ён сказаў пра сваё глыбокае задавальненне з прычыны таго, што ўсе сябры камісіі вярнуліся ў Ерушалайм у добрым здароўі і, спадзяецца, добра адпачылыя. Сябры камісіі, сказаў ён далей, несумненна ўжо прачыталі самыя альбо паслухалі ад сваіх чытальнікаў мноства кніг самага рознага зместу, а таму, ясна, у курсе таго, што ёсць шмат розных спосабаў апавядання: ад пачатку да канца альбо наадварот, з сярэдзіны ў абодва канцы, і, нарэшце, як-такі ГОспаду БОгу заўгодзіцца; апошні спосаб асабліва любасна прымаецца навамоднымі аўтарамі, якія маюць сваю слабасць да ўсялякай блытаніны. Як бы яно там, аднак, ні было, закончыў ён, асабіста яму здаецца мэтазгодным пачаць *Кнігу пра Дзівосны Ўзлёт* і г.д. ад пачатку, маючы за такі пачатак памазанне маладога Давіда пракорам Самуілам і перамогу Давіда над Галіяфам. Ці згодныя сябры камісіі?

Пярэчанняў не было.

Ці няма іншых прапаноў у рэдактара Этана, сына Гашаінага?

Не, няма, сказаў я.

Што да памазання, сказаў Ёсафат, дык жа дзякуючы ласкавалюбаснаму спрыянню святара Цадока ёсць пісьмовы дакумент з архіва Самуілавага храма ў Раме. Ён кіўнуў на стос гліняных таблічак злева ад сябе. Я папрасіў адну Мне падалі таблічку, і з напісання літар, з якасці гліны, асабліва з яе свежасці адразу скеміў, што гэтая гліна аніяк не магла быць з Рамы. Падобна на тое, што Цадок заўважыў мае сумненні, бо адразу ж сказаў, што, бачыце, таблічкі гэтыя па сутнасці не разыходзяцца з кнігай Самуіла. Так, сёй-той заяўляе, быццам памазанне юнага Давіда Самуілам усяго толькі легенда, якую прыдумалі, каб падмацаваць прэтэнзіі Давіда на Саўлаў трон; такія чуткі могуць пашырацца толькі намогамі ворагаў цара Саламона, сапраўднай веры і ўсякай законнай улады; а мая, на яго думку, задача як рэдактара *Кнігі Цара Давіда* – такая апрацоўка матэрыялаў, якая выбіла б з рук кожнага незычліўца любыя зачэпкі.

Спадарства сябры камісіі, дазвольце рабу вашаму ўтачыць некалькі заўваг па гэтым пытанні, сказаў я. – Сваім часам давялося мне даволі грунтоўна вывучыць кнігу Самуіла, знаёмы я і з вуснымі паданнямі. Магу запэўніць, што гэта выдатныя, цудоўныя паэтычныя выслоўленні пра юнацтва чалавека, пакліканага на вялікія здзяйсненні. Уявіце сабе, як стары празарлівец прыходзіць у Бэтляем, душа ягоная раскрылена загадам ГОспада: "Я пашлю цябе да Есэя Бэтляеміта, бо спасярод сыноў ягоных нагледзеў Я Сабе цара". Уявіце сабе пастухоў, маладзенькіх дзяўчатак, бяззубых баб, што абступілі Самуіла; яны просяць дабраславення альбо малых прароцтваў за памяркоўную плату; аднак Самуіл, высокі, худы, змрочны, ідзе напраскі да жытлішча Есэя. Людзі цягнуць шыі: чаго шукае вялікі прарок у гэтай лядашчай халупіне? А вялікі прарок склікае ў доме Есэя ягоных сыноў, шасцёх ваўкаватых вясковых ёлупаў, а ГАсподзь шэпча Самуілу: "Не глядзі на іхні вобраз і на вышыню росту іхняга; Я гляджу не так, як глядзіць чалавек; бо чалавек глядзіць на аблічча, а ГАсподзь глядзіць на сэрца" Тады Самуіл пытаецца ў Есэя: "Ці ўсе твае дзеці тут?" Пасылаюць па юнага Давіда, які пасвіць авечкі; той прадзіраецца праз натоўп разяваў і паўстае перад абліччам Самуіла – загарэлы, станісты, з прыгожымі вачыма і мілавіды з твару; зрэшты, вы напэўна памятаеце яго апісанне ў кнізе Самуіла, якому ГАсподзь кажа: "Устань, памаж яго, бо гэта ён".

Бэная бэн Ехаяда паляпваў пальцамі па калене; Ёсафат бэн Ахілуд прапярхаўся, нібы прачышчаючы горла; толькі ласнівы твар святара Цадока ільсніўся ад задаволенасці.

– Ну, – крыху нясмела спытаўся прарок Натан, – ці ёсць якія пахібы ў дакладзе?

Я спадзяваўся, што на відавочныя недарэчнасці ўкажа нехта іншы, аднак прыйшлося самому, набраўшыся духу, растлумачыць:

– Дапусцім, Самуіл сапраўды прыходзіў у Бэтляем і ўсё было так, як ён пра гэта апавядае. Але тады вестка пра шчаслівага хлопчыка разнеслася б па ўсім наваколлі, Бэтляемцы месяцамі балабонілі б пра гэта, а Есэй і шасцёх ягоных сыноў аб'ехалі б усіх далёкіх родзічаў і сваякоў, каб расказаць, які выпаў ім гонар. А ці ж бо не? Гэтая вестка абляцела б усё племя Юдава, і яно пачало б выстаўляцца і задавацца, што сын ягоны неўзабаве зацаруе над Ізраілем. Узнікае пытанне, ці шмат патрэбна было б часу цару Саўлу, каб дачуцца пра ўсё гэта, узяць Давіда і судзіць яго за самазванства альбо, скажам, за змову? А калі Давід упершыню з'явіўся пры двары, хіба хтонебудзь з царскіх слуг сказаў· "Падзівіся, цару мой, на гэтага мілавідага хлопца, які так хораша грае на гуслях і спявае! Ужо ці не той гэта самы Давід, сын Есэя, якога Самуіл нядаўна памазаў у цара замест цара нашага?" Аж, бачыце, не, ніхто не сказаў

Цадок кінуў на мяне гнеўны позірк.

– Я рады, што Этан, сын Гашаін, сіпла сказаў ён, – загаварыў пра гэта, бо пытанне тут ключавое, і рашаць яго ўсё адно наспела. Па-мойму, ёсць дзве праўды: адна праўда – тая, да якое прагне дашукацца Этан, другая грунтуецца на слове БОжым, наказаным ГОспадам прарокам ягоным і святарам ягоным

На вучэнні веры, – паправіў яго Бэная і сунуў у рот цукату.

– Менавіта, на вучэнні веры, – Цадок надзьмуў шчокі. – І там, дзе дзве праўды разыходзяцца, я настойваю, каб мы ішлі за вучэннем веры. Бо калі кожнае пачне паняверыцца і займацца так званым праўдашукальніцтвам, тады ўжо я і не ведаю, да чаго мы дашукаемся. Храм, які мы будуем, разваліцца, нават недабудаваны, упадзе ўцверджаны Давідам царскі трон, на якім цяпер сядзіць ягоны сын Саламон.

Ёсафат бэн Ахілуд падняў руку, запрашаючы супакоіцца.

– Спадар Цадок справядліва патрабуе шанаваць традыцыі, асвечаныя часам і ўжо неад'емныя ад нашых паданняў, – нават калі і ўзнікаюць уяўныя супярэчлівасці. З боку другога, абавязак рэдактара Этана, сына Гашаінага, якраз палягае на тым, каб папярэдзіць нас пра падводныя камяні. Але ж супярэчлівасці, Этане, трэба згладжваць, а не выстаўляць напаказ. Супярэчлівасці бянтэжаць, згарчаюць і чэрсцвяць душу, нездарма ж наймудрэйшы з цароў Саламон чакае ад нашай працы, асабліва ад аўтараў, падкрэсліваць духаўзнёслыя аспекты жыцця. Наша задача – адлюстраваць усю веліч нашага часу, і дзеля таго трэба знайсці

залатую сярэдзіну паміж тым, што ёсць, і ў што людзям трэба верыць.

Пісар Эліхарэт бэн Шыша прапанаваў уключыць памянёную гісторыю памазання ў *Кнігу пра Дзівосны Ўзлёт* і г.д., ягоны брат Ахія падтрымаў прапанову. Яна была прынята аднагалосна, аднак жа з пажаданнем, каб я крыху паправіў Цадокаў дакумент, дзе ён недастаткова праўдападобны. Потым Ёсафат абвясціў перапынак і запрасіў крыху падмацавацца смажанай баранінай на патыках, якую маавіцяне і эдаміцяне называюць шашлыком. Пасля перакускі, у якой дазволена было ўзяць сваю долю і мне, прарок Натан параіў крыху падрамаць у засені царскага саду, пакуль не спадзе дзённая спёка і многае піцие і ясціе не перастане распіраць шлункі.

Хто падрамаўшы, хто пагуляўшы па садзе, спадарства сябры камісіі зноў сабраліся ў зале, і канцлер Ёсафат бэн Ахілуд абвясціў, што – пераходзім да другога пункту парадку дня, да двабою Давіда з Галіяфам, а як што яно гэта перш за ўсё эпізод ваенны, дык было б нялішне пажадана, каб Бэная бэн Ехаяда першы выказаў свае меркаванні.

Бэная ўзвёў густыя бровы. Двабой з Галіяфам, сказаў ён, эпізод і праўда ж ваенны, аднак сама падзея выходзіць за межы ягонай кампетэнцыі з прычыны яе адмыслова дынастычнага характару, хоць, зрэшты, яна неадрыўная ад такіх чыста ваенных пытанняў, як выкарыстанне лёгкае зброі супроць цяжкіх даспехаў альбо ўжыванне гучнай лаянкі і пагрозаў у адрас праціўніка дзеля падняцця баявога духу сваіх войскаў перад баталіяй. На запыт свайго сябра Ёсафата, сына Ахілудавага, ён, Бэная, распарадзіўся прагледзець запісы і архівы Абнэра бэн Нэра, які за Саўлавых часоў камандаваў войскам і кіраваў баталіяй супроць філістымлянаў пад Эфэс-дамімам; аднак, самыя руплівыя пошукі, калі правяраліся кожная гліняная таблічка і кожны пергамент, не выявілі ані слова пра тое, што Давід пабіў волата Галіяфа, будзь тое да бітвы, у ходзе яе альбо пасля. Гэта, вядома, не азначае, што пад Эфэс-дамімам наогул не было такога волата і што Давід не забіваў яго; бітва ж, яна складваецца з мноства асобных схватак, не прыставіш жа пісара да кожнага ваяра, які раскройвае чэрап свайму праціўніку. І ўсё-такі даволі дзіўна, што такі вопытны чалавек, як Абнэр, якому, з аглядкі на любоўную сувязь з Рыцпай, наложніцай яго вярхоўнага ваяводы цара Саўла, даводзілася быць асабліва абачлівым, не спамянуў у сваіх данясеннях пра двабой, які меў вырашальнае значэнне для ўсяго паходу супроць філістымлянаў

А ці не знайшлося пісьмовых сведчанняў у іншых крыніцах, пацікавіўся прарок Натан, напрыклад, у аналах цара Саўла?

Пісар Эліхарэт паківаў галавой, а ягоны брат Ахія адказаў, што ў аналах цара Саўла нічога такога не знойдзена.

– Але ж былі-такі, мусіць, у філістымлянаў волаты! – усклікнуў святар Цадок.

Бэная нудліва аказаўся:

– Аж некалькі атрадаў

– Спадзяюся, сыны Ізраіля паклалі хоць аднаго?

– Вядома, напрыклад, што Сібэхай Хушацянін пабіў у Гезэры волата Сіпа, – сказаў Бэная, – а ў другой бітве Элханан бэн Яір забіў волата Лахмі; а ў Гэце Шымон бэн Шымэй забіў волата, імя якога ўстанавіць не ўдалося, але ў яго на руках і нагах было па шэсць пальцаў, усяго дваццаць чатыры; ну і, з вашага дазволу, асабіста я паклаў двух асілкаў з Мааба, дужых, як ільвы, і аднаго жудаснага егіпцяніна; у руках у яго была дзіда, а я падышоў да яго з кіем, вырваў у яго з рук дзіду ды тою ягонаю дзідай яго ж і прапароў.

– Тады чаму ж бы і Давіду не забіць Галіяфа каменем з ручая? – спытаўся Цадок. – Альбо заўгодна спадару Бэнаю не прызнаць гэтага подзвігу?

– Войска, а тым болей хэлэтэі і фэлэтэі, – азваўся Бэная, – вельмі зацікаўленыя напоўніць сыноў Ізраіля такім самым гераізмам, які калісьці натхніў юнага Давіда на подзвіг, а таксама, каб бацька цара Саламона паўстаў не толькі ў вобразе вялікага паэта і музыканта, філосафа і тэолага, кіраўніка і арганізатара, стратэга і дыпламата, але і воінам, які не баяўся ўступіць у двабой, нават калі праціўнік быў у два, у тры разы дужэйшы, у чатыры, калі хочаце. Аднак, на жаль, у ваенных няма на тое дакументальных пацверджанняў Іх у нас няма і дастаць іх няма дзе. Вось і ўсё, што я хацеў сказаць.

І ён склаў на грудзях магутныя рукі. Пры ўсёй сваёй славутасці і фанабэрыі, падумаў я, Бэная самы разумны з іх: бо калі хто-небудзь калі-колечы дакажа свету і цару Саламону, што ніякай перамогі Давіда над Галіяфам не было і быць не магло, а царская камісія, дабраславі яе, БОжа, купілася на прыгожую казачку і тым самым пахіснула давер да ўсёй *Кнігі Цара Давіда,* дык вінаваты ў гэтым будзе не Бэная.

Тут канцлер Ёсафат бэн Ахілуд заявіў, што з прычыны таго, што ніякіх пісьмовых сведчанняў няма, царская камісія вымушана абаперціся на сведчанні вусныя. На яго знак слуга ўвёў Ёрая, Яхана і Мэшулама, трох вандроўных пагуднікаў, якія маюць патэнты на публічныя выступы з паданнямі і легендамі; увайшоўшы, яны адразу ўпалі ніцма і, б'ючы лбамі аб падлогу, імем ГОспада заблагалі літасці. Ёсафат загадаў ім падняцца і абвясціў, што яны маюць расказаць прысутным тут вяльможам гісторыю пра Давіда і Галіяфа; хай кожны выкладзе яе так, як чуў ад свайго настаўніка.

Тут Ёрай, Яхан і Мэшулам затарахцелі, што зробяць усё, як ім сказана; яны пагладжвалі свае скудлачаныя барodкі, а вочы іх прагна касавурылі з-пад апухлых павек на кош з садавінай, на збанок з пахучай вадой, на міску з салодкімі цукатамі – але не па іх губе былі ўсе гэтыя прысмакі і лагодкі; а мне ўзгадалася прымаўка, што галодны птах цвіркоча званчэй за сытага.

З трох першым быў выбраны Ёрай. Ён крануў струны арфы, падрапанай і памятай у шматлікіх, хутчэй за ўсё вулічных закалотках, і пачаў сваю аповесць.

Я коратка запісаў ягонае паданне, нумаруючы дзеля памяці асноўныя моманты.

ВЯЛІКАЯ БІТВА ДАВІДА З ГАЛІЯФАМ, КОРАТКА ЗАПІСАНАЯ СА СЛОЎ ЁРАЯ, ПАГУДНІКА, ЯКІ МАЕ ПАТЭНТ НА ПУБЛІЧНАЕ ВЫКАНАННЕ ЛЕГЕНДАЎ І ПАДАННЯЎ

1) Размяшчэнне войскаў ізраільцянаў і філістымлянаў у Эфэс-даміме. Філістымляне стаялі на гары з аднаго боку, ізраільцяне на гары з другога боку, а паміж імі была даліна Элах з ручаём – нічыйная зямля.

2) Філістымскі аднаборац Галіяф. Рост – шэсць локцяў і пядзя; даспехі – медны шалом, лускаватая браня вагою на пяць тысяч шэкеляў, медныя накаленнікі і медны шчыт за плячамі; зброя – меч (даўжыня невядомая), дзіда з дзержаком, як ткацкі навой, і жалезным наканечнікам (вага шэсцьсот шэкеляў), а таксама яшчэ адзін шчыт (несены зброеносцам).

3) Галіяф пасылае з нічыйнай зямлі ізраільцянам выклік на аднаборства. Свае кпіны і пагрозы, якія звычайна гаворацца перад схваткай, ён паўтарае два разы на дзень на працягу даволі доўгага часу

4) Давід прыходзіць у табар ізраільцянаў, каб перадаць двум старэйшым братам, якія служылі ў войску, хлеб і прысмакі, а таксама перадаць іхняму тысячніку дзесяць сыроў дзеля ягонага добрага стаўлення да братоў.

5) Давід слухае пахвальбы Галіяфа, заўважае, што ахвотнікаў прыняць выклік няма. Ён пачынае распытвацца, даведвацца пра збянтэжанасць сотнікаў і тысячнікаў, пра ўзнагароду, абяцаную царом Саўлам пераможцу: багацце, царская дачка, вызваленне ад падаткаў.

6) Старэйшы брат Эліяў злуецца на Давіда, ганіць яго за пыху і "благое сэрца" (NB: падобна, Эліяў забыўся, што павінен быць пачцівы з малодшым братам, які, калі верыць гліняным таблічкам з Рамы, быў памазанцам БОжым.)

7) Саўл чуе пра хлопца са свайго табара, які гатовы біцца з Галіяфам, і кліча Давіда да сябе. Саўл сумняваецца, ці хопіць хлопцу сілы адолець волата; Давід запэўнівае цара, быццам сваімі рукамі забіў ільва і мядзведзя, а калі там што якое, дык яму дапаможа ГАсподзь БОг (NB: ні падчас гэтай гутаркі, ні пасля Саўл не спрабуе даведацца імя хлопца альбо імя ягонага бацькі; Давід таксама не называе сябе.)

8) Саўл лічыць патрэбным аддаць Давіду свой меч і сваю браню; але Давіду нязручна рухацца ў цяжкіх даспехах, і ён з падзякаю вяртае іх.

9) Зброя Давіда – пастушыны кій, прашча і пяць гладкіх камянёў з ручая.

10) На нічыйнай зямлі. Галіяф заўважае Давіда, глядзіць на яго з пагардай, пагражае аддаць яго далікатнае цела птушкам нябесным і звярам польным.

11) Давід адказвае падобна Галіяфу – задзірыста, ваяўніча; ён абяцае знесці галаву з Галіяфа, бо гэта вайна ГОспада і Ён аддасць філістымлянаў у рукі Ізраіля. (NB: гэта адпавядае духу Давіда, які любіць пахваліцца сваімі асабістымі сувязямі з ГОспадам.)

12) Галіяф ідзе на Давіда, той спрытна ўвінаецца і шпурляе з прашчы камень, які цаляе волату ў лоб і рассаджвае чэрап.

13) Волат падае ніцма на зямлю; Давід, наступіўшы на філістымляніна, бярэ ягоны меч і адцінае яму галаву. Філістымляне, убачыўшы, што іхні асілак памёр, бягуць, ізраільцяне пераследуюць іх.

14) Давід вяртаецца ў лагер з галавой Галіяфа падпахай. Яго выпадкова сустракае Абнэр і прыводзіць да Саўла. Толькі тут, нарэшце, Саўл захацеў даведацца: "Чый ты сын, хлопча?" Давід адказвае: "Сын раба твайго Есэя з Бэтляема".

15) Саўл вырашае пакінуць юнага героя пры двары.

І Ёрай пакланіўся і сунуў арфу ў торбу; з гуслямі, такімі ж заваляшчымі, наперад выступіў Яхан, – распавесці пра вялікую перамогу Давіда над Галіяфам; за Яханам дайшла чарга да Мэшулама, які баяў пад постук пальцамі па двух маленькіх барабанчыках, то мацней, то слабей, а пад канец *furioso* ў тым месцы, дзе Галіяф грымнуўся на зямлю, Мэшулам рассыпаў грамавы пошчак. Калі ўсе трое закончылі і тры версіі былі параўнаны, высветлілася, што яны супалі да апошняга слова, хоць Ёрай вызначыўся большай пал-касцю, ён страшна размахваў рукамі і грымасіў твар, а Яхан гугнявіў, як заклінач духаў, а Мэшулам завываў і завалокваў вочы, як жрэц Баала, мярзоты ханаанскай. Дык вось усе тры легенды супалі цалкам, і прарок Натан проста надзівіцца не мог з такога цуду Яму і ў галаву не прыходзіла, што слухачы каля гарадское брамы альбо на рынках як усё адно тыя малыя дзеці, якім мусова падавай упадабаную казачку кожны раз слова ў слова. І праўда, усклікнуў Натан, сам ГАсподзь БОг гаварыў вуснамі гэтых пагуднікаў, а гэта важчэй за любыя гліняныя таблічкі. У вачах сяброў камісіі стаяла яўная палёгка: супроць цуду не папрэш.

– А калі ўсё-такі гэта было? – сціпла папытаўся я. – Да таго, як Давіда паклікалі да Саўла таймаваць ліхога духа, які даймаў цара, ці пазней?

Твары сяброў камісіі выцягнуліся; захопленыя цудам трохразовага даслоўнага супадзення трох легендаў пра перамогу Давіда над Галіяфам, яны зусім забыліся на гісторыю, як юны Давід быў пакліканы ў царскі палац выганяць ліхога духа. Але ж кожнага разу ў трох паданнях Давід сустракаўся з Саўлам упершыню, значыцца, Давід, які перамог волата, і Давід, які ацаляў сваёй музыкай, узаемна выключаюць адзін аднаго, – розныя Давіды атрымліваюцца. Вось у чым загваздка.

– Да таго! Пасля таго! – закіпеў святар Цадок. – Якая табе розніца? ГАсподзь захацеў звесці Давіда з царом Саўлам, а для большай пэўнасці даў ім сустрэцца двойчы.

– Пачакайце, – спыніў яго канцлер Ёсафат, – Яхвэ, Ён, канечне, усёмагутны, але нават Яхвэ трымаецца пэўнага парадку· спярша БОг стварыў неба і зямлю, потым аддзяліў святло ад цемры, потым аддзяліў ваду, якая над цвердзю, ад вады, якая пад цвердзю, і так далей цэлы тыдзень, пакуль не стварыў, нарэшце, мужчыну і жанчыну паводле вобраза і падабенства свайго.

– Вось няхай наш прыяцель Этан і ўстановіць правільную паслядоўнасць падзей, – прапанаваў Бэная, – на тое ён і рэдактар.

– Хай даруе спадар Бэная рабу свайму, – ветліва выславіўся я, – як рэдактар я сапраўды магу сёе-тое паправіць у Гісторыі, нешта падмазаць, прыкрасіць, але ж не мая ўлада нешта мяняць у ёй.

Тут пісар Эліхарэт, сын Шышаў, пачухаў у патыліцы і прамямліў·

– Дапусцім, Давід забіў Галіяфа да таго, як паявіўся пры двары, каб спяваць Саўлу. Ну і што?

– А нічога добрага, – адказаў я. – Навошта па ўсім Ізраілі шукаць музыку, навошта пасылаць вестуна да старога Есэя ў Бэтляем, каб той клікаў свайго сына Давіда ад авечага гурту і адпраўляў яго ў царскі палац, калі слаўны пераможца Галіяфа – вось ён, ужо сядзіць за царскім сталом, цалюткі, здаровенькі? Альбо наадварот – паставім сябе на месца Давіда; хіба, ведаючы парады лекараў знайсці музыканта, каб выгнаць ліхога духа, ён не сказаў бы: "Не трэба нікога нікуды пасылаць, вось я вам тут, на месцы, як толькі цар папалуднае, дык і возьмемся за музыку" Аж, бачыце, не.

У камісіі запала моўча. Нарэшце, другі пісар Ахія, сын Шышаў, нясмела папытаўся:

– А што калі, скажам, Давід паявіўся спярша пры двары і спяваў Саўлу, а ўжо тады толькі перамог Галіяфа? Можа, так лепей?

– Баюся, што не, – запярэчыў я. – Калі Давід ужо быў пры двары і спяваў цару Саўлу, выганяючы духа ліхога, дык як вярнуць яго назад у Бэтляем, куды Давіду мусова трэба было перанесціся, каб узяць хлеб і прысмакі братам, якія служылі ў войску, а таксама дзесяць сыроў тысячніку? І хіба цар Саўл, паклікаўшы да сябе храбрага пераможцу Галіяфа, не пазнаў бы ў Давідзе таго самага хлопца, які так соладка спявае яму і грае на гуслях? Мы ж чулі ад Ёрая, Яхана і Мэшулама, што Саўл сваімі рукамі надзявае на Давіда сваю браню і аддае яму свой меч, значыцца, у цара досыць часу і магчымасці пазнаць Давіда. Пасля бітвы Давід з галавою Галіяфа яшчэ раз прыходзіць да цара і называе яму імя свайго бацькі. Можа, хоць тут цар успомніць, хто перад ім? Аж не! Наадварот, цар велікадушна запрашае Давіда да свайго двара, хоць свежанькі герой даўным-даўно жыве там і сталуецца як кудзеснік-музыка. Праўда, Саўла часам прыгнятае і трасе ліхі дух, гэта праўда, але ж нідзе не напісана, што цар быў слабы ў розуме.

– Значыцца, адну гісторыю трэба скасаваць.

– А якую?

Тут у камісіі паўстаў сапраўдны Вавілон з яго вежаю. Усе загаманілі, перабіваючы адзін аднога, адзін так, другі гэтак, ніхто нікога не слухаў, ніхто нічога не хацеў разумець, быццам ГАсподзь і тут паблытаў мовы. Нарэшце канцлер пapляскаў у далоні і мовіў·

– Ні тае, ні другое гісторыі касаваць нельга.

На пытанне чаму, патлумачыў·

– Бо адна з іх праўдзівая і яшчэ жывуць людзі, якія ведалі Давіда за тым часам, калі ён жыў пры двары Саўла. А другая гісторыя – легенда, а легенда, у якую верыць народ, праўдзівая не меней і, магчыма, нават больш, бо людзі любяць верыць у легенды больш, чым у факты.

– Хай спадарства даруе мне, рабу нікчэмнаму – пачаў быў я.

Але Бэная, насупіўшы бровы, устаў і гаркнуў:

– Хай БОг спадобіць мяне так і гэтак, калі я дазволю такому рызыканту, як гэты наш тут Этан, заблытаць туфтою цалкам ясную справу Трэба ўключыць у Кнігу абедзве гісторыі? Значыцца, так яно і мае быць! Вам свярбіць вярнуць Давіда з царскага палаца ў Бэтляем? Ну, дык і вернем! Возьмем і напішам – пастойце, дайце мне падумаць – ну, хоць бы так: *Давід вярнуўся ад Саўла пасвіць авечкі бацькі свайго ў Бэтляеме*. А калі каму-небудзь гэтага мала, калі каторы-колечы пачне строіць з сябе дужа разумнага і абазнанага ды сумнявацца ў праўдзівасці *Кнігі*, саборна складзенай камісіяй, якую прызначыў самы наймудрэйшы з цароў Саламон, з тым асобна і памяркуемся, таго і ўгаворым.

Так і напісана цяпер у *Кнізе Цара Давіда*, куды ўвайшлі абедзве гісторыі.

## 6

Дома Эстэр падала мне на стол хлеб, сыр і халодную бараніну. Я пацікавіўся, ці добра ёй сёння пачувалася, ці не даймаў яе зноў боль у грудзях, ці не дападала задышка. Эстэр усміхнулася і сказала, што на гэта – ай, не зважай, але што ў мяне, як ёй здаецца, на душы неспакойна; ці не хачу я падзяліцца з ёю маім клопатам?

А я ж каб словам, каб намёкам не выдаў свайго настрою – Эстэр умела чытаць мае думкі, як з гліняная таблічкі. Таму я сказаў:

– Хай вынесуць у сад падушкі, цёплую посцілку, коўдру і свяцільню, мне хочацца пасядзець з Эстэрай пад аліваю. Мы выйшлі ў сад, я паклаў Эстэр, накрыў коўдраю і ўзяў яе за руку. Крыху памаўчаўшы, сказаў·

– Баюся, Ерушалайм нам дасца бядою, бо тут як што чым абернецца. Кажуць, быццам ён пабудаваны на скале, а па-мойму, тут усё хістка і коўзка. І галоўнае: чалавек чалавеку воўк.

– Што будзе з табою, Этане, калі мяне не стане? Страшна мне за цябе, – сказала Эстэр.

– Эстэр, каханая мая, ты пераживеш нас усіх, – паспрабаваў я пажартаваць.

Яна лёгенька пляснула мяне па руцэ, быццам дзіця. Я звярнуў увагу на белыя абадкі вакол яе зрэнкаў, раней я іх не бачыў і таму занепакоіўся. Як рахманенька яна ляжала! Нарэшце, Эстэр сказала:

Ісці не хочацца, Этане. Як і ўсе, я баюся шэолу Я прымушу маё сэрца біцца, пакуль стае сілы..

Шалясцела лістота, мігала свяцільня. Я нахіліўся да Эстэры і пацалаваў яе.

Не, не горад мучыць цябе, Этане, сужэнец мой, – сказала яна. – Бо горад складзены з каменя, сам па сабе ён ні ліхі, ні добры.

Тады я расказаў ёй пра розныя спосабы выяўлення праўды, пра меркаванні сяброў камісіі і яе рашэнні.

– Тут ёсць розныя партыі, і ў кожнай – свае партыйкі, таму камісія раскалолася, а я ў ёй як той голуб падчас патопу, і няма дзе голубу крылом прыхіліцца.

Эстэр глядзела на мяне. ГАсподзь, сказала яна, даў нам шмат гадоў спакойнага жыцця і сякі-такі дастатак, дзякуючы маёй літаратурнай працы і разумнаму ўкладанню грошай у зямлю; да таго ж мы заўсёды трымаліся запаведзяў ГОспада, а Ён справядлівы і не адкідае таго, хто ходзіць Яго-нымі шляхамі

– ГАсподзь, – азваўся я, – намовіў Бэнаю затрымаць мяне пасля пасяджэння камісіі. Той абняў мяне як закадычнага сябра і сказаў, што мае пісьмы Абнэра бэн Нэра, які быў галоўным ваяводам у Саўла; пісьмы нібыта знайшліся, калі Бэная распарадзіўся пашукаць у ваенным архіве якіх-небудзь сведчанняў пра вялікую перамогу Давіда над Галіяфам; ён, бачыш, перадасць гэтыя пісьмы мне, каб я выказаўся пра іх.

– Можа, Бэная сапраўды цэніць тваю вучонасць і таму цікавіцца тваёй думкай?

– Бэная цэніць чужую вучонасць і чужую

думку толькі тады, калі спадзяецца мець ад гэтага сваю выгоду.

Не паспеў я сказаць гэта, як каля дома пачуўся моцны шум. Я ўстаў паглядзець, што там такое сталася, але Шым і Шэлэт апярэдзілі мяне; яны вярнуліся з афіцэрам-хэлэтэем і салдатамі, якія прыцягнулі цэлы мех гліняных таблічак.

ЗМЕСТ ГЛІНЯНЫХ ТАБЛІЧАК, АТРЫМАНЫХ АД БЭНАІ БЭН ЕХАЯДА

Памазанцу БОжаму цару Саўлу, самаму першаму ў бітве, – ад Абнэра бэн Нэра.

Хай спасобіць БОг майму валадару перажыць гэтую пару года ў выдатным здароўі. Што да Давіда, сына Есэевага, з Бэтляема – усё зроблена адпаведна з тваім устанаўленнем. Расследаванне пачата, Доік ідумэец назначаны кіраваць ім, а яшчэ да гэтай справы прыстаўлена двух маіх найлепшых людзей – Шупім і Хупім, лявіты. У іх добрыя сувязі як са святарамі з Самуілавага храма ў Раме, так і са святарамі з храма ў Нобе. Доік ездзіў у Бэтляем для апытання насельніцтва; ён дакладвае, што Давід, сын Есэеў, да адзінаццаці гадоў пасвіў авечкі, потым яго ў селішчы доўга не бачылі, пакуль у шаснаццаць гадоў ён не вярнуўся, нарэшце, да бацькі і не пачаў зноў пасвіць ягоны статак. У Бэтляеме ходзяць почуткі, быццам Давіда захапілі ў Егіпет праезныя купцы, як гэта калісьці здарылася з Язэпам, якому бацька падарыў фарбаваную вопратку; іншыя гавораць, што Давід жыў у святароў у Нобе. Ад самога Давіда ніхто пра гэта нічога не даznaўся; ён толькі граў на гуслях і спяваў песні, а калі ад статку адбівалася авечка, Давід ішоў шукаць яе; так служыў ён бацьку свайму і Бэтляемцам, чакаючы свайго часу.

Выбранцу БОжаму, славе Ізраіля, цару Саўлу, пастаўленаму над дванаццаццю плямёнамі, – ад Абнэра, сына Нэравага.

Хай выбавіць Яхвэ майго валадара ад ліхога духа на векі вечныя. Атрымана данясенне ад лявіта Шупіма, які пабываў у Раме з паломнікамі, якія хадзілі туды з ахвярамі і каб паслухаць Самуіла, бо, як паведамляе Шупім, сам Самуіл больш не ездзіць па краіне, а судзіць за сціплую плату толькі тых, хто прыходзіць да яго. Шупім гутарыў са святарамі ніжэйшага рангу, паслухамі і паломнікамі; па іх словах, Самуіл ненавідзіць майго валадара-цара за тое, што мой валадар адмовіўся выконваць ягоныя распарады. Шупім даў Самуілу на цэласпаленне ўкормленую авечку, сказаўшы, што гэта апошняя ахвяра – другую, бач, ён прынесці не можа, бо цар Саўл усё лепшае прыўлашчвае сабе. Тады Самуіл устаў, падняў рукі да неба і прылюдна сказаў Шупіму: "Як растане вунь тое воблака, так растане і Саўл; я стварыў яго, я і здзьмухну яго з улоння зямлі, кажа ГАсподзь. Бо Саўл пагардзіў запаветам ГОспада, і за гэта ГАсподзь адбярэ ў яго царства Ізраільскае; ГАсподзь ужо выбраў мужа сабе па сэрцы". Такімі словамі Самуіл падкопвае пад майго валадара-цара.

Вялікаму вызваленцу, шчыту народа Ізраільскага, цару Саўлу – ад Абнэра бэн Нэра.

Хай дасць ГАсподзь майму валадару мір, багацце і здароўе. Сёння паступіла данясенне ад лявіта Хупіма, пасланага ў Нобу Хупім спрыяцеліўся з Ахімэлэхам, першасвятаром тамтэйшага храма. Хупім прыкінуўся, быццам хоча ўзяць з храма паслуха, каб той вучыў ягоных дзяцей грамаце і закону БОжаму Ахімэлэх дазволіў Хупіму пазнаёміцца са спісам паслухаў. У тых спісах значыўся і Давід, сын Есэя, з Бэтляема, прычым пра яго гаварылася, што з выгляду ён мілавіды, у навуцы руплівы і здатны, розумам спрытны, і вельмі здольны і ўсім падабаецца. Хупім спытаўся ў Ахімэлэха, ці нельга яму ўзяць за хатняга настаўніка менавіта хлопца з імем Давід. Ахімэлэх засмяяўся і адказаў: "Няўжо ўбухана на гэтага хлопца столькі часу і сілы, дзеля каб ён вучыў смаркачоў нейкага Хупіма? Не, гэты хлопец выбраны і вышкалены дзеля мэты адмысловейшай, а на разе цяпер ён пры цары Саўле, якому спявае і грае. Хай я не такі вялікі празорца, як Самуіл, але будзь пэўны, пра гэтага хлопца мы яшчэ шмат чаго пачуем"

Мечу племя Бэньямінавага, наймагутнейшаму цару Саўлу – ад Абнэра бэна Нэра.

Хай парадуе БОг майго валадара поспехамі нашага следства. Хупім і Шупім паведамляюць, што песеньку *Саўл перамог тысячы, а Давід – дзесяткі тысяч* склалі ў Нобе, святары разнеслі яе ад Дана да Бээр-шэбы, каб жанчыны спявалі яе ўсюды, дзе толькі паявіцца валадар мой цар Саўл.

Пераможніку ў войнах, пагрозніку язычнікаў, цару Саўлу – ад Абнэра бэн Нэра.

Хай пашле БОг спакой душы майго валадара! Ідумэец Доік пабываў у Нобе ў першасвятара Ахімэлэха. Доік сказаў Ахімэлэху, што нам усё вядома пра яго злачынныя каншахты з Самуілам і пра намыслы наконт Давіда, сына Есэевага. Мы, маўляў, адсячом Ахімэлэху галаву, а цела прыб'ём да сцяны яго ж храма, калі ён шчыра ва ўсім не прызнаецца; а калі павініцца, будзе ўмілажалены, а справядлівы гнеў упадзе на сапраўдных ліхамыснікаў. Ахімэлэх вельмі спалохаўся і прызнаўся, што ў Самуіла ёсць свой намысел. Калі, сказаў, Саўл расцяў Агага, дык ГАсподзь Яхвэ нібыта сказаў яму: "Разатні і душу Самуіла"; тады Саўл выклікаў духа ліхога, які ўціскае майго валадара, а каб кіраваць тым ліхім духам, падасланы хлопчык Давід, што ён грае цару і спявае. ГАсподзь нібыта гэтаму намыслу спрыяе і патурае, таму Давід нават зрабіўся зяцем царовым. Трэба пасласць дамоў да Давіда віжоў, каб яны да раніцы схапілі яго.

Ад цара Саўла, з царскіх рук – Абнэру бэн Нэру

Учыняй паводле свайго разумення.

Вярхоўнаму галоўнакамандуючаму, пабарцу справядлівасці, цару Саўлу – ад Абнэра бэн Нэра.

Хай парадуе БОг майго валадара добрымі весткамі. Па волі тваёй, віжы пасланы дамоў да Давіда. Там іх сустрэла дачка твая Мэлхола, яна папрасіла віжоў паводзіцца сціпла, або ж тое сужэнец яе Давід нібыта занядужаў і спачывае. Аднак начальнік віжоў сказаў, што справа дужа пільная і не церпіць адкладу. Тады Мэлхола рассунула занавеску, віжы ўбачылі, што Давід ляжыць у пасцелі пад покрывам і не варушыцца. Начальнік пакінуў там чатырох, двух каля дома і двух у двары, а сам вярнуўся да мяне па дадатковыя распарады. Я загадаў адразу ж даставіць сюды Давіда, хай бы нават ён і ляжаў на ложку. Неўзабаве начальнік віжоў прыбег зноў, без Давіда, і расказаў наступнае: "Мы ўварваліся ў дом адразу праз пярэднія дзверы і заднія, адштурхнулі царскую дачку Мэлхолу, рассунулі занавеску і знайшлі на пасцелі накрытую казлінай скурай драўляную статую. Увесь дом, двор і наваколле былі абшуканы, але Давід, сын Есэеў, знік, яго нідзе не знайшлі". Начальніку загадана даць пяцьдзесят бізуноў, а віжам па дваццаць пяць.

– Этан!

Голас Эстэры вывеў мяне са здранцвення.

– На табе твару няма, дарагі, быццам табе явіўся ліхі дух ад ГОспада.

Я кіўнуў.

– Так, шэол раздаўся, і з бездані падняліся духі мінулага.

– Што ж, зносіцца з імі – тваё рамяство.

Тут я зразумеў, што мяне палохалі не духі Давіда, Самуіла і Саўла, а жывы чалавек на імя Бэная бэн Ехаяда, які, паводле ягоных жа слоў, быў пісьменны, гэта значыцца, ведаў змест Абнэравых данясенняў цару Саўлу. Але чаму ж тады Бэная ні слова не сказаў пра іх, выслухваючы на сённяшнім пасяджэнні розныя гістарычныя версіі і дэбаты пра іх? І навошта ён прыслаў гэтыя гліняныя таблічкі мне?

– Бэная выдатна разумее, што я не змагу імі скарыстацца, – сказаў я, коратка пераказаўшы Эстэры данясенні і мае меркаванні, – у кожным разе, да таго часу, пакуль у камісіі засядаюць святар Цадок і прарок Натан.

– Бэная ведае тваю прыхільнасць да праўды, – сказала Эстэр.

– Да таго ж яго ўвагі не ўнікла, што я не вельмі добра трымаю язык за зубамі, – прызнаўся я. – Можа, менавіта на гэта ён і разлічвае?

– Спадзяюся, гэтым разам ты здолееш стрымацца?

Я не самазабойца. Альбо, можа, думаеш, цара Саламона парадуюць пісьмовыя сведчанні, што ягоны бацька блудзіў з мужчынамі па заданні святароў.

– Якая ўжо з таго радасць, – згадзілася Эстэр.

– Зрэшты, – разважаў я ўголас, – магчыма, цар паглядзіць на рэчы інакш. Бо што ў данясеннях Абнэра галоўнае?

Эстэр усміхнулася.

– Ты, напэўна, ужо і сам скеміў

– Галоўнае, – сказаў я, – што святар і прарок склалі змову супроць цара. Вось які тут намёк Саламону. А нездарма ж кажуць, што Саламон мудрэйшы за самога Этана з Эзраха.

– Бадай што, – сказала Эстэр.

Я прыкінуў, што, зрэшты, маю ў руках. Ёсць неабвержныя факты, яны вядомыя ўсім і стасуюцца з Абнэравымі таблічкамі. Пасля ўцёкаў са свайго дома Давід выправіўся да Самуіла ў Раму, а потым адтуль да святароў у Нобу Калі пацягнуць за гэтую нітачку, дык, як ткач, які ўплятае новую нітку ў кілімны ўзор, я змог бы ўключыць сёе-тое з запісаў Абнэра ў *Кнігу Цара Давіда*.

– Магчыма, я мог бы.

– Не! – Эстэр апярэдзіла мяне. – Калі б была пэўнасць, што цар захоча ўключыць гэтыя звесткі ў *Кнігу*, дык Бэная перадаў бы таблічкі яму Бэнаю ты як бы слуга, які каштуе

віно з гаспадаровага кубка. Толькі ж гэтае віно, напэўна, затручана. А цяпер – я змарылася, Этан, і сэрца ў мяне расхадзілася нешта. Пакладзі мне падушку пад галаву і патушы свяцільню.

Я зрабіў, што яна прасіла, і застаўся каля яе, пакуль яна не заснула. Потым выйшаў на пальчыках у свой пакой, дзе напісаў Бэнаю наступнае:

Хай асыпле Яхвэ майго валадара Бэнаю ўсякімі шчадротамі Слуга Ваш пазнаёміўся з данясеннямі Абнэра, сына Нэравага, цару Саўлу наконт прарока Самуіла, першасвятара з Нобы Ахімэлэха і Давіда, бацькі цара Саламона. Слуга Ваш нізкапакорліва прапануе майму валадару паведаміць цару Саламону пра змест таблічак, каб ён вырашыў, якія звесткі і ў якім аб'ёме могуць увайсці ў *Кнігу Цара Давіда*. Вяртаючы таблічкі, слуга Ваш абавязваецца захоўваць таямніцу, пакуль цар альбо мой валадар не дадуць свайго ўказу на іх абнародаванне.

З таго часу вакол гэтай справы – поўная моўча. Ні Бэная, ні хто іншы не прамовіў ні слова. А я цяпер ведаў, чым стаўленікам быў юны Давід, узяты калісьці ад бацькоўскага статку, а Бэная ведаў, што я гэта ведаю.

## 7

Таго ж самага дня, вярнуўшыся з рынку, дзе я купіў авечую лапатку і кветкі маім жанчынам, я ўбачыў каля дома насілкі з залатымі ліштвамі і чырвонымі мохрамі на дашку; у цяні каля ўваходу нудзіліся насільшчыкі. Ужо і люду збеглася гурма падзівіцца, таўкліся там і жабракі, і зладзюжнікі, і вулічная дзятва шнуравала вакол, аж мне цяжка было прадзерціся да дзвярэй.

У доме стаяў саладжавы пах, з пакоя чуліся жывыя галасы. Шым і Шэлэт, мае сыны, выскачылі мне насустрач, дураслівыя і вясёлыя. Шым пры гэтым пакручваў клубамі, а Шэлэт заломваў рукі; яны сказалі, што мяне чакае Амэнхатэп, галоўны царскі еўнух. Я крыху накруціў ім вушы за такія капрыёлі, – а каб не перадражнівалі царскіх вяльможаў, а каб шанавалі чалавека, пасля аддаў ім лапатку і сказаў занесці на кухню.

Амэнхатэп сядзеў на маіх падушках; бровы ў яго былі падведзены тушам, пазногці падфарбаваныя хною, ён папіваў віно і еў сырнікі. Пры гэтым Амэнхатэп расказваў маім жанчынам, які вялікі Егіпет, якія магутныя там божышчы, якія прыгожыя мужчыны, у якой раскошы жывуць знакамітыя егіпцянкі. Эстэр паспачувала Амэнхатэпу, што доля закінула яго да такога грубага народу, як дзеці Ізраіля; а ён адказаў, што шчодра адшкадаваны магчымасцю служыць такім прыгожым дамам, як жонкі і наложніцы наймудрэйшага з цароў Саламона. Я заўважыў, што Амэнхатэп вачыма раздзявае Ліліту, і сэрца мае здрыганулася ад нядобрых прадчуванняў

Еўнух даў на пацалунак руку Эстэры, Хулдзе і Ліліце, а калі яны выходзілі, уважліва правёў іх вачыма.

– Сам я ўжо не араты, але ў раллі разбіраюся, – сказаў ён. Мала хто з жанчын у дастатковай паўнаце спалучае ў сабе тры галоўныя цноты свайго полу. Таму ты зрабіў мудра, Этан, калі ўзяў адну жанчыну для душы, другую – для семя, трэцюю – дзеля асалоды сцёгнам тваім. Хай не абдзеліць цябе твой БОг Яхвэ сваёй мілатою да канца дзён тваіх.

Гукі яго гарлавога голасу ліліся пад далікатныя рухі, якія так спрытна перадражніваў мой сын Шэлэт Але мяне гэта зусім не пацяшала; наадварот, егіпецкая вытанчанасць фраз і манераў пасяліла трывогу

Таму я сказаў·

– Адважуся думаць, не дзеля таго спадар мой даў сабе клопат шукаць у гэтым смярдзючым заканурку Ерушалайма дом раба свайго, каб пахваліць яго за выбар спадарожніц у жыцці.

Аманхатэп дастаў са складак сваёй вопраткі маленькі флакон.

– Хочаш панюхаць? – прапанаваў ён. – Атрымана ад найлепшага пастаўшчыка з самога Егіпта, з горада бога сонца Ра.

Я капнуў з флакона на далонь. У пакоі адразу павеяла лавандай і ружовым алеем. Згадаліся дзесяць караў, якімі ГАсподзь спадобіў егіпцян, і я ў душы ўзычыў госцю хоць бы каторую з іх. А той лёгка балбатаў сваё, талкуючы цяпер, прычым вельмі цікава, пра майстэрства прыгатавання полівак да салатаў, пра лодачныя выперадкі на Ніле, пра дзевяноста дзевяць фігурацый любоўнага паравання і пра тое, хто больш старавечны – ГАсподзь Яхвэ ці бог сонца Ра.

Неспадзявана, неяк вельмі адмыслова ўскінуўшы рукі, Амэнхатэп спытаўся:

– Чаму гэта, Этан, прынцэса Мэлхола зноў хоча цябе пабачыць?

– О! А яна і напраўду хоча?

– Я прыйшоў паклікаць цябе.

– Застаецца толькі здогадзі рабіць, сказаў я, прыкідваючы, на каго яшчэ, апрача цара Саламона, працуе галоўны пакладанец. – Зрэшты, я гісторык. Мне здогадзі не лічаць, мая справа – факты.

– Ты гутарыў з прынцэсай амаль цэлую ноч, Этан. Значыцца, маеш не толькі здагадкі.

– То была чароўная ноч, мой спадару. Адзін раз на год бывае ў нас у Ізраіле такая ноч, калі само паветра ап'яняе, як віно. Скажам так: прынцэса мроіла, і мне выпаў гонар пачуць яе крозы.

Амэнхатэп адвярнуўся, цяпер я бачыў профіль егіпцяніна: скошаны лоб, востры нос.

– Мы, Этан, абодва чужыя ў гэтым горадзе. Значыцца, абодва безабаронныя і маем патрэбу ў сяброўскай падтрымцы. Але ты здольны кахаць і быць каханым, таму ты больш безабаронны за мяне.

Вось яна, пагроза, Ліліт

Хачу прасвятліць маю думку, Этан. Кажуць, быццам твой БОг стварыў чалавека паводле свайго вобраза і падабенства. Аднак з абачлівай перасцярогі Ён не зрабіў чалавека зусім роўным сабе. Людзі смяротныя. Але чалавек хоча мець добры нораў, імкнецца да вечнага жыцця, таму егіпецкія фараоны загадвалі бальзамаваць сябе пасля смерці і замуроўваць у пірамідах разам са слугамі і ўсім патрэбным для жыцця А ты, Этан, і іншыя прадстаўнікі твайго рамяства, вы сваім словам даруеце чалавеку бессмяротнасць, нават праз тысячагоддзі людзі будуць ведаць імёны тых, пра каго вы напісалі. У гэтым ваша магутнасць. Таму людзі расхінаюць перад вамі свае сэрцы. Вось і гэтая старая жанчына хоча напхаць цябе сваімі небыліцамі. А я...

Да канца Амэнхатэп не дагаварыў. Ён падняўся і стаў перада мною, станісты, далікатны, вытанчаны – ад галавы да падэшваў сваіх сандаляў.

– З таго часу, як мне раздушылі яйцы, я не веру ні ў якога бога, ні ў Яхвэ, ні ў Ра.

Сказаўшы гэта, пайшоў

Царскі гарэм ахопліваў колцамі круглую залу, ратонду, у цэнтры якое ціхенька цурчаў фантан. Мабыць, прадугледжвалася магчымае пашырэнне; па меры таго як павялічвалася колькасць жонак і наложніц Саламона, раслі адно за адным і колцы прыбудоў. З часам тут проста не хопіць паветра, ужо цяпер кіславатая сумесь паху поту і розных духмянасцяў спірала грудзі.

Амэнхатэп пайшоў далажыць прынцэсе Мэлхоле пра мой прыход і, мяркуючы па ўсім, не спяшаўся назад. У мяне ўзнікла такое пачуццё, быццам дзесяткі выпрабавальных вачэй сочаць за мною праз разьбёныя сцены. Я пачаў разглядаць каляровыя мазаікі. У асноўным гэта былі стылізаваныя выявы кветак, якія не схілялі да асаблівай пачуццёвасці. Раптам пачуліся лёгкія крокі, шэлест тканіны, і перада мною ўзнікла дзева з грудзямі такімі ж крутымі, як у Ліліт, і ягадзіцамі тугімі, як кавуны з даліны Ізрэельскай Кончыкам чароўнага языка яна аблізала пунсовыя губы, а вялікія вочы яе гаварылі красамоўней за любога платнага круцяля, які выступае перад царом Саламонам у судовы дзень; яна павабіла мяне сваім ружовым пальчыкам.

Я шапнуў·

– Не наклікай бяды на сябе, красуня. Да таго ж я бацька сямейства і кніжнік.

Якраз у гэтую хвіліну вярнуўся Амэнхатэп.

– Прэч пайшла! – рыкнуў ён.

Дзяўчына задрыжала ад пярэпалаху і знікла гэтак сама нечакана, як і з'явілася.

– Што яна сказала? – хуценька спытаў Амэнхатэп.

– Нічога, – адказаў я, толькі павабіла ружовым пальчыкам.

Еўнух з палёгкай уздыхнуў. Ці ведаю я яе? Я не ведаў, таму ён патлумачыў·

Гэта, Этан, самая дурная баба ў Ізраіле. Яе завуць Абісага з Шунама. Сваім часам яе выбралі, каб яна ляжала з царом Давідам і грэла яго, бо ён быў ужо стары і нямоглы. Не сакрэт, што ад яе жару нічога цару не перадалося, увесь яе цялесны пал застаўся пры ёй і цяпер снадзіць ёй чэрава. Аднак нікому не дазволена патушыць гэты агонь, бо яна ляжала з царом Давідам, а значыцца, хто ўвойдзе да яе, той заявіць тым самым свае прэтэнзіі на царства Давідава і ягоны трон, на якім цяпер сядзіць Саламон. Толькі Абісага ніяк не хоча зразумець свайго становішча і прыкіпела вачыма да старэйшага брата Саламона прынца Аданії, у якога і без таго хапае ўсякіх непрыемнасцяў. Аданія спакусіўся яе чарамі і бясконца шле ёй цыдулкі – то праз абутніка, то праз піражніка, то праз прачку, то праз залатара, то праз цырульніка, ёй усё адно праз каго, а мне ж даводзіцца перапаймаць яе пасланні, і яна ведае, што я іх перапаймаю і што ўсё гэта благі канец мацьме, аднак жа гне сваё, ну, ці ж не дурная-такі?

Нікому не дадзена зразумець жаночае сэрца, сказаў я; Амэнхатэп змрочна згадзіўся і правёў мяне ў сціплыя пакоі з нізенькімі столікамі, мяккімі дыванамі і падушкамі, пасля чаго зноў пайшоў.

ДРУГАЯ ГУТАРКА З ПРЫНЦЭСАЙ МЭЛХОЛАЙ, ЯКАЯ АДБЫЛАСЯ Ў ПАКОЯХ ЦАРСКАГА ГАРЭМА І ЗАПІСАНАЯ ЭТАНАМ БЭН ГАШАЕМ

**Пытанне:** . .гэта спадарыня прыдумала пакласці ў пасцель драўляную статую замест мужа?

**Адказ:** Так, Давід не чакаў, што мой бацька, цар Саўл, адважыцца дзейнічаць. Давід спадзяваўся на ГОспада Яхвэ, які заўсёды спрыяў яму, але Ёнатан паведаміў яму пра Абнэраў намер..

**Пытанне:** І што тады?

**Адказ:** І тут воін, які на выкуп за мяне пабіў сотні філістымлянаў, зусім разгубіўся. Я абняла яго, як малое дзіця, пачала ўгаворваць. "Табе трэба ўцякаць, муж мой, каханы мой, бо калі не ўратуеш ты душы тваёй гэтае ночы, дык заўтра будзеш забіты"

**Пытанне:** Няўжо ён сам загадзя не зрабіў ніякіх захадаў да ўцёкаў?

**Адказ:** Яго мул стаяў у царскай канюшні, меч застаўся ў збройніка, дома не знайшлося ў дарогу нават хлеба. Царскія віжы ахоўвалі ўваход, таму я выпусціла яго праз акно, а на ложак паклала драўляную статую і накрыла яе.

**Пытанне:** А спадарыня не баялася, што замест Давіда заб'юць Вас?

**Адказ:** Раніцай, калі людзі Абнэра прывалаклі мяне да бацькі, цара Саўла, я была падумала, што так яно і будзе. Ёнатан стаяў каля бацькі, а той крычаў: "Навошта ты сказаў Давіду, навошта папярэдзіў яго?" Ёнатан адказаў "А навошта забіваць яго? Што ён зрабіў?" Тады Саўл разгневаўся яшчэ больш і сказаў Ёнатану "Ты сучы сын і мужаложнік! Хіба я не ведаю, што ты знюхаўся з сынам Есэевым на ганьбу сабе і на ганьбу маці тваёй? Бо пакуль сын Есэеў па зямлі хадзіцьме, не будзе ні цябе, ні твайго царства!" Тут мой бацька шпурнуў дзіду сваю, але не пацэліў, і Ёнатан у вялікім гневе пайшоў ад яго. Тады бацька павярнуўся да мяне і спытаўся: "Навошта ты ашукала мяне і адпусціла ворага майго, каб ён уцёк?" Я адказала, што Давід грозіўся забіць мяне, калі я яму не дапамагу. Бацька закрычаў: "Глядзіце на ганьбу цара! Усе вы змовіліся супроць мяне, і ніхто не адкрыў вушам маім, што мой сын схаўрусаваўся са здраднікам, і не знайшлося сярод вас ніводнага, каб пашкадаваў мяне" Горыч была ў словах бацькі і пакута ў ягоных вачах. Ён трос галавою, як мядзведзь, паранены стралою ў шыю; яго вочы спыніліся на пахолку, які спалохана ціснуўся да дзвярэй; бацька паклікаў яго і спытаў "Чый ты?" Той адказаў: "Я – Фалтый, сын Лаіша з Галіма, і раб Ваш" Фалтый касавурыў адным вокам, зубы ў яго былі крывыя, і сам ён увесь нейкі скасабочаны. Тут мой бацька сказаў: "Аддаю гэтую жанчыну Мэлхолу, маю дачку, табе за жонку, каб яна служыла табе" І Фалтый упаў перада мною на калені і цалаваў мае ногі. Дагэтуль памятаю яго губы, гарачыя і дрыготлівыя.

Тут след прывесці некаторыя дзіўныя звесткі пра Саўла, сабраныя мною ў прарокаў, прынамсі, наколькі я мог іх прывесці да пэўнай сістэмы.

Устаноўлена, і прынцэса Мэлхола пацвердзіла гэта, што Давід, ратуючыся ўцёкамі ад Саўла, спыняўся ў Самуіла ў Раме. Аднак ніхто не ведае, што ж менавіта адбылося там і ці праўда, што цар Саўл таксама пабываў у гэтым храме, дзе на яго нібыта сышоў Дух БОжы, пасля чаго "Саўл зняў вопратку сваю і прарочыў перад Самуілам, і ўвесь дзень той і ўсю ноч тую ляжаў на зямлі неапрануты ў пыле".

Я наведаўся да Цадока, спадзеючыся, што ён мае якія-колечы дакументы на гэты конт. Аднак Цадоку мая цікавасць здалася неразумнай мы ж бо, бачыце, займаемся толькі гісторыяй Давіда, а не Саўла.

Звада з Саўлам – частка гісторыі Давіда, запярэчыў я. Саўл тройчы пасылаў сваіх віжоў у Раму схапіць Давіда; тройчы сутыкаліся тыя на дарозе з натоўпам пракокаў-юродаў на чале з Самуілам, і кожнага разу на віжоў сыходзіў Дух БОжы, і яны таксама пачыналі юродніцаць. Тады, кажуць, пра гэта данеслі Саўлу; ён сам выправіўся ў Раму, дзе і на яго сышоў Дух БОжы; адсюль і пайшла прымаўка: "Няўжо і Саўл у прароках?"

Цадок усміхнуўся і сказаў

– Ты ж усё ведаеш і без мяне, Этан. Навошта пытацца?

Я адказаў

– Спадзяюся, ты не будзеш бажыцца, што хеўра няўмытых юродаў, якія заварочваюць бельмы, крывяцца, пускаюць шум і сліні з рота, можа так моцна ўразіць цара. Гэта ж вар'яцтва нейкае.

– А калі цар на той час і праўда пачаў вар'яцець? – Цадок зноў усміхнуўся. – Хіба не вар'яцтва кідаць дзіду ў свайго сына? Хіба не вар'яцтва гнаць Давіда, адзінага, хто мог утаймаваць ліхога духа?

Мне прыгадаліся данясенні Абнэра цару Саўлу. Ці вядома Цадоку, у якія гульні гуляў Давід з ліхім духам, які дацінаў цара? Я зірнуў на Цадока, але твар ягоны заставаўся спакойны.

– Няўжо такі чалавек, як прарок Самуіл, – сказаў я, – уплывовы, вядомы святар, у мінулым вышэйшы суддзя Ізраіля і дарадца народу, здольны ўпасці аж настолькі, каб звязацца з купкай апантаных?

Цадок склаў на жываце свае тлустыя рукі.

– А хіба Самуіл не быў апантаны духам ГОспада, калі парубаў на кавалкі Агага?

Тут я зразумеў, што апанталіся і праўда абодва, як Саўл, так і Самуіл, і здрыгануўся, уявіўшы сабе, як цёмныя сілы рухаюць чалавекам.

ПРАЦЯГ ДРУГОЙ ГУТАРКІ З ПРЫНЦЭСАЙ МЭЛХОЛАЙ

**Пытанне:** ..Спадарыня згадала, што спадарыню аддалі за жонку Фалтыю, сыну Лаіша.

**Адказ:** Ах, Фалтый. Ён так датклівa клапаціўся пра мяне, купаў у гарач і саграваў у холад, а ў ложку клаўся каля маіх ног. Фалтый быў страх які няўклюда, аднак пасабляў мне трымаць сувязь з Давідам – бо за мной сачылі, а на Фалтыя ніхто і падумаць не мог

**Пытанне:** Значыцца, спадарыня нешта ведала пра Давіда?

**Адказ:** Толькі таго, што ён быў жывы і хаваўся.

**Пытанне:** Дзе?

**Адказ:** Спачатку ў святароў Рамы, потым у святароў Нобы. Адтуль ён уцёк у пустыню паўднёвай Юды і жыў у пячорах.

**Пытанне:** А бацька, пераследуючы Давіда, наведваў Раму?

**Адказ:** Не.

**Пытанне:** Гэта дакладна?

**Адказ:** Рама азначала Самуіла; бацька нізавошта не паехаў бы туды. Затое ён скарыстаўся сваёй царскай уладай і выклікаў да сябе ў палац святароў з Нобы, і тыя прыйшлі.

**Пытанне:** І спадарыня была на тым судзе?

**Адказ:** Бацька судзіў іх перад усім народам. Памятаю рады святароў у шэрых ільняных эфодах, наперадзе, у белым, стаяў першасвятар Ахімэлэх. А бацька мой, цар Саўл, сказаў слугам сваім, якія абступілі яго: "Паслухайце, няўжо Давід, сын Есэя, дасць вам палеткі і вінаграднікі і паставіць тысячнікамі і сотнікамі? Няўжо ніхто з вас не выйдзе наперад і не пасведчыць супроць адступніка?"

**Пытанне:** І хто-небудзь выйшаў?

**Адказ:** Выйшаў, прысадзісты тоўсты чалавек, дабрадушлівы з выгляду, падобны на карміцельку Ён назваўся ідумэйцам Доікам і сказаў, што бачыў, як Давід, сын Есэя, прыходзіў у Нобу да Ахімэлэха. Той, бачыце, спытаўся пра Давіда праз аракула ГОспада, даў яму ежы і меч.

**Пытанне:** Сведкаў больш не было?

**Адказ:** Бацьку хапіла Доіка. Саўл спытаўся ў Ахімэлэха: "Паслухай, навошта вы змовіліся супроць мяне, ты і сын Есэя, навошта ты даў яму хлеб і меч і спытаўся пра яго ў аракула? Ты хацеў, каб Давід паўстаў на мяне і ставіў мне сеткі?" Ахімэлэх падняў руку і пабажыўся, што невінаваты. Давід сказаў, што, вось, цар даручыў яму тайную справу і такую спешную, што ён не паспеў узяць з сабою ні меча, ні іншае зброі. Я падумаў, казаў далей Ахімэлэх: хто з рабоў царовых верны яму, як Давід? Ён і зяць цара, і выканаўца загадаў ягоных, і шанаваны ў доме ягоным; таму я даў Давіду ўсё, чаго ён хацеў Але ў БОга я пра яго не пытаўся, дарма гэта ставіцца мне за віну. Тут усе святары паднялі рукі і пабажыліся, што яны невінаватыя, і шум іх галасоў паляцеў да сцен гарадскіх. Дзякаваць БОгу, не схоплены і муж мой Давід, падумала я, і ў той самы час сэрца маё балела за бацьку, цара Саўла.

**Пытанне:** А тады ўжо было пакаранне?

**Адказ:** Бацька ўстаў, абапершыся на дзіду, і сказаў: "Ты павінен памерці, Ахімэлэх, ты і ўвесь дом бацькі твайго". Ён загадаў целаахоўцам, якія былі пры ім: "Ідзіце, перабіце ўсё святарскае выродде, бо й іхняя рука з Давідам і яны ведалі, што ён уцёк, і не адкрылі мне". Але ніхто не хацеў падымаць рукі на святароў. Тады бацька сказаў: "Чаго ж вы баіцеся? Не святыя яны і няма ад іх нікому карысці. Яны, як чарвякі на падле, тлусцеюць з таго, што народ ахвяруе БОгу". Тут падняўся галас, усе чакалі, што ліхі дух сыдзе на цара і пачне душыць яго і курчыць, аднак бацька стаяў спакойна. Ён падаў знак ідумэйцу Доіку, загадаў "Ідзі ты і забі святароў!" І пайшоў Доік ідумэец, і напаў на святароў, і забіў у той дзень восемдзесят пяць мужчын, якія насілі льняны эфод, і мы бачылі гэта.

Усе мае васковыя таблічкі былі спісаныя. У ратондзе загусла духата, але прынцэса мяне не адпускала. Яна сядзела на падушках, выпрастаўшы спіну і паклаўшы высахлыя рукі на калені; яе вочы глядзелі кудысьці ўдалечыню. Быццам прачнуўшыся, яна раптам спыталася:

– Якім ты ўяўляеш сабе Давіда?

Дзіўнае пытанне рэдактару *Адзіна Праў-*

*дзівай і Аўтарытэтнай, Гістарычна Вывеdoнай і Афіцыйна Ўхваленай Кнігі пра Дзівосны Ўзлёт* і г.д. Я зірнуў на разьбёныя сцены, праз адтуліны ў якіх нас напэўна падслухоўвае Амэнхатэп.

– Давід бацька цара Саламона, – адказаў я.

Прынцэса пагардліва ўсміхнулася.

– Значыцца, гэта цар Саламон павінен вырашаць, якім ты ўяўляеш сабе чалавека, што двойчы быў маім мужам, майму брату Ёнатану – любоўнікам, а майму бацьку Саўлу – шлюхаю?

Я апусціў галаву.

Мэлхола толькі махнула рукою і сказала:

– У яго былі розныя аблічы. Прызнаюся, і праўда нялёгка разабрацца, які ён быў. Мы часта гаварылі пра гэта з Ёнатанам. Тыя дні вельмі зблізілі мяне з братам. Звычайна мы выязджалі разам з царскага палаца ў Гіве, дабіраліся да Чырвоных скал і адтуль узіраліся ў далеч ці не паявіцца ад Давіда якоганебудзь знаку, ці не закурыцца які-небудзь дымок у гарах. Але не было нам ніякага знаку, толькі сцярвятнікі пісяжылі неба. Ёнатан расказаў мне аднаго разу пра свой прысяжны хаўрус з Давідам, бо любіў яго, як сваю душу. А яшчэ Ёнатан сказаў, што Давід – памазанец БОжы, памацанец Саўлаў, што Давід абяцаў не ўхіляць міласці ад дома Ёнатанавага вавекі дзеля іх вялікага спрымірэнства. Але ж як яно станецца з тронам, спыталася я, хіба ты не будзеш царом, браце мой?

Прынцэса ўстала, прайшлася па пакоі. Яе ногі ў адкрытых сандалях былі вельмі прыгожыя.

– Ёнатан растлумачыў мне тады: "Каб валадарыць, трэба мець перад сабою адну мэту – уладу. Уладар нікога любіць не павінен, апрача самога сябе. Нават БОг павінен стаць тваім уласным БОгам, гатовым асвяціць сваім імем любое тваё злачынства"

Прынцэса спынілася, паглядзела на мяне.

– Запомні, Этан: Ёнатан разумеў гэта, аднак і далей любіў Давіда. А сцярвятнікі ўсё кружлялі па небе. . Раптам адзін з іх каменем кінуўся ўніз. Я спыталася ў Ёнатана: "Ты ведаеш, дзе хаваецца Давід?" Ён адказаў· "У Адуламскай пячоры; туды прыйшла ўся яго сям'я, і ўсе зацкаваныя сабраліся да яго, і ўсе, хто запазычыўся, і ўсе пакрыўджаныя душою і сэрцам; іх там каля чатырохсот чалавек". Я ўявіла сабе, як Давід, муж мой, збірае сваю банду ў Адуламскай пячоры, убачыла яго смуглы твар, гнуткую постаць і сказала Ёнатану: "Хай будзе Давід хоць скотакрад, хоць разбойнік з вялікай дарогі, але я кахаю яго і хачу быць з ім" Ён адказаў· "Пацярпі, людзі Абнэра, царскія шпіцалі, віжуюць за табою. Яны схопяць цябе і заб'юць". І я набралася цярплівасці; прайшоў сезон дажджоў, пачалася вясна, небарака Фалтый, сын Лаіша, клапаціўся пра мяне, а ад Давіда – ані слоўца ні праз Фалтыя, ні праз Ёнатана. Потым зноў аблеглі дажджы, і тут да мяне даляцела чутка, што Давід узяў за жонку Абігайл, удаву нейкага Набала, багатага аўчара з Маона. Памятаю, я плакала, галасіла, драла на сабе вопратку, а потым сядзела ў тузе і смутку, нічога не ела і не піла, пакуль Фалтый не прымусіў мяне выпіць віна; ён умашчваў мяне алеем, лашчыў мяне, і я аддавалася яму, нічога пры гэтым не адчуваючы.

Я не падымаў вачэй на прынцэсу

Яна засмяялася, ціхенька-ціха, і сказала змененым голасам:

– Усё гэта было так даўно!

І тут зноў паявіўся Амэнхатэп, царскі галоўны еўнух, і з паклонам абвясціў·

– Вячэра гатовая. Спадарыню чакаюць.

Прынцэса пайшла; ступала яна цяжкавата, але постаць заставалася царскай – і гэта ў яе гады. Каля дзвярэй яна абярнулася да мяне і па-змоўніцку кіўнула:

– Ты зможаш правільна ўявіць яго сабе, я ведаю.

### 8

Хай будзе дабраславёна імя ГОспада БОга нашага, які адкрывае праўду паэтам і празарліўцам праз іхнія сны, а астатніх схіляе да руплівых пошукаў і карпатлівых даследаванняў.

Верхаводу банды галаварэзаў, калі ён хаваецца, важней найперш і найлепш зацерці сляды, і значыцца, яму няма ніякага інтэрасу пакідаць гліняныя таблічкі з вопісам сваіх подзвігаў альбо здабычы. Ён пазбягае любых сутычак з законадбальцамі, так што з гэтай крыніцы звесткі хоч-не-хоч бедныя і мала праўдзівыя. Сёе-тое можна выдабыць з баладаў, з песняў у славу дзёрзкага атамана, але самае лепшае знайсці жывога сведку тых набегаў – дапусцім, аднаго з разбойнікаў ці пацярпелых.

Абігайл не жыве. Пытанні, якія я хацеў бы задаць менавіта ёй, застануцца назаўсёды без адказу Яна памерла ў Хэброне, дзе Давід цараваў над Юдай; памерла яна, нарадзіўшы яму сына, названага Хілебам беднага дэбіла са скалечанай ад нараджэння галавой. З усяго, што пра яе вядома, Абігайл была жанчына не абы-якая і мела не абы-які ўплыў на Давіда тым часам, калі ён, выгнанец, гізаваў і бузаваў з бандай разбойнікаў, і потым, калі зрабіўся царком у Хэброне.

Пра Абігайл мне расказала нейкая Дэбора. Гэтая ўвішная бабка трымае пастаялы двор для майстроў з Сідона і Тыра, нанятых будаваць храм. Дэбора была адна з пяці служанак, якіх Абігайл, стаўшы жонкаю Давіда, узяла з сабою ў царскі двор. Такім чынам, Дэбора бачыла і чула шмат чаго, што было паміж яе гаспадыняй і Давідам. Апрача таго, людзі Бэнаі прывялі да мяне нейкага Мібсама бэн Мішмы; гэты Мібсам жабраваў каля гарадское брамы Ён прызнаўся яму, што страціў нагу, калі хаваўся ў пустыні разам з Давідам. Ён, бач, узначальваў атрад з дзесяці малойцаў, якіх Давід паслаў да Набала, першага мужа Абігайл, каб прапанаваць таму мір і папрасіць адшчыкнуць ад шчадротаў ягоных.

Вёў я гутаркі і з іншымі, знайшліся і сякія-такія дакументы; дзякуючы ўсяму гэтаму ўдалося па каменьчыку скласці, хай сабе і не цалкам, мазаіку падзей таго часу

*Сведчанне Мадманы, сына Ерахмэіла, выбарнага старэйшыны з роду Калеба.*

*Набал – чалавек з нашага племя,*
*жыве ў Маоне, але маёнтак яго*
*на Кармэле,*
*авечак у яго – тры тысячы лікам,*
*коз – тысяча лікам.*

А вось што расказаў мне Мібсам бэн Мішма:

– Каб Давід зрабіўся скотакрадам? Ды што ты такое? Барані БОжа! Ён спрытны быў Слухайце, хлопцы, казаў ён, калі я заспею каго з вас, што зачэпіць каторы пастуха, каторы авечы хвост, сцеражыся Хай спадобіць мяне БОг так і гэтак, калі я не загадаю высцебаць таго нягодніка, каб на ўсё жыццё запамятаў. Ну, скрадзем мы авечку другую, а далей што? Пастухі пачнуць ад нас морду вярнуць, схаваюць свае статкі, а то яшчэ і горш – збяруцца разам і накрукаюць нам самім хвост Цалкі пастух з прашчаю ого-го! ён табе любога ваяку за плечы закіне. Нябось, пра маю дужню з Галіяфам усе чулі? Альбо яшчэ і больш за тое: пашлюць пастухі вестачку цару Саўлу, а той выправіць сюды са свайго войска тысячу – другую, што тады? Не, хлопцы, у пустыні так не пражывеш. Аднаго разу Давід і кажа, што, бач, нібыта яму ў сне з'явіўся ГАсподзь і сказаў: "За тое, што ты, Давідзе, трымаешся закону, які Я даў продкам тваім, пакажу Я табе правільную дарогу, як дайсці да дабрадзенства табе і тваім малойцам. Справу трэба спраўляваць з розумам. Не заядайцеся з пастухамі, не нападайце на іх, лепей вадзіцеся з імі па-прыяцельску і ахоўвайце ад разбою іхняе быдла. А як прыйдзе пара і пагоняць пастухі статкі да гаспадароў на стрыжку, як наступяць святы, і гасціны, і вяселлі, ідзіце туды і прасіце сабе долю ад дароў БОжых за тое, што ахоўвалі пастухоў і статкі іхнія". Вось што нараіў мне ГАсподзь, так мы і зробім, тады будзе нам ва ўсе часіны і поры звонкая манеціна і ўсякае багацце, мяса і пражанае зерне, віно і іншыя даброці, і ўвесь Ізраіль славіцьме нас і дабразычыцьме нам. Калі ж раптам каторы гаспадар заўпарціцца – знаць вас не знаю, ведаць не ведаю, а і хто вы такія, а і хто вас прасіў бараніць мае добры, – дык вы яму на гэта скажыце: "Ах ты, чортава падхвосціца! Хай спадобіць нас БОг так і гэтак, калі Давід пакіне жывым з тваёй сям'і хоць аднаго, хто на сцяну сікае. "

Мібсам, сын Мішмы, пачасаў засвярбелую куксу, якая пачырванела і запалілася; у вачах у яго засвяціўся водбліск былой Давідавай славы, і ён расказаў далей:

– У гэтага Набала авечак – навала, і ўсе як адна тлустыя і тоўстыя, воўна адмысловая, і коз тысячы, таксама самых лепшых; у нас аж сліні беглі, як толькі падумаеш, бывала, пра той час, калі прыйдзе стрыжка. Нарэшце, паклікаў мяне Давід і кажа: "Слухай, Мібсаме, хлопец ты недурны, і язык у цябе добра целяпаецца. Падбяры сабе дзевяцёх дзецюкоў, здаровых, як ты, і скачы да Набала, перадай ад мяне прывітанне, мір, скажы, табе, Набале, мір дому твайму і ўсё такое, знаеш, а потым нагадай, толькі далікатна, што жыве ён у дастатку, а мы тут з сядзельцаў не злазячы па пустынях туляемся, дабро яго вартуючы, ад разбою баронячы; але цяпер, скажы, настаў добры дзень і чакае Давід тваёй дабраволі; дай, скажы, сябру твайму Давіду, сыну Есэеваму, што знойдзе рука твая" А той Набал, далажу табе, укормлены быў – далей няма куды, каўдун да каленяў, валляк – мяшком; угневаўся, бач, залямантаваў: "А што за адзін гэты твой Давід? А які такі-сякі яшчэ сын Есэеў? Шмат цяпер развялося беглага раба, хаваюцца ад гаспадароў. А я аддавай яму хлеб мой, і ваду маю, і мяса, прыгатаванае стрыгалям? А я аддавай мае крэўныя грошы нейкім валацугам, пра якіх не ведаю, хто яны такія, і адкуль узяліся на маю галаву?" Я падумаў, што яго паляруш спля-

жыць, аж так ён пачырванеў, а потым пасінеў, як сліва; але я добра памятаў Давідаў наказ: "будзь далікатны, Мібсаме", таму спакойна кажу Набалу: "Астынь, брыльянт высакароддства, выпі халоднай вады, ты яшчэ пачуеш пра сына Есэевага, спамянуцца табе і шчадроты твае. ."

Мібсам бэн Мішма пачасаў падпахай, намацаў там нешта, прыкусіў, сплюнуў, потым прамовіў·

– А тая ягоная кабета ўвесь час чувала за нашай гамонкай. Была яна ладная з сябе і апранутая як гаспадыня – на пальцах пярсцёнкі, на руках і нагах бранзалеты. Я адразу змеціў, як ласа на мяне яна зіркае, дык і я ж быў не абы-які ўломак: станісты, плячысты ў сцёгнах і яйцах, і ў сядле трымаўся як мае быць, я ўжо хацеў быў паскакаць ад Набала, але яна падышла да мяне дый пытаецца: "А што, – кажа, – начальнік твой, Давід, сын Есэеў, падобны на цябе?" Я кажу: "Калі табе па мерцы я, красачка, дык ад Давіда сэрца тваё запалае, як агонь у сухім хмызняку, бо ён на тузін такіх, як я, пацягне". А сама ты кім такая будзеш, пытаюся. Мяне завуць Абігайл, кажа, я жонка Набалава; па голасе адразу чуваць, што патрэбен ёй гэты муж, як мне скула на срацы. Дух ад ГОспада шапнуў мне, што мы з Абігайл яшчэ пабачымся, таму садануў я мулу кулаком праміж вушэй, і паляцеў ён арлом. Прыскакалі мы на месца, якое нам назначыў Давід, а ён нас там ужо дажыдаецца. Перадаў я яму слова Набалава, вось тут якраз Давід і сказаў: "Аперажыцеся кожны мечам сваім". Давід і сам аперазаўся мечам і прысягнуўся, што да раніцы ад Набала і ягонае чэлядзі не застанецца нікога, хто на сцяну сікае; а мне сказаў: "Мібсам, застанься з дзвюма сотнямі пры абозе, ахоўвайце яго, бо я паскачу хутка, абоз за мною не ўбарджэе". Сам ён узяў чатыры сотні і памчаўся, а што здарылася потым, не скажу, бо не бачыў і не ведаю, а толькі ж раніцай Давід панавёз шмат усялякага дабра і выглядаў ён вельмі задаволена, як жаба, каўтнуўшы муху...

Сярод рэчаў, што засталіся пасля смерці Абігайл, жонкі Давіда і ўдавы Набала, і захоўваліся на складзе царскага гарэма, знайшлося некалькі гліняных таблічак; Амэнхатэп, галоўны царскі еўнух, пераслаў іх мне. На адным чарапку быў складзены няцвёрдай рукой спіс, з многімі памылкамі. Вось ён:

*даў давіду сынаві ясэяваму:*
*2 метры хлебу*
*2 бурдзюкі віна найляпшэйшага*
*5 галоў барана смажанага*
*5 метраў збожа пражанага*
*1 сотня нізак разынкі*
*2 сотні шнуркоў смоквы*
*8 галоў асла ўючнага*

Дэбора, служанка Абігайл, расказала мне наступнае:

– Скаштуй жа майго віна, спадару харошы. Хай БОг спадобіць мяне так і гэтак, калі яно падобна на пойла, якім я частую пастаяльцаў; ім хоць воцату падай, хоць казлінага пырску, выхлябчуць і не ўтруцца. Маё віно лепшае за царскае з вінаграднікаў Баалгамона, яно ўсе гады ў гэтым посудзе стаяла. Тое віно з асобных скляпоў Набала, першага сужэнца маёй спадарыні, якога разбіў паляруш. Спадарыня мая, хай урымсціць ГАсподзь яе душу, сказала, даючы мне віно: "Зберажы яго, Дэбора, на той дзень, калі стрэнеш мужчыну, які зачаруе цябе так, як мяне Давід, распячатай тады гэты посуд і выпі з тым мужчынам гэтага віна" Быў у мяне мужчына, спадар харошы, быў і другі мужчына, і трэці быў, а я ўсё не магла зразумець, ці зачараваў ён мяне так, як Давід маю гаспадыню, ці не. Мужчыны прыходзілі і сыходзілі, я старэла і часам казала сабе: "Відаць, жыццё тваё, Дэбора, падобнае на гэты запячатаны посуд – самага салодкага віна так і не паспытаеш"

Таму, спадару мой харошы, давай вып'ем яго і спамянём маю гаспадыню Абігайл. Не за тое, вядома, спамянём, што так хутка з Давідам сышлася. Але ж і не авечкай-пад'яркай была, калі сустрэла сына Есэевага, не дзяўчынкай; яна была старэйшая за яго гадоў на шэсць, калі не на ўсе восем, аднак целам яшчэ свежая, грудзі тарчма, як тараны сценабітныя. Яна і дом правіла, і слугамі камандавала, і гаспадарку вяла, а яе муж Набал толькі піў ды аб'ядаўся, пакуль не распух, як тэльбух напханы, ад такога любая адвернецца. Хадзілі пагалоскі, быццам гаспадынька мая то пагоншчыка аслоў прылашчыць, то вандроўнага ганчара прыгорне, то скацежніка, то пагудніка-песельніка, але толькі жанчына яна была сапраўды дабрадзейная і любіла сваіх прыслужніц, а я была адна з пяці дзяўчат, мы яе галубілі і песцілі, абдымалі і выцалоўвалі, а яна соладка ўздыхала, і вочы ад стомы ў яе мала што на лоб не лезлі.

Ну, не віно, а проста сонейка цякучае, хай дабраславіць яго ГАсподзь! Словам, як толькі спадарыня Абігайл убачыла малойца, якога Давід прыслаў да Набала, як толькі пачула, што Набал зганіў яго, яна сказала мне: "Калі Давід, сын Есэеў, такі самы зух, дык будзе





якраз у акурат, урваць мы патрапім. Вазьмі вось гэты спіс, які я склала, збяры ўсё, што ўказана там, скажы пагрузіць на аслоў і ляці з пагоншчыкамі наперад, а я вас даганю. Толькі ні слова Набалу, – дадала, – а то гэты чортаў сын усё сапсуе". Калі яна дагнала нас на сваім асле, я заўважыла, што вочы ў яе падфарбаваныя, шчокі нарумяненыя, а губы палаюць, як мякаць граната, і пахне яна, як цэлы сад з кветкамі. Толькі ўехалі мы ў цень гары, як тут нарабілася шуму і гвалту Давід кінуўся да нас са сваім конным гуфам, але Абігайл абагнала нас і паскакала яму напярэймы.

А віно, далібог, цудоўнае! Можа, яшчэ кубачак, спадару харошы? Калі ты і праўда збіраешся пісаць пра маю гаспадыню, дык слухай цяпер, натапырыўшы вушы, бо дайшла чарга да яе сустрэчы з Давідам. Вось сядзіць ён у сядле сваім, кучары рыжыя, твар смуглы, вочы так і блішчаць; гаспадыня мая момантам саскочыла з асла і ўпала ніцма перад Давідам. А ён будзе пытацца: "Хто такая гэтая кабета?" Тут я выходжу наперад і адказваю: "Гэта спадарыня Абігайл, мая гаспадыня, сужэнка Набала, што жыве ў Маоне, а маёнткі ягоныя на Кармэле". Тады Давід злазіць з сядла і будзе казаць ёй голасам, каб усе чулі: "Шкада мне цябе, красуня; ахоўваў я ў пустыні маёмасць Набалаву, і нічога не прапала з таго, што належыць яму, а ён дзячыць мне злом за дабро" Тут Абігайл, спадарыня мая, выпрасталася, каб Давід разгледзеў яе, а ў самое грудзі тарчма, як тараны сценабітныя. "На мне грэх, спадару мой. Прашу цябе, не гневайся на Набала, ён дурны, як баран. Абярні лепей вочы твае на рабу тваю, у якое сэрца трымціць ад радасці перад абліччам тваім, бо ГАсподнія войны вядзе спадар мой, і зла не знойдзецца ў табе за ўсё жыццё тваё. Прымі дары ад рабы тваёй, хлябоў дзве сотні, і віна два мяхі, пяць авечак смажаных і пяць мераў зерня пражанага, сотню шнуркоў разынак і дзве сотні шнуркоў смокваў, раздай іх сваім хлопцам. А калі ГАсподзь абдорыць гаспадара майго, успомні рабу тваю".

А віно тое ў галаву б'е! Старое так і ўстае перад вачыма, бачу гаспадыню маю Абігайл як жывую, і Давіда, сына Есэевага. Вось ён падымае яе з каленяў, падтрымлівае далікатненька. "Дабраслаўёны ГАсподзь, БОг Ізраілеў, – кажа ён ёй, – дабраслаўёная ты за тое, што не дапусціла мяне праліць кроў. Жывы ГАсподзь, БОг Ізраілеў, калі б ты не паспяшалася і не прыйшла насустрач мне, да зары ранішняй я не пакінуў бы Набалу ніводнага, хто мочыцца да сцяны". Давід пакланіўся ёй, і абое адышліся ўбок, а калі вярнуліся, гаспадыня мая несла галаву высока і быццам памаладзела гадоў на дзесяць. А Давід сказаў ёй на развітанне: "Ідзі з мірам у дом твой, бо я паслухаўся цябе і ўсё будзе па-твойму".

Чаму не п'еш, спадару мой харошы? За мяне не бойся, праз гэта старое горла працякло віна столькі, што і тысячы казіных бурдзюкоў не хопіць. Так вось, вярнулася спадарыня мая Абігайл да свайго сужэнца Набала, а той качаецца п'яны, як свіня паганская, у выблёвінах сваіх, бо ўвесь гэты час бурдоліў; так яна і не сказала яму ні слова да самае раніцы. Калі ж ён на другі дзень ачухаўся ў стагнотах і енках, смярдзючы, як цэлая свінарня, ні рук не чуючы, ні ног, Абігайл падышла да яго, свежая, быццам расінка, і кажа: "Ах ты, курдзюк абсмалены, п'яніца непрасыханы, немач мужчынская. Я табе жыццё ўратавала, пераняла Давіда, сына Есэевага, каб адкупіцца ад яго малым каліўцам твайго багацця, хлябамі і віном, мясам і збожжам, разынкамі і смоквамі, не тое ж Давід тут да раніцы павыдушваў бы ўсіх, хто да сцяны мочыцца". Тут Набал як не падскочыць, бы блыха, як не падыме рукі да ГОспада, як не загалосіць: "БОжа мой, ці чуеш Ты, што кажа гэтая ведзьма, гэта курва чортава? Яна пагібель мая, плюндра мая! Аддаць авечак, і зерне, і смоквы! Ды каб жа яе ўсю высмактала, каб ёй грудзі паадсыхалі, каб ёй чэрава выгніла! Ты ж бо, ГОспадзе, справядлівы, пакарай яе страшнаю караю!" Ён пачаў клікаць упраўніка і рабоў, разбушаваўся, наліўся крывёю, губы сінія зрабіліся, потым увесь твар пасінеў, і раптам брык! падае наўзнак і – як усё роўна камень. Упраўнік сказаў пусціць кроў, рабы кінуліся былі па лекара, але спадарыня Абігайл сказала: "Маліцеся БОгу колькі заўгодна, толькі крыві гаспадара вашага не рушце, бо ГАсподзь загусціў яе і не дае цячы па жылах, дык няхай па ягонай волі і будзе, што будзе". Дзесяць дзён маліліся рабы, а лекар чакаў, і гаспадыня мая сядзела каля пасцелі Набала, свайго сужэнца; на дзесяты дзень прыбраў ГАсподзь Набала, і ён памёр.

Моцнае было сэрца ў спадарыні маёй, вып'ем за яе, дзе б душа яе зараз ні была. Праседзець дзесяць сутак над мужам, чакаючы, калі ён спруцянее, баючыся, каб крый божа не выжыў, тут, скажу вам, сапраўды патрэбен характар. Пасля пахавання Абігайл сказала мне: "Скажы, Дэбора, сядлаць асла і едзь да Давіда; перадай яму, – сказала, – дабраслаўёны ГАсподзь, Які адплаціў за паганьбенне маю ад Набала, асланіў яго ад ліха, ГАсподзь, – сказала, – абярнуў злосць Набала на яго ж галаву" У пустыні мяне сустрэлі

Давідавыя хлопцы, яны завялі мяне да яго, і я перадала словы маёй спадарыні. Давід мне шчодра аддзячыў. Падарыў срэбраную бранзалетку і дзесяць локцяў тонкага палатна ў тры локці шырыні і паслаў са мною сваіх слуг. Калі тыя прыйшлі да Абігайл на Кармэл, сказалі: "Давід паслаў нас да цябе, каб узяць цябе яму за жонку". На вуснах у маёй спадарыні мільганула пераможная ўсмешка, але яна адразу стрымалася, пакланілася тварам да зямлі і адказала: "Раба ягоная гатова быць служанкаю, каб абмываць ногі гаспадару майму". Яна спешна сабралася, села на асла, а мы, пяць служанак, паехалі з ёю за пасламі Давіда, і сталася яна яму жонкаю.

*Песня-галашэнне Давіда ГОспаду*

*Хай суймецца злосць бязбожных,*
*а справядлівага ўмацуй;*
*бо Ты выпрабоўваеш сэрца й нутрыну,*
*праведны БОжа!*
*Шчыт мой у БОгу, Які шчырых сэрцам ратуе.*
*БОг – суддзя справядлівы,*
*і БОг – кожны дзень спаганяе сурова,*
*калі хто не навяртаецца,*
*Ён вострыць Свой меч,*
*напінае Свой лук і цаляе з яго;*
*рыхтуе яму прылады смерці,*
*і агністымі робіць стрэлы Свае.*
*Вось няпраўду зачаў бязбожны,*
*зацяжараў крыўдаю і маню сабе*
*спарадзіў,*
*капаў дол і выкапаў яго,*
*і ўпаў у яму, якую выкапаў.*

## 9

ПРАМОВА ЭТАНА БЭН ГАШАІ ПЕРАД СЯБРАМІ ЦАРСКАЙ КАМІСІІ ПА СКЛАДАННІ *АДЗІНА ПРАЎДЗІВАЙ, ГІСТАРЫЧНА ВЫВЕРАНАЙ І АФІЦЫЙНА ЎХВАЛЕНАЙ КНІГІ ПРА ДЗІВОСНЫ ЎЗЛЁТ, БОГАБАЯЗНАЕ ЖЫЦЦЁ, А ТАКСАМА ПРА ГЕРАІЧНЫЯ ПОДЗВІГІ І ЦУДОЎНЫЯ ЧЫНЫ ЦАРА ДАВІДА, СЫНА ЕСЭЕВАГА, ЯКІ ЦАРАВАЎ НАД ЮДАЮ СЕМ ГАДОЎ І НАД УСІМ ІЗРАІЛЕМ І ЮДАЮ ТРЫЦЦАЦЬ ТРЫ ГАДЫ, ВЫБРАНЦА БОЖАГА І БАЦЬКУ ЦАРА САЛАМОНА*, СКАРОЧАНА – *КНІГІ ЦАРА ДАВІДА*, ПРАМОВА СКАЗАНА НА ПАСЯДЖЭННІ, ПРЫСВЕЧАНЫМ АБМЕРКАВАННЮ ВАЕННЫХ ДЗЕЯННЯЎ У ХОДЗЕ ЗАКАЛОТУ ПАМІЖ ЦАРОМ САЎЛАМ І ДАВІДАМ, СЫНАМ ЕСЭЕВЫМ

Высокашаноўнае спадарства! Прашу прабачыць мне, што я абмяжуюся толькі паходам, правільней сказаўшы – паходамі цара Саўла супроць Давіда, бо, як што я ўсяго толькі рэдактар, дык не бяруся меркаваць пра такое складанае пытанне, як баявыя дзеянні Давіда ў той час, калі ён быў на службе ў філістымлянаў.

Далей, мне хацелася б выказаць самую глыбокую падзяку спадару канцлеру Ёсафату бэн Ахілуду за паказаныя мне запісы гутарак цара Давіда, а таксама спадару галоўнакамандуючаму Бэнаю бэн Ехаяду, за перадачу матэрыялаў з архіваў Абнэра, а таксама і спадарству пісарам Эліхарэту і Ахію, сынам Шышы, за іх руплівыя пошукі ў царскіх архівах, якія, на жаль мой вялікі, не далі ніякага плёну.

Дакументы і сведчанні, якія ёсць у нас у руках, такія супярэчлівыя, што нават цяжка ўстанавіць, колькі ж паходаў зрабіў цар Саўл супроць Давіда. Больш-менш пэўна можна гаварыць толькі пра тры: першы паход у пустыні Зіф і Маон прыйшлося перапыніць з прычыны ўварвання філістымлянаў на землі Ізраіля; другі паход у пячоры і ў цясніну Энгэдзі; а таксама трэці – зноў у пустыню Зіф – закончыліся дзвюма асабістымі, вельмі незвычайнымі сустрэчамі Давіда з Саўлам. У абодвух выпадках Давіду і некальскім ягоным спадзвіжнікам удавалася непрыкметна прабрацца да Саўла: у Эн-гэдзі месцам такое сустрэчы была пячора, куды Саўл зайшоў за патрэбай, а ў Зіфе – лес, дзе Саўл спыніўся нанач у сваім намёце. Абодва разы супольнікі Давідавы намаўлялі яго забіць Саўла: нельга, бач, не скарыстацца такой нагодай, калі сам БОг аддае ворага твайго ў твае рукі. Аднак Давід кожнага разу адмаўляецца: бо ці ж бо застанецца без пакарання той, хто падымае руку на памазанца БОжага? – зразумелы ход думак чалавека, які бачыць сябе будучым царом. Але калі ў пячоры Эн-гэдзі Давід толькі паціхеньку адразае край вопраткі Саўла, дык у Зіфе ён забірае посуд з вадою і дзіду, што былі ў галавах у Саўла. Потым Давід у абодвух выпадках адыходзіць на бяспечнае месца, аклікае Саўла, называе сваё імя і паказвае рэчавыя доказы сваёй міласэрнасці, на што цар кажа: "Неразумна рабіў я і вельмі многа грашыў, і я не буду больш рабіць табе нічога благога, бо душа мая была дарагая сёння ў вачах тваіх; і цяпер я ведаю, што ты мусова будзеш царом і царства Ізраілевае будзе моцнае ў руцэ тваёй".

Высокашаноўнае спадарства! Гэтыя сапраўды прарочыя, поўныя высакародства словы з вуснаў цара Саўла маюць адмысловы сэнс, бо даюць дадатковае абгрунтаванне правам Давіда на трон Ізраільскі. А галоўнае, што гэтым разам гаворка ідзе не пра пагудкі, якія выдумляюцца чорным людам і ўсяляк ім прыкрашваюцца; не, цар Давід асабіста расказаў пра гэтыя падзеі канцлеру Ёсафату, які і запісаў усё дакладненька з ягоных слоў. Праўда, тут ёсць невялікая складанасць: ні ў царскіх архівах, ні ў архівах Абнэра, які начальнічаў пры цары Саўле над войскам, не знайшлося пацверджання другому паходу – у пячоры Эн-гэдзі, і трэцяму паходу – у пустыню Зіф.

Абнэр паведамляе толькі пра адзін паход, і якраз пра той, які быў перапынены весткай пра ўварванне філістымлянаў Ад Абнэра мы даведваемся, што Давід, які раней даволіўся невялікімі набегамі са сваіх схоў у пустыні, рашыўся нарэшце моцна засесці ў горадзе Кэіль. Гэты горад часта цярпеў ад набегаў філістымлянаў. Давід прагнаў іх, спадзеючыся, што гэтым самым прыхіліць да сябе жыхароў Кэіля. Аднак цяпер, калі Давід пакінуў дзікую пустыню, ягоныя перамяшчэнні цяжка ўтоіць, таму Саўл неўзабаве даведваецца, дзе Давід. Саўл радуецца: "БОг аддаў яго ў рукі мае; бо ён замкнуў сябе, увайшоўшы ў горад з брамамі і замкамі". Тая самая думка засела і ў Давідзе. Папытаўшыся ў аракула, ён пакідае Кэіль і яго жыхароў, якія былі ненадзейныя спрымірэнцы, каб пайсці ў пустыню Зіф. Але сюды прыбывае Саўл з атрадам з трох тысяч адборных воінаў Тады Давід перабіраецца з пустыні Зіф у пустыню Маон; Саўл гоніцца за ім, і вось ужо Саўл ідзе па адным баку гары, а Давід са сваімі людзьмі – па другім. Імклівым выпадам атрад Саўла акружае Давіда, якому наўрад ці ўдалося б выратавацца, калі б у табар Саўла не прыбыў веснік са словамі: "Пасляшайся і прыходзь, бо філістымляне напалі на зямлю".

Шаноўнае спадарства! Пра ўсё гэта я кажу зусім не дзеля таго, каб пасеяць якіянебудзь паняверкі, ды і хто дазволіць сабе запаняверыцца, калі гаворка ідзе пра цара Давіда і пра сведчанні такога сведкі як Абнэр. Я толькі спрабую крыху асвятліць даволі цёмны перыяд жыцця сына Есэевага, каб акрэсліць тыя ці іншыя складанасці рэдакцыйнага характару Ані ў якім разе я не ігнарую і падказаную мне на мінулым пасяджэнні камісіі мудрую параду адносна высокай каштоўнасці легенды ў параўнанні з нізкапробнай праўдай. Карацей, нягледзячы на супярэчнасці, я намагуся ўзвысіць высакародны вобраз выбранца БОжага, пацвердзіць ягоныя прэтэнзіі на царскі трон і садзейнічаць дасягненню тых мэтаў, дзеля якіх наймудрэйшы з цароў Саламон даручыў нам скласці *Кнігу Цара Давіда*.

Што да пераходу цара Давіда на службу да ворагаў Ізраіля філістымлянаў, дык, як ужо было казана раней, гэтае пытанне занадта складанае, каб пакідаць яго на вырашэнне раба вашага, а таму нізка і пакорліва чакаю ад спадарства сяброў камісіі іх рашэння на гэты конт.

СПРЭЧКІ СЯБРОЎ ЦАРСКАЙ КАМІСІІ ПА СКЛАДАННІ *КНІГІ ПРА ДЗІВОСНЫ ЎЗЛЁТ* І Г.Д. АДНОСНА ЎКЛЮЧЭННЯ АЛЬБО Ж І НЕЎКЛЮЧЭННЯ Ў ГІСТАРЫЧНУЮ ПРАЦУ НЕПАЖАДАНЫХ ФАКТАЎ, А ТАКСАМА ПРА МАГЧЫМЫЯ СПОСАБЫ ІХ АДЛЮСТРАВАННЯ; ЗАПІСАНА ЭТАНАМ БЭН ГАШАЕМ

**Ёсафат** бэн Ахілуд, канцлер: Спадарства сябры камісіі, вы выслухалі паведамленне Этана, нашага рэдактара. Ці ёсць у каго пярэчанні? Дапаўненні? Гэта значыцца, усе згодныя з уключэннем супярэчлівых сведчанняў у *Кнігу Цара Давіда?*

**Ахія** бэн Шыша, пісар: Згодныя.

**Ёсафат**: Тады пераходзім да наступнага пытання. Слова просіць спадар Цадок?

**Цадок**, святар: Як наконт каб павячэраць?

**Ёсафат**: Увечары ў палацы будзе прыём у гонар егіпецкага пасольства, будзе што выпіць, будзе баранчык на ражне, будуць шашлыкі на патыках. Хіба спадар Цадок не мае запрашэння?

**Цадок**: Калі гэта, нарэшце, жонка адвыкне ад праклятай звычкі наводзіць парадак на маім стале, хацеў бы я ведаць...

**Ёсафат**: У нас яшчэ засталося крыху часу да пачатку прыёму Думаю, сутнасць справы спадарству сябрам камісіі вядомая. З шасцю сотнямі супольнікаў Давід перайшоў да цара гэцкага Ахіша, аднаго з пяці цароў філістымскага саюза. Пэўны час Давід жыў у Гэце, сам і людзі ягоныя, кожны з сям'ёй сваёй, потым Ахіш пасяліў яго ў Цыклагу За Цыклаг Давід абавязаўся несці філістымлянам ваенную службу, пра што і абвясціў народу

**Цадок**: Улічваючы пікантнасць гэтага ўчынку, хацелася б ведаць, як Давід тлумачыў яго.

**Бэная**: Ход думкі Давіда зразумелы. Рана ці позна я апынуся ў руках у Саўла. Дык жа ці не лепей перабегчы да філістымлянаў?

**Цадок**: Усё так, але просты чалавек на рынку і ў гарадской браме скажа: "Ба, а ці да твару такі ўчынак чалавеку дабрамыснаму,

правадыру Ізраіля, памазанцу БОжаму?" Што скажаш на гэта? Трэба заткнуць рот балбатунам. Можа, напішам, што такая быля воля ГАсподняя? Ці не намякаў Давід як-колечы на такі наказ ГОспада?

**Ёсафат**: Цар Давід рэдка гаварыў пра гэты свой крок, а калі і гаварыў, дык было падобна, што яму цяжка на сэрцы.

**Натан**: А што тут магло бянтэжыць? Першы абавязак памазанца БОжага – захаваць сваё жыццё. Хіба інакш мог Давід выканаць волю БОжую? Хіба інакш ён мог стаць царом Ізраіля і бацькам цара Саламона?

**Цадок**: Табе гэта зразумела, і мне зразумела, але народ нас не зразумее. А ці не лепей... наогул не згадваць пра гэты факт? Дарэчы, колькі часу правёў Давід на службе філістымскай?

**Ёсафат**: Год і чатыры месяцы.

**Цадок**: З таго часу, як Ной прыстаў да гары, прайшло два тысячагоддзі. Што для Гісторыі адзін нейкі там год з чатырма месяцамі?

**Натан**: У адрозненне ад майго сябра Цадока я не кармлюся ад ахвяраў. І з БОгам я зношуся напрасткі. Таму лічу, што мы павінны быць паслядоўныя. Раз Давід – выбранец БОжы, а сумненняў на гэты конт ні ў кога з нас няма, дык усе яго ўчынкі служаць дабру і славе Ізраіля. Але як што яно факты самі па сабе могуць прывесці да небяспечных высноваў нясталага розуму, трэба паднесці факты так, каб скіраваць разумовы рух у правільнае рэчышча.

**Цадок**: Хто толькі не спрабаваў рабіць гэта з таго часу, як ГАсподзь паведаміў нешта Адаму. І заўсёды знаходзіўся змей, здольны перакруціць навыварат любое слова, сказанае з самым добрым намерам.

**Бэная**: Цікава, як гэта спадар Натан збіраецца выкласці тую гісторыю так, быццам яна паслужылася на дабро і славу Ізраіля? У Давіда ж і ягоных людзей, пакуль яны сядзелі ў Цыклагу, не было іншага спосабу здабываць сабе харч, апрача як рабункам. А паблізу рабаваць не было каго, акрамя сваіх жа супляменцаў з калена Юды. Вось і даводзілася забіваць у кожнай вёсцы ўсіх начыста – і мужчын, і жанчын, старое і малое, бо калі хоць хто-небудзь застанецца жывы, дык ён разнясе самую благую славу пра Давіда па ўсёй краіне. Якраз на гэта гэцкі цар і разлічваў. Нездарма ж ён казаў: "Агорк Давід народу свайму Ізраілю і будзе служыць мне вавек".

**Натан**: Калі б я не чуў голасу спадара Бэнаі, дык падумаў бы, што гэта гаворыць хлус, які хоча абылгаць Давіда, бацьку цара Саламона.

**Бэная**: Я толькі паслядоўны, як таго патрабуе і жадае спадар Натан. ГАсподзь наш ведаў, што рабіць, калі паставіў Давіда, сына Есэевага, царавацъ над Ізраілем. А калі яно так, дык і цар Саўл, і сын Саўлаў Ёнатан ухілены па волі БОжай. Значыцца, правільна зрабіў Давід, перакінуўшыся да Ахіша і выправіўшыся з атрадам біцца за філістымлянаў у бітве пад Афэкам, дзе войска Ізраіля было разбіта, а Саўл і Ёнатан загінулі. Калі ж шлях, якім БОг павёў свайго выбранца да мэты, здаецца вам занадта пакручастым, дык наш прыяцель Этан здолее падправіць што дзе там трэба для *Кнігі Цара Давіда*.

**Цадок**: Магчыма, шлях Давіда не зусім просты, але ён ніколі не быў шляхам няславы і ганьбы.

**Бэная**: "Шлях няславы і ганьбы"! Я біўся за Давіда, калі супроць яго паўстаў ягоны сын Абэсалом, біўся і пасля; я бачыў Давіда ў дзеянні, калі яму даводзілася прымаць мужнае рашэнне. Ён выдатна разумеў, што такое ўзяць уладу і што такое – утрымаць яе. Калі ж слова ГОспада не зусім адпавядала таму, што, на думку Давіда, след было зрабіць у дадзеным выпадку, дык ён звяртаўся да БОга, гутарыў з ім і слова БОжае дапасоўваў да акалічнасцяў.

**Ёсафат**: Бачу, спадарства сябры камісіі прымоўклі. Тады няхай Этан далажыць пра свае высновы з нашых спрэчак і расскажа, як будзе рэдагаваць адпаведны раздзел *Кнігі*.

Ледзь толькі я разявіў рот, каб звярнуцца да спадарства сяброў камісіі, як пачуўся шум, дзверы адчыніліся, увайшоў слуга і абвясціў прыход цара Саламона. Канцлер Ёсафат глыбока пакланіўся, астатнія ўпалі ніцма, а ў наступную хвіліну слугі ўнеслі ў залу цара, які сядзеў паміж двух херувімаў вельмі майстэрскага вырабу.

Цар сказаў нам падняцца. Ён яшчэ болей азыз, але настрой у яго быў выдатны.

– Дзівосны дзень для Ізраіля, – сказаў ён, бо камісія ў поўным зборы і працуе на славу ГОспада, а апрача таго, сёння прыбыло егіпецкае пасольства, каб усватаць мне за жонку дачку фараона. З гэтай нагоды будзе гасціна з баранчыкам на ражне і вясёлымі напоямі.

Пайшла паўза, адпаведная вялікай думцы, якую выказаў вялікі чалавек. Потым Ёсафат спытаўся, ці не заўгодзіцца цару распытацца пра працу камісіі; Саламон адказаў, што заўгодзіцца; тады Ёсафат кораткa далажыў сутнасць спрэчак, а пад канец сказаў:

– А цяпер, о наймудрэйшы з цароў, мы хацелі б выслухаць нашага рэдактара Этана бэн Гашаю.

Цар пляснуў у далоні і ўсклікнуў:

– Цудоўна, нездарма ж кажуць, быццам няма нікога мудрэйшага за Этана ва ўсім Ізраіле ад Дана да Бээр-шэбы.

Я схіліў галаву.

– Раўнуючы з вялікай мудрасцю майго валадара, чэзлы мой розум нікчэмнейшы за мыш у яе параўнанні са сланом, што водзіцца ў царстве Саўскім.

Цар пагладзіў каштоўныя камяні на крылах херувіма і сказаў:

– Добра, але паслухаем, што ты скажаш, Этане, пра тое, як падаюцца ў гістарычных працах непрыемныя факты і ці варта іх наогул згадваць.

Спачатку я выказаў сваю глыбокую падзяку сябрам камісіі за дасціпна выказаныя імі меркаванні, якія дазволілі выразна вылушчыць праблему. Паводле вынікаў спрэчак, сказаў я далей, мне ўдалося скласці пералік магчымых спосабаў падачы непрыемных фактаў, а менавіта: а) поўны пераказ, б) дыскрэтны пераказ, в) поўнае замоўчванне. Поўны пераказ (спосаб а) уяўляецца яўна неразумным, бо народ схільны да паспешлівых і складаных высноваў, што пагражае ўшчэрбам для рэпутацыі асобаў, якія заслугоўваюць адмысловай павагі. Поўнае замоўчванне (спосаб в) таксама неразумнае, бо пагалоскі жывучыя і людзі ўсё роўна рана ці позна даведаюцца пра тое, чаго ім не след было б ведаць. Што да дыскрэтнага, дакладней кажучы – частковага, тактоўнага выкладання, дык яго ні ў якім разе нельга атаясамліваць з падманам. Ды і ці стаў бы наймудрэйшы з цароў Саламон патураць падману ў кнізе пра свайго бацьку, цара Давіда? А тактоўнасць – гэта праўда на лейцах мудрасці.

– З найвышэйшага царскага дазволу і са згоды спадарства сяброў камісіі, – сказаў я, – паспрабую зболышага акрэсліць, якім чынам можна было б з патрэбным тактам расказаць пра няпросты шлях выбранца БОжага.

Возьмем, напрыклад, дыспутаванае ў камісіі пытанне пра Давідавыя набегі з Цыклага. Кажуць, быццам на пытанне цара Ахіша, дзе, скажы, ты рабаваў сёння, Давід адказаў: "На поўдні Юды". Але што азначае такі адказ у вуснах чалавека, які апынуўся ў такім становішчы, як Давід? Ці не хітрыкі гэта? Бо невядома-такі, ці праўду ён сказаў Ахішу, а ці няпраўду, сведкаў усё адно няма, бо ўсе да аднаго жыхары абрабаваных вёсак перабітыя. Дык ці не было б справядліва намякнуць у нашай кнізе, што Давід учыняў свае набегі не супроць свайго народу Юды, а супроць варожых плямёнаў гесурцаў, гірзэйцаў і амалікіцянаў?

Цяпер пра Давідаў удзел у бітве пад Афэкам супроць Саўла і народу Ізраіля. Так яно, з абавязку перад сваім сюзэрэнам, гэцкім царом Ахішам, Давід быў у Афэку. Але ці ўдзельнічаў ён у бітве? Хіба ж не натуральна ўявіць, што паміж філістымскімі князямі пачаліся разлады, з прычыны якіх яны і звярнуліся да свайго цара Ахіша, кажучы: "А ці не той гэта Давід, пра якога спявалі на вуліцах Ізраіля: *Саўл пабіў тысячы, а Давід –дзесяткі тысяч?* Адпусці ты гэтага чалавека, і хай ён сядзіць у сваім месцы, якое ты яму выдзеліў, каб ён не павярнуў у бітве супроць нас; аднакроўца цягне да аднакроўцаў, і калі ён захоча замірыцца са сваім царом Саўлам, дык чым ён можа ўмілажаліць свайго гаспадара, як не галовамі нашых воінаў?.. Ясна адно: у апошнія гадзіны бітвы, калі войска Ізраіля было рассеяна па Гэлвуі, а целы Саўла і Ёнатана аказаліся прыбітымі цвікамі да гарадской сцяны Бэт-шана, Давідаў атрад паспяшаўся ў Цыклаг, на які напалі зграі амалікіцянаў. Давід і яго людзі дагналі разбойнікаў, панішчылі іх, выратавалі сваіх жонак, у тым ліку і Абігайл, і ўзялі такую багатую здабычу, што Давід змог разаслаць дарункі старэйшынам Юды; пры гэтым ён загадаў казаць: "Вось вам дарунак са здабычы, узятай у ворагаў ГАсподніх"

Цар Саламон змерыў мяне калючым позіркам, стрымана ўсміхнуўся і сказаў:

– Бачу, ты ўмееш хітра абыходзіцца са словам, Этане, каб кіраваць людскімі помысламі; бадай што, я не памыліўся ў выбары, паставіўшы менавіта цябе рэдактарам *Кнігі* пра майго бацьку, цара Давіда.

Сам сабе я падумаў: калі яго бацька, цар Давід, быў вялікі забойца, дык сын ягоны – ўсяго толькі дробны галаварэз. А ўголас я сказаў:

– Такія прапановы раба Вашага, валадару, які не больш чым памёт мушыны, тло, нікчэмнасць перад абліччам наймудрэйшага з цароў.

Саламон падняў свой кароткі тоўсты палец і спытаўся:

– Хай дасца кожнаму паводле заслугаў ягоных. Рады буду бачыць цябе на сённяшнім прыёме.

Ён ласкава даў знак насільшчыкам, і тыя падхапілі яго.

Я вярнуўся ў дом № 54 у завулку Царыцы Саўскай, дзе Ліліт абмыла мне ногі, Хулда падраўняла бараду, а Эстэр выслухала мой расказ, як я меў гонар быць запрошаным царом на прыём.

– Добранька абдумвай кожны свой крок, – сказала яна, а калі я надзеў новыя зялёныя строі і сабраўся ісці, Эстэр падняла на развітанне руку, нібы жагнаючы з добрым словам.

Музыкі гралі перад званымі гасцямі на кімвалах і жалейках, псалтырах, тамбурынах і арфах, танцоры скакалі, кружыліся юламі, кланяліся на ўсе бакі, спевакі – кожны, наколькі быў уталентаваны, – славілі ГОспада, хвалілі наймудрэйшага з цароў Саламона і егіпецкага фараона, чыя паясніца дала свету найпрыгажэйшую прынцэсу Эльанкамэну, у якое вочы свяціліся, як чорныя жамчужыны, а сцёгны былі крутыя, як калоны храма бога сонца Ра. Твар Амэнхатэпа прамяніўся самазадаволенасцю; скаштаваўшы віна з царскага вінаградніка ў Баал-гамоне, ён сказаў мне:

– Выдатна, праўда ж бо? Цяпер прынцэса стане жонкай Саламона, а Егіпет атрымае за гэта права на свабодны правоз тавару праз Ізраіль.

Я падняў кубак за даўгалецце Амэнхатэпа.

– Нават і не ведаю, – пажартаваў я, – што спадару ўдаецца лепей: спрыяць шлюбам ці развіццю міжнароднага гандлю.

– Ах, Этане, – азваўся ён. – Бадай што, я мог бы сябе лічыць знаўцам у той ці іншай галіне, але важней, што я лічу цябе сваім сябрам. Мы ж бо тут абодва чужынцы і абодва – недурныя людзі. – Тут ён штурхнуў мяне локцем пад бок. – Бачыш таго ненаяду, які аплятаецца курдзючным салам?

Паказаны чалавек быў барвовы ў твары, у кароткіх валасах яго праблісквала сівізна; ён быў бы і неблагі з сябе, калі б не перакошаны падбародак.

– Гэта прынц Аданія, які мала не стаў нашым царом, – шапнуў Амэнхатэп. – Кажуць, што верхняй палавінай твару ён – чысты бацька, цар Давід, затое губамі і падбародкам падазрона ўдае на таго начальніка лучнікаў, да якога калісьці загарэлася шалам любові ягоная маці Хагіта.

Заўважыўшы Амэнхатэпа, Аданія – з кавалкам мяса ў адной руцэ і кубкам віна ў другой – кінуўся да яго.

– Як пажывае красуня з красунь, спадарыня мая Абісага шунаміцянка? – усклікнуў ён. – Ці няма ад яе вестачкі мне?

Амэнхатэп пакланіўся.

– Спадарыні Абісазе пажываецца добра, як і ўсім астатнім дамам з царскага гарэма.

– Перадай ёй мае вітанні і шанаванні. Скажы, што Аданія, раб яе, чакае ад яе калі не ласкавага слоўца, дык хоць якога іншага знаку альбо зарукі яе пяшчотных пачуццяў, – скажам, пасмачкі валасоў, ладанкі, якую яна носіць на сваіх салодкіх персях.

Мне згадалася, што ладанку-шкаплік на грудзях пачала насіць і мая Ліліт з таго часу, як мы пасяліліся ў Ерушалайме. Раптам я заўважыў, што твар у Аданіі напружыўся, Амэнхатэп зноў нізка пакланіўся, па зале прабег пярэшапт і шолах – гэта ў залу ўвайшоў цар Саламон з початам, у якім былі канцлер Ёсафат, прарок Натан, святар Цадок і галоўны ваявода Бэная.

Увесь у золаце і ў срэбры, цар быў велікапышны, яго пальцы сляпілі бляскам дарагіх камянёў. Павярнуўшыся да свайго брата Аданіі, ён сказаў:

– Бачу, мой спадар гутарыць з Этанам, сынам Гашаіным, які саступае ў мудрасці толькі мне і якога я паставіў рэдактарам *Кнігі пра Дзівосны Ўзлёт* і г.д. майго бацькі, цара Давіда?

Аданія, які да гэтага часу амаль не заўважаў мяне, спыніў на мне пільны позірк; яго вялікія шэрыя вочы бліскалі, як калісьці ў ягонага бацькі Давіда. Выцершы краем вопраткі засаленыя губы, ён сказаў:

– Цікава, як ён асвятліць пытанне пра спадкаванне трона?

Саламон уздрыгнуў, азмрочыўся, а я ўнурыўся і сказаў:

Раб твой гатовы запэўніць, што наймудрэйшы з цароў Саламон не знойдзе ў гэтай *Кнізе* нічога іншага, апроч праўды.

– Тады твая *Кніга пра Дзівосны Ўзлёт* і гэтак далей будзе найвялікшай кнігай усіх часоў і народаў

– Так яно і будзе! – усклікнуў Саламон, павярнуўся да мяне і дадаў: – Ад твайго сябра Амэнхатэпа, Этан, я дачуўся, быццам твая наложніца Ліліт прыгожая з твару і ўся сабою і дужа снаровістая ў каханні, ведае ўсе яго сцежкі. Спадзяюся, ён не памыліўся?

Страх пранізаў усю маю нутрыну, я адказаў:

– Раб Ваш – толькі чарвяк каля Вашых ног, а ўсё, што належыць мне, не вартае Вашай увагі, бо гэта пясчынка ў параўнанні з багаццем Валадара майго.

– Сціпласць чалавека прыемная вачам ГАсподнім, – сказаў цар Саламон. – Але я хачу вылучыць цябе за глыбакадумнасць, з якою ты працуеш над гісторыяй бацькі майго, цара Давіда, а таму разважаю, чым упачцівіць





цябе? Ці не ўзяць мне тваю Ліліт даверніцай прынцэсе Эльанкамэне, дачцэ фараона, якая стане маёй жонкай, калі я дазволю свабодны пропуск егіпецкіх тавараў праз Ізраіль.

Я зірнуў на кастранца, які па-егіпецку цырымонна заламаў рукі, і падумаў, што калі б яму ў свой час не раздушылі яйцы, я зрабіў бы гэта сваімі рукамі; такі гонар занадта вялікі для мяне, адказаў я цару з паклонам, годзе мне і аднаго гонару ад прызначэння рэдактарам *Кнігі пра Ўзлёт* і г.д. Цар, аднак, падняў сваю тоўстую руку і сказаў:

Добра, пабачым.

Пасля павярнуўся і пайшоў са сваім початам.

Прынц Аданія, цароў брат, велікадушна пачаставаў мяне кавалкам курдзючнага сала; я ветліва адмовіўся.

## 10

Аднаго разу ўначы, калі я спаў побач з Лілітай, явіўся мне ў сне анёл БОжы з двума галовамі. Адно аблічча свяцілася дабрынёю, другое – было жахлівае, і лоб яготы абвівалі змеі. Галовы заспрачаліся. Добрая сказала: пакінь яго, досыць ты мучыў яго. Другая азвалася: не, то былі толькі шчыпкі і плескачы, затое цяпер я вазьмуся за бізун, каб капаў глыбей, даставаў да самага кораня. Тады першая галава ўсміхнулася і спыталася: хіба дадзена чалавеку дастацца да самага кораня? Мабыць, не, адказала жахлівая галава і дадала: але ён павінен паспрабаваць. Пасля гэтых слоў абедзве галавы расплыліся і зліліся ў адно аблічча, поўнае такой абыякавасці, якая бывае толькі ў анёлаў. Гэтае адзінае аблічча прамовіла: Этане, сыне Гашаін, выпраўляйся ў Эн-дор, знайдзі там жанчыну, якая мае дар прадказання праўды, распытайся ў яе пра скон цара Саўла.

Я прачнуўся ўвесь потны, Ліліт пацягнулася і сказала заспаным голасам:

– Ты штосьці гаварыў у сне, любы, толькі я не разабрала што.

– Я не ўпэўнены, што гэта былі мае словы.

Яна села на ложку, трывожна паглядзела на мяне.

Я супакоіў яе:

– Ну вядома ж, то былі мае словы. Бо нашыя сны – гэта мы самыя, што шукаем свайго шляху.

Ліліт ацерла мне пот з лоба.

– Мая маці, супакой, ГОспадзе, яе душу, – сказала яна, – павядала, бывала, быццам у нашых снах жывуць ранейшыя багі, якіх больш няма, бо ГАсподзь прагнаў іх у шэол і прыкаваў там цяжкімі ланцугамі: бога грому і бога лесу, бога бурлівага мора і бога пустыннага ветру, якія снадзіць чалавеку грудзі, багіню плоднасці з набухлым чэравам і багіню вады, якая цурчыць з гор, а таксама духаў, нячысцікаў і дэманаў, што бадзяюцца сярод ночы, і самога Веліяра, аблуднага сына агню і цемры бяздоннай – усіх іх прагнаў ГАсподзь, але яны вяртаюцца да нас, каб жыць у нашых снах.

Я ўспомніў пра двухгаловага анёла, пра чараўніцу з Эн-дора, пра якую народ гаварыў толькі са страхам, і пра цара Саўла, які загадаў чараўніцы выклікаць да яго дух прарока Самуіла, але з вусцішнасці, што наскрозь працінала мяне, нарадзілася неспатольная прага жыцця і плоцкае жаданне, плоць мая распалілася жарсцю, і ўвайшоў я ў наложніцу маю Ліліт.

Даведаўшыся пра маё жаданне паехаць у Эн-дор для высвятлення акалічнасцяў смерці цара Саўла, сябры царскай камісіі па ўкладанні *Адзіна Праўдзівай і Аўтарытэтнай, Гістарычна Выверанай і Афіцыйна Ўхваленай Кнігі пра Дзівосны Ўзлёт* і г.д., заківалі галовамі ад здзіўлення. Святар Цадок буркнуў, што нічога людскага з гэтага не выйдзе; мудры чалавек не будзе будзіць сабак, дадаў прарок Натан; канцлер Ёсафат бэн Ахілуд сказаў, што сродкі скарбніцы абмежаваныя і яна не можа траціць грошай на вядзьмацтва і заклінанне духаў, а таму дарожныя выдаткі будуць утрыманы з майго заробку; затое Бэная бэн Ехаяда прапанаваў мне для аховы невялікі конны атрад. Я падзякаваў, але намякнуў, што людзі, убачыўшы воінаў, спалохаюцца, а спалоханы чалавек наўрад ці здольны дапоўніць сваімі расказамі прабелы ў нашых ведах.

Бэная задумліва закусіў губу, потым сказаў:

– Памятай, Этан, у гэтым царстве вока закону сочыць за табою ўсюды, дзе б ты ні быў

І вось, ледзь развіднела, Шым і Шэлэт, мае сыны, засядлалі мне шэрага восліка, нанятага на паездку; памаліўшыся і пацалаваўшы Эстэр, Хулду і Ліліту, я выправіўся праз паўночную браму ў дарогу да Шылома, што ў зямлі Эфраімавай.

Нічога так не супакойвае душу, як няспешная хада восліка па дарогах Ізраіля. Засталіся ззаду шум і мітусня Ерушалайма. Міма велічнай працэсіяй праплываюць пагоркі, гэтай веснавою парою ўсе ў лілеях і

фіялках; ягняты выглядваюць з-пад цыцак сваіх матак; грацыёзна ступаюць сяльчанкі, несучы на галаве кош альбо збанок з алеем. Купцы вязуць свае тавары, лаючы і паганяючы пагонцаў, да бліжэйшага свяцілішча валакуцца паломнікі з убогімі прынашэннямі; час ад часу пратупае вайсковы атрад пад шалёную лаянку сотніка на пегаватым кані. Узбоч дарогі плоймяцца жабракі; яны цягнуць рукі па міласціну, клянуць сваю ліхую долю; пагуднікі заклікаюць слухачоў; сяляне прадаюць стомленым дарожнікам пражанае зерне і кіслае казінае малако. А пастаялыя двары, напханыя потнымі людзьмі, прасмердлыя часныком і сырам! Пакой? Пасцель? Ці ў сваім ты розуме, чалавеча? Можа, па-твойму, гэта палац наймудрэйшага цара Саламона, дзе ў кожнага гультая, чортавага сына, ёсць асобны пакой з дыванамі, падушкамі і ўсялякай язычніцкай раскошаю? Заходзь, падзівіся, людзі на падлозе покатам, набатавалася, як рыбы ў кош, харкнуць няма куды. Няхай ГАсподзь Яхвэ спадобіць мяне так і гэтак, калі тут уплішчыцца хоць адзін яшчэ чалавек! Ноч, кажаш, на дварэ? Дарога небяспечная? Дарога, добры ты мой чалавеча, небяспечная з таго самага часу, як прадак наш Абрагам ішоў па ёй з Ура халдэйскага, а ноч прыходзіць за днём з тых пор, як ГАсподзь аддзяліў святло ад цемры, усё гэта нікому не навіна, сам ведаеш, ты ж бо, сказаўшы па табе, досыць, мабыць, набыўся на белым свеце. Што, што? О, хай жа абсыпле ГАсподзь сваімі шчадротамі і цябе, і жонак тваіх, і дзетак тваіх, жывенькіх і яшчэ ненароджаных! Хай падоўжацца дні твае! Чаго ж ты адразу не дастаў кашалька з-за пояса? А то ж бо я прыняў цябе за галадранца, які дзень напралёт нурыць хрыбціну, каб зарабіць сабе на кавалак хлеба, толькі ж і скарынку ён не за кожным разам мае. Зараз, зараз разграбу гэтую свалату, вызвалю месца, вось тут во – утульны куточак. На пісягі на сцяне не зважай, усіх клапоў усё роўна не павыдушваеш. Затое ўвечары сюды заглянуць танцорачкі-маабіцяначкі, цыцкі во! – па дайніцы кожная, аберуч не абдымеш, сядальцы круглыя ды ядроныя, і ўсё гэта такое гуллівае; бывае, той-колечы асілак кулаком быка валіць, а ўбачыць такія прысмакі каля сракі і сам брык! – ужо і ўмлеў, ужо і разахвоціўся. Пасля скокаў выбірай сабе любую па мерцы, запросіш выпіць, дык яна дакажа табе, што ўсе яе ласошчы ніякі не падман, усё без падробкі, як ГОспадам БОгам створана. А сівага звядзі за дом, у хлеў. Сена ўваходзіць у плату за начлег, толькі ўжо грошы наперад, пане харошы, калі ласка.

Дзякуй БОгу, на пяты дзень я, зусім стомлены, прыбыў у Эн-дор, а па дарозе, у Сехеме, памаліўся на магіле Язэпа ў зямлі Манасіінай, пабываў у Эн-ганіне, што ў зямлі Ісахаравай, перайшоў даліну Ізрэель, увесь час едучы супроць сонца, маючы Гэлвуйскія горы праваруч; апошнюю ноч я правёў у Шунаме, адкуль родам прыгажуня Абісага, пекная паненка, якая шчыравала ў пяшчотах каля Давіда, калі ён састарыўся і ніяк не мог сагрэцца. Дзень выдаўся ясны, на небе ні хмурынкі, ні аблачынкі, над палямі снуюць стрыжы, у кустоўі гугулькаюць галубы. Эн-дорскія кабеты сабраліся каля калодзежа пабразгатаць языкамі; на вядры, якое апускаюць у калодзеж, сляпуча паблісквають кропелькі вады.

Крутая маладзіца з ямачкамі на шчоках аклікае мяне:

– Эй, вырачка! Можа, ты купец і прадаеш пахошчы? А можа, блышыны сок, фарбаваць палатно? А мо проста разабрала і ты пад спадніцы цікуеш, пакуль мы па ваду нагінаемся?

– Ні тое, ні другое, ні трэцяе, мая ты ясачка, – адказваю. – Перад табою ўсяго толькі здарожаны гаротнік, які шукае ў свеце рады і БОжага азарэння.

Усе вы так балабоніце, – ушылася другая жанчына, – а сам, нябось, пад спадніцай таго азарэння шукаеш.

– Ну, у каго-каго, а ў цябе там не дужа заруе, – усміхнуўся я. – Чараўніцу шукаю, прарочыцу, – вельмі разумная, кажуць, кабета. Мабыць, вельмі старая, калі толькі яшчэ жыве.

Тут тая крутая з ямачкамі кажа:

– А я тая самая вельмі разумная і ёсць. Дар прароцтва атрымала ад маці і ад маці яе маці.

– Па праўдзе, мілае дзіця, – здзіўляюся я, – ні маршчын, ні гнілых зубоў, ні сівых патлаў, ні бародавак на носе, як яно мае быць у ведзьмаў

– Духам, якіх я выклікаю, гэта не завада. А што самаму завяло? – яна дзёрзка ўскідвае галаву, бярэ вядро, пералівае ваду ў свой збан і адыходзіць.

Тут астатнія жанчыны захіхілі, пачалі па-роць у мяне пальцамі, і мне зрабілася досыць-такі няёмка, і я міжволі спытаўся ў сябе, ці правільна я зразумеў двухгаловага анёла і ці не дарма завёўся з гэтай далёкай паездкай у Эн-дор.

Я ўсё яшчэ сядзеў на вослiку, не ведаючы, куды яго завярнуць; аж тут да мяне падышоў стары з кульбакай. Ён назваўся старэйшынам





Эн-дора, Шупімам, сынам Хупіма, пацікавіўся, хто я такі буду і з якое такое рацыі тут апынуўся. Я прадставіўся, расказаў пра анёла, які явіўся мне ў сне і загадаў: ідзі ў Эн-дор, знайдзі там чараўніцу і распытайся ў яе. Пра што распытацца, я змоўчаў, як, зрэшты, і пра тое, што анёл быў двухгаловы. Шупім бэн Хупім цмокнуў языком. З таго часу як цар Давід прагнаў з краіны ўсіх чараўнікоў і варажбітоў, сказаў ён, не водзіцца тут такіх. Гэты ўказ цара Саўла, сказаў я, а таксама ўказы цара Давіда мне вядомыя, аднак дарога ад царскага палаца да бядняцкай халупы доўгая, начальніцкія распарады падобныя на прыгаршчы вады, якую выплёскваюць на гарачы пясок у пустыні; да таго ж хіба цар Саўл уласнай высокай пярсонай не пабываў у Эндоры, каб папытацца ў чараўніцы, бо да гэтага ён пытаўся ў ГОспада, але ГАсподзь не адказваў яму ні праз сны, ні праз аракула, які называецца урым і тумім, ні праз пракрокаў.

Падумаўшы хвілінку, Шупім бэн Хупім хітравата прыплюшчыў вочы і сказаў:

– Як на твае словы, ты, Этан, сын Гашаін, чалавек вельмі мудры. Вось, халупы нашыя скасабочыліся, палеткі не ўроблены, быдла выхудла – як жа так сталася, што ты не хочаш падзівіцца на ўсё гэта? Ці ж ты не ведаеш, наймудрэйшы з цароў Саламон бярэ дужых маладых мужчын усіх падрад – каго ў войска, каго на будоўлю, аднак жа мытнікі патрабуюць з нас царскую дзесяціну. Таму мы, старэйшыны Эн-дора, мелі раду, на якой рашылі: ГАсподзь БОг пасабляе таму, хто сам сабе пасабляе. Ці не прыдумаць нам чаго-небудзь такога, каб чужыя, якіх багата перабывае ў нашых краях, пакідалі тут свае грошы? Нічога так не цягне да сябе столькі народу, як прарочыца. Пастановім ёй працоўны час з усходу месяца да першых пеўняў, а платаю хай будзе па два шэкелі за кожнае пытанне, і ніякіх скідак.

Так я стаў госцем Шупіма, сына Хупімавага, які запрасіў мяне дахаты, разламаў са мною хлеб, пачаставаў кіслым віном, а калі залегла ноч, узяў сваю кульбаку і пакульгаў са мною да глінянай мазанкі, дзе эндорская ведзьма займалася сваім рамяством. У мазанцы я ўбачыў маю таўстульку з ямачкамі, якая ветліва ўсміхнулася, паказаўшы бялюсенькія зубкі, і сказала:

– Такі-прыйшоў! Ну, садзіся на падушкі, зараз я займуся табою.

Шупім бэн Хупім моўчкі прымасціўся ў закутку, паклаў кульбаку побач.

Ведзьма падкінула ў агонь авечых бобахаў, ад дыму зашчыпала ў вачах. Яна пачала пямешваць у катле нейкае гатоўліва, дадаючы туды то розных травак, то парашкоў; неўзабаве варыва закіпела, пачалі лопацца бунькі, а ведзьма ўсё мармытала нешта, мабыць, поўную бязглуздзіцу; час ад часу яна звярталася да духаў. Хай БОг так і гэтак спадобіць мяне, падумаў я, але такою бздурай можна зрабіць уражанне толькі на цёмную дзярэўню, а цар Саўл быў задужа разумны, каб дацца на ашуку Таўстуленцыя мая ўсё пямешвала і пямешвала сваю калатушу, адорваючы мяне часам шчодрай усмешкай; па праўдзе кажучы, як на ведзьму дык яна была вельмі нават не тое каб непрыгожая, наадварот. Неўзабаве агонь амаль атух, бегалі толькі язычкі полымя, ад якіх па сценах пырхалі велізарныя цені. Нарэшце, ведзьма апусціла ў кацёл чарпак, перакінула трохі варыва ў міску, падала мне і сказала:

– На, пажуй добра!

Я спытаўся:

– А што гэта такое?

– Кашка, – адказала яна. – Яе варыла яшчэ мама мая, а да яе мама маёй мамы: называецца яна гашыш.

– І яна выклікае духаў?

– Яна і не тое яшчэ выклікае, – усміхнулася таўстуля і павярнулася, клубы яе акругліліся ў апошніх водблісках святла. – Жуй, не змушай чакаць.

Я ўзяў з міскі кашкі, паспытаў; смак быў дзіўны, нешта падобнае на арэх; толькі больш карэннае і пахне прыгарэлым. Я пачаў жаваць, пацёк п'янючы сок, я глытаў яго.

– Даядай усё! – загадала ведзьма.

Я паслухаўся і неўзабаве адчуў, як цяжар свету ападае з маіх плячэй, сілы мае робяцца бязмежныя, і я сам магу загадаць духам бездані выйсці з шэола.

– Ты і ёсць анёл з майго сну, – сказаў я ведзьме. – Толькі дзе твая другая галава?

Смех яе быў дэманічны, але майму слыху прыемны; хітра зірнуўшы на мяне, ведзьма спыталася:

– Каго выклікаць?

Я сказаў:

– Цара Саўла

Тут яна збялела і прамовіла:

– Вой, не хочацца. Ён такі страшны, куды страшнейшы за ўсе іншыя цені.

Прыйшла і мая чарга пасмяяцца з яе:

– Свайго рамяства спалохалася? А я вось ценяў не баюся і выклікаю іх кожнага дня, за выключэннем суботы, прычым без ніякага гашышу.

Тады ведзьма павярнулася да агню, по-

лымя ўспыхнула, яна падняла рукі, яе вопратка саслізнула долу, і ў жаўтлявым водбліску агню зацьмілася голае жаночае цела; раптам ведзьма зычна ўскрыкнула.

– Што там? – спытаўся я.

– Багі выходзяць з зямлі, я іх бачу, – сказала яна, скурчыўшыся, быццам ад болю.

– А Саўла бачыш? Які ён з сябе?

– Высокі, – хрыпла сказала яна, – вышэйшы за астатніх, цела яго акрываўленае, прабіта цвікамі, а галаву сваю трымае падпахай.

Тут мне здалося, быццам я і сам бачу, як ад натоўпу ценяў аддзялілася велізарная постаць – забіты цар, чыю галаву філістымляне вазілі па ўсёй краіне, каб абвясціць пра яго смерць у капішчах ідалаў сваіх, і чыё цела яны прыбілі цвікамі да гарадской сцяны Бэт-шана. Пераапрануты цар прыходзіў сюды перад сваёй апошняй бітвай, успомніў я. "Паваражы мне і выведзі мне Самуіла", – загадаў ён ведзьме; явіўся дух Самуіла, худога старога ў доўгай вопратцы, і спытаўся ў Саўла: "Навошта ты трывожыш мяне, каб я выйшаў?" І адказваў Саўл: "Цяжка мне вельмі; філістымляне ваююць супроць мяне, а БОг адступіўся ад мяне і больш не адказвае мне ні праз пракокаў, ні ўва сне". Тады глухі голас Самуіла прамовіў: "ГАсподзь зробіць тое, што казаў праз мяне; адбярэ ГАсподзь царства з рук тваіх і аддасць яго блізкаму твайму, Давіду; заўтра ты і сыны твае будзеце са мною; і табар ізраільскі аддасць ГАсподзь у рукі філістымлянам"

Я крыкнуў ведзьме:

– Выклі мне Самуіла!

Аднекуль здалёк пачуўся голас Шупіма:

– За двайную плату.

Зноў успыхнула полымя, і зноў ведзьмін твар сказіў боль, яна скурчылася і задрыжала; цемра з полымем як бы раздвоілася, і старэчы голас прамармытаў:

– Навошта трывожыш мяне, каб я выйшаў?

– Ты – дух Самуіла? – спытаўся я, стараючыся разгледзець вобраз прарока сярод раскалыханых ценяў.

Нешта, відаць, атрымалася не так, бо ведзьма ўздрыгнула ад жаху, кінулася да мяне, моцна прыціснулася. Я адчуў, што сярод нас паявіўся яшчэ нехта, і зразумеў гэта Давід, сын Есэеў, паўстаў з мёртвых.

І дух Давідаў сказаў духу Самуіла:

– Нарэшце знайшоў я цябе, мой старэйшы дружа. Чаго ты ўцякаеш ад мяне? Я шукаў цябе ў сямі безданях шэола, пабываў у сяміжды сямі апраметных, і ўсюды мне казалі: ён толькі што пайшоў адгэтуль.

Засланіўшы вочы рукою, быццам бронячыся ад жахлівай уявы, дух Самуілаў сказаў:

– О, сыне Есэеў, ці бачыш ты Саўла з целам, прабітым доўгімі цвікамі, і з галавою падпахай?

– Бачу, – адказаў дух Давіда, – гэтаксама выразна і ясна, як і цябе.

– Хіба не быў ён памазанцам БОжым? І ты пападаслаў да яго амалікіцяніна, каб той забіў яго!

Ты забыўся, мой старэйшы друг, – запярэчыў дух Давіда, – што я таксама пабываў перад бітвай у чараўніцы эндорскай і папрасіў яе выклікаць цябе з шэола, а ты прыйшоў і сказаў мне тое самае, што напрарочыў Саўлу. Мне засталося толькі паклапаціцца, каб тваё прароцтва збылося.

Дух Самуіла ўсклікнуў:

– Няўжо табе мала слова БОжага? Няўжо трэба наймаць забойцу, каб кроў памазанца БОжага ўпала на маю і на тваю галаву?

– Сапраўды вялікая твая дабрадзейнасць, мой дружа старэйшы, – азваўся дух Давідаў. – Але раз ГАсподзь рашыў, каб царства ў Саўла адабралі і аддалі мне, дык забойца, якога я наняў, быў толькі спарудаю БОжай, і мой найміт выканаў волю БОжую. Што ж да скону цара Саўла, дык спытайся пра ўсё ў яго самога. Вось ён стаіць з целам, прабітым доўгімі цвікамі, і з галавою падпахай.

Але дух цара Саўла моўчкі паказаў на галаву, быццам даючы зразумець, што адсечаная галава гаварыць не можа. Зноў засланіўшы твар рукамі, дух Самуіла пакутна ўздыхнуў, а дух Давіда бязгучна засмяяўся, быццам усё гэта быў неверагодна пацешны, аднаму яму зразумелы жарт Жанчыну, якая прыціснулася да мяне, закалацілі дрыжыкі, і тут запяяў певень.

Я ачуўся. Цьмянае святло прабівалася праз вузкае акенца і прарэхі саламянага даху Эндорская ведзьма ляжала голая ў маіх абдымках; цяжка падняўшыся, Шупім бэн Хупім прыплёўся са свайго кута, працягнуў далоню і сказаў:

– За дадатковыя паслугі нацэнка. З цябе трыццаць чатыры шэкелі.

## 11

Таямніца смерці цара Саўла і ўдзел у ёй Давіда мучаць мяне ўсё больш.

Аднаго разу Эстэр спыталася:

– Што цябе томіць, Этан? Пасля Эндора выгляд у цябе, калі ты гаворыш са мною, нейкі адсутны, на Хулду пакрыкваеш, і Ліліт ходзіць па доме заплаканая.





Я павагаўся. Але так многа недарэчных думак раілася ў беднай галаве маёй, што я не вытрымаў і ўрэшце расказаў Эстэры пачутае ад эндорскай чараўніцы, пасля сказаў:

– Не будзе мне, пэўна, спакою, пакуль не мецьму адказу на свае пытанні: хто падаслаў амалікіцяніна забіць Саўла і Ёнатана, з якім Давід заключыў спрымірэнства? Няўжо забойца выконваў Давідаў загад? Бо ж тады да ўсёй крыві на руках Давіду дадасца кроў Саўла, а таксама кроў Ёнатана, на смерць якога Давід напісаў:

*Смуткую па табе, браце мой Ёнатан:*
*ты мне быў вельмі дарагі;*
*любоў твая была мне*
*вышэй за каханне жанчын..*

– Дапусцім, адказы знойдуцца, – сказала Эстэр. – Але што толку? Ты ж не зможаш увесці іх ні ў Кнігу Цара Давіда, ні ў якуюнебудзь іншую.

– Так, наўрад ці. Але сам я павінен ведаць праўду Павінен ведаць, які быў Давід. Проста драпежнік, які забівае не задумваючыся? Альбо меў мэту перад вачыма і ішоў да яе, чаго б яно там ні каштавала? А можа, любыя памкненні марныя, і нават самы вялікі чалавек служыць толькі цацкай стыхіям, быццам пясчынка, гнаная віхурамі свайго часу?

– Небарака, – сказала Эстэр.

– Хто, Давід?

– Не, ты.

І яна пацалавала мае вочы.

Я выправіўся да канцлера Ёсафата, сына Ахілудавага, дом якога быў у верхнім горадзе, непадалёк ад будоўлі храма, і папрасіў прыняць мяне.

Слуга правёў мяне ў пакоі, дзе Ёсафат сказаў, што рады бачыць мяне, і пацікавіўся вынікамі паездкі ў Эн-дор.

– О, мой спадару, – адказаў я, – гістарычныя пошукі падобныя на выхад дзяцей Ізраіля праз пустыню: адольваеш адзін бархан, аж за ім ужо і наступны.

– Тым не меней гэты выхад закончыўся ўдала, бо з вяршыні гары Нэбо правадыру нашаму Майсею адкрылася зямля абяцаная з рэкамі і палямі, вінаграднікамі і селішчамі.

– Слова спадара больш гаючае за бальзам, але мне часта здаецца, што мы ходзім па коле.

Твар Ёсафата спахмурнеў:

– Ты кідаешся з боку ў бок, Этан, вось таму ў цябе і па коле, хіба ж не?

– Я кідаюся з боку ў бок, мой спадару, бо замкнутыя вусны, якія маглі б падказаць мне правільны кірунак. Зрэшты, цар Давід быў чалавек розных інтарэсаў, значыцца, і пошукі павінны быць такія самыя.

– У цара Давіда было толькі адно памкненне, – адрэзаў Ёсафат. – Усе тыя гады, як я ведаў яго, ён служыў БОгу, ствараючы царства Ізраільскае.

Я пакланіўся і сказаў, што якраз гэтая думка станецца асновай *Кнігі Цара Давіда*, ёсць, аднак, сякія-такія сумненні і няяснасці, якія могуць накінуць цень на вялікі вобраз, трэба іх рассеяць, каб пазней не ўзнікла ніякіх непаразуменняў.

– Сумненні і няяснасці? – Ёсафат звузіў вочы. – Што ты маеш на ўвазе?

– Скон цара Саўла і тую ролю, якую адыграў у гэтым Давід.

Мне прыгадалася шмат людзей, якія за куды менш паспешлівыя словы паплаціліся галавой, падумаў я і пра дамачадцаў, якія могуць застацца без карміцельца.

Ёсафат усміхнуўся:

– Што ж гэта за сумненні такія?

– Магчыма, у майго спадара ніякіх сумненняў і няма; ён жа ўсё бачыў на свае вочы, чуў на свае вушы, яму не даводзіцца спасылацца на чужыя словы.

– Не забывай, Этан, што царскім дарадцам я зрабіўся толькі праз шмат гадоў пасля смерці Саўла.

– Але ж засталіся жывыя сведкі, якіх можна запрасіць у камісію па ўкладанні *Адзіна Праўдзівай і Аўтарытэтнай, Гістарычна Выверанай і Афіцыйна Ўхваленай Кнігі пра Дзівосны Ўзлёт* і г.д. даць паказанні, як гэта зрабілі з Ёраем, Яханам і Мэшуламам, пагуднікамі, якія маюць патэнт на публічныя выступленні.

– Адзін сведка, бадай што, ёсць, – згадзіўся Ёсафат. – Гэта Ёаб, сын Давідавай сястры Саруі, які быў у Давіда галоўным ваяводам. Адно баюся, толку ад яго будзе мала, бо ён напалоханы да смерці, зусім з глузду з'ехаў ад страху і чаўпе абы-што, што на язык успаўзе.

– А калі мне пайсці да Ёаба і перагаварыць з ім сам-насам?

– А не раю. – Ёсафат пацінуў плячмі. – Гэтага без ведама Бэнаі рабіць не след, тым больш, што з Ёаба ён вока не спускае. Бадай, ці не разумней пакалупацца ў дакументах, якія засталіся ад Сэраі, Давідавага пісара, яны цяпер у царскім архіве.

Я падзякаваў канцлеру Ёсафату за добрую раду і цярплівасць і сказаў, што мне, сабаку шалудзіваму, аблашчанаму сэрцажальнасцю спадара, нягожа затрымліваць яго і пара выбірацца.

Раніцай я выправіўся на царскую канюшню, дзе цяпер была царская архіўніца. Там я застаў пісараў Эліхарэта і Ахію, яны сядзелі за сталом і гулялі ў косці. Перад Ахіем ляжала куча манет, некалькі пярсцёнкаў, бранзалет, пара выдатных сандаляў з егіпецкай скуры, адзенне з дарагога палатна – Эліхарэт прайграўся да ніткі.

Ён запальчыва мармытаў:

– О стрыечнікі аракулаў урыма і туміма, костачак святых! За што вы кідаеце мяне ў нягодзе? Зірніце на Ахію, анёлкі вы мае, на скарбішчы, якія падгроб пад сябе гэты смарголь, гэты выскрабак роду чалавечага, дармаедзіна, што салам аплыўся ад царскіх хлябоў! Чаму вы не падаеце так, як заўгодна ГОспаду? Нашто слухаеце дэманскіх падбухторак? Ну ж, цяпера во, не падвядзіце, галубкі мае! А няхай мне хоць раз пашанцуе, хоць раз павязець! Не губіце мяне, падобна Каіну, які загубіў Авеля, дакажыце сваю сапраўдную натуру заступнікаў за гаротнага і апоры пагарджанага. Я ж бо даверыўся вам, паставіў на сподняе, апошняе, што ў мяне засталося. Не ісці ж па Ерушалайме галым-голым на глум і пасмешышча дзеўкам аблудным, на ганьбу блядзішчам старым. Дайце мне ўдачы! А паталань жа мне, а паталань! Хай выпадзе тройка, альбо сямёрка, альбо тузін!

Пасля такіх палкіх заклёнаў Эліхарэт узяў косці, страсянуў іх у прыгаршчах, падняўшы вочы ўгору да ГОспада, Творцы свету і ўсяго, што ў ім ёсць і было. Выпалі двойка і чацвёрка. Эліхарэт забарабаніў кулакамі па сваёй галаве. Ён праклаў сонца, якое дорыць святлом дзённым, праклаў роднага бацьку, які даў яму жыццё, праклаў барана, з рога якога выразаны косці; а брат ягоны Ахія каб жа адным вокам, ён працягнуў руку і:

– Срачыцу скідай!

Сэрца маё зайшлося ад жалю да Эліхарэта. Я сказаў Ахію, што прыйшоў па парадзе канцлера Ёсафата, каб пашукаць сякіх-такіх дакументаў і запісаў, на што мне спатрэбіцца дапамога яго і брата, які наўрад ці зможа прыступіць да працы голы.

Ахія шпурнуў брату сарочку і сандалі. Пахітаўшы галавою, ён сказаў, што дзіву даецца з Ёсафата. Няўжо таму невядома, які цяпер тут гармідар? Тут наогул нічога не знойдзеш! Ахія толькі рукою махнуў на стойлы, дзе валяліся груды гліняных таблічак і пергаментаў, і ўсё гэта і праўда ж было ў жудасным беспарадку.

– Гэта яшчэ нічога, – дадаў ён. – Паглядзеў бы ты на хлеў, куды вецер то пясок замятае, то дождж; там усё згнаілася.

Я западозрыў, што Ёсафат паслаў мяне сюды, каб такім чынам адчапіцца ад настырнага наведніка, таму спытаўся ў Эліхарэта і Ахіі, ці не чулі яны чаго пра архіў нейкага Сэраі, Давідавага пісара, а калі чулі, дык дзе гэты архіў валяецца.

Браты адказвалі, што пра архіў чулі; на думку Эліхарэта, ён у трэцім стойле першага рада з левага боку канюшні, Ахію ж здаецца, што ў шаснаццатым стойле трэцяга рада справа; усчалася спрэчка.

Я спытаўся:

– Няўжо ў вас няма вопісу, што і дзе захоўваецца?

Браты сказалі, што такі вопіс дужа ім цяпер прыдаўся б, а Ахію нібыта нават казалі, быццам вопіс зробяць пасля таго, як архіў зойме пастаяннае месца ў храме, які будуецца наймудрэйшым з цароў Саламонам, на што Эліхарэт запярэчыў, што, бач, не і не – чалавек вязе з поля, калі на тое БОжая воля; вось прыбудзе з Егіпта новая партыя коней-сядзельцаў, тады і пабачым, чым усё гэта закончыцца; спрэчка закіпела нанава.

Я прапанаваў усё-такі шукаць архіў Сэраі, Давідавага пісара; Эліхарэт і Ахія згадзіліся пасабляць і пайшлі за мною, прычым Эліхарэт выбраў першы рад стойлаў па левы бок канюшні, Ахія – трэці рад праваруч, а я ўзяў сабе другі рад пасярэдзіне. Мы пачалі разграбацца ў гліняных таблічках і пергаментах, аж пыл падняўся слупам, як той, які вёў чадаў Ізраіля ў дні доўгага выхаду з Егіпта праз пустыню. Аднак, калі дзецям Ізраіля пасля мноства ліхіх прыгодаў усё-такі пашчасціла ўбачыць зямлю, абяцаную ГОспадам, дык ні Эліхарэту, ні Ахію, ні мне не ўдалося знайсці архіва Сэраі. Калі ўжо ў нас пазацякалі і рукі і ногі, калі мы ўмыліся потым і зараслі павуцінай, пошукі самыя спыніліся, а Эліхарэт, пракашляўшыся, нават сказаў:

– Хай БОг спадобіць мяне так і гэтак, калі я хоць раз яшчэ вазьму ў рукі пергамент ці таблічку.

Ахія пабожна дадаў:

– Аман!

– Хай даруюць спадарства пісары мне маю дзёрзкасць, – сказаў я, – але асмелюся запярэчыць: умардаваўся я і ўквэцаўся не менш ад вашага, дадайце да гэтага клопат пра дзвюх жонак і наложніцу, якіх мне трэба ўмашчваць і агладжваць, аднак, калі гаворка заходзіць пра службу наймудрэйшаму з цароў Саламону, дык я не ведаю ні стомы, ні журбы, таму з вашага ласкавага дазволу я вярнуся сюды заўтра з двума рабамі, якія петраць у алэф-бэт-гімэлах і разбіраюцца ў розных пісьмёнах.

Ахія прамармытаў:

– Калі чорт чэшацца, ён і скуру здзірае.

А Эліхарэт дадаў:

– Толькі не дужа зацягвай пошукі, Этан, бо неўзабаве, можа стацца, турнуць нас адсюль пад чыстае неба, і зробяцца ўсе гэтыя царскія архівы здабычай птушак, мышэй і чырвоных мурашак.

Я вярнуўся ў дом № 54 у завулку Царыцы Саўскай, дзе Ліліт выкупала і размяла мяне, а Эстэр падзяліла са мною сціплую вячэру з хлеба, маслін і цыбулі.

– Зноў некудысь намерыўся? – спытала яна.

– На жаль, прыйдзецца наведаць Ёаба, які быў пры Давідзе галоўным ваяводам; трэба распытацца ў яго наконт смерці цара Саўла; ці праўда, што Давід загадаў забіць Ёнатана, з якім спрымірыўся саюзам.

Эстэр прыціснула руку да сэрца.

– Цябе, як заўсёды, спакушае Праўда, дачка Лёсу, і ты не можаш утрымацца ад спакусы.

– Грудзі вельмі баляць? – запабегліва спытаў я. – Няўжо нічым нельга памагчы?

Яна кіўнула.

Я выйшаў на вуліцу, мінуў паўднёвую браму, сады за гарадскім мурам і дабраўся да дома, складзенага з рознай цэглы. Каля дзвярэй стаяў фэлэтэй, які, апусціўшы дзіду, сказаў:

– На гандляра-надомніка ты не падобны, бо ў цябе няма яткі, на вяскоўца, які прадае па дамах гародніну, яйкі або вінаград, – таксама. Значыцца, кажы, хто ты такі, ды не хлусі, бо ваявода Бэная прыставіў мяне сачыць за гэтым домам і вачэй з яго не зводзіць.

– Дабраславі цябе ГАсподзь, – адказаў я, – бачу, хлопец ты кемкі і адразу расшалопаў, што я не мяснік-надомнік, і не селянін, які прадае страўнасць, аднак стаўлю пяць шэкеляў супроць аднаго – не адгадаеш, хто я.

– Згода! – ухмыльнуўся фэлэтэй. – Ты Этан бэн Гашая, рэдактар – ці як там гэта ў вас называецца? – *Адзіна Праўдзівай Кнігі* і г.д. Спадар Бэная загадаў упусціць цябе, калі прыставацьмеш, але назад не выпускаць.

Я аддаў фэлэтэю пяць манет і хацеў ужо быў павярнуцца і хутчэй круціць адгэтуль, аднак унутраны голас шапнуў мне: калі ўжо сунуў галаву ў шворку, дык хай хоць павесяць не за так.

Увайшоўшы ў дом, я ўбачыў лядашчага старэчу з гнойнымі вачыма, які затоўкся ў самы цёмны закутак; рукі ў яго трэсліся, барада злямцавалася, галава закаросцела.

– Ты і будзеш Ёаб, – спытаўся я, – былы галоўны ваявода?

Старое як бы ледзь варухнулася і сказала:

– Я.

Я ўтаропіўся на яго, вачам сваім не верачы: няўжо перада мною той самы легендарны герой, які калісьці штурмам узяў Ерушалайм, што лічыўся аж такім непрыступным, што яго нібыта маглі абараняць кульгавыя і сляпыя, які ўпакорыў Сірыю, Мааб, Амон і Амалік, цароў філістымскіх і цара сэўскага Хададэзара, які забіў Абнэра, начальніка войска пры цары Саўле, і Абэсалома, сына Давідавага?

Ёаб жаласна спытаўся:

– Цябе паслаў Бэная мучыць мяне?

Ён зусім скурчыўся і занюніў, як хворае дзіця.

– Я Этан бэн Гашая, – адказаў я, – пісальнік і гісторык; прыйшоў сам па сабе, каб задаць некалькі пытанняў наконт спраў, якія мне не зусім ясныя.

– Адкуль мне ведаць, што ты не падасланы Бэнаем, каб абярнуць потым мае словы супроць мяне ж самога, каб насадзіць маю галаву на кол, а цела прыбіць да сцяны Ерушалайма, які я ўзяў прыступам і аддаў Давіду?

– Ты ж сам быў калісьці наверсе ўлады, – сказаў я, – адзін з тых, хто рашаў, памерці чалавеку гвалтоўнай смерцю ці мірна дажыць свае дні. Я ж рашаю, якім будзе чалавек пасля смерці, у вачах нашчадкаў, стане ён перад імі праз тысячу гадоў недавумкам старым, які пускае сліні і сцыцца ў порткі, альбо ж воінам, які мужна і годна глядзіць у твар лёсу.

Рукі Ёаба перасталі дрыжаць. Ён устаў, падышоў да мяне, увесь смярдзючы, і сказаў:

– Я заўсёды быў воінам і сумленна выконваў загады. Але цар Давід на смяротным ложку праклаў мяне і загадаў Саламону: "Зрабі з Ёабам паводле мудрасці тваёй, каб не адпусціць сівізну ягоную мірна ў апраметную". Уяўляеш, ён праклаў мяне за забойства ягонага сына Абэсалома, і Абнэра, сына Нэравага, і за іншыя забойствы, якія я ўчыніў па ягоным загадзе. О, сам ён не падымаў рукі на чалавека, ні кроплі крыві не пралілося на пояс вакол яго сцёгнаў і на абутак ягоны. Ён больш любіў забіваць чужымі рукамі.

– Значыцца, гэта Давід загадаў забіць

цара Саўла, а таксама Ёнатана, з якім быў у спрымірэнчым саюзе?

Ёаб пачасаў брудную бараду

– Мяркуй сам Кажу толькі тое, што бачыў і чуў. На трэці дзень, як вярнуўся Давід у Цыклаг, прыбыў туды і той амалікіцянін. Вопратка падраная, галава пасыпана попелам, лямантуе: "Войска Ізраіля пабегла з бітвы, і мноства люду ўпала і памерла, памерлі і Саўл і сын ягоны Ёнатан" Давід, сярод почату, пытаецца ў амалікіцяніна, ці бачыў той на свае вочы, што Саўл і Ёнатан мёртвыя. Той адказвае: "Валадар мой ведае, што я верны слуга ягоны і ўсім яму абавязаны, а таму скажу чысцюткую праўду Я выпадкова прыйшоў на гару Гэлвуйскую і ўбачыў, як Саўл стаіць там, абапершыся на дзіду, а варожыя калясніцы і вершнікі ўжо зусім блізка. Тут Саўл азірнуўся і, убачыўшы мяне, паклікаў Ён сказаў мне: "Хто ты?" І я сказаў яму: "Я – амалікіцянін". Тады ён кажа. "Падыдзі да мяне і забі мяне, бо сіла пакідае мяне, а жыццё яшчэ ёсць ува мне" І я падышоў да яго і забіў яго, бо ведаў, што ён не застанецца жывы, і ўзяў я вянок, які быў на галаве ў яго, і запясце, якое было на руцэ ў яго, і прынёс іх сюды, каб валадар мой узнагародзіў мяне за службу

– І што ж зрабіў Давід? – спытаўся я.

– Узяў вянок і запясце, пажурыўся па Саўле і Ёнатане, а потым павярнуўся да амалікіцяніна і кажа. "Як не пабаяўся ты падняць руку на памазанца ГАсподняга?" Амалікіцянін збялеў, мармыча нешта, а Давід далей: "Кроў іх на галаве тваёй, бо вусны твае сведчылі на цябе". Ён загадаў ахове забіць амалікіцяніна.

Мяне закалаціла, я зразумеў, што эндорская ведзьма сказала мне праўду пра забойства Саўла і ўдзел Давіда ў гэтым забойстве:

– Падобна, Давід і праўда вінаваты ў смерці Саўла, га?

Не паспеў Ёаб адказаць, як пачуліся галасы і цяжкія крокі. Ёаб скурчыўся, рукі ў яго затрэсліся, з рота пацякла сліна. Бэная ўвайшоў і рыкнуў:

– Зноў за сваё, Ёаб, яшчэ не ўгаманіўся? – Потым павярнуўся да мяне: – Пра амалікіцяніна, нябось, расказваў?

Ёаб кінуўся ніцма, давай цалаваць Бэнаю ногі. Той даў яму такога выспятка, што Ёаб адляцеў у кут і распластаўся.

– Падзівіся ты на яго, – сказаў Бэная, – вось гэтая ахламоніна калісьці трымала ў кулаку цэлае царства. Дык што ж ты, хітрамудры і двухаблічны Этане, хацеў выпыліць з гэтай анучы?

Я пакланіўся, але прамаўчаў.

– Не ўпірайся, – сказаў Бэная. – Альбо ж ты хочаш, каб я выбіў адказ з Ёаба?

– Пытанне датычылася смерці цара Саўла, а таксама Ёнатана, з якім Давід быў у спрымірэнстве.

– Ёаб, – паклікаў Бэная. – Хадзі сюды Ёаб падсунуўся бліжэй

– Раскажы, хто забіў цара Саўла і Ёнатана! – загадаў Бэная.

– Ёнатана, і Абінадаба, і Мэлхішуа, сыноў Саўлавых, забілі філістымляне, – стомлена сказаў Ёаб. – І бітва супроць Саўла сталася жорсткая, і стралкі з лукаў пабівалі яго, і ён вельмі паранены быў лучнікамі. І сказаў Саўл збраяносцу свайму: "Агалі твой меч, і закалі мяне ім, каб не прыйшлі гэтыя неабрэзаныя, і не забілі мяне, і не чынілі здзеку з мяне". Але збраяносец не хацеў, бо вельмі баяўся. Тады Саўл узяў свой меч і ўпаў на яго. Збраяносец ягоны, убачыўшы, што Саўл памёр, сам упаў на свой меч, і памёр таксама.

– Адкуль ты ведаеш, што менавіта так і было? – спытаў Бэная.

– Начальнік атрада філістымскіх лучнікаў, якога я пазней узяў у палон і дапытаў, запрысягнуў мне ўсімі багамі, што бачыў гэта сам; апрача таго, ён бачыў нейкага хлопца, які выскачыў з кустоў, забраў у мёртвага цара вянок з запясцем і знік, пакуль філістымскія стралкі дабраліся да цара.

– Выходзіць, – заключыў Бэная, – што ні ў крыві цара Саўла, ні ў крыві Ёнатана Давід не вінаваты.

– Ну, ці ж бо не жарт лёсу, – не ўтрымаўся Ёаб.

Бэная размахнуўся і з поўнай сілы ўваліў Ёабу ў твар, той брыкнуў на зямлю, з рота лінула кроў Пакланіўшыся, я падзякаваў Бэнаю за шчодрую дапамогу ў пошуках праўды пра смерць цара Саўла, а таксама Ёнатана, з якім Давід быў у спрымірэнчым запавеце. Бэная ўтаропіўся на мяне сваім свінцовым позіркам, я маліў БОга, каб пранесла бяду Відаць, ГАсподзь пачуў маю малітву, бо Бэная неспадзявана выскаліўся, штыхануў мяне локцем у бок так, што мне аж дух заняло, і сказаў:

– Калі ты, Этан, і праўда ведаеш столькі, колькі, па-мойму, ведаеш, дык ты ведаеш, па-мойму, зашмат

*(Заканчэнне ў наступным нумары).*

**Пераклаў з нямецкай**
**Васіль СЁМУХА.**



# АМАЛЬ СМЕШНАЯ ГІСТОРЫЯ

ЯНО

Гэта было мінулым летам. Камандзіроўка. На зыходзе лета — Тры дні свята. Горад. Танцпляцоўка. У пятніцу вечарам, Канец дзевяці, Мы дзіўна сустрэліся: Дамы запрашаюць кавалераў. Выпадковы вальс — Вальс даўжынёю ў жыццё. Пільны погляд. Вочы чорныя. Брунет у вячэрнюю пару! Знаёмства.

— Я родам з дзяцінства. Мар'я-майстрыха. Жонка пакінула? Не сышліся характарамі?

— Жанаты халасцяк — Асуджаны на адзіноту Мая жонка — бабуля.

— Упершыню замужам. Каханне маё, смутак мой: Мой муж — іншапланецянін.

Вялікая прагулка. Цёмныя алеі. Вандроўныя зоркі. Спадарожнік — Чалавек з чорнай "Волгі", Чалавек, які браў інтэрв'ю, Некалькі інтэрв'ю па асабістых пытаннях.

— Дазвольце вас падвезці.

— Добрыя намеры? Ці лёгка быць маладым?

— Захачу — пакахаю! Прапаную руку і сэрца. Вазьму твой боль.

— На цябе спадзяюся.

Паездка праз горад. Шлях на паўднёвы захад. Правінцыйны анекдот Пра каханне, дружбу і лёс.

Двое на востраве слёз. Мясціны тут ціхія. Спрытны трук. Мужчыны — свавольнікі. Пырскі шампанскага, Далікатэсы, Хмель. Пацалунак — Спакуса Дон-Жуана. Прызнанне ў каханні.

— Я люблю цябе! Сягоння або ніколі!

— Даруй нам, першае каханне. Сэрца не камень. Каханне з прывілеямі — Дзіўнае каханне. А ночка цёмная была! Здарэнне, якога ніхто не заўважыў. Неверагодны выпадак.

На зыходзе ночы Лівень. Месца сустрэчы змяніць нельга. Першая сустрэча — апошняя сустрэча. Расставанне У апошнюю хвіліну Нялёгка з мужчынамі.

— Машачка! Ты заўсёды ў маім сэрцы На ўсё астатняе жыццё. Я хачу толькі, каб вы мяне кахалі.

— Яшчэ кахаю, яшчэ спадзяюся. Я буду чакаць. Бывай, Васька!

— Помні: Жыццё адно, Жыццё працягваецца. Цяжка першыя сто гадоў. Век жыві — век кахай. Кахай і вер: Каханне за ўсё даражэй. Не бойся, Дзейнічай па абставінах. Добрага шляху вам!

Вяртанне да сябе. Дзённы цягнік. Спальны вагон. Спакойны гарадок — Родныя берагі. Мая вуліца, Дом, у якім я жыву. Сустрэча. Сям'я: Вечны муж, Сын, Бацька, Мачаха.

Настальгія. Страчаныя мары. Любоўныя пісьмы з падтэкстам. Неадпраўленае пісьмо Да запатрабавання.

Аднойчы ўначы Многа шуму з нічога. Ціхае следства Да самай сутнасці. Абвінавачанне.

— Хто гэты чалавек? Пераборлівы жаніх?

— Сябар маёй сяброўкі. Саліст — Вялікі талент.

— Баламут! Грэшнік! Бабнік!

— Хлопец, у якога было ўсё. У крайнім выпадку, Я табе нічога не скажу!

Пяць хвілін страху — Апляўха, якой не было. Тонкае майстэрства абароны. Усё перамагае каханне.



**З назваў кінафільмаў склаў**
**Фёдар ПАЛАЧАНІН.**

